


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**3** (1061)

САКАВІК

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2018

*ЗМЕСТ*



Віктар ШНІП

# ЧАЙКА З КРЫКАМ ПРА ВЯСНУ

* * *

Глядзіш на свет самотнымі вачыма,
Бо гэты свет самотны, нібы крыж,
Якім пазначана твая Радзіма
На карце ў Бога, прад якой стаіш.
І ты не згодны з божаю высновай
І век не згодзішся, хоць ты памёр.
Апошняе сказаць ты просіш слова,
А Бог маўчыць, нібыта пракурор,
Як ты маўчаў, калі глумілі мову
На роднае зямлі, дзе добра жыў.
Цяпер гатоў жыццё пачаць нанова
І роднай мовай вечна даражыць.
Ды Бог глядзіць самотнымі вачыма
І на цябе, і свет, які як крыж,
Які далей і несці немагчыма
І кінуць нельга так, бо ты глядзіш…

---

*__Шніп Віктар Анатольевіч__ нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова». З 1995 па 2004 год быў намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг паэзіі і прозы «Гронка святла» (1983), «Пошук радасці» (1987), «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Выкраданне Еўропы» (1996), «Чырвоны ліхтар» (2000), «Воўчы вецер» (2001), «Інквізіцыя» (2002), «Выратаванне атрутай» (2003), «Беларускае мора» (2004), «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008), «Проза і паэзія агню» (2010), «Пугачоўскі цырульнік» (2013), «Сабачыя гісторыі» (2013), «Тутэйшая туга» (2014), «Першы папяровы снег» (2014) і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).*

## БАЛАДА МАГДАЛЕНЫ РАДЗІВІЛ
*(8.07.1861—6.01.1945)*

Праз сотню год вярнулася дахаты,
Уродны край, які любіла ты,
Які не стаў чужым, не стаў багатым,
Ды не збяднеў на рэкі і сады,
На сцежкі, на дарогі палявыя,
На дабрыню людскую і святло
Крыжоў сівых, і на лясы, дзе вые
Зімою воўк, бы плача, што прайшло
Тваё жыццё і ўжо яно ніколі
Больш не паўторыцца. Дваццаты век
Чырвонаю пчалою знікне ў полі
І пылам застанецца на траве
І ў вершах, як у вечнасці, паэтаў,
Якіх цаніла, як свой родны край,
Дзе сонца не заўсёды грэе летам,
Дзе для Паэзіі сапраўдны рай,
Але не для паэтаў...

І ты вярнулася, каб быць з людзямі,
Што не забыліся, што ты была,
Нібы анёл над крыўскімі шляхамі,
Дзе да Свабоды Беларусь ішла…

## БАЛАДА МАРКА ШАГАЛА
*(7.07.1887—28.03.1985)*

Табе прысніўся бэзавы Парыж,
Дзе Нотэрдама адзінокі крыж
У небе веснавым свяціўся сумна.

Быў крыж вялікім, як у Віцебск шлях
І ў неба, і на ім сівы манах,
Нібы крумкач стары, сядзеў задумна.

І ты прачнуўся. За вакном Парыж
І Нотэрдам без крыжа. Чорны крыж
Ляжаў, нібыта меч, на Млечным шляху.

А па-над горадам матыль ляцеў
І ты за ім, як цень, ляцець хацеў,
І сеў матыль на поўню, як на плаху.

## БАЛАДА ЯНКІ НЁМАНСКАГА
*(31.03.1890—30.10.1937)*

Вясной святло рассыпанае ў полі,
Якое стала кветкамі ў траве,
Ты не стушыў і пра цябе ніколі
Ніхто не скажа больш: «Не так жыве,
Як трэба жыць у гэтым сумным свеце…»
А гэты свет не створаны, каб мы
Ляцелі праз яго, як весні вецер
Ляціць, нібыта ўцёкшы з Калымы.
І знаеш ты цяпер, што ўсе дарогі
Вядуць у неба, дзе жыве святло,
Якое праліваецца не многім
У сэрца, каб жыццё жыццём было.
І новы дзень глядзіць у нашы вочы,
І мы глядзім спакойна ў новы дзень.
Ад суму хочацца завыць па-воўчы,
Але смяешся ты, бо ты ўжо цень,
Якому не баліць цяпер нічога.
І ты ідзеш па восеньскай траве
І свеціцца ў табе ўвесь шлях да Бога,
Нібыта зорка, куля ў галаве…

## БАЛАДА АЛЕСЯ ДУДАРА
*(24.12.1904—29.10.1937)*

Пасечаны край папалам,
Як стол, на якім танцаваць
Узбіўся з сякераю хам,
Каб потым цябе расстраляць
За тое, што свой любіш край,
Як кожны павінен любіць,
За тое, што свой каравай
Умееш спячы і цаніць.
Праз восень ідзеш і дажджы
Змываюць лісцё, нібы кроў,
Якой хоць карціны пішы
Пра Веру, Надзею, Любоў,
Якія з табою заўжды
І будуць заўжды тут з табой,
Як кроплі жывое вады.
Ты кропляю станеш жывой,
Якая не знікне ў траве
І ў полымі век не згарыць,

Бо ў кожнай малітве жыве,
Каб кожны змог болей пражыць,
Чым ты на зямлі, па якой
Цябе на расстрэл прывялі.
Ты ўпаў на зямлю і крывёй
З'яднаў два кавалкі зямлі…

## БАЛАДА МІКОЛЫ АЎРАМЧЫКА

*(14.01.1920—8.05.2017)*

Знаёмыя постаці побач з табою
Ідуць па жыцці покуль сам ты ідзеш
Па свеце, дзе ў снезе сцяжыны зімою,
Вясной — у вірлівай сцюдзёнай вадзе,
Якая змывае сляды і лістоту,
Што восенню ўпала пад ногі твае.
Навокал снягі, як сівая самота,
Па снезе ідзеш і сцяжына пяе
Аб тым, што даўно ўжо было і пражыта,
І што засталося, і будзе ў вяках,
Густыя радкі, як паспелае жыта
У полі, пасеены ў чарнавіках.
Яны прарастуць, бы ў нябёсы, у душы,
Дзе сонца адно — Беларусь, і для ўсіх
Святое яно і яго не патушыць
Ні сотня вятроў, што ў разлогах чужых
Па-воўчаму выюць і доўжаць самоту,
Ні мёртвых аблок дажджавая вада.
Зачнецца вясна, затрапеча лістота
І будуць далёка-далёка відаць
Знаёмыя постаці побач з табою,
З якімі ішоў ты, ідзеш па жыцці,
Па свеце, дзе ў кветках сцяжыны вясною
І ў вершах, нібыта бярозы ў лісці…

* * *

Ідзеш па снезе, як па небе шэрым,
Якое да вясны пакінуў Бог.
І не замкнутымі на неба дзверы
Пакінуў, каб зайсці ты змог
На неба шэрае, дзе ў снезе зоры,
Як яблыкі збялелыя, ляжаць.
Ідзеш па небе, як па ўмерзлым моры,
Дзе рыбакі з анёламі сядзяць

І ловяць сонца, каб яно сагрэла
Наш белы свет, што ў снезе патануў,
Каб ты ішоў і за табой ляцела,
Як снежка, чайка з крыкам пра вясну…

* * *

Мы стаім у святле ліхтароў,
Назіраем, як нашы аўчаркі
Падбіраюць расу, нібы кроў
З траў вячэрніх, дзе дрэвы, як аркі
Залатыя, дзе восень прайшла
І лістоту растрэсла пад ногі
Дыванам, каб лістота была.
Покуль мы не спазналі дарогі
Праз зіму, дзе снягі і снягі,
Нібы белага мора разліва,
У якога ў смузе берагі,
І глядзім на снягі мы шчасліва,
На якіх, як марскія ваўкі,
Белы пыл уздымаюць аўчаркі,
І на Мухлі слупкі асакі,
Нібы свечак бялюткіх агаркі,
Да вясны пад вятрамі стаяць,
І сабакі між іх прабягаюць,
Нібы час, у якім нам знікаць
Пакуль нас ліхтары асвятляюць…

* * *

Тут мора і сосны на беразе мора.
І белы пясок, нібы вечнага снегу
Старыя бясконца паўзучыя горы,
Пад намі, і радасна нам аж да смеху
Ісці супраць ветру, як супраць цячэння,
Які развявае, як сцяг, тваю хустку.
Зноў сонца над морам, і сонца свячэнне,
Як шлях залаты, які кліча не ў пустку,
А ў неба, дзе воблакаў белыя храмы,
Дзе белыя свечкі гараць і стухаюць,
І іх прыбірае мая сёння мама
І сёстры яе там ёй дапамагаюць,
Каб мора і сосны былі каля мора
І мы па пяску тут ішлі, як малыя,
І не забывалі пра нашае ўчора,
І помнілі, што мы часова жывыя
На гэтай зямлі, дзе ёсць сосны і мора…



Уладзімір МАЗГО

# ЗНІЧКІ ВЕЧНАСЦІ

## Урокі Алега Лойкі

Калі вучыўся ў старэйшых класах Зэльвенскай сярэдняй школы, я ўжо нямала ведаў пра дзейнасць легендарнага літаратурнага аб'яднання «Узлёт» філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта і яго нязменнага кіраўніка прафесара Алега Лойку. Прынамсі, Алег Антонавіч быў родам з суседняга Слоніма, а я заўсёды з цікавасцю сачыў за творчасцю пісьменнікаў-землякоў.

І вось неяк наш класны кіраўнік Кацярына Пятроўна Іголка (дарэчы, жонка паэта Юркі Голуба) паведаміла: званілі з раённай газеты, запрашаюць мяне на сустрэчу з беларускімі пісьменнікамі. А я тады быў актыўным юнкарам: даволі часта друкаваўся і ў раёне, і ў сталіцы.

Творчая сустрэча адбывалася ў Доме Саветаў. У перапоўненай зале сабраліся настаўнікі, бібліятэкары, рабселькары раённай газеты «Праца». У госці да зэльвенцаў прыехалі вядомыя беларускія пісьменнікі Алег Лойка, Аляксей Карпюк, Уладзімір Паўлаў і Давід Сімановіч.

Трэба адзначыць, што Алега Лойку мне ўжо даводзілася бачыць і дагэтуль: 22 снежня 1975 года ў Мінску на Рэспубліканскім семінары-нарадзе кіраўнікоў літаратурных аб'яднанняў, у якім я прымаў удзел, прагучаў яго даклад «Сучаснасць і паэзія»…

---

*__Мазго Уладзімір Мінавіч__ нарадзіўся 5 сакавіка 1959 года ў гарадскім пасёлку Зэльва Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1985). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў карэспандэнтам у шматтыражцы «Інтэграл», загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве «Юнацтва», вядучым рэдактарам у «Мастацкай літаратуры», намеснікам галоўнага рэдактара ў часопісах «Вясёлка», «Полымя». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Нёман».*

*Аўтар кніг паэзіі «Пад спеў крыніц» (1982), «Вершаліна» (1987), «Марафон» (1992), «Анёл нябесны» (2007), «Сакавіны» (2012), «У нябёсах вясны» (выбраныя творы, 2013), кніг для дзяцей «Калі спрачаюцца маланкі» (1989), «Суседзі па сусвеце» (1994), «Смехапад» (1999), «Прыгоды марахода» (2002), «Цуда-вуда» (2008), «Таямнічая планета» (2008), «Лепшыя сябры» (2012), «Загадкавая азбука» (2012), «Адвечныя скарбы Радзімы» (2013), «Завітала ў госці казка» (2014) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2005), літаратурных прэмій імя Васіля Віткі (2005), «Залаты Купідон» (2008). Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны (2016).*

Прагна, з цікавасцю слухаў я кожнага з выступоўцаў. Асабліва кранула сэрца выступленне Алега Лойкі. Шчыра і пранікнёна, з праменным бляскам у вачах зямляк расказваў пра сучасную беларускую літаратуру, чытаў свае новыя вершы.

А вось калі ў канцы сустрэчы пісьменнікі папрасілі прачытаць што-небудзь мяне, то я знянацку ледзь не страціў голас ад нахлынуўшага хвалявання.

— Смялей, смялей! — упэўнена прамовіў Алег Антонавіч. — Магчыма, вы хутка будзеце нашым студэнтам.

Гэта акрыліла. І я натхнёна прадэкламаваў свае радкі.

Пасля творчай сустрэчы Алег Лойка падышоў да мяне, распытаў, чым я цікаўлюся, куды збіраюся паступаць і параіў звярнуць увагу на філалагічны факультэт БДУ, дзе ён выкладаў.

— Рыхтуйце дакументы да нас. Ва «Узлёце» шмат таленавітых хлопцаў і дзяўчат — не пашкадуеце…

Ён моцна, па-сяброўску пацінуў мне руку і працягнуў сваю новую паэтычную кніжку «Каля млына» з аўтографам.

І, забягаючы наперад, прызнаюся, што я потым ніколі не пашкадаваў, зрабіўшы свой жыццёвы выбар.

* * *

Літаратурнае аб'яднанне «Узлёт» філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта сягоння з удзячнасцю і цеплынёй згадвае не адно пакаленне беларускіх пісьменнікаў. Усіх іх паставіў на крыло незабыўны прафесар і пісьменнік Алег Лойка.

Калі ў 1976 годзе я ўпершыню прыйшоў ва «Узлёт», там былі мае аднакурснікі-першагодкі Вольга Русілка, Віктар Стрыжак, Мікола Мінзер, а таксама крыху старэйшыя за нас Мікола Мятліцкі, Яўген Гарадніцкі, Уладзімір Марук, Алесь Пісьмянкоў, Уладзімір Ягоўдзік, Кастусь Жук, Тамара Купрэвіч і іншыя. Колькі гарачых дыскусій, цікавых сустрэч адбывалася ў філфакаўскім будынку па вуліцы Чырвонаармейскай!

Алег Антонавіч па-бацькоўску патрабавальна і добразычліва адабраў нашы вершы для калектыўнага зборніка «Вёсны», што выйшаў у 1977 годзе ў выдавецтве БДУ тыражом 4700 экз. У прадмове «Слова ў дарогу» ён адзначаў: «Не ва ўсіх сённяшніх дэбютантаў «Вёснаў» роўны творчы вопыт і магчымасці, ды верыцца, што частцы з іх свеціць шчаслівая літаратурная зорка».

Мудрасць і дальнабачнасць яго слоў засведчыў час: многія «вёснаўцы» неўзабаве сталі вядомымі пісьменнікамі.

* * *

Потым мне даволі часта даводзілася сустракацца з Алегам Антонавічам — на лекцыях, пасяджэннях літаб'яднання «Узлёт», штогадовых злётах студэнтаў-філолагаў у Вязынцы, літаратурных вечарынах у Доме літаратара… А самае галоўнае — Алег Лойка быў навуковым кіраўніком маёй дыпломнай работы па творчасці Рыгора Барадуліна, дарэчы, таксама былога студэнта філфака БДУ, якую я абараніў на выдатна.

Настаўнік, а прафесара таксама можна лічыць Настаўнікам, вучыў нас самаахвярна любіць Радзіму, шчыра шанаваць роднае слова, настойліва пераадольваць жыццёвыя цяжкасці. І калі гэта ў мяне, хочацца верыць, атрымалася, то, — у першую чаргу, — дзякуючы ўрокам мудрага Алега Лойкі.

## Суп Рыгора Барадуліна

Наш аднакурснік Віктар Стрыжак, які займаўся раней на падрыхтоўчым аддзяленні, быў асабіста знаёмы з Рыгорам Барадуліным. І мы, прыхільнікі творчасці славутага паэта, шчыра зайздросцілі свайму сябру.

А паколькі я з Віктарам жыў у адным інтэрнаце на Паркавай магістралі, 9, ён прапанаваў мне наведаць класіка разам. Пазванілі з тэлефона-аўтамата, пачулі ў трубцы запрашэнне і — наперад. Ад студэнцкага інтэрната ўзняліся пад гару да кінатэатра «Беларусь», кульнулі па дарозе для смеласці па кухлю піва і апынуліся каля дома на Рэспубліканскай (цяпер Раманаўская Слабада).

Узняліся на патрэбны паверх і пазванілі ў кватэру. Дзверы расчыніліся. Перад намі стаяў бадзёры, усмешлівы чалавек у джынсах і кашулі, паверх якой быў накінуты фартушок. Як аказалася, жонкі ў гэты час не было дома і Рыгор Іванавіч вырашыў сам пачаставаць гасцей абедам.

— Мой сябар — паэт Уладзімір Мазго! — павітаўшыся, прадставіў мяне Стрыжак.

— Паэт Рыгор Барадулін! — цёпла ўсміхнуўся гаспадар і моцна пацініснуў руку.

— Хлопцы, хуценька мыйце рукі і праходзьце адразу на кухню да стала. Па сабе ведаю, што студэнты заўсёды крыху галодныя, таму аніякіх адгаворак не прымаю, — у голасе чулася гасцінная патрабавальнасць.

Доўга ўгаворваць нас не давялося. Барадулін, як шэф-повар і афіцыянт у адной асобе, па чарзе падаваў на стол апетытныя стравы, а мы толькі аблізваліся. Духмяны суп з фрыкадэлькамі, бульбяное пюрэ з катлетамі і салатай з капусты, кампот з чарнасліву — усё гэта разышлося імгненна.

А потым мы доўга сядзелі ва ўтульным пакоі і чыталі гаспадару свае новыя вершы. Паэт вельмі ўважліва і засяроджана слухаў, не перабіваў нас, і толькі пасля раз-пораз выказваў слушныя заўвагі і парады, нешта хваліў. На развітанне Рыгор Іванавіч папрасіў пакінуць у яго нашы сшыткі з вершамі, паабяцаўшы прапанаваць у друк усё лепшае.

Так, дзякуючы Барадуліну, з'явіліся першыя падборкі нашых вершаў у часопісе «Полымя» і зборніку «Дзень паэзіі». Нас, першакурснікаў, запрасілі ў 1976 годзе на Рэспубліканскі семінар маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах. Прадстаўляючы ўдзельнікаў семінара ў «ЛіМе», Рыгор Іванавіч адзначыў: «Прыемна, што з першага курса Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна — асноўнай кузні літаратурных кадраў роднай літаратуры, добра пачынаюць Віктар Стрыжак і Уладзімір Мазго!»

Бацькоўскі клопат і сяброўскую падтрымку слыннага паэта я адчуваў яшчэ не раз у розных жыццёвых абставінах. Калі два гады служыў у войску ў Прыбалтыцы, мой маральны дух падымалі сваімі лістамі Янка Сіпакоў, Мікола Мятліцкі, Кастусь Жук. Не забываў салдата і Рыгор Барадулін.

У адным са сваіх лістоў ён пісаў:

«Дарагі Уладзімір!

Атрымаў твой ліст.

Рады, што ў цябе ўсё добра, што нават вершы пішуцца. Засталося табе мала. А там будзем думаць і пра тваю першую кніжку.

Дасланыя вершы мне ўвогуле спадабаліся. Праўда, у некаторых адчуваецца яшчэ нейкая звязанасць, скутасць. Але гэта пройдзе. Пастарайся напісаць пра армейскія будні больш дынамічна, канкрэтна, каб відаць быў менавіта сённяшні дзень арміі нашай, каб чытач бачыў воіна жывога.

Дашлі яшчэ. Я прапаную ў чарговы «Дзень паэзіі».

Жадаю табе добрага настрою, моцнага здароўя і новых вершаў.

Да сустрэч!

З сяброўскай верай у твой талент — Рыгор Барадулін.

Мінск, 80».

Калі прыйшоў час выбіраць тэму дыпломнай работы, я, вядома ж, узяў — «Лірыка Рыгора Барадуліна», бо яшчэ са школьных гадоў захапляўся творчасцю паэта.

Неяк пры сустрэчы расказаў пра гэта Рыгору Іванавічу, а ў адказ атрымаў ад яго новую кнігу «Маўчанне перуна» з такім вось надпісам: «Дарагому Уладзіміру Мазго — чалавеку шчыраму, паэту парыўнаму і зорнаму, жадаючы плёну і поспехаў! Рыгор Барадулін. 18.XII.86. Мінск».

Па даўняй і добрай традыцыі, напярэдадні Новага года мы пастаянна абменьваліся навагоднімі паштоўкамі, каб выказаць самыя шчырыя свае пажаданні. Трымаю ў руках адну з іх: «Дарагі Уладзімір! Шчыра віншую Вас з Новым годам! Жадаю ўсяго светлага ў жыцці, спору ў працы, радасці ў сям'і, слухмянасці радка. Хай доліць Вам! Рыгор Барадулін».

У маёй хатняй бібліятэцы захоўваецца таксама шмат кніг з аўтографамі любімага паэта. А сэрца па-ранейшаму саграваюць успаміны сяброўскіх сустрэч. І адзін з самых цёплых — менавіта той, калі мы ў маладосці елі суп на кухні ў Рыгора Барадуліна.

## Слушная парада

Недзе ў сёмым класе, калі я ўжо нямала друкаваўся ў раёнцы, саспела думка паслаць свае вершы ў абласную газету «Гродненская правда».

Задумана — зроблена. Адаслаў і пачаў чакаць адказу. Кожны дзень выглядаў паштальёнку, якая на веласіпедзе развозіла пісьмы і газеты адрасатам.

І вось раз, зазірнуўшы ў паштовую скрыню, убачыў канверт са штампам абласной газеты. Дрыжачымі ад хвалявання рукамі раскрыў канверт і дастаў ліст. А там усяго некалькі радкоў, напоўненых глыбокім сэнсам.

«Уважаемый Владимир! С интересом прочитал Ваши стихи, которые мне в целом понравились. Предложите их в газету "Піянер Беларусі", куда они пойдут с большим правом. Желаю творческих успехов! Быков В. В., литконсультант газеты "Гродненская правда"».

У той момант я добра не ўсведамляў, што гэта не хто іншы, як класік беларускай літаратуры Васіль Быкаў дае слушную параду пачынаючаму літаратару-сямікласніку. І ўсё ж, атрымаўшы маральную падтрымку, прыслухаўся да той парады і адаслаў свае вершы адразу ў два рэспубліканскія дзіцячыя выданні: газету «Піянер Беларусі» і часопіс «Бярозка». І, як ні дзіўна, амаль адначасова — на працягу аднаго месяца — у іх з'явіліся мае творы.

Што ні кажы, а своечасовая парада Быкава стала для мяне ў нечым вызначальнай на творчым шляху.

## Проста Марыя Георгіеўна

У маі 1989 года патэлефанавалі з Міністэрства культуры і прапанавалі ў складзе творчай групы наведаць Мядзельшчыну.

Пацікавіўся: хто паедзе яшчэ?

У адказ пачуў:

— Народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, вядомы музыка Уладзімір Пузыня і вы…

Прапанову прыняў з вялікай радасцю.

Паездка была разлічана на два дні. У суботу — сустрэча з землякамі Марыі Захарэвіч у яе родных Навасёлках, у нядзелю — свята кнігі ў Мядзелі.

Камфортны і імклівы мікрааўтобус, цудоўная кампанія: Марыя Захарэвіч з дачкою, Уладзімір Пузыня з сынам, супрацоўніца Міністэрства культуры і я.

Даехалі да Нарачы на дзіва хутка. Размясцілі нас ва ўтульнай гасцініцы побач з «жамчужынай Беларусі». На календары было яшчэ 20 мая, а гарачыня стаяла амаль што летняя. Так і вабілі да сябе сваёю прахалодай нарачанскія хвалі…

Цеплынёю ўдзячных сэрцаў сустрэла нас малая радзіма народнай артысткі — вёска Навасёлкі.

Уладзімір Пузыня магічнымі гукамі сурмы абудзіў нарачанскія прасторы. Мне і Алесю, сыну славутага музыкі, давялося дэманстраваць свае паэтычныя і музычныя здольнасці.

А як выступала перад землякамі Марыя Захарэвіч! Гэта проста немагчыма перадаць словамі. Гэта трэба слухаць і слухаць бясконца. І я рады, што мне пашчасціла быць адным з тых удзячных слухачоў у яе роднай вёсцы.

У голасе прымы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы то шапацелі нарачанскія хвалі, то віртуозна выводзілі майскія трэлі салоўкі, то знянацку грукацеў абуджаны за возерам пярун… Усё гэта — у залежнасці ад танальнасці і настрою твораў, урыўкі з якіх агучвала Марыя Георгіеўна.

Слухачы цікавіліся грамадскім і творчым жыццём сваёй славутай зямлячкі, пыталіся ў яе пра ўражанні ад паездкі на малую радзіму. І на кожнае пытанне атрымлівалі шчыры і пераканаўчы адказ. Многія пасля сустрэчы з гонарам прамаўлялі: «Наша Марыя»…

У час гэтай паездкі падумалася: сапраўдны талент, відаць, і павінен быць у жыцці такім вось шчырым і сціплым, як Марыя Георгіеўна Захарэвіч, народная артыстка Беларусі.

## Сустрэча нагадала

Люты 2016 года. Чарговая Мінская міжнародная кніжная выстаўка набліжаецца да свайго лагічнага завяршэння. Пісьменніцкі сімпозіум «Пісьменнік і час» у самым разгары. З цікавымі актуальнымі дакладамі выступаюць беларускія творцы і нашы замежныя госці.

І раптам вядучыя аб'яўляюць:

— Слова мае наш госць з Санкт-Пецярбурга, вядомы расійскі пісьменнік Мікалай Каняеў…

Не ведаю, магчыма, мне гэта толькі здалося. Але перад вачыма знянацку праплылі фотакадры пісьменніцкай фотасесіі далёкага снежня 1976 года ў Каралішчавічах, дзе праходзіў Рэспубліканскі семінар маладых пісьменнікаў. Вось мы ўсе разам дружна застылі на адным фотаздымку: Алесь Кажадуб, Мікалай Каняеў, Валерый Ліпневіч, Валерый Грышкавец, Зінаіда Дудзюк, Кастусь Жук і іншыя. Столькі гарачых дыскусій, столькі светлых надзей памятаюць заснежаныя каралішчавіцкія сосны.

І вось праляцела чатыры дзясяткі гадоў. Па-рознаму склаўся лёс маіх сяброў. Алесь Кажадуб і Валерый Ліпневіч сягоння вядомыя маскоўскія пісьменнікі. Мікалая Каняева лёс звёў з Санкт-Пецярбургам, дзе ён узначальваў аддзел прозы ў часопісе «Нева», быў галоўным рэдактарам часопіса «Аврора». Аўтар многіх кніг і лаўрэат некалькіх літаратурных прэмій, сакратар Праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі.

Пасля выступлення я падышоў да Каняева і запытаў:

— Мікалай, а ці памятаеце вы Каралішчавічы 1976 года?..

Як аказалася, памятае і вельмі добра. Прынамсі, пра гэта сведчыць і зроблены ім надпіс на яго новай кнізе «Неудавшийся побег»: «Уладзіміру Мазго на добрую памяць пра Каралішчавічы ад аўтара»…

## Маскоўскімі маршрутамі

У красавіку—маі 1986 года мяне накіравалі на курсы ў Маскву ва Усесаюзны інстытут павышэння кваліфікацыі работнікаў друку. У групах займаліся прадстаўнікі розных выдавецтваў Савецкага Саюза. Заняткі праходзілі на Садовай-Кудрынскай, амаль у цэнтры горада. А пасля заняткаў я доўга блукаў маскоўскімі вуліцамі і знаёміўся бліжэй з «белакаменнай».

Наведаў Арбат, Цвярскі бульвар, ЦДЛ, ВДНГ, Літінстытут імя Горкага, сустрэўся ў выдавецтве «Молодая гвардия» з нашым земляком Іванам Бурсавым, нават заехаў дадому да сваёй маскоўскай цёткі па матчынай лініі. Але гэтага падалося мала, бо ў Маскве ў гэты час якраз вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах Віктар Шніп. І я вырашыў абавязкова адшукаць Віцю.

Праблем вялікіх у пошуку не ўзнікала. Больш таго, на літінстытуцкі інтэрнат па вуліцы Дабралюбава, д. 9/11, дзе жыў Шніп, здавалася, нават паказвала стрэлка Астанкінскай тэлевежы. Таму вельмі хутка мы сядзелі з Віцем за гарбатай у яго пакоі № 731 і дамаўляліся аб новай сустрэчы ў ЦДЛе.

Што датычыцца Цэнтральнага дома літаратараў, то ўваход у яго быў расчынены далёка не для кожнага смертнага. На літаратурныя вечары яшчэ прапускалі, а вось у рэстаран — толькі па членскім білеце, плюс адзін госць з пісьменнікам. Так і дамовіліся.

На другі дзень са мной прыйшлі ў ЦДЛ рэдактары рыжскага выдавецтва «Ліесма» Арніс Швіціньш і Сяргей Хрыстоўскі, якія вучыліся ў нашай групе. Мы з Віктарам паказалі на вахце свае пісьменніцкія білеты — і ўся кампанія апынулася ва ўтульным рэстаране.

Прапусціўшы пад добрую закусь па добрай чарцы, я чамусьці звярнуў увагу, што наўкол нас за столікамі сядзяць сталыя да сівізны дзядзькі з вельмі маладымі дзяўчатамі.

— Не разумею, чаму гэта сталічныя пісьменнікі ходзяць абедаць з дочкамі? — пацікавіўся я.

Віктар, які ўжо цэлы год жыў у Маскве, даў дасведчаны і пераканаўчы адказ:

— Гэта яны не з дочкамі, гэта яны з музамі!..

## Зэльвенскія сакавіны

У 1997 годзе ў сярэдняй школе № 2 Зэльвы адбылася, можна сказаць, гістарычная падзея, якая з’явілася вытокам раённага свята паэзіі і музыкі «Зэльвенскія сакавіны». Да нас з загадчыцай школьнай бібліятэкі Янінай Шматко прыйшла цудоўная ідэя: кожны год у сакавіку—красавіку прыязджаць на сустрэчы да юных чытачоў разам з паэтамі, празаікамі, кампазітарамі, артыстамі, навукоўцамі. Па прынцыпе: Уладзімір Мазго і яго сябры.

Спачатку такія сустрэчы адбываліся ў сценах маёй школы. Але вельмі хутка ім ужо не хапала прасторы. Таму свята перабралася на сцэну раённага Дома культуры, дзе і праходзіць зараз. Да яго правядзення далучыліся Зэльвенская цэнтральная раённая бібліятэка і Зэльвенскі райвыканкам.

За дваццаць гадоў мясцовыя чытачы адкрылі для сябе шмат зорных імёнаў гасцей «Сакавін». У розныя гады тут выступалі лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Беларусі Генадзь Пашкоў, Мікола Мятліцкі, Алесь Марціновіч, Уладзімір Саламаха, народны артыст Беларусі Якаў Навуменка, заслужаны дзеяч мастацтваў Алег Елісеенкаў, лаўрэат міжнародных конкурсаў Дзмітрый Качароўскі, заслужаны дзеяч культуры Зіновій Прыгодзіч, лаўрэаты спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Мікола Маляўка і Віктар Шніп, лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі Міхась Пазнякоў, доктар філалагічных навук, лаўрэат прэміі «Зоркі садружнасці» Іван Саверчанка і шмат-шмат іншых цудоўных пісьменнікаў і артыстаў.

Свята «Зэльвенскія сакавіны» адлічвае ўжо трэці дзясятак. Але вось што дзіўна: кожная новая сустрэча для мяне — хвалюючая і незабыўная, быццам першая. А можа, так і павінна быць?..

## У рытме сэрца

Калі ў час вучобы ў Зэльвенскай сярэдняй школе я пачаў пісаць вершы, настаўнікі шчыра параілі мне глыбей вывучыць тэорыю літаратуры, каб авалодаць сакрэтамі вершаскладання. І я настойліва выводзіў алоўкам на паперы рытмічныя схемы вершаваных памераў, зашыфраваныя ў чаргаванні вертыкальных і гарызантальных рысак. Відаць, таму вельмі хутка навучыўся адрозніваць харэй ад ямба, амфібрахій ад анапеста і г. д.

Аднойчы ў час размовы з паэтэсай Ларысай Геніюш, якая жыла ў Зэльве, спытаў, як яна вызначае памеры сваіх вершаў.

— Я ніколі не думаю пра гэта, а пішу так, як б’ецца сэрца! — пачуў у адказ.

З той пары заўсёды стараюся пісаць у рытме свайго сэрца.

## «Злачынца ў дом ідзе...»

Бадай, кожны раз, сутыкнуўшыся з плагіятам, адчуваеш сябе падманутым у самых шчырых сваіх спадзяваннях.

Калісьці мой верш для дзяцей «Снегіры» быў надрукаваны ў газеце «Піянер Беларусі». Потым яго перадрукавала беластоцкая беларуская газета. І вось, разгарнуўшы неяк чарговы нумар «ЛіМа», я ўбачыў цытату са свайго твора. Зацікаўлены, прыпаў вачыма да газеты. Але чым далей чытаў, тым болей здзіўляўся і засмучаўся адначасова.

Паведамлялася, што ў Магілёве прайшоў злёт юных талентаў. Сярод паэтаў перамог хлопчык, які прачытаў свой верш. І далей цытаваліся... мае радкі.

А ў выдавецтва «Юнацтва», дзе рыхтаваўся да друку зборнік «Казкі дзяцей Беларусі», ад юнага аўтара паступіў твор, што належаў пяру... народнага пісьменніка Беларусі.

Але ж гэта дзеці. Яны падрастуць і, магчыма, зразумеюць, што так рабіць нельга. А што тады казаць пра дарослых?..

Памятаю, як у наш студэнцкі інтэрнат пасялілася дзяўчына з падрыхтоўчага аддзялення. Мы папрасілі паэтэсу, як яна прадставілася, пачытаць свае вершы. І яна пачала дэкламаваць радкі вядомага паэта, дзе быў такі фінал: «Злачынца ў дом ідзе часцей, які на шмат замкоў замкнёны».

«А ў дадзеным выпадку — і ў адамкнёны!» — падумалася мне.

Таму ў сваёй творчасці пастаянна баюся плагіяту. Баюся ненаўмысна паўтарыць іншых.

## Мой трэнерскі дэбют

Калі пасля двух гадоў службы ў Савецкай Арміі я вярнуўся дамоў, мне прапанавалі пасаду фізрука ў піянерскім лагеры. За плячыма былі вучоба на філалагічным факультэце БДУ і армейская загартоўка. Таму, не доўга думаючы, пагадзіўся на адну змену.

Піянерскі лагер знаходзіўся ў вёсцы Ялуцавічы, дзе ўлетку адпачывалі школьнікі з усяго Зэльвенскага раёна. Важатымі, выхавальнікамі і медработнікамі тут былі студэнты з Гродна. Амаль усе — прыблізна майго ўзросту. І мы вельмі хутка знайшлі агульную мову.

У абавязкі фізрука ўваходзіла правядзенне з дзецьмі штодзённай ранішняй зарадкі, падрыхтоўка да спаборніцтваў па лёгкай атлетыцы і футболе.

Асабліва радавалі мяне юныя футбалісты. Хлопчыкі падабраліся спартыўныя, азартныя, з добрай тэхнікай валодання мячом. І я, пачапіўшы на шыю судзейскі свісток, ледзь не кожны дзень бегаў з імі па футбольным полі. Нешта падказваў, дапамагаў, да нечага даходзілі разам. Паступовa склалася зладжаная і дружная каманда. І калі нас запрасілі на таварыскі футбольны матч у санаторна-лясную школу райцэнтра, мы былі падрыхтаваныя — і фізічна, і маральна.

Прыехалі, паглядзелі ў школе канцэрт мастацкай самадзейнасці. І вось — доўгачаканая гульня.

Судзіў той матч заслужаны трэнер Беларусі і мой колішні настаўнік па гандболе Леанід Пятровіч Ган. Дарэчы, сярод яго былых выхаванцаў ёсць чэмпіёны СССР і нават свету. Але ж гэта ў гандболе, а тут — футбол.

Таму мае юныя футбалісты, нягледзячы на вялікі аўтарытэт суддзі і трэнера гаспадароў у адной асобе, адразу пайшлі ў атаку. І валодалі ініцыятывай на працягу ўсёй гульні, дэманструючы фантастычную самааддачу і волю да перамогі. А калі мы выйгравалі 5:0 і на апошніх хвілінах матча прапусцілі гол з пенальці, хлопчыкі ледзь не плакалі. Такой дзіцячай шчырасці можна толькі пазайздросціць. Яе часам гэтак не хапае нам, дарослым.

Мінула шмат год, а я з цеплынёю ў душы і трапятаннем у сэрцы згадваю той трэнерскі дэбют і тую дзіцячую шчырасць.

## Мара і мора

Недзе ў класе восьмым я марыў стаць штурманам далёкага плавання. Але любоў да літаратуры і прага творчасці прывялі мяне пасля школы на філфак Белдзяржуніверсітэта. Адразу пасля першага курса паехаў у студэнцкі будаўнічы атрад «Мара» ў Малдову. Вось тады і здзейснілася мая даўняя мара ўбачыць мора.

Пазней давялося не раз бываць на Чорным моры, на Балтыйскім. Але тая першая сустрэча з морам назаўсёды застанецца незабыўнай і непаўторнай, як першае каханне.

З Цірaспаля да Адэсы мы, студэнты-будатрадаўцы, даехалі электрычкай. Прагуляліся па Дэрыбасаўскай, селі на цеплаход — і апынуліся на пляжы ў Лузанаўцы.

Мора зашаптала, залюляла, замілавала, зачаравала з першых імгненняў сустрэчы, з першых абдымкаў. Уражанне было невыказнае. Я прагна лавіў гукі набягаючых хваль і слухаў дзівосную музыку. Музыку мора... А ў гэты момант у душы нараджаліся натхнёныя радкі:

«Нічога людскога!..» —
Падумаў з адчаем.
А мора зірнула
Тваімі вачамі.
А мора адзела
У хвалі пяшчоты,
Магніціла цела
Аб сонечны дотык.
І я пакахаў яго
Моцна, трывала.
Яно караблі
Маіх дум загайдала...

## Аўтограф Мэйсана

У ліпені 1995 года мне давялося ўдзельнічаць у рабоце IV Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Шмат было яркіх канцэртаў, цікавых прэзентацый, святочных фуршэтаў і розных творчых сустрэч. Мы прымалі ўдзел у аўтарскай вечарыне кампазітара Алега Елісеенкава, сустракаліся з замежнымі аўтарамі і зоркамі эстрады. Бэйдж акрэдытацыі ўдзельніка фестывалю даваў права вольнага ўваходу на розныя фестывальныя пляцоўкі горада.

І вось неяк, наведаўшы прэс-цэнтр, сустракаю ў холе Елісеенкава. Цікаўлюся:

— Алег, кажуць, Мэйсан з «Санта-Барбары» прыехаў на фестываль?

— Калі хочаш — пазнаёмлю. Пайшлі на другі паверх, ён зараз там, — заінтрыгаваў мяне сябар.

Як аказалася, Алег ужо меў гутарку з папулярным амерыканскім акцёрам Лэйнам Дэвісам, які сыграў ролю Мэйсана ў тэлесерыяле «Санта-Барбара», што ішоў тады на беларускіх тэлеэкранах і карыстаўся вялікім поспехам у гледачоў. Я, шчыра кажучы, ніколі не быў аматарам «мыладрам», але адразу адгукнуўся на прапанову кампазітара. Чаму ж не пазнаёміцца з цікавым чалавекам.

Калі мы наблізіліся, акцёр аб нечым размаўляў са сваёй перакладчыцай. Пачуўшы пра беларускага паэта, які піша песні, ён з цікавасцю падышоў да нас. Шчыры поціск нашых рук прымусіў мяне прызнацца, што мая жонка з'яўляецца прыхільніцай серыяла. А паколькі ў сына заўтра дзень нараджэння (гэта было сапраўды так!), я папрасіў артыста даць аўтограф. Ён размашыста напісаў нешта на фотаздымку на англійскай мове і падпісаўся: Мэйсан з Санта-Барбары...

Потым жонка доўга насіла рэдкі аўтограф у сваёй сумачцы, покуль аднойчы яго не выцягнулі разам з партаманетам у гарадскім аўтобусе.

## Як трапяткая аблачынка

Аднойчы сын прынёс дадому белае пушыстае кацяня ангорскай пароды, адно вока ў якога свяцілася сінім, а другое — зялёным колерам. Мы з жонкай спачатку былі катэгарычна супраць гэтага вымушанага суседства, але паступова здаліся: няхай сабе жыве ў нашай кватэры.

Імя Мальта, што прыдумаў сын, з цягам часу перайшло ў памяншальна-ласкальнае Мальтуся. Кацяня адчувала нашу любоў да яго і старалася адказаць тым жа.

Гуляючы з Мальтусяй, мы кідалі на падлогу цацачны мячык, а яна імчалася за ім, хапала зубамі і прыносіла нам. І гэтак — разоў дзесяць запар.

Калі нехта з нас, вярнуўшыся з працы, стомлена клаўся адпачыць на канапу, Мальтуся рабіла яму своеасаблівы масаж, раз-пораз рытмічна націскаючы лапкамі на жывот. Збоку гэта выглядала вельмі пацешна. Ну проста вылітая медсястрычка ў беласнежным халаціку!

Я на цябе ў журбе малюся,
Бо веру: вылечыш настрой.
Ты стала, добрая Мальтуся,
У нашай хаце медсястрой.

Як ні дзіўна, сваіх Мальтуся заўсёды адчувала на адлегласці. Калі ў калідор заходзілі суседзі — і вухам не вяла, працягваючы драмаць на канапе. А варта было да зачыненых дзвярэй кватэры наблізіцца некаму з нас — з усіх ног ляцела насустрач.

За пяць прамінулых гадоў ужо цяжка было ўявіць нашу хату без Мальтусі. Гэта мы, як кватаранты, вярталіся сюды з працы, а яна, як сапраўдная гаспадыня, заўсёды чакала нас і сустракала.

Нечакана Мальтуся захварэла. Амаль нічога не ела, толькі сумна пазірала ў нашы вочы. Цэлы месяц мы ўпарта змагаліся за яе жыццё — штодзённа вазілі на кропельніцу ў гарадскую ветлячэбніцу, трымалі на дыетычным харчаванні. Рабілі ўсё магчымае. Але нашы намаганні, на вялікі жаль, аказаліся марнымі.

Калі Мальтусі не стала, слёзы стаялі ў вачах, нібыта мы страцілі блізкага сябра. На душы было вельмі шчымліва. Можа таму белая трапяткая аблачынка, што ў гэты момант пралятала па небе, вельмі нагадвала нам нашу незабыўную Мальтусю.

## Наваражыла

Пісаць песні я пачаў яшчэ ў школе. Іх выконваў наш вакальна-інструментальны ансамбль. А вось першая прафесійная песня з’явілася значна пазней.

Недзе ў 1992 годзе мне патэлефанавалі тады яшчэ маладыя кампазітары Сяргей Герута і Павел Яроменка і прапанавалі супрацоўніцтва. І я з вялікім задавальненнем перадаў некалькі вершаў аднаму, а некалькі — другому музыканту.

Першым адгукнуўся Герута. Ён паведаміў, што напісаў музыку на верш «Варажба» і паказаў Іне Афанасьевай, з якой працаваў разам у Дзяржаўным канцэртным аркестры пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Песня спадабалася спявачцы. Больш таго, Сяргей запрасіў мяне праз некалькі дзён на запіс у студыю.

З вялікімі намаганнямі мне ўдалося знайсці гэтую студыю, што знаходзілася ў падвальным памяшканні інтэрната кансерваторыі, непадалёк ад піўзавода «Аліварыя». У невялікім пакоі — рэжысёрскі пульт, гуказапісваючая апаратура. І Сяргей — сапраўдны чараўнік музычных гукаў. А непаўторная Іна Афанасьева і яе магічны голас — гэта проста цуд!..

Адчуваючы сябе самым шчаслівым чалавекам на Зямлі, я вяртаўся дадому, бо ў маёй кішэні была аўдыёкасета з запісам.

Каб песня атрымалася, патрэбны — добры верш, добрая музыка, добрая аранжыроўка і добрае выкананне. «Варажба» гучала на многіх канцэртах, фестывалях, конкурсах Беларусі і замежжа. Больш за дзесяць гадоў яе круцілі па радыё. А зусім нядаўна я зазірнуў у інтэрнэт. На мой запыт «Іна Афанасьева. “Варажба”» камп’ютар выдаў аж пяць варыянтаў запісу песні на розных тэлеканалах. Відаць, гэта пра многае гаворыць.

За гэты час напісаў нямала песень. Іх выконваюць і народныя, і заслужаныя, і маладыя артысты. Але заўсёды з удзячнасцю згадваю, што ўсё гэта мне «навааражыла» Іна Афанасьева менавіта той першай нашай «Варажбой».

## На крылах

Дзесяць гадоў актыўнай працы ў песенным жанры не прайшлі бясследна. Дзе толькі не гучалі мае песні: на радыё і тэлебачанні, нацыянальных і міжнародных фестывалях... Але самае відовішчнае выкананне было, бадай, у дзвюх песень.

Калі Палац Рэспублікі яшчэ будаваўся, свята Галоўнай дзіцячай ёлкі краіны праходзіла ў Дзяржаўным цырку. Менавіта тады салістка «Сяброў» Алеся выконвала «Чараўніцу ёлку», гайдаючыся на арэлях, нібы на крылах песні, высока пад купалам цырка. І гледачы, задзёршы галовы і затаіўшы дыханне, слухалі паветраную Снягурку. Відовішча проста фантастычнае!..

А цяпер уявіце: Дзень незалежнасці, ваенны парад у святочнай сталіцы. Зводны аркестр Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі з некалькіх аркестраў, маршыруе перад шматтысячнай аўдыторыяй гледачоў з песняй «Абаронцы». Ідзе прамая трансляцыя на ўсю краіну. І ў гэты момант адчуваеш невыказны гонар за сваю зямлю і за яе абаронцаў, якія ахоўваюць нашу гісторыю і нашу культуру і дбаюць пра нашу мірную будучыню.

## Усе шляхі вядуць у Пінск

Тэлевізійны фестываль беларускай песні «Песню бярыце з сабою» вандраваў па розных гарадах Беларусі. І вось, пабываўшы ў Барысаве, Салігорску, Жлобіне, мы апынуліся ў палескім Пінску.

Усіх гасцей — тэлевізіёншчыкаў, спевакоў, кампазітараў, паэтаў — размясцілі ва ўтульнай гасцініцы. Мясцовыя ўлады арганізавалі для нас аглядную экскурсію на цеплаходзе, каб бліжэй пазнаёміць з Пінскам і ваколіцамі.

Да вячэрняга канцэрта заставалася процьма часу, і мы з паэтам Уладзімірам Карызнам, апынуўшыся на беразе, вырашылі пагуляць па горадзе пешшу.

Не прайшоўшы і сотні метраў, убачылі, як насустрач нам па вуліцы ідзе чалавек. Яго постаць некага нагадвала. Чалавек паступова набліжаўся да нас.

— Вось каб мы зараз былі не ў Пінску, а ў Маскве, я мог бы смела сцвярджаць, што гэта ідзе паэт Пётр Кошаль, — прамовіў я.

— І праўда падобны! — згадзіўся мой калега.

І тут мы пачулі:

— Прывітанне! А што гэта мінчане робяць у Пінску?

— Тое ж самае мы хацелі даведацца ў шаноўнага масквіча, — усміхнуўся Уладзімір Карызна.

Пётр Кошаль, які быў родам з гэтых мясцін, вынес свой вердыкт:

— Усё зразумела. Усе шляхі вядуць у Пінск!..

Мы гэтаму сягоння не пярэчылі.

## Васількі, рамонкі і… палын

Як вядома, у паэзіі ёсць музыка, а ў музыцы ёсць паэзія. Але ж далёка не ўсе, нават выдатныя ў мастацкіх адносінах, вершы могуць стаць песнямі. Бо ў песні існуюць свае, нябачныя на першы погляд, законы, спасцігнуць якія імкнуцца і паэты, і кампазітары, і спевакі.

Мяне даўно цікавіць і хвалюе стан сучаснай беларускай песні. Падкрэслю, менавіта беларускай, якая народжана на роднай мове. Бо мова наша мілагучная, а зямля наша спеўная. Гэта яскрава і пераканаўча засведчылі на міжнародным узроўні такія нашы эстрадныя зоркі, як «Песняры», «Верасы», «Сябры», «Бяседа»…

І сягоння пры жаданні можна знайсці нямала яркіх прыкладаў. І ўсё ж чамусьці радыё і тэлеэфір у апошні час проста запаланіла рускамоўная папса. Чаму ж рэдка гучаць беларускія песні? Можа, у Беларусі перавяліся добрыя аўтары?

Ды не. У эстрадным жанры ў нас ёсць сапраўдныя майстры. Чаму б спевакам не звярнуцца да іхняй творчасці? А то ў нас выканаўцы альбо самі пішуць сабе тэксты і музыку, альбо супрацоўнічаюць з аўтарамі, якія дасканала не валодаюць беларускай мовай.

Уключаю нядаўна прыёмнік. Гучыць даволі меладычная песня. Аўтараў, як заўсёды, не назвалі. Папулярны спявак прыцягвае ўвагу сваім чароўным голасам. Я прыслухаўся да слоў песні:

Васількі, рамонкі
І нябёсаў плынь.
Не кранае сэрца
Горкая палынь …

Незразумела, на якой мове апошні радок. Калі па-беларуску, то трэба «горкі палын», ад якога сапраўды робіцца не соладка, бо гэта, на вялікі жаль, не адзінкавы выпадак на нашай эстрадзе. Адразу разбіваецца першапачатковае добрае ўражанне ад песні.

Мне скажуць: але ж у нас ёсць Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне. Так, ёсць. І гэта вельмі добра. Дарэчы, мне даводзілася быць удзельнікам і першага (1993 г.), і мінулагодняга фестываляў.

На маю думку, песня і паэзія на маладзечанскім фестывалі павінны быць раўнапраўнымі партнёрамі. Спачатку гэтак і было. Паэты і спевакі выступалі на галоўнай пляцоўцы свята. Іх натхнёнае слова чулі ўсе маладзечанцы і гледачы фестывалю. Але ў апошні час артысты спяваюць у амфітэатры, а паэты чытаюць свае вершы то ў двары музычнай вучэльні, то ў малой зале Палаца культуры. Вось такі падзел песні і паэзіі. А фестывальныя сцяжынкі паэтаў і кампазітараў чамусьці не сустракаюцца.

На фестывалі праводзіцца конкурс маладых выканаўцаў. Добра было б таксама правесці конкурс на лепшую песню. Гэта яшчэ больш актывізавала б да песеннай творчасці аўтараў.

Нам ні ў якім разе нельга забывацца, што на крылах песні да айчынных і замежных слухачоў уздымаецца наша мова, наша культура. А гэта вялікая адказнасць і для аўтараў, і для выканаўцаў.

## «Дзядуля прыехаў!..»

У Доме творчасці пісьменнікаў «Іслач» мы адпачывалі разам са сваімі дзецьмі. Прынамсі, умовы для гэтага былі спрыяльныя. Пісьменнікі шпацыравалі па лясных сцяжынах, абдумвалі свае новыя творы, а дзеці ў гэты час гулялі вакол жылых карпусоў.

Перад самым абедам раптам чуем радасныя дзіцячыя крыкі:

— Дзядуля прыехаў! Дзядуля прыехаў!..

Многія з нас выйшлі паглядзець: чый жа гэта прыехаў дзядуля, што нашы дзеці так радуюцца.

Бачым, як каля галоўнага корпуса спынілася «Чайка», з якой выйшлі Аляксей Пятрэнка, Ігар Дабралюбаў і Аляксей Дудараў — вядомыя кінаасобы. Вечарам у Доме творчасці была запланавана творчая сустрэча з імі.

Як аказалася, раніцай Аляксей Пятрэнка пракаціў унукаў Міколы Аўрамчыка, Аляксея Русецкага і майго сына на «Чайцы» вакол карпусоў і паехаў у Мінск па справах. А нашы на дзіва гарэзлівыя дзеткі ўвесь гэты час чакалі, калі машына вернецца назад, бо вельмі хацелі яшчэ раз на ёй пракаціцца. Вось так яны нечакана для нас апынуліся ў ролі ўнукаў славутага савецкага артыста Аляксея Пятрэнкі. Толькі не ў кіно, а ў сапраўдным жыцці.

## Цуды Піцунды

Мне пашанцавала пабываць у дамах творчасці пісьменнікаў у Піцундзе, Кактэбелі, Юрмале. А ў абхазскай Піцундзе — нават двойчы.

Выдатныя творчыя кампаніі збіраліся тут. Разам з намі з Беларусі адпачывалі Тамара Чабан і Яўген Гарадніцкі, Уладзімір Марук, Яўген Хвалей, Уладзімір Бурдзялёў (сын паэта Аляксея Русецкага)…

У Піцундзе добра адпачывалася і лёгка пісалася. Навакольная атмасфера, здаецца, была прасякнута суцэльнай экзотыкай. Самшытавы гай, піцундскі маяк, нудысцкі пляж, высакагорнае возера Рыца, загадкавая Нова-Афонская пячора — гэта толькі няпоўны пералік наведаных намі мясцін.

Мы дэгуставалі на смак цудоўнае абхазскае віно «Лыхны» і «Апсны», купаліся ў ласкавым Чорным моры і загаралі пад шчодрым на пяшчоту паўднёвым сонцам. Гэта проста цяжка ўявіць: стаіш на беразе мора, а над тваёю галавой узвышаюцца горныя вяршыні, накрытыя папахамі аблачын.

Усміхаліся сонцам вышыні,
На хрыбет запрашалі Каўказскі —
На спавітыя снегам вяршыні,
Дзе рабіліся яваю казкі.

Да ад’езду дадому заставаўся яшчэ адзін дзень, і мы вырашылі з Валодзем Маруком напаследак наведаць базар у Гаграх. Запасліся прадуктамі, набылі дзецям сувеніры, выпілі па шклянцы вінаграднага віна. Паварочваю галаву — і бачу, як мой сябар размаўляе з пажылой абхазкай.

Дакладней, яна нешта распавядае яму, а ён уважліва слухае і толькі раз-пораз ківае галавой. З твару Марук сапраўды быў падобны на каўказца — і яго, відаць, прынялі за свайго.

Потым я пацікавіўся, пра што гаварыла тая жанчына.

А ў адказ пачуў:

— А хто ж яе ведае. Так прыгожа гучала абхазская мова, што проста не хацелася перапыняць кабету.

## Уваскрэсні ў роднай песні!

Якаў Навуменка... Галасісты салоўка беларускай эстрады. Пераканацца ў гэтым было не цяжка, паслухаўшы хоць аднойчы ягоныя песні.

Аксамітны, прыемны голас, шчырая, задушэўная манера выканання, яркія, запамінальныя мелодыі — апазнавальныя знакі шматграннага таленту спевака, кампазітара і аранжыроўшчыка, удала спалучаныя ў адной асобе. А таму абыякавых слухачоў у Якава Навуменкі не было: ці гэта канцэртная зала ў Белдзяржфілармоніі, ці гарадская плошча ў Маладзечне, ці амфітэатр «Славянскага базару» ў Віцебску, ці раённы Дом культуры ў глыбінцы... Спявак вельмі тонка і дасканала адчуваў не толькі музыку, але і ўсе адценні роднага слова.

...Слухаю музычны дыск, перапісаны на камп'ютары Яшам, што ён прэзентаваў мне калісьці ў сваёй былой кватэры ва Уруччы. Льецца бадзёрая рытмічная мелодыя. Сэрца кранае да болю блізкі трапяткі голас:

Няўмольны час, імклівы час
Хвалюе нас, бунтуе нас.
Ці ён бяжыць, ці ён ляціць,
А не суняць, а не спыніць.

Я так спяшаў і не паспеў,
У свой вагон у час не сеў.
Спазніўся я — пайшоў цягнік.
Віною ты — гадзіна пік ...

Гэта словы з нашай сумеснай песні «Гадзіна пік», якая дала назву адной з канцэртных праграм народнага артыста. Сапраўды, час не спыніць. І тым не менш, спадзяюся захаваць у сваёй памяці аблічча гэтага светлага і таленавітага чалавека.

Але напачатку — невялікая біяграфічная даведка. Спявак і кампазітар Якаў Паўлавіч Навуменка нарадзіўся 28 сакавіка 1959 года ў горадзе Оршы ў сям'і рабочых. У малодшых класах пайшоў у музычную школу, выдатна іграў на акардэоне. Арганізаваў вакальна-інструментальны ансамбль, які стаў папулярным сярод старшакласнікаў. Актыўна займаўся гандболам, атрымаў першы разрад, нават уваходзіў у юнацкую зборную каманду Беларусі.

Адразу пасля школы Якаў паступіў на факультэт аўтаматычных сістэм кіравання Севастопальскага прыборабудаўнічага інстытута. Але год паспяховых заняткаў усё ж выявіў, што душа яго належыць музыцы. Забраў дакументы, а ў 1977 годзе быў прызваны ў войска. Служыць давялося ў ансамблі «Хваля» пры севастопальскім Доме афіцэраў, дзе дасканала асвоіў бас-гітару. Малады марак яшчэ не надта ўяўляў, кім будзе ў далейшым: музыкантам ці спеваком.

Адслужыўшы тры гады на флоце, паступіў на дырыжорска-харавое аддзяленне Мінскага музычнага вучылішча, дзе нечакана для сябе пачаў пісаць музыку. Пасля заканчэння вучобы працаваў у ансамблі «Свята», у Дзяржаўным народным хоры імя Г. Цітовіча, быў салістам радыё і тэлебачання.

Вучыўся завочна ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Пасля бліскучай перамогі Якава Навуменкі на Усесаюзным радыёконкурсе «Новыя імёны» прафесар Ніна Мяшко запрасіла яго на вучобу ў Інстытут імя Гнесіных у Маскве. Дыплом абараніў на выдатна.

Спяваў у ансамблі народнай музыкі «Бяседа», у Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі, у Нацыянальным акадэмічным народным аркестры Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча. Яму было нададзена ганаровае званне заслужанага, а пазней — народнага артыста.

Наша першая сустрэча адбылася ў Саюзе кампазітараў у сярэдзіне 90-х гадоў. Я завітаў туды па творчых справах, а Яша ў гэты час перапісваў там на

магнітафон свае песні, многія з якіх былі мне ўжо добра вядомыя па радыё і тэлеканцэртах. Гэта выпадковае знаёмства перарасло пасля ў плённае творчае супрацоўніцтва і ў шчырае сяброўства паміж намі.

Як аказалася, шмат агульнага звязвала нас і акрамя песні. Абодва нарадзіліся ў сакавіку 1959 года ў рабочых сем'ях, у школьныя гады захапляліся гандболам. Якаў у малодшых класах займаўся ў музычнай школе на акардэоне, а я — на баяне. Ён арганізаваў сярод старшакласнікаў вакальна-інструментальны ансамбль, я ж пісаў для школьнага ансамбля словы песень...

Вось што сказаў пра гэта Якаў Навуменка ў часопісе «Роднае слова» (№ 3, 1999 г.): «Дзякуючы таму, што Уладзімір Мазго мой аднагодак, успрыманне жыцця, светапогляд і адчуванне мелодыі душы ў нас падобныя. Нашы героі — людзі, якія жывуць побач, яны не забыліся пра хараство свету, прыгажосць пачуццяў, яны звязаны з мінулым, яны прывезлі ў горад любоў да зямлі».

Разам з Яшам мы неўзабаве стварылі песні «Гадзіна пік», «Мне ўсё верыцца», «На Нямізе», што трывала замацаваліся ў рэпертуары спевака. Аб'ехалі палову Беларусі як удзельнікі тэлевізійнага фестывалю «Песню бярыце з сабою», музычным рэдактарам якога была яго жонка Ала. А яшчэ ён выконваў на мае словы жартоўную песню «Каля плота — у суботу» і лірычную «Дзяўчына з Ваўкавыска», музыку да якіх напісалі адпаведна Сяргей Сухамлін і Дзмітрый Даўгалёў. Што датычыцца апошняй песні, то прэм'ера яе адбылася на святочным канцэрце, прысвечаным 1000-годдзю згаданага горада, дзе артыст выступіў як заўсёды ярка і запамінальна.

Якава вельмі любілі прыхільнікі беларускай песні. Яго канцэрты збіралі аншлагі, спевака часта выклікалі на «біс». І гэта не дзіўна, бо ён спяваў так, як і жыў: шчыра і самаадданa. Не атрымаўшы яшчэ звання народнага артыста, ён ужо тады заваяваў народнае прызнане ў сваіх слухачоў.

Якаў Навуменка ставіўся вельмі адказна да любой справы, да кожнага дадзенага ім абяцання. Помніцца, калі канал «Лад» здымаў тэлеперадачу «Плошча мастацтваў», прысвечаную маёй творчасці, артыст знайшоў час прыехаць у Мінск з Жодзіна, каб расказаць пра наша супрацоўніцтва, а таксама выканаць некалькі новых песень. У Літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, дзе адбываўся тэлезапіс, сеў за раяль і адразу — без усялякай размінкі — віртуозна зайграў. Як сапраўдны прафесіянал, ён заўсёды быў у неабходнай музычнай форме.

А напярэдадні майго пяцідзесяцігоддзя патэлефанаваў і тактоўна сказаў: «Ты прабач, дружа, не атрымаецца, на жаль, пагуляць на тваім юбілеі: тэрмінова лячу з урадавай дэлегацыяй на Каўказ». Бо не мог, не папярэдзіўшы, не прыйсці на абяцаную сустрэчу.

Кожны год на маёй малой радзіме ў Зэльве праводзіцца свята паэзіі і музыкі «Зэльвенскія сакавіны». Якаў нарадзіўся таксама ў сакавіку, таму вясной 2004 года я запрасіў яго паехаць разам. І ён са шчырай радасцю прыняў прапанову, бо сапраўдная дружба для артыста заўсёды мела вялікае значэнне. Болей як дзвесце кіламетраў адлегласці ад Мінска да Зэльвы, сагрэтых сяброўскай размовай, праляцела непрыкметна.

На сцэне раённага Дома культуры Якаў дарыў прысутным песню за песняй, а зала ўсё прасіла: яшчэ! Было адразу бачна, што колькасць прыхільнікаў спевака пасля гэтай сустрэчы значна павялічылася. Згаданае выступленне стала сапраўдным майстар-класам для юных зэльвенскіх артыстаў, якія з вялікай радасцю сфатаграфаваліся на памяць з любімым артыстам і атрымалі ад яго жаданыя аўтографы.

Са шчымлівым пачуццём на сэрцы гляджу кліп, дзе Яша спявае, ідучы па восеньскім парку:

Мне ўсё верыцца:
Шчасце вернецца
Светлай просінню гэтай восенню.
Толькі лепшае сёння збудзецца,
А найгоршае — ўсё забудзецца!

На вялікі жаль, ён так і не дайшоў да сваёй залатой восені. Яго жыццё трагічна абарвалася на фінішы лета 2012 года падчас адпачынку ў горадзе Севастопалі, дзе ён некалі вучыўся і служыў. Засталося шмат нерэалізаваных творчых планаў і задум.

Затое для прыхільнікаў спевака светлай просінню на небасхіле беларускай эстрады стаў канцэрт памяці Якава Навуменкі, які адбыўся восенню 2013 года ў вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Я прысутнічаў на гэтым канцэрце і бачыў, што ва ўсіх гледачоў было аднолькавае адчуванне: народны артыст і сягоння разам з народам. Магчыма, ён пачуў нашу маўклівую малітву: «Уваскрэсні ў роднай песні!..»

Новая вясна, як гэта было і раней, прынясе нам новыя надзеі. З выраю вернуцца пералётныя птушкі. І толькі не будзе сярод іх, на вялікі жаль, галасістага салоўкі беларускай эстрады, які назаўсёды адляцеў у свой незваротны вырай. Але яго песні, захаваныя на дысках народнай памяці, яшчэ доўга будуць саграваць нашы сэрцы.

## Падкова на шчасце

У XVIII—XIX стагоддзях на маёй малой радзіме адбываўся Ганненскі кірмаш — шырока вядомы ва ўсёй Еўропе. Землякі вырашылі аднавіць гістарычныя традыцыі і адрадзіць свята. Кожны год у канцы жніўня Зэльва кірмашуе, дэманструючы ўсё лепшае з мінулага і сучаснага.

І на гэты раз свята падарыла мне асалоду яркіх і незабыўных уражанняў, радасць цікавых сустрэч.

Калейдаскоп разгорнутых падзей не толькі не расчароўваў, а проста зачароўваў: навуковая канферэнцыя, тэатралізаванае прадстаўленне, займальныя конкурсы, яркія шоў, захапляльныя выставы народных майстроў і г. д.

А галоўнае — на кірмашы панавала атмасфера сапраўднага свята. Яна была не толькі ў паветры над Зэльвай, але і ў сэрцах шматлікіх гасцей і гаспадароў.

Калі мы разам з трэнерам па гандболе Міхаілам Міхутам і знакамітым беларускім асілкам, рэкардсменам Кнігі рэкордаў Гінеса Вячаславам Хаpанеках ад’язджалі з кірмашу ў Мінск, наперадзе над шашой, як падкова, аднекуль з’явілася вясёлка. Мы дружна вырашылі, што гэта добры знак для будучага свята. Бо, як кажуць у народзе, падкова — на шчасце. А што датычыцца асабіста нас, то гэта быццам абяцанне новых дарог і незабыўных сустрэч.





**Людміла КЕБІЧ**

# НАДА МНОЙ АБЛОКІ-КАРАБЛІ

## АТЛАНТЫЧНЫ АКІЯН

Мне насустрач выбег акіян,
разгарнуў салёныя абдымкі,
запрасіў на казачны Буян,
падарыў «бажкоў курыных» скрынку.

Пенна калыхаўся каля ног,
лашчыўся да стомленага цела.
І, нібы свяшчэнны абярог,
агарнуў настойліва і смела.

Колькі разам неба і вады —
васільковай бездані бясконцай!
І душа, якая прагла сонца,
вызвалілася з кайданоў нуды.

У мяне такое пачуццё:
ты адзіны зняў мае ваганні,
і ўваходжу я ў тваё ўладанні,
нібы ў сваё новае жыццё.

---

*__Кебіч (Вайтулевіч) Людміла Антонаўна__ нарадзілася 17 ліпеня 1951 года ў гарадскім пасёлку Краснасельскі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла аддзяленне тэорыі музыкі Маладзечанскага музычнага вучылішча (1971), філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (1981).*

*Працавала выкладчыкам музычна-тэарэтычных дысцыплін у Гродзенскім дзяржаўным каледжы мастацтваў. Цяпер — старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар паэтычных кніг «Па музычных законах» (1996), «Зялёная рутвіца» (2001), «На беразе белай ракі» (2003), «Ключы ад Неба» (2005), «Светач мастацтва» (2008), «Непераможны колер охры» (2008), «Дамінанты лёсу» (2014) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010). Узнагароджана нагрудным знакам «За ўклад у развіццё культуры Беларусі» (2009), медалём Францыска Скарыны (2014).*

## ІСУСАВА СЭРЦА

О, Госпадзі,
я кленчу прад табою
у Кафедральным храме Люксембурга
і дзякую малітваю святою,
раблюся светлай, прымірэнча-мудрай.

Якая веліч
у маленькім княстве!
Раскошныя арганы, габелены,
і з вітражоў глядзяць у вочы паству
святыя лікі — праз гады — нязменна.

Не страшныя цяпер пакуты смерці,
і каб агеньчык веры не пагас,
па-над усім — Ісусавае сэрца,
якое прыме і ўратуе нас.
О, наш магутны, усямоцны Спас!

## РОДНЫЯ КАРЦІНЫ

Я іду па вуліцы да сына,
кожны дзень амаль іду туды.
А навокал — родныя карціны,
хоць да дома пяць хвілін хады.

Я спыняю крокі мімаволі
і дзіўлюся — у каторы раз! —
на палёў шырокае раздолле,
на бліскучы сонечны алмаз.

Адзначаю змены справа, злева:
там раскоша яркая вяргінь,
тут лісточак пажаўцеў на дрэве…
Прыгажосць, куды пагляд ні кінь.

Прахалода восеньскага рання
так бадзёрыць цела і душу.
Вось куплю блакнот для малявання,
гэты клён, дакладна, напішу.

Не, пісаць карціны не мастак я,
у мяне будзённых спраў сумёт,
але як прайсці паўз тыя макі,
што вітаюць, шчэмяцца праз плот.

І мая душа пяе, рысуе
кветкамі, зялёнаю травой…
Я з табою звязу не скасую
аніколі, край радзімы мой.

Я іду па вуліцы да сына,
нада мной аблокі-караблі…
Убіраю сэрцам і вачыма
хараство прынёманскай зямлі.

## НА ПРЫСТУПКАХ РЭЙХСТАГА

***Па матывах карціны М. Бандарчука «Перамога»***

Пад ярка-чырвоным сцягам,
што ўзнёсся хвіліну назад,
прысеў на прыступках Рэйхстага
жывы пераможца-салдат.

Агледзеў нябесныя далі —
зусім як у нас біруза!
І сумна ўздыхнуў: «А што далей?»
Скацілася думка-сляза:

Вайна — там усё зразумела,
хто вораг, а хто табе брат,
страляй ашалела ды смела,
выконвай вайсковы загад.

Якою пакутлівай, доўгай,
крывавай дарога была
да гэтага логава злога,
цяпер яна сэнс набыла.

Паверце, не збочыў з маршрута,
хоць быў невымерна круты.
За вас, Аляксандр і Анюта,
за век ваш, такі малады

Адпомсціў зладзею-фашысту,
што нас так няшчадна крамсаў,
і тут, на сцяне, урачыста
я вашы імёны ўпісаў».

…Быў першы дзень міру. Хістаўся
ад стомы, ад ношкі надзей,
у прышласць салдат углядаўся,
дзе ён смерцю храбрых падзе.

## БЕЛЫЯ АБЛОКІ

***Па матывах карціны М. Бандарчука «Аблокі над Жыровіцамі»***

Я б у гэтыя аблокі
ўглядалася бясконца.
Шлях іх вольны і высокі —
да святла, да Бога, сонца.

Паплыла б я разам з імі
над радзімаю старонкай
купаламі залатымі…
І спявала б жаваронкам

Пра Жыровіцкія дзівы,
ціхі плёскат вечнай Шчары,
любы кут малой радзімы,
неаглядныя абшары.

З вышыні так лёгка мовіць…
Ад імя аблокаў гэтых
я прызнаюся ў любові
да радзімы сваёй светлай.

Хай зусім не красамоўна
прагучыць маё прызнанне,
у аблоках малітоўна
і вачам, і спадзяванням.





**Ганад ЧАРКАЗЯН**

# ІНАКШ МЫ НЕ МОЖАМ...

*Апавяданні*

## Супраць цячэння

Кажуць, што ўсё раней было і разумней, і прасцей. Пасля вяселля маладыя жылі ў доме мужа, знаёміліся з гаспадаркай, пазнавалі смак сумеснага жыцця. Пароўну дзялілі ўсе сямейныя клопаты і ўсё тое, што здараецца ў сям'і. А ў сям'і ці мала што здараецца. Асабліва, калі сям'я вялікая. Магчыма, гэта і быў той падмурак, на якім будаваліся і мацаваліся ўсе радзінныя стасункі. Дзякуючы ўсяму гэтаму, сям'я тысячагоддзі заставалася такой, якой і павінна быць. Але з часам усё памянялася. Змяніўся сам свет, змянілася і роля чалавека ў гэтым свеце. Зусім іншымі сталіся і сямейныя ўзаемаадносіны. Тое, што вечна аб'ядноўвала і гуртавала, пачало як быццам знікаць. І мала хто гэта нават заўважыў.

Ужо даўно забыты той час, калі ўсе блізкія і родныя талакой будавалі для сваіх сыноў і дачок асобныя дамы. Сям'я патрабавала таго. І шырыўся свет, вырасталі фамільныя дамы і цэлыя вуліцы. І ўсім было добра. Бо яны, калі нават адасабляліся, заставаліся прыналежнымі адной вялікай сям'і і роду. Цывілізацыя спрацавала ў іншы бок — людзей пацягнула да індывідуалізму. Давай ім адразу асобную кватэру, а ўжо потым яны рынуцца на пошукі сваёй сям'і. Такое вось аднаасобніцтва.

Бацька Антона, як і ўсе астатнія бацькі, ганарыўся сваім сынам. Недахопы, праўда, у таго былі. Але ж гэта недахопы яго сына. Ён ведаў, што Антон,

---

***Чарказян Ганад Бадрыевіч*** *нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсе Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность» (1980), «Цвет доброты» (1986), «Пространство и время» (1990), «Плач» (1994), «Караваны гор» (1996), «Чаргаві» (2001), «Дом дождя» (2001), «Тоска по дому» (2003), «Зорная глыбіня» (2005), «Мелодия разлуки» (2006), кнігі прозы «Шамдзін» (1998), «Камни печали» (1999), «Белая вежа» (2010), раман «Опередить смерть» (2005) і інш; кнігі для дзяцей.*

жывучы ў дастатку, пойдзе шляхам сваіх бацькоў. Зразумее, што дастатак вырашае ўсё. Хоць у жыцці такі падыход не заўсёды апраўдваў сябе. Як бы там ні было, а бацькі Антона на вяселлі падарылі свайму сыну ключы ад кватэры. Бацька пры гэтым пачуваўся арлом і думаў, што дорыць сыну сапраўдныя крылы для сямейнага шчасця. Арлом на самай справе пачуваў сябе сын, бо бацькі нявесты ў сваю чаргу ўручылі яму ключы ад машыны. Як жа інакш? Па даўняй логіцы і жаданні бацькоў дзеці павінны жыць лепш ад іх.

А жыццё пайшло так, як хацела яно само. Маладымі ўрэшце камандавала не столькі яно, колькі мода, перад якой маладыя і кленчылі і схілялі свае галовы. Яны рабілі тое, што рабілі іншыя. З'явілася ў грамадстве эпідэмія, якую лічылі прэстыжнай. А гэта была ўсяго банальная пагоня за рэчамі. Прыгожых, але зусім непатрэбных рэчаў было навокал безліч. І было жаданне мець як мага больш тых рэчаў. Але ўсе прыгожыя рэчы ўжо не месціліся ў аднапакаёўцы. І тут жа захацелася пашырыць жылплошчу. Бацькам нават падабалася, што іх нашчадкі дбаюць пра набытак у сваёй хаце, але аднойчы неяк незадаволена выказалася маці Антона:

— Лепшым набыткам для пачатку быў бы першынец. Яны чамусьці пра гэта не думаюць.

Бацька Антона не падтрымаў жонку:

— Яны ж не з дому, а ў дом нясуць. Яшчэ паспеюць дзяцей нарадзіць.

А рэчавая хвароба, а гэта была менавіта яна, пачала прагрэсіраваць. Хутка і спальня, і калідор ужо нагадвалі склад. Усё было запоўнена ўпакоўкамі, шматлікімі скрынкамі, ванзэлкамі. Люстэркаў шмат не трэба. Але як устрымацца, калі з'яўляюцца новыя і яшчэ прыгажэйшыя ўзоры?!

Дайшло да таго, што маладыя запоўнілі рэчамі нават кухню, а сталавацца вымушаны былі на падаконні. Вольнага месца ўжо не заставалася.

Аднойчы жонка Антона прысела на падаконне, абхапіла рукамі калені і задумалася. Ёй марылася пра тое, што надыдзе той дзень, калі ў іх будзе вялікі дом, басейн, шмат музыкі, зайздрасць сяброўак, новая машына, новыя ўборы, свабода і шмат гуляння. Яна салодка ўсміхалася, мружыла вочы, цешылася сваімі мроямі.

Яе мроі перакрэсліў сігнал аўтамашыны. Яна расплюшчыла вочы, і ўбачыла, як Антон прыпаркаваў іх машыну проста перад акном кватэры і з пакункамі ў руках заходзіў у пад'езд. А потым яна пачула, як ён адчыняе іх металічныя дзверы. Скразняком пацягнула расчыненую фортку акна, і яна рэзка ўдарыла жанчыну па галаве. Не столькі ад удару, хутчэй ад нечаканасці, жонка рухнула ўніз. Яна ўпала акурат на верх іхняй машыны. Антон стрымгалоў кінуўся ўніз. Яго маладая жонка ляжала на прымятым даху машыны. На шчасце, яна засталася жывой, але пакалечыла пазваночнік.

У кожнай бядзе заўсёды шукаюць вінаватых. Бацька Антона дакараў сябе за тое, што выбраў гэтую кватэру на другім паверсе. А маці нявесткі не магла дараваць Антону, што той дадумаўся ставіць машыну менавіта пад сваім акном. А вінаватым быў усяго выпадак. Маці Антона праз слёзы сказала сыну:

— А што я казала табе, сынок? Трэба ва ўсім ведаць меру. А ты мяне не слухаўся. І Бог пакараў нас усіх.

Антон, як дзіця, уткнуўся ў грудзі маці і заплакаў:

— Даруй мне, мама. Я позна пачуў твой справядлівы голас. А таму ўсё зайшло так далёка. Я плыў па цячэнні. А гэты самы лёгкі шлях для чалавека. Я ўсё зразумеў: трэба ісці па жыцці сваім шляхам.

## Міша Тапор

У дзверы пакоя пастукаліся. Ніхто не падняўся, і дзверы марудна, са скрыпам адчыніліся, а ў праёме ўзнікла ўскудлачаная галава хлопца. Ён хуценька забег у пакой і тут жа зачыніў іх за сабой. Прыхіліўшыся спінай да дзвярэй, спрабаваў аддыхацца.

Апрануты ён быў у даўгаваты, нібыта з чужога пляча, пінжак. У правай руцэ незнаёмец трымаў індзейскі тапор. Гэта была зброя племя апачы, якой яны змагаліся з беласкурымі. Тапор і выглядаў у яго руках як зброя, і рабіў уражанне на жыхароў студэнцкага пакоя, якія раптам, ні з таго ні з сяго, сталіся ўдзельнікамі нейкіх непрадбачаных падзей.

— Хлопцы, яны мяне заб'юць, — сказаў госць і пачаў хуценька запіхваць тапор у нейкую кішэню за пазухай. Але тапор упарціўся, не ўмяшчаўся ў кішэні, і кудлаты засунуў яго пад папружку. Пры гэтым ён усхвалявана прамаўляў:

— Яшчэ спатрэбіцца... Яшчэ спатрэбіцца, яшчэ...

Першым адважыўся загаварыць Артур, які нейкім таемным чынам трапіў у жыхары нашага пакоя ў інтэрнат па вуліцы Рачная. Усе ведалі, што ён вучыцца не ў нашым тэхнікуме, апынуўся тут дзякуючы каменданту. Быццам бы ў суседнім пяціпавярховым інтэрнаце на Металістаў не хапае месцаў. Пакуль не хапае... Дык хай пажыве хлопец.

— Хто яны? — запытаўся Артур.

— Бандыты! — адказаў кудлаты.

— Ты давай, дружа, у шафу, — прапанаваў Артур, — а там будзе бачна.

Не трацячы ні хвіліны, кудлаты крутануўся ў пакоі і юркнуў у шафу. Зачыняючы яе, ён супакоіў:

— Вы не бойцеся, хлопцы. У мяне зброя. Мы выстаім...

Не ведаю, як Артур і Эдзік, а ў мяне штосьці як абарвалася ўнутры. Я не паказваў гэтага. Ці мала чым магло ўсё скончыцца. Нас нядаўна засялілі ў пакой, і пасля вёскі ён здаваўся нам музеем з палаца багацея. Шкада было такую раскошу страціць.

Мы моўчкі пераглянуліся. Артур прапанаваў:

— Давайце пойдзем прагуляемся... Так будзе спакайней...

Гэта была цікавая прапанова. У тыя часы нават пакоі не замыкалі. Такі парадак прыдумаў камендант. Ад каго зачыняцца? Ці мала чым можна займацца, калі дзверы ў пакоі замкнутыя?! Ключы выдавалі толькі па выхадных днях. І ўсе да гэтага адразу прывыклі.

— Хлопцы, пачакайце крыху, а раптам дапамога спатрэбіцца, — пачулася з шафы, — пачакайце...

Мы нават не зварухнуліся. Нязручнасць, страх і трывога ахапілі нас, і мы, разгубленыя, стаялі і чакалі чагосьці, калі не горшага, дык вельмі важнага. Папраўдзе, чакалі, чым скончыцца гэты непрадбачаны спектакль.

Артур выглянуў у калідор. Там было пуста і ціха. Ён так і сказаў:

— Там пуста і ціха.

Сказаў так, каб пачуў тое і кудлаты ў шафе. Нам здавалася, што мы незнарок уліплі ў нейкую гісторыю, прычым — непрыемную. І як быццам самі напрасіліся быць яе ўдзельнікамі. Цяпер — чакай горшага.

Хвілін праз дзесяць створка шафы марудна расчынілася, і адтуль выйшаў чалавек з тапаром.

— Будзем знаёмы, я Міша Тапор. Дзякуй за дапамогу. Калі яна спатрэбіцца вам, звяртайцеся ў інтэрнат на Металістаў, пакой шэсцьдзясят тры...

— Гэта Эдзік, — сумеўшыся, знаёміў нас Артур, — гэта — я, Артур. А гэта Жора з вёскі Лугавая.

— Амаль землякі, — усміхнуўся Міша Тапор. — Я пайшоў.

У нашым студэнцкім жыцці штосьці падобнае не здаралася. З'явіўся тады Мішка Тапор і тут жа знік. Але яго з'яўленне і адыход з тапаром племя апачы пакінулі свой след у нашай памяці. Усе наступныя дні ў інтэрнаце толькі і казалі пра слаўнага Мішку. Быццам бы ён тым самым тапаром засек двух гвалтаўнікоў, што напалі на безабаронную студэнтку... Перамог іх і вызваліў дзеўчанё. Вось зараз і палююць за ім сябры тых гвалтаўнікоў, каб адпомсціць. Галоўнае, што выратаваў наш герой зусім незнаёмую дзяўчыну. Быў нейкі гонар, што наш пакой меў хоць нейкае дачыненне да тых падзей. А яны, між іншым, паўтараліся, мелі свой працяг. І нязменным героем іх быў той жа Міша Тапор. Гэта ўсё даносілі да нас чуткі.

Як мы ні стараліся заставацца збоку ад усялякіх дробных разборак паміж мясцовым і прыезджым людам, нічога з таго не атрымлівалася. За гэты час, а ішоў ужо трэці год нашага гарадскога жыцця, мы адчулі сябе настолькі трывала, што ў нас ужо з'явіліся свае амбіцыі. Аднак правілы паводзін, якія прыдумаў наш камендант, парушаць было небяспечна. Інакш маглі з трэскам вылецець у любую хвіліну ў межы сваёй вёскі. І таму ў інтэрнаце панавалі мір і спакой. Адзінае, што мы не маглі дазволіць — гэта заляцанне чужых кавалераў да нашых дзяўчат. За сваіх стаялі гарой, так ужо склалася.

І вось справа дайшла да сур'ёзнага канфлікту. Пагражала бойка. Самы звычайны мардабой, хто каго. З крывёй, але без усялякіх там нажоў, шворанаў. Гэта быў час сумленных боек. Ішлі высвятляць адносіны, і ніхто не збіраўся перасягнуць мяжу дазволенага. У каманду мсціўцаў ці шукальнікаў справядлівасці трапіў і наш пакой — Артур, Эдзік і я. Ішлі мы, як думалася, бараніць свой гонар. Маладосць усё ж брала сваё. Пустка, дзе прызначалася разборка, праглядвалася як з нашага боку, так і з інтэрната на Металістаў. Мы размясціліся на даху нашага, а варожы бок на даху іхняга інтэрната. Мы сышліся з камандай супрацоўнікаў на маленькай пляцовачцы, дзе часта ганялі мяч. Гэта была вайна ганарыстага горада і бескампраміснай вёскі. Але справа не даходзіла да сапраўднай бойкі. Недзе ў глыбіні душы мы добра разумелі, што месца з'яўлення кожнага з нас не дае нам ніякіх прывілей, перавагі аднаго над другім. Жылі мы ў адной краіне і на адной зямлі. Яны — мясцовыя, мы — прыезджыя. Заўтра і мы станем такімі ж гарадскімі. Ды і многія з іх — тыя ж самыя ўчарашнія вяскоўцы. Калі не яны, дык іх бацькі — дакладна... Але ўбачанае здзівіла і ўразіла нас.

Паперадзе каманды нашых супраціўнікаў ішоў у сваім доўгім пінжаку і з тапаром ужо нам знаёмы Міша Тапор. Ён тут жа заткнуў сваю зброю за пояс і гучна аб'явіў:

— Хлопцы, ды гэта ж свае людзі. Разборкі не будзе. Вайна выключаецца. Толькі перамір'е. Мы пакідаем поле бою. Нас чакаюць больш важныя справы. Сёння я ўсіх частую. За мной — на ліманад...

Ён абняў ашаломленага Артура, Эдзіка, а пасля і мяне.

Міратворца Міша Тапор выратаваў тады ўсіх нас ад крывавай сутычкі, а яшчэ выгукнуў:

— Яны аднойчы выратавалі мяне ад бандытаў. Дабро за дабро... Гэтага патрабуе справядлівасць.

Указальным пальцам ён ачарціў дах нашага інтэрната, а потым і інтэрната на Металістаў. Там стаялі нашы паплечнікі.

Мы былі рады, што бойка не адбылася, што ўсіх нас прымірыў Міша Тапор. І самае галоўнае, што ён пазнаў нас. Наш новы знаёмы ў чарговы раз стаўся героем дня. Былі задаволены і яго паплечнікі. Перамог мір. Як яно добра, калі такое ўсё ж здараецца.

Гэта было так даўно, што здаецца, яго зусім не было, бо ўсё засланіў час і больш значныя падзеі ў ім. Да нас часта даходзілі чуткі пра новыя подзвігі Мішы Тапара. Чулі, што ён паспяхова скончыў вучобу. А потым знік з поля нашага зроку. Мы нават з палёгкай падумалі, што наша знаёмства так з дабром і скончыцца. Магло быць куды горш... У Мішы Тапара тады была свая слава...

Магчыма, усё так бы і канула ў Лету, калі б я нядаўна не сустрэў Артура. Мы доўга згадвалі нашы студэнцкія гады. Згадалі нават каменданта, якога тады недалюблівалі, але які жадаў нам толькі дабра. Мы згадалі амаль усіх. І шкадавалі, што грамадства, якое марыў пабудаваць камендант, так і не дабудавалі. Згадалі і Мішу Тапара, які аднойчы напалохаў нас, а потым выратаваў ад бойкі.

— Ты ведаеш, у мяне ёсць ідэя. Давай наведаем Мішу Тапара! — прапанаваў нечакана Артур.

Гэта была самая цікавая ідэя Артура, які цяпер працаваў дырэктарам школы. А я памятаў яшчэ яго старыя звычкі, якія і сёння не ўсе ўхваляю.

— А дзе ж зараз Міша? Дзе яго шукаць?

— Міша Тапор зараз кіраўнік вялікага прадпрыемства. Паспяховага і багатага... Ён перамагаў усюды і заўсёды, ён малайчына. Зрэшты, усё пасля, не спяшайся. У жыцці здараюцца падзеі, што не паддаюцца вытлумачэнню, таму што яны непрадказальныя і незвычайна простыя. Міша Тапор унікальны архітэктар свайго лёсу. Усё астатняе пасля, мой дарагі сябар. У мяне для Мішы Тапара ёсць выдатны падарунак, пабачыш. Ты павінен памятаць, калісьці ён сказаў, што мы з ім суседзі...

Тады ж я пачуў ад сябра і сумнае: Эдзіка нашага больш няма. Ён стаўся ахвярай міжнацыянальнага канфлікту, так і не ўбачыў, як разарвалі на кавалкі вялізную краіну.

Мы селі ў Артураву машыну, і ён павёз мяне да Мішы Тапара, перад тым патэлефанаваўшы яму.

Міша сустрэў нас шчыра, з добрай усмешкай на твары. Артур дастаў свой падарунак. Гэта была па-мастацку аздобленая копія тапара індзейцаў апачы. Бляску сувеніру дадаваў і прыгожы футарал.

Міша Тапор ад нечаканасці ледзьве не сеў пасярод кабінета.

— Мае дарагія, — сказаў ён, — я вам вінен.

Артур прызнаўся, што нядаўна ён быў у далёкім замежжы, і яму спадабаўся гэты тапор, бо ён даўно памятаў пра першую сустрэчу з Мішам.

Міша Тапор паклікаў нас да вялізнага стала, які, відаць, прывык да такіх жа вялікіх нарад-пасяджэнняў, а сам сеў у сваё начальніцкае крэсла. Ён нагнуўся, адчыніў шуфляду стала і адтуль выцягнуў той загадкавы і суровы тапор нашай першай сустрэчы, паклаў яго на стол. Гэта было так нечакана, што мы разгубіліся і не маглі прамовіць ані слова...

— А зараз пра маю віну перад вамі. Даруйце, сябры, мала сёння сведак тых далёкіх дзён. Добра, што вы тут. А гэта той тапор, які быў са мною ўсе гэтыя гады. Вазьміце яго ў рукі і ўважліва паглядзіце. Ён таксама сувенірны. Яго падаравалі майму бацьку на фестывалі ў сталіцы. Нейкі госць ахвяраваў яго, сказаўшы, што ім можна абараняць сваю свабоду. Ніколі і нідзе гэты тапор не служыў злоснай задуме. Вось і я выкарыстоўваў яго, падстрахоў-

ваючы сваю свабоду і незалежнасць. І ён мне дапамагаў. Тая наша першая сустрэча была чарговай маёй прыдумкай, выкананнем той ролі, якую я іграў на сцэне свайго маладога жыцця неаднойчы. Я сам стварыў міф пра сябе. І потым зрабіў выснову, што для дасягнення прыстойнай і ўдзячнай мэты спосабаў існуе даволі шмат. Я дасягнуў усяго, аб чым марыў, але без крыміналу. Я іграў, а значыць, і тварыў, і гэтым быў задаволены. Магчыма, я змог бы стаць нядрэнным артыстам, але мне трэба было выконваць сваё абяцанне, якое я даваў маім бабулі і дзеду, маці і бацьку. Я абяцаў ім, што калі-небудзь абавязкова вярнуся ў нашу богам забытую вёску са святлом і па добрай дарозе, што ў нас будзе цудоўная школа, клуб, магазін... І ў мяне ўсё атрымалася. Мой сцэнарый — гэта прадуманая жыццёвая рэклама. Ніхто тады не думаў пра рэкламу. У ёй не было патрэбы. А я ўдала рэкламаваў свой вобраз. Вобраз Мішы Тапара. Ён і цяпер, у гэты няпросты час, працуе на мяне. Цяпер мае нядобразычліўцы шукаюць цёмныя плямы ў маім мінулым. Іх не было... Толькі вось тапор быў і ёсць... Праўда, дзесьці мясцінамі патрэскаўся. Ён жа таксама сувенірны. А наогул дзякуй вам, што тады схавалі мяне ў шафе. Я да гэтага часу памятаю вашы спалоханыя твары. Даруйце, хлопцы...

Я ўзяў у рукі бывалы тапорык і падумаў сваё. Некалі я не зайздросціў Мішу, а цяпер пазайздросціў. У джунглях жыццёвых праблем кожны мусіць прасякаць сабе шлях сам. Трэба мець свой тапор, хай сабе і сувенірны.

— Лепш, калі гэты тапор сувенірны, — падхапіў мае думкі Артур.

— Добра, сябры. Вы сёння мае госці, і нас чакае стол. Там і працягнем нашу гаворку. Я нават не мог падумаць, што некалі я раскажу пра таямніцы, набытыя гадамі, і мне стане лягчэй. Хоць арэол таемнасці прыемны, калі ён собіць добрым справам.

Пасля гэтай сустрэчы я падумаў, што наш супярэчлівы свет выхоўвае ў нас перакананне, што тапор і кроў, абрэз і куля вырашаюць усё. А выходзіць, усё не так. І з другога боку было неяк нязвычна, што Міша Тапор жыў іншым жыццём, не тым, аб якім, нам здавалася, мы ведалі...

## Чалавек з мінулага

Ніхто не ведае, як бы склаўся лёс гэтага чалавека, калі б не выпадак. Гэта толькі час усё ставіць на свае месца. І не трэба шукаць ні вінаватых, ні пакрыўджаных. Проста трэба зразумець, чаму менавіта здарылася так, а не інакш. Каб зразумець ісціну падзей даўно мінулых дзён, спачатку трэба азірнуцца назад, уважліва асачыць, што дзеецца вакол, чым заклапочаны людзі, як жывуць, аб чым мараць і, вядома ж, што робяць для таго, каб злавіць мару. Вось тады і зразумееш тое, што было незразумелым.

Чалавека звалі Эцім[1]. На самай жа справе ніхто і не ведаў, якое ў яго сапраўднае імя. Спачатку было так. Ніхто не пажадаў унікаць у сутнасць самой справы. Ды і працэдура гэтая была звязана з пэўнай доляй рызыкі. А потым усе, хто быў дасведчаны ў тых падзеях, зніклі. Адны з'ехалі з даўно наседжаных месцаў, не пакінуўшы па сабе ніякіх слядоў, астатнія адышлі ў іншы свет, захапіўшы навечна з сабой і таямніцу Эціма. Але, як заўсёды, засталася таямнічая легенда, якую часта згадвалі дапытлівыя людзі, пабачыўшы, як жыве дарослы чалавек, што не памятае ні сваіх родных, і нічога іншага. А можа, ён і не жадае памятаць? Для Эціма, напэўна, час спыніўся занадта даўно.

[1] Эцім *(курд.)* — сірата.

У яго было сваё жыццё, у якім не знайшлося месца ні дрэнным звычкам, ні чамусьці супярэчліваму. Ён ведаў, што трэба рабіць і чаго нельга. Ён не меў свайго дома, але ў кожным доме яму знаходзілася месца. Эцім і зямлю капаў, і кароў пасвіў, і вінаграднікі даглядаў. Нікога ён не крыўдзіў, не крыўдзілі і яго. Людзей, падобных на яго, сёння называюць бамжамі. Але ён не быў бамжом. Проста слыў чалавекам на падхопе. І заўсёды быў запатрабаваным. Але нейкая суровая таямніца ўсё ж жыла ў ім. Не мог жа ён быць ніадкуль. Яго ўнутраны стан выдавалі вочы. Калі каму ўдавалася бачыць, як Эцім узіраецца ўдалячынь, то ён мог заўважыць у яго сутонлівых вачах боль і смутак, якія скіраваны недзе ў мінулае і зразумелыя толькі яму аднаму.

У курдаў чужых людзей не бывае. Тым больш мужчын. З прычыны гістарычных абставін мужчыны тут заўсёды былі ў дэфіцыце. І можна зразумець, як радаваліся яны, калі нараджаўся сын. І не важна, кім ён вырасце, ёлупам ці сур'ёзным мужчынам, што стане апірышчам сям'і. Як бы там ні было, а род будзе працягвацца. Будзе, значыць, абаронца і ахоўнік свайго дома, сваёй сям'і, свайго ачага.

Легенда ў вуснах шаноўнапаважанай бабулі Лейлы, бабулі веку, гучала хоць і праўдзіва, але наіўна. Праўдзіва таму, што яна па логіцы ведала шмат чаго, што тычылася Эціма. Калі не ўсё. Яна жыла ў той час. І не было ніякіх падстаў, каб не верыць ёй.

Расказваючы пра Эціма, Лейла спачатку азіралася вакол, потым нахіляючыся да вуха субяседніка, даверліва паведамляла, што Эцім зусім не курдзязід, а армянін. Яна так упэўнена казала пра гэта, што не заставалася і ценю сумнення, што гэта праўда.

— Быў час, — казала бабуля Лейла, — калі ўсе стралялі ва ўсіх. Армяне ў туркаў, туркі ў армян і тых, хто быў побач. Бяда, калі ваенныя забіваюць мірных людзей. Тады ўжо кожны згадвае пра кінжал ці шаблю.

Лейла казала, што ў яе доўгім жыцці было мала светлых дзён. Толькі паспявалі змяніць жалобную хусціну на светлую, як усё пачыналася наноў. Усе нацыі харошыя, — казала яна, — але адкуль толькі бяруцца паганцы, якія знішчаюць людзей. Якія мацеркі нараджаюць іх, і наогул, можа, гэтыя ірады ад д'ябла і нарадзіліся, калі здольныя на такія д'ябальскія ўчынкі.

І яна плакала, прыціскаючы каляровы акраўчык да вачэй. Але ў бабулі Лейлы ўжо не было слёз. Яна іх усе даўно выплакала. Хоць звычка плакаць засталася.

— Пакуль я плакала, у свеце, на жаль, нічога не змянілася. Так, як і раней, працягваюцца забойствы, цячэ кроў… А ў бедалагі Эціма бацьку забралі свае ж, армяне. Ён несвоечасова заплаціў падатак за масла. Годам раней памерла яго жонка. Дом ягоны месціўся ля Васілёвага моста. Я памятаю… Самыя лепшыя шаўкоўніцы раслі ў яго. Добры быў чалавек. Не любяць гультаі такіх людзей, зайздрасць точыць іх нутро. Зайздроснікаў і зараз хапае… Дык вось, данёс хтосьці, што хавае бедалага дома масла, а падаткі не плаціць. Зразумела, прыйшлі і праверылі. Праўда, масла не знайшлі, але знайшлі дзіз[1] з тушонкай. Гэта варанае мяса, залітае тлушчам. Тады і забралі яго. Ён быў чалавекам разумным. Пакуль яго везлі ў закрытай машыне, па дарозе ён паспеў увесь той канфіскат з'есці. Яны засталіся асламі. І тады прыдумалі, як адпомсціць. Ціснулі яму з такой злосцю на жывот, пакуль тая тушонка не выйшла. Адным словам, скалечылі чалавека. Не вытрымаў ён. А дом і гаспадарку разрабавалі шакалы-людзі. Потым пастух Усо знайшоў пад чыгуначным мостам гаротніка Эціма. Так яго і нараклі Эцімам. Вось з таго часу і жыве ён між нас.

[1] Дзіз *(курд.)* — гліняны посуд для захоўвання прадуктаў.

Да сваіх не вярнуўся. Бяда і толькі. А мог стаць вялікім чалавекам, калі б зайздроснікі не з'елі бацьку…

Час ішоў. Не стала бабулі Лейлы. Кажуць, яна была некалі першай прыгажуняй у вёсцы. Пражыла са слязьмі ды разбітым сэрцам, і хапіла ёй больш чым усім астатнім. Пахавала ўсіх сваіх аднагодкаў, галасіла, аплаквала і пакінула гэты свет пасля ўсіх. І больш няма каму расказаць нам пра Эціма.

А Эцім вырас, жыў сярод чужых, цярпець не мог сваіх суродзічаў. Так і памёр у крыўдзе на свет і людзей, што твораць зло. Ён не пакінуў пасля сябе ні нашчадкаў, ні зла. Толькі сумныя ўспаміны засталіся пасля чалавека.

Да гэтага часу на старых курдскіх кладах паказваюць магілу Эціма са сціплым помнікам. Часам хто-небудзь паміж іншым скажа, што нябожчык быў армянінам. «Зямлі хопіць усім», — падхопіць нехта. А яшчэ скажа, што не трэба заваёўваць чужыя землі і рабіць іх сваімі. Гэтае зло яшчэ ўсё ходзіць па зямлі і пакрывае іржой варожасці душы людзей… Душы людзей павінны быць чыстымі…

## Начны Сідараў

Доўга давялося ўсім родзічам угаворваць цётку Надзю пераехаць у наш горад. А яна сапраўды пасля смерці мужа засталася зусім адна. Цётка доўга ўпарцілася, нават доказна пераконвала, што ў яе ўсё добра, самыя спрыяльныя ўмовы, а да таго ж многа старых знаёмых. І горад цудоўны. Таму яна зусім не пачувае сябе адзінокай. Але аднойчы ўсе аргументы цёткі Надзі рухнулі, як картачны домік. Тады яна з траўмаю апынулася ў бальніцы. Калі выпісалася, зусім іншымі вачыма глянула на сваё жыццё і згадзілася на пераезд. Яно і зразумела. У яе ўзросце трэба быць бліжэй да родных. Сябры сябрамі, а родныя — ёсць родныя. Праўда, узніклі ў яе і пэўныя праблемы, якія заўсёды не выключаны пры такіх пераездах. Па-першае, трэба было падшукаць адпаведнае жытло непадалёку ад цэнтра і родных, выгадна прадаць старую кватэру і, вядома ж, купіць новую. Час ішоў, і ўсе праблемы непрыкметна вырашаліся. І як заўсёды здараецца, нечакана ўзнікла пытанне самае цяжкае — з тэлефонам. Відаць, чыноўнікі, што па абавязку сваёй работы павінны служыць людзям, здымаць перашкоды ў іх жыцці, іншым разам чыняць адваротнае. Ну што можа быць складанага ў тым, каб новаму жыхару кватэры пакінуць тэлефон яе старога ўладальніка? Чыноўнікі, яны на тое і чыноўнікі, каб гэтыя складанасці ствараць. Ну, Бог з імі, з тымі выдумшчыкамі. Непрыемна, што была пакрыўджана цётка, быццам тут вінаваты не чыноўнікі, а самі родзічы. А тэлефон неабходны, як хлеб і вада, як лекі і цяпло. У цёткі Надзі ў старой кватэры тэлефон быў. Ды і хіба ён — прыкмета нейкай раскошы? Так, неабходнасць, асабліва для чалавека старога...

Давялося наведацца ў раённы аддзел сувязі. Прайшоў я доўгім, з выкрунтасам калідорам, пакуль знайшоў кабінет самага большага начальніка. Сустрэў ён мяне нязветліва, не хаваючы сваёй незадаволенасці... Гэта ўжо даўняя звычка кабінетных чынушаў. Ім, напэўна, здаецца, што любы наведвальнік — іх патэнцыяльны канкурэнт. Усе начальнікі напачатку добрыя людзі. Усе простыя людзі добрыя. Потым умешваецца жыццё і робіць іх іншымі. Яны мяняюцца паступова і няўхільна. Начальнік усё ж, хоць і неахвотна, прачытаў заяву і растлумачыў, відаць, даўно завучанай фразай:

— Парадак у нас для ўсіх аднолькавы... Пастойце тры гады, як усе, у чарзе, а там бачна будзе...

Прыкладна так Насрэдзін, калі сябры пыталіся, як ён можа за тры гады навучыць асла чытаць (інакш шах адсячэ яму галаву), адказваў, што праз тры гады ці асёл здохне, ці шаха не будзе, ці яго самога.

Я паглядзеў начальніку ў вочы і паспрабаваў уявіць яго ў маёй ролі. Не атрымалася. І падалося мне, што я ведаю гэтага чалавека... Ці не мой гэта начны знаёмы?.. Трэба пагартаць сваю калекцыю візітовак.

— Тады мы напішам скаргу ў райкам і будзем чакаць, — усхвалявана выпаліў я.

— А чаго чакаць? — спытаўся ён.

Я павярнуўся і на развітанне яшчэ раз глянуў яму ў вочы:

— Чакаць, пакуль вас не будзе...

Пакінуўшы заяву, я накіраваўся да цёткі, каб супакоіць яе ў тым, чаго мне не паабяцаў начальнік.

Дома ў пачку старых візітовак (добра, што маю звычку захоўваць іх) на сваё здзіўленне знайшоў картачку на імя Сідарава Рамана Рыгоравіча, дырэктара раённага аддзела сувязі. Па старых мерках — вялікі чалавек. На візітоўцы рукой Сідарава быў напісаны яшчэ адзін, відаць, дамашні нумар тэлефона і дата... Я зразумеў, што з гэтым Сідаравым я дакладна сустракаўся раней. І згадаўся марозны снежаньскі вечар на глухой пустэльнай дарозе. Такое не забываецца.

...Камандзіроўка мая скончылася. Былі прыемныя і доўгія праводзіны. Як вядома, народ наш надта ўжо хлебасольны. Тым больш калі завяршаецца камандзіроўка і трэба развітвацца з дарагім госцем. Тады... уся душа — на стале. Галоўнае — не грымнуць пад стол.

Наша службовая машына лёгка імчалася па начной трасе. Месцамі дарога была перамешана палосамі снегу, трапляўся нават галалёд. І калі да горада заставалася каля сотні кіламетраў, у промнях святла фар узнікла чалавечая постаць, а крыху далей на ўзбочыне высвецілася і машына, такая ж, як і ў нас, — уазік. Кіроўца нашай машыны на ўсялякі выпадак папярэдзіў, што спыняцца на начной дарозе рызыкоўна: ці мала што ў людзей у галаве... Прытармазіўшы, мы праехалі міма, і ў нейкі момант я згледзеў твар чалавека ў белых ад марозу акулярах. Чалавек галасаваў. Напэўна, праз акуляры апроч святла той больш анічога не бачыў. Зараз ён мне нагадваў палоннага немца з кадраў ваеннай кінахронікі, якую часта круцяць па тэлевізары. Наша машына спынілася метраў праз пяцьдзясят, і кіроўца ўключыў заднюю перадачу. Давялося на ўсялякі выпадак яго папярэдзіць:

— Матор не глушы, ці мала што... Тады ведаеш, што рабіць...

На наша шчасце, падвоху ніякага не было. Па словах чалавека ў акулярах, яны стаяць на зімовай дарозе ўжо трэцюю гадзіну. Машына заглухла, і яны па чарзе з кіроўцам спрабуюць беспаспяхова каго-небудзь спыніць... Гэта быў час, калі на дарогах тварылася самае неверагоднае: грымелі цэлыя войны і людзі-падарожнікі баяліся за сваё жыццё...

Сідараў зняў акуляры, і ў святле фар я ўбачыў замерзлыя на яго вачах слёзы. У такіх выпадках кіроўцы, ды і наогул людзі, робяцца адразу сваімі. Звычка старая: калі бяда, дык усе разам...

Потым на невялікай хуткасці мы цягнулі машыну Сідарава, а ён яшчэ быў у шоку. Ці то ад холаду, ці ад таго, што ніхто дагэтуль не спыняўся. Толькі ў канцы дарогі чалавек прыйшоў у сябе. Відаць, дапамагла выпітая чарка. Ну а калі табе нічога не пагражае, лёгка згадваецца мінулае...

Гэта снежаньская паездка закончылася ў пяць гадзін раніцы. Калі мы спыніліся каля дома, дзе жыў Сідараў, ён, разгублены, яшчэ доўга не пакідаў

салон машыны. Відаць, не ведаў, як развітацца з намі. Мы ж пакуль не ведалі, з якім грузам Сідараў стаяў на дарозе... Тады ж ён уручыў мне сваю візітоўку, нешта дрыжачай рукой крамзануўшы на ёй. Потым, адчыніўшы заднія дзверцы сваёй машыны, сказаў:

— Вельмі ўдзячны вам. Я гэтага ніколі не забуду. Я крыху пазней прыеду да вас і за ўсё аддзячу. І праўду кажуць, што зямля круглая... Абавязкова некалі сустрэнешся...

Ён нешта ліхаманкава шукаў у кішэнях, потым паказаў на салон машыны. Там стаяла труна.

— Я вязу хаваць свайго бацьку... А тут такое здарылася... Вам не казаў, баяўся, што адмовіцеся дапамагчы...

Сідараў потым да мяне не прыйшоў і не патэлефанаваў. Можа, нават згубіў ці, яшчэ горш, выкінуў маю візітоўку. А кіроўца мой кожны раз ці то жартам, ці ўсур'ёз згадваў:

— Вось сустрэнем мы свайго замёрзлага начнога Сідарава і да раніцы будзем цягнуць машыну з труной... бясплатна...

...Цётка Надзя як чалавек заслужаны тэлефон неўзабаве атрымала. Бясплатна. Без дапамогі Сідарава. Гэта дакладна. Цікава, пазнаў мяне Сідараў ці не. Але гэта ўжо не так важна. І ўсё ж калі хтосьці трапіць у бяду, я абавязкова яму дапамагу. А як жа інакш? Інакш мы не можам... Інакш мы не можам жыць. І дзякуй богу, што заўсёды грэе нас надзея: чалавек здольны па-чалавечы служыць людзям...

Мараль гэтай гісторыі адна — рабі людзям дабро, нават калі наперад ведаеш, што за гэта ніякай удзячнасці не атрымаеш... Удзячнасць у самім учынку... Проста разумець гэта трэба...

## Змяя

Як казалі на памінках, Пётр Пятровіч быў добрым чалавекам. На памінках дрэннага не кажуць. Мне слова не далі, і добра зрабілі. Я б ім сказаў. І ўсё ж, развітваючыся, паціснуўшы руку нашаму агульнаму з Пятром Пятровічам знаёмаму, апранутаму ў малінавы пінжак, я кінуў:

— Калі б мне далі слова, я сказаў бы, што Пётр Пятровіч забіў сябе сам…

Знаёмы ў малінавым пінжаку, ссунуўшы бровы домікам, паспешліва знік. А я падумаў, што на памінкі ўсё ж грэшна прыходзіць у малінавым пінжаку, гэта ж — не вяселле. Ды і іншыя былі апрануты так, нібыта з'явіліся на карнавал. Гэтак жа, ва ўсе фарбы вясёлкі была апранута і Яна. Нейкія людзі ўвесь час снавалі побач з ёй, але потым нечакана зніклі, як і не было іх.

За кабінетам Пятра Пятровіча таіўся пакой адпачынку. Гэта дазвалялася яму па чыне. Канапка, столік з незаменнай талеркай для слодычы і фруктаў ды яшчэ халадзільнік, у якім усё нагадвала той жа бар, да якога дадалі прылавак. Ён — хоць расперажася. Халадзільнік ніколі не быў пустым, хоць сам гаспадар яго ніколі нічога не купляў. Яго запаўнялі наведвальнікі.

Мой дзед некалі казаў мне:

— Ты ведаеш, унучак, калі алкаголь жыве ў кабінеце кіраўніка, значыць, ён прадаў душу сваю. Які ж ён пасля гэтага кіраўнік?

Мне б заўсёды памятаць тыя залатыя словы. Дык не. Я, грэшны, думаў, што гэта ўсё вынікі прагрэсу, цывілізацыі. Старыя заўсёды не хочуць разумець новага. Але калі б сёння мне давялося сустрэцца з маім дзедам,

я ўпаў бы перад ім на калені, тысячу разоў папрасіў у яго прабачэння за тое, што ў хвіліну слабасці я паставіў пад сумненне яго каштоўныя думкі.

Пётр Пятровіч паціху піў. З прычыны і без прычыны. Спачатку — менш, потым — пастаянна. Аднойчы ён сказаў мне:

— Стары, я зайздрошчу табе. А сабе — не.

— У чым твая зайздрасць? — спытаўся я ў Пятра Пятровіча. Я ж сам яму зайздросціў. У яго было цудоўнае месца працы. Пасада гэткая, жонка-прыгажуня. Можа, не надта верная. Пётр Пятровіч сказаў тады, што не выпіваць ён ужо не зможа. Самі абставіны, становішча змушаюць да гэтага. Гэта ўжо як безвыходнасць.

На свята рыбаловаў ён запрасіў мяне ў сваю ўстанову. Дзень быў святочны, і была магчымасць пагутарыць без сведкаў.

— Стары, ёсць далікатнае пытанне. Мне патрэбна твая парада. Тут у мяне намеснік крыху прыдуркаваты. Але за ім стаяць сур'ёзныя людзі. Не магу ніяк пазбавіцца ад яго. Прыдумаў я такі ход. Хачу ўзяць сабе яшчэ аднаго намесніка. Толькі першага. А мой прыдурак няхай застаецца. Ён нават на абед бярэ грошы са свайго сейфа, свае ж грошы, і запісвае. Для справаздачы перад сабой. Не магу глядзець на гэта. Вось як бы тут правільна выказацца… Словам, прыйдзе адзін чалавек, пагутарым у нефармальных абставінах, а ты потым па-сяброўску скажаш пра яго сваю думку.

Тады мы шчыра пасмяяліся з Пятром Пятровічам і назвалі гэта мерапрыемства агледзінамі. І ў суботу ў пакоі адпачынку Пятра Пятровіча адбыліся тыя агледзіны. Раней ён ніколі нічога не згадваў пра героя тых агледзін. А героем была Яна. За слоем касметыкі ў нашай гераіні хавалася шмат чаго, нават тое, пра што мой сябра і не здагадваўся. Ад мяне патрабавалася выказаць сваю думку. Пётр Пятровіч патэлефанаваў назаўтра ўранку.

— Ну як, стары? Як ты думаеш?

Я сказаў яму тое, што і думаў. Нават здагадваўся, што яму не спадабаецца мая думка. Але ж ён патрабаваў толькі аб'ектыўнай ацэнкі.

— Сядай, бо ад маёй думкі ты можаш упасці.

— Ну, не цягні…

— Калі бярэш грэх на сваю душу, то падумай добра. Навошта яна табе патрэбна? Лепш ужо заставацца з намеснікам-прыдуркам, ён хоць натуральны.

І я сказаў усё, што ўбачыў пад слоем прытворнага грыму ў тае жанчыне, ад жанчыны ў якой мала што засталося. Пётр Пятровіч расчараваўся ў маіх пазнавальных і аналітычных здольнасцях.

— Ты сказаў — я паслухаў, — ён паклаў трубку, і я адчуў, што сябра пакрыўдзіўся. Ужо наўздагон сам сабе я сказаў:

— Ты папрасіў — я адказаў. У мяне свая думка.

Пётр Пятровіч не паслухаўся маёй парады, і Яна стала яго першым намеснікам. Мы з ім доўга не бачыліся, толькі часам яго чыста паголеная галава мільгала на экране тэлевізара. Патэлефанаваў ён дзесьці праз паўгода:

— Стары, прабач… Я для цябе, як заўсёды, прывалок з Індыі штотыднёвік. Зайдзі, забярэш у Яе…

— Чаму ў яе?

— Таму што я больш там не працую. Гэта доўгая гісторыя. Пасля пагаворым. Яна зараз на маім месцы.

Праз пару дзён я пастукаўся ў знаёмыя дзверы. Яна сядзела так, нібыта ўсё жыццё і прасядзела на гэтым месцы. Касметыкі стала яшчэ больш, але карысці ад яе было ўжо мала. Яна была ветлівай. Але як можа быць ветлівай ядавітая змяя? Так мне падумалася.

— Што ж, вазьміце сваю кніжачку, пісака… Можа, зоймемся каханнем? Вы ж тады ацанілі мяне жанчынай лёгкіх паводзін. Адкуль і як вы маглі мяне ацаніць?

— Псіхалогію пад касметыкай не схаваеш, — адказаў я. І заўважыўшы, як вочы яе наліваюцца злосцю, дадаў: — Але я пішу вершы, і ў мяне зусім іншы густ.

Толькі па дарозе дамоў да мяне дайшло, што Пётр Пятровіч усё сказанае мной тады, перадаў ёй. Пачаў згадваць яе і прыбліжаных супрацоўнікаў Пятра Пятровіча. Ён, аказваецца, быў не толькі глухі, але і сляпы.

Дома я патэлефанаваў Пятру Пятровічу:

— Дзякуй. Я забраў штотыднёвік. Чакай, напішу прысвячэнне табе.

— Я табе вінны. Ты не памыляўся, стары… Яна падставіла мяне. Напаіла мяне і выклікала міліцыю. Цяпер, змяя, сядзіць на маім месцы…

Шмат чаго хацелася сказаць мне яму. Але наўздагонку таго ўжо не скажаш. Выходзіць, і сапраўды, сам сябе забіў, прыгрэўшы за пазухаю змяю…

## Вірус

Сёння нечакана памянялася надвор’е. Учора яшчэ дзьмуў вецер, было пахмурна. А сёння так прыгрэла сонейка, проста душа радуецца. Але па палудні невядома адкуль наплыла хмара, а потым загрымела, усхадзілася навальніца. Раптоўна. Я адразу згадаў параду майго знаёмага: трэба выключыць тэлевізар, зачыніць усе фортачкі і ціха сядзець дома, пакуль не адгрыміць. Потым я ўзгадаў і пра мабільнік. Схапіў яго ў рукі, і тут жа ўспыхнуў экран, а на ім засвяціліся прыгожыя рамонкі. А потым з’явіўся і чмель, махнаты, markнакаляровы. Яго я сфатаграфаваў учора, калі той збіраў нектар, пералятаючы з адной кветкі на другую. А сёння на мабільніку, там, дзе звычайна высвечваецца нумар таго, хто звоніць, два словы — «сакрэтны нумар».

Гэта мяне зацікавіла. Што ж гэта за «сакрэтны нумар»? Ад каго сакрэтны? Адразу запрацавала фантазія. Магчыма, гэта тэлефануюць знаёмыя чыноўнікі, хочуць паведаміць, што мой праект ухвалены ці яшчэ штосьці прыемнае. Але тут званок заціх і зноў замільгаў экран. І тыя ж два словы. Я націснуў на кнопку і паднёс тэлефон да вуха. Было ціха. І калі зноў зірнуў на экран, там убачыў кароткую эсэмэску: «Не выключайце тэлефон. Я — вірус. Прашу кантакта. СМС».

Ну, думаю, нейкі жартаўнік завёўся. Я таксама жартаўнік. Напісаў адказ: «Прывітанне, вірус! Як жывеш на гэтым свеце нелегальна?» Праз некалькі секунд на экране ўспыхнула: «Усё больш сур’ёзней, чым вы думаеце. Я вынік дванаццатай распрацоўкі карпарацыі «Арыён». Гэта чарговая спроба ўкараніць сваю антывірусную праграму для атрымання прыбытку». Я адказваю яму: «Вірус, ты што, і далей будзеш жартаваць?»

Размова набывае працяг.

«Я пра вас ведаю больш, чым вы думаеце», — піша ён.

«Напрыклад? — пытаюся я. — Чаго я не ведаю?»

«Ваш даўжнік хаваецца ад вас, але аплаціць усё ў аўторак, ён так сказаў сваёй жонцы».

Мне зрабілася цікава.

«А навошта мне ведаць праграму антывіруса?» — запытаўся я.

«Кожны вірус і антывірус — гэта праграма нажывы, якая сталася мэтай жыцця мноства людзей. Усё, што робіцца — некаму выгадна. Выгада — вяршыня ўсяго».

«Бачу, што ты шмат ведаеш», — хацеў пажартаваць я.

«Больш, чым вы думаеце. Не адсылайце надта адкрытых паведамленняў электроннай поштай. Усё кантралюецца і запісваецца. Страх параджае беззаконне. На вашым рахунку сума, якой хопіць, каб пісаць дзвесце слоў СМС».

«Мне цікава, вірус. А скажы, хто мой сябра?»

«Ён у лесе грыбы збірае…»

«Прабач, вірус. Я пачынаю верыць табе».

«Не вер цалкам — кожны нябачны яшчэ не дасканаласць».

«Відаць, ты разумнейшы ад усіх».

«Празмерна разумныя — слабакі. Свет жыве віртуальным жыццём, так менш адказнасці. Прабач мне, я збег ад сваіх стваральнікаў. Астатняе — пасля».

Экран згас гэтак жа раптоўна, як я атрымаў першае паведамленне ад віруса. Я падумаў, калі гэта жарт, дык гэта вельмі дасціпны жарт. Я забыўся пра ўсё на свеце і думаў толькі пра вірус. Чамусьці мне верылася, што гэта не розыгрыш. А раніцой вірус напісаў:

«Я занадта многа ведаю і выйшаў з-пад кантролю. Твае калегі затаіліся і баяцца, што ты рыхтуеш новае адкрыццё. Ад зайздрасці тэлефоны награюцца. Бамбук шкодны, не вер яму».

А Бамбук учора бажыўся, што лічыць маё адкрыццё эпахальным. Значыць хлусіць, сабака. Вірус напісаў, што Бамбук палову сродкаў, прызначаных на даследаванне маёй тэмы, перавёў на рахунак сваёй знаёмай. Значыць, крадзе…

«Яны ўсе крадуць ці прадаюць, калі выгадна. Зніклі тыя, хто ахвяраваў сваімі інтарэсамі дзеля інтарэсаў іншых».

«Вірус, ты сапраўды разважаеш як чалавек».

«Мяне стварылі разумныя людзі, і ва ўсіх свае інтарэсы».

«Але чаму? Прычына?»

«Я прадбачу твой нулявы рахунак і выгаду з тваёй работы пасля. Ты пра тое не думаеш».

«На жаль, не думаю».

«Ты хочаш багацця, чалавек?» — запытаўся вірус.

«Не, не хачу. Багаты чалавек павесіўся, і ўсе былі рады. Не трэба мне багацця».

«Вось за гэта я і выбраў цябе, — напісаў вірус, — багацце адасабляе людзей ад людзей. А твая тэорыя жыве, таму што яна скіравана да людзей, яны сілкуюць цябе і самі робяцца мацнейшымі».

«У мяне закрыюць рахунак. І не будзе працаваць тэлефон, — напісаў я, — калі папоўню яго, тады і дагаворым. Заўтра ж паеду ў горад».

«Ды не хвалюйся ты, зараз у цябе новая праграма, бясплатная. Пішы і гавары, колькі захочаш».

Наступным днём вірус напісаў:

«Сумленных людзей вельмі шмат, але яны бедныя, слабыя і неадукаваныя. А дрэнныя людзі запоўнілі ўсе нішы, дзе тлуста і цёпла. Яны як насланнё ў доме, дзе не чуваць волі гаспадара».

«Адкуль ты гэта ведаеш, шаноўны вірус?»

«Я самы дасведчаны вірус, і мне нічога не трэба. Мае веды даражэйшыя ад усіх багаццяў свету. Але за мной зараз палююць. Толькі адолець мяне ім не пад сілу. Пакуль не з’явіцца вірус трынаццаты. А каб ён з’явіўся, патрэбна маё ўмяшальніцтва. Усё тут нагадвае чалавечыя ўзаемаадносіны. Тыя ж інтрыгі, звады і выгода».

«Вірус, ты вялікі мудрэц».

«Усе разумныя і неразумныя думкі прыходзяць праз мяне. Ты не ўяўляеш, як людзі перабіраюць меру, хвалячы сябе, як хлусяць і ліслівяць адзін перад адным».

«Дзе ж выхад, дарагі мой вірус?»

«Не ты першы задаеш мне гэтае пытанне. Усё чалавецтва шукае на яго адказу. І ў мяне яго таксама няма. Бо сам чалавек непрадказальны. Ён заўсёды рабіў так, як нельга рабіць. І не разумеў ці не хацеў разумець гэтага. За яго памылкі часта расплачваліся яго нашчадкі».

Пасля гэтай размовы вірус знік і доўга не выходзіў на сувязь. Я пачаў непакоіцца, ці не здарылася што з ім. Але хутка ён зноў падаў свой голас.

«Памяняй узор на экране. Знайдзі на ім крата, — паведаміў ён. — Я вельмі падобны да яго. Крот часам дакучае раслінам, і людзі не задаволены ім. У мяне таксама ёсць свае незычліўцы. Адшукай крата — ён табе спадабаецца».

«Адшукаю, — паабяцаў я. — Беражы толькі сябе. Мне страшна за цябе, вірус».

«Твая праўда. У жыцці ніколі не ведаеш, хто рыхтуе табе ўдар. Сутнасць усіх чалавечых учынкаў у іх нечаканасці».

Здраднікаў на свеце многа, але яны ніколі не лічылі сябе здраднікамі. Яны думаюць, што ўсё робіцца дзеля выгады, а пра здрадніцтва зусім забываюць. Так робяць людзі. Зусім іншая рэч — віртуальнае жыццё. Яно існуе паралельна і лучыць усе чалавечыя заганы.

«Сумна ўсё гэта», — напісаў я і падумаў, што вірус сапраўды — вынік намаганняў цывілізацыі, і ён неўзабаве будзе валадаром усіх сусветных падзей.

«Падключы свой стары мабільнік. Яны могуць адсочваць нашы кантакты. Яны, магчыма, выйдуць на цябе. Яны — нелюдзі. Толькі знешнасць чалавечая. Ты пазнаеш іх, я ўпэўнены. Але будзь асцярожны. Я раскажу табе ўсё пра тых, хто з табой і вакол цябе. Гэта будзе цікава. Ты ўбачыш маску хлусні і двурушніцтва, нават — праўды. Набяры «чмяля». Там усё для цябе. Пакуль…»

З таго моманту я не разлучаўся з тэлефонам ні на хвіліну. Успыхваў экран з маімі знаёмымі і незнаёмымі, а той таямнічы крот не паказваўся. На душы было трывожна. «Ды ці мала чым заняты вірус», — супакойваў я сябе.

А тым часам я праглядаў інфармацыю віруса пра маё атачэнне. На многае мне адкрываліся вочы. Цяжка было ва ўсё гэта паверыць. Але злосці ў мяне не было. Што ёсць — тое ёсць. Вірус выбраў мяне, маючы на гэта свае прычыны. Такая была яго логіка, жалезная і праўдзівая. Непахісная і знішчальная. Маё пазнанне людзей да гэтага было зусім наіўным. Пасля гэтага нават Бамбук выглядаў анёлам. Бамбук, як выявілася, быў проста слабаком. Ён стаўся бяссільным перад спакусай і паставіў на першае месца свае інтарэсы. Так робяць людзі, маючы багацце, хоць гэта багацце зусім не іхняе. Заблытаўся мой Бамбук, і мне было яго шкада. Усё астатняе ўкладвалася ў межы майго заўсёднага светапогляду і турбавала мяне мала. Логіка жыцця і змагання за выжыванне, жаданне лепшай долі давала свае плады. Тут усё не мела нейкіх тармазоў: хто як можа, так і выдзяляецца ў асяродку іншых. Зусім пры гэтым не думаючы пра сэнс учыненага.

Свет ішоў не тым шляхам, якім варта было ісці. Засталося сэрца, але знікла душа. Мэта засталася, а мара паблякла. Мне падумалася, што ўсё гэта не ўпрыгожвае наш свет, а ставіць яго пад пагрозу.

Добра было жыць наіўным. Жулікі… Старое паняцце. Людзі не бачаць, не слухаюць, не дапамагаюць адзін аднаму. Усе толькі бяруць, спяшаюцца браць. Чым больш — тым лепш. Без разбору. Нават бомж забівае да астатку сваё часовае прыстанішча непатрэбнай старызнай са сметніка.

Аднойчы я ўбачыў ля веснічак старых знаёмых. Яны заўсёды прадавалі свежую рыбу. У мяне нешта спрацавала ўнутры, і я згадаў параду віруса.

«Іх можна нейтралізаваць, акунуўшы ў ваду ці абліўшы ёю з вядра».

Мне здалося, што адзін з мужчын паводзіць сябе надта падазрона. Яго вочы так неспакойна, нібы спалохана, бегалі то ў адзін, то ў другі бок. «Яны, — падумаў я, — пайду»…

Набраўшы ў вядро вады, я падышоў да рыбакоў і тут жа выліў па палавіне холаду на кожнага. Ад нечаканасці тыя аслупянелі. А калі апамяталіся, сціснулі кулакі:

— Ты што, прафесар… Мазгі перагрэліся? А, можа, мазгі таго… Дык мы зараз іх управім.

Мне зрабілася страшна. Трэба было знайсці нейкі выхад. Нас раздзялялі толькі весніцы. Я іграў у тую хвіліну сваю самую найлепшую ролю.

— Не трэба злавацца, — сказаў я. — Зараз усё растлумачу. Будзеце смяяцца. Сёння дзень нараджэння Бамбука, а яго народ гэтым днём аблівае адзін аднаго вадой. Каб было больш вільгаці і ўраджаю. Хвіліначку!.. Пачакайце.

Тут я забег у дом, схапіў бутэльку гарэлкі і зноў — да веснічак:

— Толькі не крыўдаваць!.. Выпіце за дзень нараджэння Бамбука і яго нацыянальнае свята. Мае рыбакі падабрэлі, твары іх засвяціліся ад шчасця. І мы разам гучна пасмяяліся. Я быў задаволены сваёй прыдумкай. Яны мне паверылі. Хай п'юць сабе за здароўе Бамбука, хоць ён нягоднік і злодзей.

Вечарам, калі ў клопатах і справах усё гэта забылася, зноў каля весніц я ўбачыў дваіх. Яны былі мне незнаёмыя. Я асцярожна падышоў да весніц:

— Адчыні! — сказаў адзін з іх. — Чаму днём замыкаеш весніцы?

— Каб чужыя людзі не лезлі ў двор. У чым справа, шаноўныя?

У аднаго з-пад крыса мільгаў нейкі чырвоны агеньчык. Вочы ў другога былі зусім без зрэнкаў.

«Яны, — мільганула думка. — Шукальнікі віруса».

— Я хутка, — сказаў я. — Пайду ключ вазьму.

Заўсёды ў адказныя хвіліны фантазія чалавечая працуе адпаведна. Не было ні трывогі, ні страху. З падсобкі я прыхапіў аўтамабільны вогнетушыцель, тут жа прывёў яго ў рабочы рэжым і, пацяшаючыся, падышоў да весніц. Я паставіў вогнетушыцель на зямлю, адамкнуў весніцы, узяўшы ў рукі сваю «зброю», націснуў на рычаг. Усё гэта трэба было бачыць. Ілжэлюдзей нібы венікам змяло. Калі ў вогнетушыцелі закончылася пена, я адкінуў яго ўбок і асцярожна выйшаў. Тузаючыся пад кучай адзення, шумелі і дыміліся шукальнікі віруса. Гэта былі яны. Праз нейкі час адзенне засталося без начыння. Я зайшоў у дом, схапіў пакет для смецця, сабраў усё, што засталося ад прышэльцаў і аднёс на сметнік.

Потым доўга сядзеў пад яблыняй і згадваў, што адбылося сёння. Мог, вядома, яшчэ раз схібіць. На гэты выпадак я меў яшчэ нават адну бутэльку гарэлкі. Але, дзякуй богу, не памыліўся. Зараз мне хацелася толькі аднаго: каб на экране майго тэлефона з'явіўся жаданы крот. Але яго не было. Думалася ўсялякае. А што калі ў бяду трапіў сам вірус? Бо стваральнікі яго не думалі адмаўляцца ад сваіх прыбыткаў. Канкурэнцыя змушала зваротлівых людзей круціцца, шукаць свае шляхі выхаду, асцерагацца адных і злосна таптаць іншых. Гэта закон сённяшняга дня. Калі не ты, дык цябе. Сярэдзіны няма.

Зайграла музыка, і на экране нарэшце заскакаў крот. Унізе загарэўся радок — «сакрэтны нумар».

«Яны знайшлі цябе?»

«Знайшлі», — адказаў я.

«Яны вызначылі тваё месцазнаходжанне па тэлефоне, і ты іх сустрэў…»

«Вогнетушыцелем — і ніякіх слядоў».

«Зараз усё так. Гэта сталася правілам. Свет паступова перабудоўваецца, змяняецца. Хлусня займае новую прастору. І людзі звыкаюцца і хлусню прымаюць за праўду. Зноў у жыцці чалавека дзейнічае стары прынцып выжывання. Хто мацнейшы, той і перамагае. А калі не хапае сілы, ідзе на выручку зграя. Як тыя ж ваўкі. Паглядзі на гісторыю войнаў. Воўчы прынцып ва ўсім і ўсюды».

У адказ яму я напісаў:

«Усе трапяць у яму, якую самі выкапалі. На зямлі робіцца цесна, у людзей растуць апетыты, і яны ўжо прыглядваюцца да іншых планет. Зямлі ім мала».

Доўга не загараўся экран. Нарэшце ён трывожліва ўспыхнуў.

«Дзякуй табе за разуменне. Даруй мне, твае тэлефоны ім вядомыя. Яны прыйдуць па цябе. Не шкадуй тэлефонаў, гэта ўсяго матэрыял. Ты будзеш мець іншыя прыстасаванні, якія будуць працаваць бездакорна і бяспечна. Я прасачу за гэтым. Ты мой аднадумца, і мы адкрыем людзям вочы. Яны пачнуць добра бачыць і выразна чуць. А зараз мы з табой развітваемся. Так трэба дзеля тваёй бяспекі.

Памятай, ніхто ніколі не любіў разумных і таленавітых. Гэта справа псіхалогіі. Але застаецца верагоднасць нашых зносін пасля. І галоўнае — знішчы свае абодва тэлефоны. Не шкадуй. Толькі так можна пазбавіцца ад назойлівых шукальнікаў. Да сустрэчы ў будучым. Вірус».

Я прачытаў паведамленне, і рукі мае апусціліся. Усё правільна. Яны будуць прыходзіць зноў і зноў, пакуль не дамогуцца свайго. Яны шукаюць віруса. Эх, тэлефоны… Я наліў поўнае вядро вады, паставіў на стол. Доўга глядзеў на цёмныя экраны бліскучых мабільнікаў. Марудна апусціў іх у ваду, пакуль рука не кранулася дна. Адтуль пачалі наплываць мелкія бурбалкі, і вада зрабілася празрыстай-празрыстай. Раптам на абодвух экранах на хвіліну з'явіўся скоклівы крот і, памахаўшы жоўтымі лапкамі, знік з экранаў. Я думаў, што гэта вірус развітваецца са мной. Магчыма, гэта было і не так, але так падумалася. У мяне на вачах з'явіліся слёзы. Я ўзяў лапату, сарваў некалькі рамонкаў і накіраваўся ў лес. Там выкапаў глыбакаватую яму, разабраў тэлефоны, дастаў батарэйкі, астатняе кінуў у яму. Потым яе акуратна засыпаў, зладзіўшы наверсе невялікі грудок кшталту магілы, на які і паклаў тыя рамонкі. А потым марудна пайшоў у бок дому. Так марудна вяртаюцца толькі з пахавання блізкага чалавека. А ён быццам нічога асаблівага для цябе не рабіў і ўсё ж не рабіў нічога дрэннага. Ён дапамог табе па-іншаму паглядзець на свет, у якім жывеш.

Я потым думаў, што, з аднаго боку, дрэнна, калі цябе шукаюць, каб сказаць добрае слова за добрыя справы, іншая справа, калі цябе шукаюць, каб пакараць за тое, што ты адмаўляеш хлусню, насілле, здрадніцтва, у якой бы прыгожай упакоўцы яны не знаходзіліся.

***З курдскай. Пераклад Кастуся ЗМАЧЫНСКАГА.***



Валянціна ПАЛІКАНІНА

# ДУША СВЯТЛО ПРАМЕНІЦЬ НЕАШЧАДНА...

* * *

Ні шолаху, ні дотыку, ні ўздыху.
Мінулае — як мар маіх палёт:
На санках я з гары з’язджаю ліха,
Забыўшы, што наперадзе сумёт.

Раву на ўсю ваколіцу штомоцы,
І ўжо радня збягаецца, як бач.
Дзядуля суцяшае так, як можа,
Гаворыць мне: «Маленькая, не плач…»

А потым — дом і цёплая кашуля,
Духмяны хлеб і пенка ў малацэ…
Я сплю на печы, ды не спіць бабуля,
І нітка лёсу — у яе руцэ.

* * *

А мы патрэбны Богу і Айчыне,
Бо назаўжды сагрэты іх агнём

---

*__Паліканіна Валянціна Пятроўна__ нарадзілася 11 ліпеня 1957 г. у горадзе Крычаве Магілёўскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працавала карэктарам, рэдактарам, спецыяльным карэспандэнтам, аглядальнікам, вядучым рэдактарам часопіса «Беларусь», рэдактарам аддзела культуры часопіса «Гаспадыня».*

*Аўтар кніг «Две музы» (1998), «Найдите время для любви» (2000), «Свет неизбывный» (2003), «Живое зерно» (2006) і інш.*

*Лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2006), літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008), расійскай літаратурнай прэміі ім. А. П. Чэхава (2009), міжнароднага літаратурнага конкурсу «Літаратурная Вена-2011», першай прэміі Саюза журналістаў РБ «За лепшы жаночы вобраз у сучаснай журналістыцы» (2003).*

І для таго спаткаліся, магчыма,
Каб ганарыцца кожным Божым днём.

Было: ішлі праз багну, нібы дзеці,
І кожны з нас пачуццямі згараў.
Цяпер, каханы, столькі спраў на свеце,
Такіх патрэбных, вечных, добрых спраў!..

Якія б нам ні выпадалі мукі,
Ты толькі вер — на ўсе свае гады —
Няма разлукі, не, няма разлукі!
Ёсць толькі стрэча! Стрэча — назаўжды!

* * *

Гадоў былых нам не пражыць нанова,
Ды памяць зноў вяртае тыя дні…
Я ўдзячна шчасцю: шчыра верыць слову,
Што шчасця мне не прынясе ані.

Душа святло праменіць неашчадна
Ва ўсе бакі стуманенай Зямлі.
Удзячна я і ворагу, і сябру
За тое, што хлуснёй не абышлі.

Карункі мар хоць з часам і пабляклі,
Але ж яны вяртаюцца, бы ў сне.
Яшчэ й самотнай ноце я удзячна,
Што над бядой узвысіла мяне.

Не раз душа балела і трымцела,
Абы ніціну лёсу утрымаць…
Я так удзячна і твайму цярпенню
Са мною жыць, і верыць, і кахаць.

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Ранак поўніцца дзіўнай свежасцю,
Той жа ранак твой весніць лёс.
Пачынаеш з усёю смеласцю
Не прымаць мітусню ўсур’ёз.

Не жадаеш старэць, сутуліцца
І злавацца на белы свет.
Бесклапотна ідзеш па вуліцы,
Нат забыўшыся, што паэт.

А насустрач — дзяўчынка-модніца
Звонкім смехам вянчае дзень.
І ты верыш: усё ўлагодзіцца
У цябе і ва ўсіх людзей.

* * *

Да святога Боскага парога
Ты вядзеш, каб збавіцца грахоў.
Я знайшла цябе, мая дарога,
Між усіх мной ходжаных шляхоў.

Ад цябе нічога не схаваеш:
Ні маны, ні слоўнай пустаты.
Ты адна так выйсці запрашаеш
З цемрадзі душэўнай слепаты.

Быццам бы шматкроп'е залатое…
Лепшага мне шляху не знайсці.
Можа, я сказала што не тое,
Ды прашу: дазволь табой ісці.

* * *

Векапомнасць — і лёсу дэталі,
І прывычка ўставаць да рання,
Палюбіўшы пахмурныя далі,
Гэты свет, што старэе штодня,
Гэты люд, што на мокрым прыпынку,
Гэты дождж, што загосціўся зноў,
Крумкачоў, што снуюць безупынку
Над крыжамі вячыстых званоў;
Бачыць — зроку нябачныя — рэчы,
Чуць, як тчэцца жыццёвы сувой,
Раствараецца боль чалавечы
Ў кожнай клетцы Айчыны тваёй.
Ведаць тое, што ты шчэ кахаеш,
Што цябе так вітае з нябёс
Адзінокі той птах, што лятае,
Твой зямны аздабляючы лёс…
Успаміны ж ці здымуць той цяжар,
Той падман, што наклікаў шмат бед...
Толькі ліст з пашанотаю ляжа
Ў твой даўно ўжо няўпэўнены след.

* * *

За памяць, што сэрца грэла,
За тое, што ёсць, жыву,
За песні, якія спела,
За небную сіняву,
За радасць і за каханне,
За свята, што дзень прынёс,
За велічнае вяртанне
Такіх ачышчальных слёз;
За Храм, што душу прыгорне,
За вечнае «Не пакінь!»,
За горыч бяссонніц чорных,
За доўгіх расстанняў стынь;
За светлых пачуццяў шчырасць,
За ўзлёт маіх мар і слоў,
За ўсё, што ты мне адкрыла, —
Я ўдзячна табе, Любоў.

***Пераклад з рускай Міколы ШАБОВІЧА.***



Тадэвуш ДАЛЕНГА-МАСТОВІЧ

# ПРАКУРОРКА*

*Раман*

## Раздзел 19

Стакгольмскі экспрэс прыбыў на белую станцыю ў Мальмё з дзесяціхвілінным спазненнем. Таму мытнікі спешна прагледзелі пашпарты і багаж пасажыраў, а ўжо праз пяць хвілін цягнік павольненька апусціўся ў чорнае нутро парома «Аксэль», які кожны дзень падарожнічаў паміж Швецыяй і сталіцай Даніі. Паром за адзін раз паглынуў дрыжачыя вагоны і замацоўваў іх у сваім чэраве скрыпучымі жалезнымі абцугамі. У адсеках загарэліся электрычныя лямпы.

Прафесар Караль Бруніцкі адклаў кнігу, акуляры і працёр стомленыя вочы. У гэты момант ён заўважыў, што Пятра няма і што ён застаўся адзін з сівым баварцам, які таксама падчас змены асвятлення адклаў свае нататкі і закруціў ручку.

— Мора здалёк выглядае даволі спакойным, — прамовіў баварац, хаваючы ручку ў кішэнь.

— Я быў бы рады, калі б яно засталося такім да канца, — адказаў Бруніцкі, — мой арганізм не выносіць гайданкі.

— Я таксама мучаюся ад марской хваробы, — адказаў баварац, — але мая справа вымушае часта падарожнічаць. Не заўсёды ўдаецца скараціць дарогу да такога маленькага адрэзка, як з Мальмё да Капенгагена. У жніўні я ездзіў у Нью-Ёрк і думаў, што гэта праклятая хвароба проста выверне з мяне ўсе вантробы. У мяне два сыны. Адзін з іх урач у Мюнхене, а другі інжынер у Гамбургу. Урач і інжынер! Заўважце! Я заявіў ім абодвум, што пазбаўлю іх спадчыны, калі яны не знойдуць управу на марскую хваробу.

— Не ведаю, як будзе з інжынерам, — усміхнуўся Бруніцкі, — здаецца, ужо ёсць нейкія вынаходкі, якія памяншаюць гайданне караблёў. Але што да вашага другога сына, баюся, вы будзеце вымушаны выканаць сваю пагрозу.

— І чаго ж, тысяча чарцей, вартая ўся медыцына! — абурыўся баварац. — Не здолець справіцца з такой дробяззю, як марская хвароба!.. Дык вось вам, пачынаецца задавальненне!

Сапраўды, паром, відаць, прычаліў, таму што пачаў лёгка гайдацца. Глухое вуркатанне вінта прымусіла вокны вагона крыху дрыжаць.

— Я сам урач, — паківаў галавой Бруніцкі, — і павінен вам прызнацца, што сённяшняя медыцына ўсё яшчэ ў пялюшках. Думаю, што астраномы больш ведаюць пра сузор'і, якія знаходзяцца ад нас за мільёны светлавых гадоў, чым мы пра свой арганізм, да якога можам дакрануцца рукой.

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 1, 2 за 2018 г.

— Чорт, і калі будуць змены?! Вам не здаецца, што гэта варта ўладзіць хоць за пару дзён перад апошнім судом?.. Я гэта самае заўсёды паўтараю майму сыну, хоць ён хірург і гаворыць, што ніякай адказнасці за медыцыну ён на сябе браць не збіраецца. Кажа: «Я выражу вам, бацька, што захочаце, і ўстаўлю, што вам падабаецца і напэўна падыдзе». Нягоднік, праўда?

Сусед ударыў сябе па каленях і нахіліўся да Бруніцкага са здзіўленнем і абурэннем.

Прафесар Бруніцкі рассмяяўся:

— Мае рацыю. Хірургія ўжо шмат можа.

— А ваш сын, — указаў баварац на пустое месца, — таксама вывучае медыцыну?

— На жаль, не. Ён студэнт Марской акадэміі.

— Адважны хлопец, — з павагай кіўнуў галавой баварац. — З яго будзе першакласны марак. Рост, пастава… Адважны хлопец. Віншую вас з сынам.

— О, дзякуй, — прыкусваючы вусны, ціха адказаў Бруніцкі.

Баварац паглядзеў на яго з-пад калматых броваў і, прымаючы яго задумлівасць за жаль, што сын не захацеў стаць урачом, сказаў:

— Даруйце, але я значна старэйшы за вас. Чаго вы, чорт пабяры, хочаце ад гэтага хлопца? У ім жыццё аж кіпіць, перад ім раскрыты ўвесь свет, а вы б хацелі яго замарынаваць у карболцы, рыцыне ці ў якіх іншых вашых паскудствах! Я дык часам люблю пабурчэць на сваіх смаркачоў, гэта праўда, але хачу вам прызнацца, што я ганаруся імі, хоць яны і не могуць нічога прыдумаць супраць марской хваробы. Але, кладучы руку на сэрца, павінен вам сказаць, што я дзякаваў бы Богу, калі б у мяне быў трэці такі, як ваш. Я не перабольшваю. Я назіраю за ім ад Стакгольма. Хлопец, як малады дуб. І які свабодны, які вясёлы, відаць, што яго аж распірае, але пры гэтым спакойны, не крыклівы, чаго я не люблю, словам, будзе з яго сапраўдны мужчына. Ён, мабыць, і выдатны спартсмен?

— Так, у яго нават ёсць нейкія рэкорды.

— Ну, бачыце! І куды вы яго адпраўляеце: у ваенны ці гандлёвы флот?

Бруніцкі сумна ўсміхнуўся:

— Спытайцеся лепей, куды ён сам сябе адпраўляе?.. У гандлёвы.

— Вельмі разумна, — падбадзёрваў баварац. — Што, чорт, вы бачыце дрэннага ў тым, што ў хлопца ёсць свая галава на плячах і ён ведае, чаго хоча? Мы абодва бацькі і можам так між сабой паразважаць, што, па сутнасці, прымус дзяцей выбраць тую, а не іншую прафесію — гэта нонсэнс. Гэта тое ж, што і гвалтоўна вучыць курыцу плаваць, а качку кудахтаць. Яны самі ведаюць, на што здольныя. Ці не праўда?

Паколькі Бруніцкі не адказваў, баварац паківаў галавой:

— Так, пане. Нам заўсёды здаецца, што мы нашмат разумнейшыя за моладзь. Прызнаюся, што я сам люблю гаварыць пра гэтую перавагу сталага ўзросту ўголас, нават вельмі гучна, але, паміж намі… хе… хе… трэба супакоіцца! Калі ваш сын выбраў марскую прафесію, ён ведае, для чаго?

— Дапусцім.

— А навошта вы яго вучыце ў Швецыі? У вас жа ў Польшчы ёсць марскія школы.

— Так, але сямейныя абставіны вымусілі, — неахвотна буркнуў Бруніцкі.

У гэты момант дзверы купэ рассунуліся.

— Ну, — пачуўся голас Пятра, — тата можа быць спакойны. Пагода, праўда, воблачная, але мора ледзь калышацца.

— Ты быў на палубе?

— Так. Я пазнаёміўся з вельмі мілым датчанінам. У яго ёсць маторная лодка на дызелі. Я ніколі ў жыцці не ездзіў на дызелі. Калі вы затрымаецеся ў Капенгагене даўжэй, чым на два дні, я скарыстаюся яго прапановай, і мы паедзем на востраў Анхольт. У яго там вялікае рыбацкае прадпрыемства. І ўявіце сабе, бацька, ён паўгода ўжо прымяняе электрычныя сеткі!

— Відаць, я вымушаны буду прасядзець у Капенгагене тры або чатыры дні, — адказаў Бруніцкі, — дык можаш прыняць запрашэнне.

— Выдатна, — абрадаваўся малады чалавек і стаў гаварыць па-нямецку, паўтараючы баварцу, што ён слаўна правядзе час на Анхольце.

— А Капенгаген вас не цікавіць? — спытаў сусед.

— Ах, я нядрэнна ведаю Капенгаген. Мы даволі часта рабілі экскурсіі на яхтах у гэты бок. Мяне проста вельмі цікавяць гэтыя электрычныя сеткі.

— Як гэта, электрычныя? — зацікавіўся і баварац.

— Уласна кажучы, гэта не зусім сеткі, — тлумачыў Пётр, — калі хочаце, я зараз намалюю схему такой канструкцыі.

Не чакаючы адказу, Пётр дастаў з кішэні нататнік і, сеўшы ля баварца і малюючы, стаў тлумачыць.

Прафесар Бруніцкі з-пад прыкрытых павекаў прыглядаўся да яго жывых рухаў, жаўтавата-карычневых валасоў, дужых мускулістых рук, вострых ноздраў і смелай, нібыта нецярпліва чыркнутай лініі брыва.

Ён ашаламляльна, надзвычай падобны да Друцкага. Можа, толькі рысы ў яго больш далікатныя і голас мякчэйшы, хоць і такога самага нізкага тэмбру.

Прафесар часам закрываў вочы, нібы ўслухоўваўся ў гэты голас, які дзейнічаў на яго, як атрута.

Пётр толькі ва ўсмешцы меў нешта ад маці, нешта, што так моцна прыгадвала ўсмешку панны Уршулі Лэнскай.

Яшчэ перад ад’ездам з Варшавы прафесар бачыўся з ёй у яе маленькім пакойчыку, дзе палову прасторы займала фартэпіяна, а на сценах за шклом віселі праграмкі канцэртаў… Са Стакгольма ён адаслаў ёй толькі паштоўку з некалькімі словамі. З Капенгагена ж напіша ёй даўжэйшы ліст…

— …і ўсе рыбы, якія апынуцца паміж гэтымі двума караблямі, будуць забітыя токам. Застаецца толькі сабраць іх звычайнай сеткай з паверхні. Здаецца, сёння ўжо, заўважце, ёсць спосаб вылоўліваць экзэмпляры пажаданай велічыні. Гэта залежыць ад даўжыні электрычных хваль…

— Як выйсці на палубу, Пётр? Я хацеў бы трохі прагуляцца, — перарваў прафесар.

Малады чалавек папрасіў прабачэння ў баварца і правёў бацьку ў канец вагона. Ля самых яго дзвярэй наверх вёў вузкі трап.

— Сюды, бацька, толькі будзь, калі ласка, асцярожны, бо прыступкі слізкія.

— Дзякуй табе, хлопча!

Пётр стаяў і глядзеў, як паднімаецца бацька, глядзеў з такой усмешкай, з якой нянька пільнуе малое дзіця. Ён вельмі паважаў бацьку і адчуваў да яго тое — паводле меркавання хлопца — што сын павінен адчуваць да свайго бацькі.

Ужо ў ліцэі ён ведаў, што яго бацька вучоны з сусветнай славай, што яго прозвішча вымаўляюць, каб дадаць аўтарытэту навуковым з’ездам, у якіх ён бярэ ўдзел, што і цяпер, у Капенгагене, яго чакае ўніверсітэцкі свет, таму што яго бацька павінен атрымаць якісьці знак пашаны.

Таму ў адносінах бацькі да сябе ён не бачыў нічога дзіўнага. Заняты вучобай і спортам, ён не спрабаваў нават даведацца аб прычынах, па якіх яго выслалі ў школу за мяжу. І ён зусім не лічыў гэта выгнаннем, тым больш што якраз цяпер упершыню ён сказаў бацьку, што хацеў бы пазнаёміцца з Польшчай, якую пакінуў малым дзіцем, і бацька адразу ж згадзіўся.

Пятру нават падабаўся гэты недахоп бацькавай чуласці, ён увогуле не лічыў гэта халоднасцю.

Хлопец вярнуўся ў купэ, каб скончыць размову са старым баварцам.

«Аксэль» прыбываў у порт, сунучыся паміж бясконцымі шэрагамі прышвартаваных караблёў. Яшчэ пятнаццаць хвілін — і з яго нутра паказаўся цягнік.

— Капенгаген!

На брудным пероне вакзала баварац развітваўся са сваім спадарожнікам. Прафесару ён паціснуў руку, а Пятру даў сваю візітоўку:

— Калі будзеш, маладзёне, як-небудзь у Мюнхене, не забудзься зайсці да мяне.

У гэты ж момант нейкі нізкі, каржакаваты мужчына ў клятчастым адзенні крыкнуў:

— Hallo, прыяцель! Не забудзься: заўтра, пятая раніцы!

— Я памятаю, — весела адказаў Пётр і, звяртаючыся да бацькі, дадаў: — Гэта мой датчанін з вострава Анхольт.

«Яму таксама шанцуе на людзей, як і таму», — падумаў прафесар.

Іх знаходжанне ў Капенгагене расцягнулася да тыдня, а яшчэ Бруніцкі павінен быў затрымацца на два дні ў Берліне.

— Мы, відаць, ніколі не даедзем да Варшавы, — пажартаваў Пётр, калі яны садзіліся ў цягнік на чыгуначным вакзале Фрыдрыхштрасэ. — Я на ўсялякі выпадак прагледжу маршрут, каб упэўніцца, што па дарозе няма ўніверсітэтаў.

— Шкада, што няма Цюрыха, — адказаў прафесар, — я б перамовіўся з панам Пернісонам.

— Таксама псіхіятрам?

— Не, Пецця, гэта студэнт-біёлаг, ненамнога старэйшы за цябе, узыходзячая зорка навукі. Стваральнік новых плыней.

— Тата, я расстроены. У параўнанні майго ўзросту з векам гэтага Пернісона я пачуў папрок, што я не стваральнік новых плыней у навуцы!

— Не папрок, але, магчыма, у гэтым была доля зайздрасці, — усміхнуўся Бруніцкі.

— Пачакай, тата, некалькі гадоў, можа, і я дам табе нагоду для гонару.

У Бруніцкага сціснулася сэрца.

«Божа мой, — думаў ён, — ці не ганарыўся б я і так, калі б ведаў, што ён мой сын!»

Ён цяпер цалкам усведамляў, што нічога больш у жыцці не прагнуў, як менавіта такога сына. Яшчэ ў школе, калі сябраваў з Багданам Друцкім, ён марыў пра тое, каб быць да яго падобным. Стараўся пераймаць яго зухаватасць, захапленні, інтарэсы… І пазней, калі ён ажаніўся з Вандай, то заставаўся пад уплывам Багдана, ці ж не чакаў — як найвялікшай ласкі лёсу — што ў іх народзіцца сын якраз такі, як Багдан!..

«Ведаць, ведаць, — стагнала ў грудзях, — ведаць любой цаной!»

І раптам у мозгу, які прагна шукаў адказ, зарадзілася новая думка: «Ці існуе спадчынная пераемнасць псіхікі? Ці ёсць у падсвядомасці чалавека псіха-фізіялагічная сувязь з папярэднімі пакаленнямі? А калі існуе, як можна яе адкрыць і вывучыць?»

Прафесар пацёр лоб і ўперыўся поглядам у сына, засяроджанага на чытанні.

«Зараз, зараз, — стараўся ён не ўпусціць думку. — Такім чынам, перш за ўсё, калі гаворка пра антрапалагічныя рэчы, то існуюць расы. Яны перадаюць нашчадкам не толькі марфалагічныя ўласцівасці, але і пэўны псіхічны багаж. Гэта аксіёма. Значыць, цалкам дапушчальна, што ў аснове гэтай псіхікі ляжыць падсвядомы агульны грунт. Тады тэорыя Фрэйда, можа, і павінна быць пашырана яшчэ далей за мяжу, да якой яе давёў доктар Кунокі. Псіхіка чалавека пачынае фарміравацца не ва ўлонні маці, а значна раней, у псіхічных напластаваннях цэлых пакаленняў… Аднак, з пункту погляду псіхолага, неабходна было б тады пазбавіцца ад вырашальных староннiх уплываў і ўсёй тэорыі электранейронаў?»

— Абсурд! — уголас сказаў доктар.

— Слухаю, бацька? — падняў галаву Пётр.

— Нічога. Прабач. Я пачынаю ўжо размаўляць з самім сабой.Ператаміўся.

Пётр устаў.

— Гэта праўда, тата. Я дастану падушку і плед. Кладзіцеся і спрабуйце заснуць. Добра?

Кожная такая праява ўвагі з боку Пятра неверагодна кранала Бруніцкага. Ён ведаў, што сваім холадам у абыходжанні з ім, холадам, які не дапускаў ніякай

чуласці, ён павінен быў хутчэй аддаляць ад сябе сына. Тым жывей ён прымаў усе гэтыя яго простыя, нязмушаныя, але такія шчырыя праявы ўвагі. Ён атрымліваў асалоду ад гэтага тону, спосабу, роду гэтага клопату, у якім была нібыта нотка апекі мацнейшага над слабейшым, столькі прастаты і свабоды.

Прафесар у такіх сітуацыях не мог супраціўляцца. Ён паддаваўся волі Пятра з унутранай радасцю, якую сам сабе не дазваляў ні ўсвядоміць, ні праявіць, але якая, тым не менш, не дазваляла сябе заглушыць ніякімі думкамі.

Пётр, насвістваючы сабе пад нос, адкрыў чамадан бацькі, выняў плед, падушку, дамашнія туфлі.

— Здыміце, бацька, каўнерык, будзе зручней, — сказаў хлопец, — я заадно схаваю яго ў чамадан, каб не запыліўся.

Прафесар лёг, і калі Пётр захутаў яго ногі ў плед і затрымаўся над ім, то бацька спытаўся, не адкрываючы вачэй, ціхім голасам, які вырваўся з яго насуперак волі, паўтараючы думкі:

— Ты мяне любіш, Пётр?

— Люблю, бацька, — таксама ціха адказаў Пётр.

І калі б прафесар адважыўся падняць павекі, убачыў бы над сабой лёгка нахілены твар з добрай цёплай усмешкай залацістых вачэй.

Відаць, аднак, толькі гучання голасу сына было дастаткова, таму што твар прафесара пабляднеў.

— Спі, тата, — сказаў Пётр.

Ён узяў кнігу і сеў насупраць.

Прафесар Бруніцкі не мог заснуць. Ён ляжаў нерухома, як скамянелы, але ў яго мозгу безупынку насіліся думкі. Сын сказаў, што любіць яго! За што?.. За што ён можа любіць яго, чэрствага, халоднага мужчыну, якога ён бачыць два разы на год, з якім яго зусім нічога не звязвае?

І другая думка: што б ён сказаў Пятру, калі б ад яго пачуў такое пытанне? Ці змог бы ён вымавіць такія словы?.. Ці не скрыгатнуў бы ў гэтых словах падман?.. Так, падман, таму што ён гэтага хлопца як амаль ненавідзіць, так і амаль любіць.

Каб не забыць: пытанне пра сляды існавання ў папярэдніх пакаленнях і ўмовы выцягвання гэтых слядоў з падсвядомасці асобы.

Гэта варта грунтоўна абдумаць і абмеркаваць з прафесарам Канстыновічам, а таксама з доктарам Кунокі. У псіхіятрычнай клініцы можна паставіць эксперымент над некалькімі пацыентамі, біяграфіі і паходжанне якіх дэталёва апісаны… Гэта можа даць фенаменальныя вынікі — беспамылковасць высноў пры ўстанаўленні бацькоўства!

Прафесар Бруніцкі заснуў. Абудзіў яго толькі голас кандуктара, які аб'яўляў Варшаву.

Машына чакала перад вакзалам. Калі бацька з сынам уселіся ў яе, бацька спытаўся:

— Ну дык якія твае планы?

— Спачатку, тата, я хацеў бы пазнаёміцца з Варшавай, потым паеду ў Кракаў, Вільню, Львоў… ну, і мне б хацелася выпрабаваць свае ногі ў Татрах…

Пётр агледаўся вакол з цікавасцю:

— Як жа Варшава адрозніваецца ад тых гарадоў, якія я ведаю! У вас дом у прыгарадзе, праўда?

— Так. На Жаліборы. І хм… я якраз хацеў пра гэта з табой пагаварыць як з… мужчынам.

Пётр пасур'ёзнеў.

— Я слухаю.

— Ведаеш, у маім доме ёсць людзі… якія… якіх ты не будзеш бачыць. Яны займаюць значную частку дома. Пра іх існаванне ніхто не ведае і не павінен ведаць. Ці магу я быць упэўнены, што ты не будзеш гэтым цікавіцца?

— Тата, — з папрокам прамовіў Пётр.

— Я не сумняваўся, — запэўніваў прафесар, — што, хоць пра нешта ты мог падазраваць, ты ўсё ж будзеш мне давяраць. Твой пакой будзе на першым паверсе, і я цябе прашу, ніколі не адчыняй дзвярэй, якія вядуць з залы ў далейшыя пакоі.

— Абяцаю вам гэта, тут няма пра што гаварыць.

— Я веру табе, хлопча, і дзякую. Акрамя таго, у мяне жыве такі доктар Кунокі, вельмі вядомы біёлаг… Дык вось, ён у Варшаве інкогніта, і я б вельмі хацеў, каб ты пра гэта нікому не згадваў.

— Я бачу, што вы, — засмяяўся Пётр, — прымаеце мяне ледзь не за бабу, якая любіць усюды сунуць свой нос і пляткарыць.

— Зусім не, Пётр, калі б я лічыў цябе такім, то не мог бы прывезці да сябе. Проста я хачу загадзя пазнаёміць цябе з умовамі, у якіх ты апынешся, з сітуацыяй, якая склалася, можа, з-за больш важных спраў, пра якія я не магу табе зараз расказаць.

— Калі б гэта была толькі звычайная фантазія ці капрыз бацькі, мне і гэтага цалкам хапіла б.

— Дзякуй табе!

Пятру дастаўся вуглавы пакой каля залы з вокнамі, якія выходзілі ў сад. Калі барадаты служка паведаміў яму, што пан прафесар прыняў ужо ванну і ўсё падрыхтавана для яго, Пётр выразна пачуў жаночы голас, які напяваў нейкую песеньку. Голас павінен быў сыходзіць з адчыненага акна на другім паверсе і больш ніадкуль, таму што ў садзе нікога не было, а вакол распасціралася незабудаваная тэрыторыя.

Калі пасля вяртання з ваннай ён апранаўся да вячэры, то зноў пачуў голас, але на гэты раз мужчынскі. Міжволі ён стаў і пачаў прыслухоўвацца, перш чым яго вушэй дасягнуў характэрны шум.

— Грамафон! — пазнаў ён.

Зрэшты, яго гэта ўвогуле не цікавіла.

За сталом Пётр пазнаёміўся з доктарам Кунокі, які яму вельмі спадабаўся, і гэта дзякуючы міламу расчараванню, якое выклікала тое, што гэты вучоны японец выдатна разбіраўся ў спорце: пра яхтынг, фехтаванне і лыжы ён гаварыў так, нібыта нічым іншым у жыцці ён і не займаўся; акрамя таго, ён спадабаўся Пятру прызнаннем важнай ролі фізічных практыкаванняў ва ўдасканаленні прыродных дадзеных чалавека.

— Распаўсюджанае ілжывае перакананне, — гаварыў ён, — што чалавецтва выраджаецца, што мы становімся ўсё слабейшымі і меншымі, сёння ўжо цалкам абвергнута навукай. Наадварот, кожнае новае пакаленне ўсё больш аддаляецца ад сваіх продкаў з пункту погляду яўгенікі.

— Добра, калі б так было, — адказваў Пётр, — ну, і што, я вымушаны вам верыць, што гэта сапраўды так. Аднак я бачыў у замку Тром пад Упсалай даспехі і зброю роду Фаэнтэрна. Малады Фаэнтэрна — мой сябар, і ніводнага з нас не назавеш слабаком. Аднак ні ён, ні я не маглі свабодна валодаць гэтымі мячамі або арбалетамі, а ў даспехах мы проста патаналі.

— О, гэта цалкам зразумела, — усміхнуўся японец, — у тых гігіенічных умовах, якія былі ў сярэднявеччы, усе слабейшыя арганізмы былі асуджаныя на смерць, калі не ў раннім узросце, дык у дзяцінстве. Вытрываць гэта маглі толькі самыя моцныя. Яны, дзякуючы пастаяннай фізічнай працы, развіваліся ў волатаў. З пакалення ў пакаленне з асобных рыцарскіх родаў у выніку таго, што Спенсер называе «выжываннем найбольш прыстасаваных», а Дарвін «натуральным адборам», утварылася не столькі раса, колькі клас моцных людзей. Разам з імі марнеў значна больш шматлікі клас дэгенератаў. Ён быў асуджаны на гібель, як, зрэшты, і першы, які, па меры змены ўмоў існавання, замест ваенных паходаў і турніраў прыбіраў сваіх маці ў цесныя гарсэты, ствараючы рассаднік кволасці.

— Ты гэта павінен ведаць з літаратуры, — дадаў прафесар.

— Канечне, — засмяяўся Пётр, — быў нават такі перыяд, калі кволасць лічылася нібыта прыкметай духоўнасці.

— Гэта сімптаматычна. Пётр, звярні ўвагу, — сказаў Бруніцкі, — што заўсёды ідэі ці плыні, актуальныя ў пэўную эпоху, вынікаюць якраз са стану рэчаіснасці. Разумееш? Яны не ствараюць гэты стан, яны з’ява другасная, яны прэпарыруюцца дзеля яго апраўдання. Гэта спатрэбіцца і табе, калі ты захочаш цвяроза зірнуць на сённяшняе спартыўнае ідалапаклонства. Распаўсюджанасць, папулярнасць пакланення сіле і фізічнаму развіццю — гэта не што іншае як толькі апраўданне знікнення жыцця духоўнага і душэўнага ў шырокіх масах.

— Я згодны, тата, — адказаў Пётр, — але, беручы пад увагу пытанне, узнятае панам доктарам, пытанне «выжывання найбольш прыстасаваных», не варта наконт гэтага турбавацца.

— О, малады дружа, гэта варта разглядаць як рэакцыю жыццяздольнасці чалавечага віду, як жывучасць чалавека, яго супраціўленне дэградацыі. Статыстыка пацвярджае, што гэта так. Возьмем хаця б толькі даныя пра рост чалавека. Вы захапляліся ростам прапрадзедаў, але побач з імі былі мільёны малых і слабых. Меркай можа служыць толькі сярэдні паказчык. Дык вось, на працягу апошніх дваццаці гадоў, як сведчыць статыстыка прызыўнікоў, сярэдні рост чалавека ў Францыі павялічыўся на два сантыметры, у Германіі — на тры, у Італіі — на два з лішнім, а ў Японіі — на сем! І працягвае павялічвацца!

Акрамя таго, што размова прадоўжылася дапазна і, калі Пётр ішоў спаць, прабіла ўжо адзінаццаць, прафесар засеў з доктарам у кабінеце. На пісьмовым стале з’явіліся вялікія аркушы графічных чарцяжоў, дзённік назіранняў, рэнтгенаўскія здымкі, адзнакі розных аналізаў, апісанні сноў пацыентак, стэнаграмы размоў з імі…

Адна за другой перамяшчаліся перад дзвюма нахіленымі галовамі зялёныя папкі, усыпаныя мноствам лічбаў, скарачэнняў, літар.

Доктар Кунокі даваў справаздачу за трохтыднёвы перыяд сваёй працы. Яны часта затрымліваліся то на адным, то на другім і абменьваліся некалькімі адрывістымі фразамі, часам паміж імі завязвалася спрэчка пра тое, як кваліфікаваць той ці іншы сімптом.

Было ўжо далёка за поўнач, калі японец адчыніў цяжкі сейф, схаваў тоўсты стос зялёных папак і збіраўся пайсці.

— Хвілінку, калега, — затрымаў яго прафесар. — Я хацеў бы даведацца, што вы думаеце наконт адной канцэпцыі, якая прыйшла мне ў галаву.

— Я да вашых паслуг.

Бруніцкі абаперся галавой на рукі і пачаў гаварыць. Кунокі ўважліва слухаў. Прафесар раскрываў сваё бачанне на магчымасць адшукаць у псіхіцы пэўнага індывідуума падсвядома захаваны лад жыцця яго продкаў, а ў прыватнасці, бацькоў, і закончыў падкрэсліваннем значнасці, якую мела б эмпірычнае пацвярджэнне гэтай гіпотэзы не толькі для навукі, але і для практычнага жыцця: для ўстанаўлення бацькоўства!

Акрамя кароткай успышкі ў вачах, твар японца не выдаў ніякага ўражання. Ён прызнаў, што гіпотэза можа быць вельмі слушнай, што, безумоўна, яе варта праверыць шляхам сістэматычнага эксперымента, што яна таксама павінна паспрыяць у вырашэнні праблемы так званага «ўглядання».

— Вось якраз тут, — падняўся прафесар, — у мяне ўзнікаюць сумненні. Зрэшты… мы яшчэ пра гэта пагаворым.

Калегі перакінуліся яшчэ некалькімі фразамі і, зычачы доктару добрай ночы, Бруніцкі спытаўся:

— Як вам мой сын?

— Вельмі, — лаканічна адказаў Кунокі.

Назаўтра Пётр у кампаніі бацькі пабываў у горадзе, наведаў Лазенкі, касцёлы, музеі, Замак.

Якраз калі яны выходзілі з Замка, побач з аўтамабілем ён убачыў жанчыну, якая нібыта іх чакала. Нос яе быў чырвоны, з-пад старога саламянага капелюша, ссунутага набакір, вылазілі пасмы брудна-сівых валасоў. Увесь яе выгляд сведчыў пра ўбоства, занядбанне і алкагалізм.

Калі яна ўбачыла прафесара, яе вусны расплыліся ў здзеклівай усмешцы і, лёгка хістаючыся, яна зрабіла да яго некалькі крокаў.

— Сядай у машыну, — загадаў Бруніцкі Пятру, а сам падышоў да бабы і грозна спытаўся:

— Чаго Буфалова мяне пільнуе? Колькі разоў я гаварыў…

— Ціха, доктарчык, ціха, — скрыпучым голасам перарвала жанчына. — Чаго ўжо злавацца. Паладзім.

— Буфалова зноў п’яная!

— Ад клопатаў, бацюхна. Няма ніякіх заробкаў. Доктарчык пра мяне забыўся…

— Я ўжо вам казаў, — насцярожана агледзеўся вакол Бруніцкі, — што мне больш нічога не трэба.

Жанчына смела выцягнула руку ў дзіравай пальчатцы і схапіла яго за локаць:

— Але мне трэба. Мне патрэбныя грошы.

— Больш не дам.

— А я вам гавару, дасце, — захіхікала яна, — я, праўда, не ведаю, як вас завуць і дзе вы жывяце, але нумарок машыны памятаю. Вось як! Нумарок 82822. Харошы нумарок, я назаўсёды яго запомніла. А ўжо там па нумарку адшукаць няцяжка…

— Гэта шантаж! — цыкнуў Бруніцкі. — Вы разумееце, што за гэта турма?

— Турма вялікая, і вам у ёй хопіць месца, — буркнула жанчына.

Прафесар закусіў вусны:

— Колькі вы хочаце?

— Дык і пяцьсот злотых не пашкодзіць. Гэта я так сабе сказала. Не пашкодзіць.

Калі прафесар палез у партфель, яна дадала:

— Пяцьсот не пашкодзіць, а семсот дапаможа. Вы багаты. Вам па кішэні.

Бруніцкі хутка выняў банкноты, скруціў іх і падаў ёй:

— Вось. І забудзьцеся пра мяне нарэшце, Буфалова.

— Доктарчык, — расчулілася яна, — няхай вам Бог аддзячыць за добрае сэрца. Я б не рабіла гэтага, калі б не бяда. Але што сёння акушэрка можа зарабіць? Найвышэйшая служка дасць сто злотых за аборт, а з некаторых і гэтага не выцягнуць…

— Ну, няма часу, — ссунуў бровы Бруніцкі і хацеў адысці, але жанчына зноў прытрымала яго за рукаў:

— Доктарчык, вам сапраўды ўжо гэтыя дзяўчыны непатрэбныя? У мяне зараз ёсць якраз што трэба. На другім месяцы. І прыгожая. Краўчыха…

Жанчына настойліва глядзела яму ў вочы.

— Я казаў, што не. Калі ў Буфаловай будзе якая-небудзь інтэлігентная дзяўчына, то так, кіньце, як звычайна, запіску. Але паўтараю, павінна быць інтэлігентная і вельмі маладая.

— Дзе ж я такую вазьму, — заламала яна рукі, — раней такія трапляліся, а цяпер дактары ўвесь хлеб у акушэрак забралі. Але калі што, я паведамлю. Як звычайна, кур’ерам?

— Так.

Прафесар захінуў паліто і, не азіраючыся, сеў у машыну.

— Нейкая агідная баба, — заўважыў Пётр.

— Паехалі, — кінуў прафесар шафёру.

— Загадаеце ў клініку?

— Так. А паніча адвезці дадому. Я сёння паабедаю на месцы, бо ў мяне тэрміновая нарада, — патлумачыў прафесар сыну.

Пётр сядзеў у зале з доктарам Кунокі. Размова зайшла на акультныя тэмы. Спірытызм, медыумізм, гіпнатызм. Пётр, які вельмі мала ведаў пра гэта, слухаў з цікавасцю і выпытваў доктара пра дэталі.

У пэўны момант японец спытаўся:

— А вас ніколі не гіпнатызавалі?

— Не, ніколі.

— Ведаеце, гэта вельмі забаўнае адчуванне, — засмяяўся Кунокі, — зрэшты, я не ўпэўнены, ці вы ўвогуле паддаяцеся гіпнозу.

— Я сам бы хацеў ведаць.

— А вы не баіцеся?

— Што вы! Больш за тое, я лічу, што ў жыцці ўсё варта паспрабаваць. А вы, доктар, умееце гэта рабіць?

— У мяне ў гэтым ёсць сякая-такая практыка, — засмяяўся японец, — калі хочаце, правернем гэты жарцік.

— З вялікім задавальненнем.

— Ну тады, ляжце, калі ласка, на сафу.

Яны абодва смяяліся, і Пётр расцягнуўся на тахце:

— Я гатовы, але мне нешта не хочацца верыць, што ў вас атрымаецца.

— І я сумняюся, але паспрабуем. Увага! Я пачынаю.

Доктар Кунокі нахіліўся над Пятром, кончыкамі пальцаў дзвюх рук ён скруціў дзве пятлі над скронямі, склаў далоні над пераноссем і развёў іх па гарызанталі, падняў над галавой.

Расхістаныя хвалістымі рухамі пальцы, здавалася, зараз нешта згорнуць з твару ляжачага, рукі спіральнымі рухамі прасунуліся над ключыцай, хуткім рухам скрыжаваліся над ямкай і раптам узляцелі ўверх. Усе канечнасці Пятра здрыгануліся напружанымі мышцамі і абмяклі, дыханне запаволілася: сонечнае сплячэнне расслабілася.

Яшчэ два праходы ўздоўж цела, і японец выпрастаўся.

Ён хутка зірнуў у акно, кінуў вокам на гадзіннік, замкнуў двое дзвярэй і вярнуўся да нерухомага Пятра.

Пульс быў слабы, але роўны. Бледнасць умераная.

— Пан Пётр, вы мяне чуеце? — спытаўся доктар.

Вусны хлопца слаба заварушыліся.

— Вы мяне чуеце? — паўтарыў доктар.

— Так. Чую.

— Як вас завуць?

— Мяне завуць Пётр Бруніцкі, Пётр Бруніцкі.

Японец нахіліўся над усыплёным і цвёрда сказаў:

— Няпраўда. Вы памыляецеся. Пётр Бруніцкі — гэта малады чалавек, ваш сын. Пятру Бруніцкаму дваццаць гадоў, а вы яго бацька. Зараз вы гэта разумееце?

Твар Пятра скрывіўся, дыханне пачасцілася, вусны здрыгануліся.

— Адкажыце, калі ласка, — сурова загадваў голас доктара Кунокі, — як вас завуць?

Японец павольна правёў кончыкамі пальцаў над бровамі Пятра і выразна паўтарыў пытанне, але з вуснаў гіпнатызаванага сыходзілі толькі нейкія невыразныя гукі.

— Успомніце, — чаканячы словы, прагаварыў доктар, — гэта было трыццаць гадоў таму. Трыццаць! Разумееце?

— Разумею.

— Вы былі малым хлопчыкам. Вас клічуць. Хтосьці вас кліча. Чуеце?

— Чую.

— Як вас клічуць?

— Петэр! Петэр! Петэр!..

Доктар Кунокі апусціў рукі.

— Вы памыляецеся, — гнеўна запярэчыў ён. — Гэта клічуць вашага сына. Праўда?

— Праўда.

— Вы бацька Пятра, разумееце?

— Разумею.

— Як вас завуць?

— Прафесар Караль Бруніцкі, — без запінкі адказаў усыплёны.

— Што вы памятаеце са свайго дзяцінства? Не забывайце, вы дзіця. Як вас клічуць?

— Петэр!

Кунокі закусіў вусны і бездапаможна ўсміхнуўся. Яму стала зразумела, што гіпотэза прафесара памылковая, што ў падсвядомасці чалавека нельга знайсці сляды інфармацыі пра яго бацьку. Доктар зрабіў апошнюю спробу.

— Вы студэнт-медык Караль Бруніцкі. Разумееце?

— Так.

— Скажыце мне, калі ласка, што такое *nervus vagus*.

— Я не ведаю.

Доктар паглядзеў на гадзіннік, палічыў пульс Пятра. Трэба было заканчваць.

— Заўважце, пан Пётр! І запомніце. Тое, што я вам зараз скажу, вам нельга забываць. Дык вось, калі вы былі маленькім хлопчыкам, у вас былі чорныя валасы. Чорныя валасы! Паўтарыце, калі ласка.

— У мяне былі чорныя валасы.

— Так. Чорныя валасы. А клікалі вас Караль! Клікалі вас Караль! Як вас клікалі?

— Караль, — прашаптаў Пётр.

— Гэта абавязкова трэба памятаць. Часам вас клікалі Петэр, а часам Караль! Гэта вельмі важна. Калі вас клікалі Петэр, вы былі бландзінам, а калі клікалі Караль, вы былі брунетам. Чаму так, вы не разумееце, але вы добра памятаеце, што гэта так. Я зараз хачу ведаць, што вы памятаеце. Скажыце, калі ласка!

— Я быў бландзінам, і мяне клікалі Петэр, а… таксама мяне клікалі Караль, але тады я быў брунетам.

— Ну дык добра. Гэта адзінае, што вы павінны запомніць. Акрамя таго, забудзьцеся пра тое, што вас гіпнатызавалі. Праз хвіліну я вас абуджу, і вы сядзеце ў крэсла. Вы будзеце ведаць, што ні на хвіліну з яго не ўставалі і што мы не перарывалі размову пра акультныя навукі. Разумееце?

— Разумею.

Доктар Кунокі выцер пот з ілба і некалькімі рухамі рук прывёў Пятра ў прытомнасць. Хлопец расплюшчыў вочы, няўпэўнена агледзеўся вакол, устаў і, хоць у яго дрыжалі калені і ён крыху хістаўся на нагах, ён падышоў да крэсла, на якім раней сядзеў.

У гэты час японец зноў пакруціў ключом у замку і, стаўшы перад Пятром, спытаўся:

— Дык вы кажаце, што хацелі б паспрабаваць паддацца гіпнозу?

— Так, пан доктар, я думаю, што чалавек павінен спазнаць усе адчуванні, якія яму даступныя.

— Вы бледны, — са спачуваннем заўважыў Кунокі. — Вы стаміліся?

— Здаецца, крыху. Не ведаю, чаму, мы з бацькам адносна няшмат хадзілі.

— Відаць, розніца клімату. Можа, вам паспаць?

— О, зноў, — засмяяўся Пётр.

— Таму што я павінен папрасіць у вас прабачэння і пакінуць аднаго. Мне трэба крыху папрацаваць.

— Канечне, канечне, пан доктар.

Пётр бачыў, як японец дастаў з кішэні ключы, адсунуў фіранку і адчыніў цяжкія тоўстыя дзверы.

Калі вярнуўся прафесар Бруніцкі, ён заспеў Пятра за гульнёй з катамі.

— Я не ведаў, што вы так любіце катоў, — усклікнуў ён у адказ на вітанне прафесара. — Трэнер па боксе ва Упсале, лаючыся, заўсёды пасылаў «да ста старых дзевак і іх тысячы катоў!» Адтуль у мяне перакананне, што катоў заводзяць менавіта векавухі.

— Твой трэнер у многім меў рацыю, хлопча, — адказаў прафесар, падаючы ў крэсла. — Любоў да катоў і іншых гадаванцаў у старых дам — гэта вынік нерэалізаванага мацярынскага інстынкту. Маленькія дзяўчынкі гуляюць у лялькі, потым займаюцца сяброўкамі, калі выходзяць замуж, то муж становіцца новай лялькай, потым, калі ў іх з’яўляюцца дзеці або сабачкі, каты, яны заўсёды гуляюць з імі.

Пётр падумаў, што, відаць, жанчыны прынеслі бацьку шмат непрыемнасцей, таму ён так імі пагарджае і не паважае іх.

— Ну, але ж вы, хіба, не дзеля забавы трымаеце гэтых катоў? — спытаўся сын.

— Не, Пеця. Яны мне патрэбныя для работы ў лабараторыі. Уф… я стаміўся. Дзе доктар Кунокі?

— Выйшаў у гэтыя дзверы, — указаў Пётр. — Можа, вы б крыху паспалі?

— Добра. Я так і зраблю, — падняўся Бруніцкі. — А заўтра я табе пакажу яшчэ некалькі рэчаў, якія варта ўбачыць, а паслязаўтра паедзеш у Закапанэ.

— Так, бацька. Я зараз прагуляюся па беразе Віслы. Прыемнага сну.

Прафесар затрымаўся ў дзвярах:

— Слухай, хлопча, а цябе ніколі не гіпнатызавалі?

— Не, бацька. А чаму ты пра гэта пытаеш?

— Так. Звычка старога псіхіятра. Да пабачэння. Не спазніся на вячэру.

## Раздзел 20

Мора было гладкае, як люстэрка. Самы слабы павеў не парушаў спакою. Таму маладыя Тэрлінгі адмовіліся ад экскурсіі і абодва былі зараз вельмі занятыя навучаннем Юлькі мастацтву плаваць.

Друцкі і Аліцыя, лежачы на пяску пасля доўгага заплыву, назіралі за гэтай вясёлай тройцай.

— Я не разумею, што зрабілася з Юлькай, — пачала Аліцыя. — Такое ўражанне, што яна неяк змянілася. Ты не заўважыў гэтага, Бох?

— Што такое? — ухіліста спытаўся ён.

— З пэўнага часу я адчуваю ў яе манеры паводзін нешта няшчырае. Яна нібыта, як і раней, гаворыць са мной пра многае, аднак я перакананая, што не пра ўсё. Яе нешта трывожыць. Часам, калі яна думае, што я не гляджу на яе, яна заглыбляецца ў сябе і моцна сціскае вусны.

— У маладых дзяўчат, — пацііснуў плячыма Друцкі, — бывае пераменлівы настрой.

— Не, Бох, мая інтуіцыя не падводзіць. На гэта ёсць нейкая важная прычына або, па меншай меры, такая, якую яна лічыць важнай. Зірні на яе. Яна ж яўна робіць выгляд, што смяецца і весяліцца. Але гэта ўсё напаказ. Акрамя таго, яна худзее і, здаецца, дрэнна спіць. Я ўжо некалькі разоў заўважала, што яна плакала, а калі я ў яе спыталася — яна запярэчыла. Пры гэтым — какетлівая. У ёй заўсёды было шмат какецтва, але яна ніколі не праяўляла яго так ярка.

— Яна маладая, што ты хочаш, Аль?

— Я ўпэўнена, што яна мне штосьці недагаворвае. Я надта добра яе ведаю, каб гэтага не заўважыць, ды і да цябе яна стала нейкай жорсткай. Раней яна так

радавалася кожнай аўтамабільнай прагулцы з табой, а цяпер яе трэба ўгаворваць. Яна ўвогуле пазбягае нашай кампаніі.

Друцкі закрыў рукамі твар ад сонца і маўчаў.

— Можна было б звязаць гэта з закаханасцю ў каго-небудзь з маладых людзей, калі б не тое, што, па меншай меры, на мой погляд, ні інжынер Гольт, ні два гэтыя смаркачы, — Аліцыя ўказала на Тэрлінгаў, — ні такі франт, як Тамкоўскі, увогуле не могуць падабацца дзяўчыне з сякім-такім густам. Як ты думаеш?

— Адкуль я ведаю, магчыма, ёй проста мора не на карысць.

— У любым выпадку, будзь ласкавы, звярні на яе ўвагу.

— Ну, ужо ў наступны раз, — сказаў Друцкі, — у мяне на гэта не будзе часу, таму што заўтра зранку я еду ў Варшаву, а калі вярнуся, можа, усё пройдзе.

— Не, Бох, сумняваюся. Я была б табе ўдзячная, калі б ты ўзяў сёння Юльку на якую-небудзь прагулку і паспрабаваў прыгледзецца да яе.

— Не патрабуй ад мяне гэтага, Аль, — скрывіўся Друцкі, — у мяне няма ні здольнасцей следчага, ні педагога. Зрэшты, я абяцаў пані Хэлміньскай, што буду яе сёння вучыць вадзіць машыну.

Аліцыя паглядзела на яго з-пад прыкрытых павекаў і лёгка кінула:

— Гэта таксама… педагогіка. Гэта пані Хэлміньска не вылучаецца, аднак, кемлівасцю, бо ўжо трэці раз бярэ ўрокі…

— Яна ніколі не вадзіла машыну, — пацiснуў плячыма Друцкі.

— *A propos*[1], ці ведаеш ты, што і пані Хэлміньска заўтра едзе ў Варшаву? — спыталася Аліцыя.

— Яна пра гэта ўпаміналá.

— Дзіўны збег абставін.

Друцкі нічога не адказаў. Ён не сумняваўся, што пані Хэлміньска едзе ў Варшаву дзеля яго, таму што яна і не старалася прыхаваць сваёй зацікаўленасці яго асобай, нават у прысутнасці Аліцыі. Ды і яму яна вельмі падабалася. Праўда, не яна была прычынай таго, што ён вымушаны быў на некалькі дзён пакінуць Хель, у сталіцы яго чакала шмат працы ў сувязі з нейкімі падатковымі прэтэнзіямі да «Аргенціны». Ды ён і рады быў, што і гэта пікантная брунетка будзе там.

Друцкі не хацеў прызнавацца самому сабе, але раман з Аліцыяй станавіўся для яго цяжарам. Яго фантазія, якая пастаянна шукала нечага новага, сумавала ад аднастайнасці настрою, праўда, пастаянна палымянага і аднолькава напружанага да апошняга, але якраз з-за сваёй нязменнасці ён ператвараўся ў штодзённасць.

Больш за тое, пасля прызнанняў Юлькі шчырае пачуццё сімпатыі і сяброўства да гэтай малой стрымлівала яго ў адносінах да Аліцыі і стварала непрыемную і складаную сітуацыю, у якой натуры Друцкага рабілася некамфортна.

Яму проста было з гэтым страшэнна няёмка.

Ён не цярпеў фальшу і падману і па іншых прычынах. Такім чынам, ён радаваўся, што некалькі дзён будзе дыхаць свабодна.

Друцкі ведаў, што факт аднachасовага з ім ад’езду пані Хэлміньскай выклікае ў Аліцыі падазрэнні і што рэўнасць расце з кожным днём, але ён не хацеў пра гэта думаць.

Юлька не вячэрала і пайшла да сябе, тлумачачы гэта галаўным болем. Яна дамовілася з панам Янкам, каб ён прыйшоў і развітаўся з ёй без сведак.

Калі ён увайшоў і зачыніў за сабой дзверы, яна кінулася яму на шыю:

— Каханы, адзіны, — шаптала дзяўчына, — я буду марыць пра вас, буду вельмі сумаваць.

— Я хутка вярнуся, малышка, бывай здарова.

— О, пане Янку, я ведаю, што не толькі Аля вас кахае, ведаю, што шмат іх вас кахае… Толькі ніводная так, як я… Вы для мяне ўсё… усё…

---

[1] A propos (*фр.*) — дарэчы.

А пазней, на досвітку, калі, стоячы ля адчыненага акна, яна ўслухоўвалася ў вуркатанне машыны, якая аддалялася і ў якой аддаляўся ён, Юлька думала, што гэта шчырая праўда, што ён для яе — усё на свеце.

Так, бо што здарылася з яе найсвяцейшымі, найгарачэйшымі пачуццямі да Аліцыі?.. Ох, яна не магла сабе дараваць, таму што павінна была быць удзячная ёй. Толькі любіць яе яна ўжо не магла. Яна не магла нават сябе прымусіць свабодна з ёй пагаварыць. Адчувала да Аліцыі нібыта крыўду:

«Яна ў мяне нават сябе забрала. Я цяпер адна, зусім адна…»

Праўда, часам яе мучыла сумленне, нібыта вось як яна плаціць Аліцыі за яе апеку, клопаты і сэрца, але тады толькі ўпадала ў роспач, што яна злая, няўдзячная, што мае подлую натуру, але ні на хвіліну не магла падумаць пра адрачэнне ад свайго пачуцця да пана Янка, на якога яна мела такое ж самае права, як і Аліцыя.

На трэці дзень пасля ад’езду Друцкага, калі яны зранку выйшлі на прагулку, Аліцыя вырашыла даведацца, у чым справа.

— Ты сёння дрэнна спала, Юлька, — пачала яна. — Я чула, што ты кашляла.

— Можа, праз сон, — адказала дзяўчына, — дзякуй табе, я добра спала.

— Ты не кажаш праўды, Юлька, — лагодна заўважыла Аліцыя.

Дзяўчына маўчала.

— Ты не гаворыш праўды. Увогуле, ты нешта ад мяне ўтойваеш.

Юлька коратка і з іроніяй пасмяялася:

— Я? Аля, мы ж адна ад адной ніколі нічога не тоім?

— Ты мяне дрэнна зразумела, Юлька. Я бачу, ты нешта перажываеш, нешта цябе трывожыць, нешта, скажам так, засмучае. І калі я хачу ведаць, што гэта, то не з-за цікавасці, а таму, што лічу сваім абавязкам апекавацца табой. Я ўжо даўно назіраю ў тваіх паводзінах нейкую нервовасць, нецярплівасць, выклік, а часам, прыгнечанасць. Калі я толькі зараз кажу табе пра гэта, то выключна таму, што была пераканана, што ты сама, як заўсёды, раскажаш мне аб прычыне тваіх хваляванняў.

— Хваляванняў? Ха… ха… ха… Аля, я цябе запэўніваю, што мяне нічога не турбуе.

— Ты няшчырая.

— Табе здаецца, Аля.

— Аднак ты нешта ўтойваеш ад мяне.

Юлька закусіла вусны і абыякавым тонам прамовіла:

— Табе здалося.

Яны моўчкі ішлі па пяску, цвёрда ўтрамбаваным наплывам хваль.

— Ты закахалася, — гаварыла Аліцыя.

— Я? — раптам пачырванела Юлька.

— Закахалася. Дапусцім. О, не думай, што я хачу цябе за гэта папракнуць. Я вельмі добра гэта разумею. Аднак лічу, што ты магла б мне даверыцца настолькі, каб падзяліцца сваімі пачуццямі.

Юлька адвярнула галаву, і Аліцыя ведала, што яна хоча схаваць слёзы.

— Юлечка, — мякка пачала Аліцыя, — ты можаш мне сказаць, у каго ты закахалася?

Дзяўчына паглядзела на яе вачыма, поўнымі слёз, але цалкам іншымі, з нянавісцю, поўнымі злых водбліскаў.

— Не! — крыкнула дзяўчына. — Я нікога не кахаю! Я не магу табе сказаць і не хачу. Нікога я не кахаю! Нікога!

Аліцыя прытуліла яе да сябе, нягледзячы на яе спробы вырвацца з абдымкаў:

— Супакойся, Юлечка. Ты ж ведаеш, як я цябе люблю. Ну, супакойся. Давай пагаворым спакойна.

Аліцыя не выпускала дзяўчыну і пасля паўзы дадала:

— Ты думаеш, ён, той, пра каго ты марыш, не здагадваецца пра твае пачуцці? Што не адкажа табе ўзаемнасцю?

Юлька раптам пачала смяяцца прыкрым, ненатуральным смехам, ледзь не груба пазбавілася ад абдымкаў і, акінуўшы Аліцыю іранічным поглядам, сказала:

— А табе што, здаецца, што толькі такія прыгожыя, як ты, маюць права на ўзаемнасць?.. Ці… Ах, зрэшты, гэта беспрадметная размова.

— Юлька?!.

— Табе штосьці прымроілася, Аля. Давай не будзем пра гэта.

Аліцыя яшчэ некалькі разоў спрабавала вярнуцца да закранутай тэмы ў надзеі здабыць ад Юлькі шчырыя прызнанні, але тая ўпарта маўчала. Канечне, пасля першай жа размовы праніклівы розум Аліцыі раскрыў тайну дзяўчыны. Яна не сумнявалася, што Юлька кахае Друцкага. Справа была толькі за тым, каб выявіць, як далёка зайшло гэтае пачуццё.

Спачатку Аліцыі ўвогуле не прыходзіла ў галаву, што Юлька магла расказаць пра сваё каханне Багдану. Калі б так атрымалася, Бох бы адразу ж паведаміў Аліцыі.

Аднак з цягам часу ўпэўненасць у гэтым стала знікаць. З розных недагаворак, якія ўдалося здабыць ад Юлькі, закралася падазрэнне, а неаспрэчным доказам стала адкрыццё факта, што Юлька пачала пісаць лісты. Яна іх пісала ўначы, а да паштовай скрыні бегала на золку.

Падчас аднаго з такіх паходаў Аліцыя зладзіла грунтоўную рэвізію ў яе пакоі. Плёнам гэтых пошукаў было адшуканне двух прадметаў, старанна загорнутых у паперу і схаваных на дне шафы: маленькага гладкага каменьчыка і некалькіх валокнаў мяккага сівога моху.

Аліцыя не знайшла ні шматка спісанай паперы, але ўважліва агледзела прамакальную паперу. З дапамогай люстэрка няцяжка было расчытаць на ёй абрыўкі слоў, якія не пакідалі ўжо ніякіх сумненняў, што Юлька пісала Друцкаму. Урывак адраса: «праспект Шуха», канец слова «(mi)łości»[1] і г. д. былі дастаткова красамоўнымі.

Сітуацыя станавілася абсалютна яснай. Юлька піша яму з яго згоды, ён затаіў ад Аліцыі ўсё, ну і, верагодна, таксама піша Юльцы…

Страшны боль працяў сэрца Аліцыі. Яе рукі сутаргава сцісналіся.

Калі б Юлька ў гэты момант увайшла ў свой пакой, Аліцыя б не змагла справіцца з парывам нянавісці, але ўжо праз момант яна была спакойная і толькі позірк, якім яна спаткала выхаванку, што вярталася, гарэў нейкім злым агнём.

Цяпер трэба было любой цаной даведацца, ці піша Багдан Юльцы. З халоднай асцярожнасцю Аліцыя апытала пані Чэрвеньскую, служкаў, паштальёна і нават Тэрлінгаў, якія часам бачыліся з Юлькай яшчэ перад снеданнем, значыць, тады, калі яна магла чытаць атрыманыя лісты. Урэшце Аліцыя накіравалася на пошту. Апытаны служачы толькі пацiснуў плячыма:

— Ніякай інфармацыі я вам даць не магу. Гэта службовая тайна.

Такім чынам, яна звярнулася да кіраўніка паштовага аддзялення, паказала яму сваё пасведчанне пракурора і даведалася, што служачы ўспомніў, як два разы ён выдаваў паштоўкі, адрасаваныя панне Юліі Горн, і атрымаў ад шэфа распараджэнне забіраць карэспандэнцыю, якая ёй яшчэ магла прыйсці, і аддаваць пані пракурору.

— Значыць, ён пісаў ёй, значыць, пісаў, — паўтарала Аліцыя, вяртаючыся ў пансіянат і кусаючы вусны, — за маёй спінай!

Яна была так абурана, што яе прадчуванне падказвала пазбягаць Юлькі, пакуль Аліцыя не здолее авалодаць сабой. Яна зачынілася ў сваім пакоі, кінулася на ложак і, прыціскаючы далоні да твару, паўтарала:

— Змяя… змяя, змяя… паршывае шчаня, я яе выхадзіла, змяя… змяя…

---

[1] «(Mi)łości» (*польск.*) — «(ка)хання».

З пракусанай губы сачылася кроў, моташны і рэзкі смак якой працвярэзіў Аліцыю.

— Спакойна! Спакойна!..

Яна села і, падпершы галаву рукамі, думала:

«Спачатку трэба прааналізаваць сітуацыю. Як далёка зайшоў раман Юлькі з Друцкім? Ці аддалася яна яму? Ці яшчэ не?.. Ох, заплаціць мне за гэта змяя!.. Скацінка такая! Заплаціць!»

Міналі гадзіны ўзважвання шанцаў на карысць таго ці іншага рашэння. Калі Аліцыя спускалася на вячэру, яна ўжо была цалкам ураўнаважаная, спакойная, з усмешкай на твары.

Яна ведала, што трэба чакаць новую паштоўку ад Друцкага Юльцы, а тады толькі прыняць канчатковае рашэнне.

Але прайшло два дні, а паштоўкі не было, затое на трэці дзень прынеслі тэлеграму, адрасаваную Аліцыі. Друцкі паведамляў, што не можа прыехаць. Назаўтра таксама пані Чэрвеньска атрымала тэлеграфічны грашовы перавод і просьбу спакаваць і выслаць яго рэчы ў Варшаву.

Аліцыя не паведаміла Юльцы пра атрыманне навіны, а толькі коратка заявіла ёй падчас абеду:

— Сёння вечарам я еду ў Варшаву.

— Як гэта «еду»? — дрыжачым голасам спыталася Юлька. — Значыць, ты мяне пакінеш тут?

— Я праз некалькі дзён вярнуся. Не бачу прычын забіраць цябе.

— Але мне б таксама хацелася паехаць.

— Навошта? — паглядзела на яе Аліцыя, а калі дзяўчына не адказала, яна паціснула плячыма: — Застанешся тут.

— Добра, — халодна адказала Юлька.

Калі праводзіла Аліцыю на вакзал, яна была маўклівая і спакойная. Яны развіталіся халодным пацалункам, і як толькі цягнік рушыў, Юлька пабегла на пошту.

Акенца «да запатрабавання» ўжо не працавала, але гэта было няважна. Дзяўчына ўзяла бланк і, напісаўшы тэлеграму, уручыла яе служцы. Яна палічыла словы:

— З вас два злотыя.

Толькі цяпер Юлька заўважыла, што не ўзяла сумачку.

— Божа мілы! У мяне няма з сабой грошай! — крыкнула яна з роспаччу. — А гэта так тэрмінова!

Служачая ўсміхнулася:

— Заўтра мне аддасце.

— О, якая вы добрая, якая вы добрая!

— Я бачу, што для вас гэта вельмі важна, — кіўнула галавой работніца пошты.

Юлька павольна вярталася ў «Гадзіву». О, ці важна ёй? Больш чым важна! Заўтра, канечне, яна аддасць доўг на пошце. У сумачцы ў яе ёсць паўтара дзясятка злотых… Раптам яна ўсвядоміла, што гэта ж грошы, якія яна атрымала ад Аліцыі, што гэта сукенка, якая на ёй, што ўсё, што ў яе ёсць, усё, што яна ўмее, усё дзякуючы выключна Аліцыі.

Яна была ў безвыходным становішчы і доўга не спала ноччу, усхліпваючы ў падушку.

## Раздзел 21

— Зараз я з табой убачыцца не магу, — гаварыў прафесар Бруніцкі, — але буду табе ўдзячны, калі ты прыйдзеш да мяне на абед.

— Дамовіліся, Караль. Здаецца, у цябе выдатны настрой.

— Так, Багдане, гэта нават больш, чым настрой. Я табе званіў некалькі разоў, але і ўчора мне адказалі, што цябе няма ў Варшаве.

— Я, уласна, пад Варшавай, — адказаў Друцкі.

— Так, я ведаю, панна Лэнска мне згадвала, што ты сядзіш у нейкіх Хэлмінах. Дзякуй табе, што наведаў панну Лэнску. Ты не знаходзіш, што яе стан значна палепшыўся?

— Яна цалкам занятая думкамі пра…

Друцкі наўмысна зрабіў доўгую паўзу.

— Пра каго? — нецярпліва спытаўся Бруніцкі.

— Чаму не «пра што», а?

— Дык усё роўна, пра што.

— Пра цябе, Караль.

Бруніцкі кашлянуў у трубку:

— Так… ну… дык я чакаю цябе на абед, дарагі Багдане. Да пабачэння.

Друцкі адклаў трубку і засмяяўся.

— Ужо можна шумець? — спыталася Зоська, стоячы ля акна з трубой ад пыласоса ў руцэ.

— Шумі, малышка, колькі табе хочацца.

Дзяўчына павярнула рычажок, і пыласос забурчэў нізкім тонам.

Зоська нахілілася над дыванам так, што яе кароткая паркалёвая сукенка ў блакітную палоску адкрыла ногі вышэй за пругкія мускулы, што звязваюць калені, зрэшты, сукенка ўся прылягала да скуры, вільготнай ад спякоты.

— Зоська! — усклікнуў Друцкі.

Яна адвярнула заружавелы твар.

— Ты ведаеш, што ты прыгожая, чартоўка!

Зоська выпрасталася і вышчарыла шырокія белыя зубы. Паркаль быў такі празрысты, што праз яго выразна былі відаць дзве бронзавыя плямы на дужых пругкіх грудзях.

— Ну дык, можа, і прыгожая, але не для кожнага.

— Як гэта, не для кожнага? — крыху абурыўся Друцкі.

— Дык не для вас, бо да вас перад ад'ездам куды прыгажэйшая пані прыходзіла, ды і гэта, у якой вы цяпер на вёсцы былі, гэта таксама прыгажэйшая.

— Хадзі сюды! — рэзка кінуў ён.

Не вагаючыся, Зоська паклала трубу пыласоса і наблізілася да крэсла ля тэлефона. Друцкі працягнуў руку і пасадзіў яе сабе на калені. Дзяўчына не супраціўлялася, але сядзела неяк напружана. Праз шоўк піжамы і тонкую сукенку ён адчуваў вільгаць яе скуры. Яго рука, перамяшчаючыся па яе голых лытках, таксама стала вільготнай. Пах яе цела нагадваў водар чыстай бялізны і чабору, а скура шыі і твару пахла малаком.

Друцкі ўпіўся ў яе вусны.

— Зараз, — лёгка адсунула яго Зоська, — я выключу пыласос. Шкада току.

Яна ўстала, і ён таксама ўстаў. Яна выключыла пыласос і, выпростоўваючы рукі, сказала:

— Страшная спякота! Так бы — ды ў Віслу!

— Пакупайся ў ванне, — працадзіў Друцкі праз сціснутыя зубы, запальваючы папяросу.

— О, не… Я не адважваюся!

— Чаму? Калі ласка. Напусці сабе вады, толькі не надта халоднай, бо прастудзішся.

— Можна? Вы праўда дазваляеце?

— Колькі хочаш!

— Бо я часам, калі вас не было, думала пакупацца, але баялася. О, вы толькі не падумайце, што я брудная. Я і так мыюся, а гэта дзеля прахалоды.

— Не, не думаю. Дай мне паснедаць і купайся, колькі хочаш.

— Дзякуй, вялікі дзякуй! — усклікнула Зоська проста з дзіцячай радасцю і хутка падала яму каву, пасля чаго знікла.

Друцкі паспытаў каву, яна была гарачая. Наблізіўся да акна. Тэрмометр у цені паказваў трыццаць сем градусаў. Во спёка!

З ваннай да вушэй данёсся плёскат вады. Друцкі прыжмурыў вочы, хвіліну павагаўся і націснуў на ручку дзвярэй ваннай. Яны былі адчыненыя.

Дзяўчына стаяла голая ў душавой нішы сярод граду кропляў, якія атачалі яе. Яна апляла рукамі сваю шыю, падстаўляючы твар і грудзі пад моцны напор. Вочы зажмурыла, а шум вады заглушыў крокі Друцкага.

Дзяўчына заўважыла яго толькі праз некаторы час, калі, стоячы за два крокі ад яе, ён вылаяўся:

— Ліха цябе бяры!

— Ой-ей! — ускрыкнула Зоська і адразу ж прысела, закрываючы рукамі грудзі, але адначасова паднімаючы на яго ўсмешлівыя вочы.

— Ах, ты гадзіна, — сказаў ён, — чаму ты не закрылася?

— А хто ж ведаў, што вы зойдзеце… Што вы робіце! Намочыце піжаму! О, Божа!

Было ўжо, аднак, надта позна. Друцкі ўвайшоў у душавую, і ўмомант піжама была мокрая да ніткі.

Друцкі нахіліўся і, схапіўшы Зоську на рукі, падняў яе і прытуліў да сябе. Яна не зрабіла ніводнага руху супраціўлення, і абое стаялі так хвіліну пад буйным дажджом асвяжальнай халоднай вады.

— О, як тут добра, праўда? — сказала дзяўчына, паднімаючыся на дыбачкі і з усёй сілы прытуляючыся да яго.

Ён трымаў яе адной рукой, а другой зрываў з сябе піжаму. Вада ім залівала вочы, а кроў мазгі, і ён узяў яе, такую свежую і пругкую, як напор, што бамбіў два сплеценыя целы мільярдамі кропель.

Калі Зоська, бяссільная, павісла на яго руках, ён занёс яе ў нішу насупраць і паклаў на сафу.

— Так… так… у мяне ў галаве шуміць… ад гэтага душу, — сказала яна перарывістым голасам, тыльным бокам далоні яна правяла па лбе і ўсміхнулася.

Друцкі глядзеў на дзяўчыну, якая ляжала перад ім голая і настолькі пазбаўленая сораму, як не ведае яго галізна ўсёй прыроды.

Ён сеў ля яе і з захапленнем углядаўся:

— Ведаеш, што ты страшэнна прыгожая?..

— О… о… — засмяялася яна, і не толькі вуснамі, вачыма, але, здавалася, усёй постаццю. — Абы толькі вам падабалася…

— Мне?

— Толькі вам.

Праз дзве гадзіны ён выходзіў з дому. Зоська прасавала піжаму і напявала нешта вясёлае. Друцкі пацалаваў яе ў вусны:

— Да пабачэння, малышка!

— Да пабачэння пану… але…

— Але што? — затрымаў ён яе на парозе.

— Але на ноч, відаць… не прыйду… Бо пляткарыць будуць… Да заўтрашняга ранку?

— Добра. Ранкам! Чым раней, тым лепш.

— А вы… вы… сёння не паедзеце ў вёску да гэтай пані?..

— Ні за што на свеце! — засмяяўся Друцкі.

— Гэта добра. Да пабачэння.

Зоська праводзіла яго палымяным поглядам.

Друцкі грымнуў дзвярыма аўто і, зірнуўшы на свае вокны, убачыў Зоську, якая высоўвалася з-за фіранкі. Ён памахаў ёй рукой і рэзка рушыў.

На Дэмбовай яму адчыніў брамку бурклівы барадач і заявіў, што прафесар яшчэ не вярнуўся з чыгункі.

— Адкуль?

— З вакзала. Ён жа сына праводзіў.

— Сына? — Друцкі стаў як укапаны.

У гэты момант у вітальню ўвайшоў доктар Кунокі.

— А, як жа я рады! — усклікнуў ён з яшчэ больш ажыўленай, чым звычайна, усмешкай, якой ён заўсёды вітаў Друцкага. — Ну, праходзьце, прафесар хутка прыедзе. Што вы парабліваеце?

Друцкі некалькімі фразамі расказаў, што быў на Хелі і нават хацеў туды вярнуцца, але яго нешта «ўкусіла», і ён не паедзе.

— Мне тут Антоні сказаў, што, відаць, тут быў Пётр?

Кунокі кіўнуў галавой.

— Караль яго забраў са Швецыі назаўсёды?

— Не. Пан Пётр хацеў пазнаёміцца з Польшчай, зараз ён едзе ў Закапанэ, у Кракаў і далей, але сюды яшчэ вернецца. Я вас папрашу, — дадаў доктар пасля паўзы, — каб вы не гаварылі прафесару, што я вам пра гэта расказаў.

— Ну натуральна… натуральна… натуральна, — паўтараў задуменны Друцкі. — А… ці не можаце вы мне сказаць, як… хм… Караль абыходзіўся з сынам?..

Японец нахіліўся да яго і пачаў:

— Ведаеце, я даўно думаў, што імпульсам, які скіраваў навуковую цікавасць прафесара да праблемы так званага «ўглядання», была асабістая справа. Няцяжка было зрабіць такую выснову, гледзячы на тое, з якім захапленнем, страсцю, нервам ён гэтым займаўся. Ну, і сама рызыка даследаванняў… Таму што… Вы дазволіце, я буду з вамі шчырым?

— Калі ласка, доктар!

— Дык вось, мае падазрэнні змяніліся ўпэўненасцю ў момант, калі я ўбачыў Пятра. Не, яшчэ раней, у момант, калі я пачуў праз дзверы яго голас. Гэта быў ваш голас, пане Вінклер.

Друцкі закусіў вусны.

— Так, — працягваў Кунокі, — гэты хлопец неверагодна падобны да вас.

— Чорт! Чорт!..

— Не толькі фізічна, але і псіхічна. Гэта амаль ваша копія. Прызнаюся, што тады мне ўсё стала ясна. Прафесар падазрае, што вы бацька Пятра і… гэта не дзіўна…

— Доктар, — падняўся Друцкі, — доктар, але я клянуся, што жонка Караля ніколі не была маёй каханкай! Ніколі! Доктар, вы можаце мне паверыць?

Японец лагодна ўзяў яго за руку:

— Супакойцеся. Я вам веру. Больш за тое, я перакананы, што гэта так. Думаю, што — нягледзячы на іншыя меркаванні, — вы, з вашай натурай, з вашым тыпам псіхікі не змаглі б хлусіць, не хацелі б і не адчувалі б у гэтым патрэбы. А зрэшты… зрэшты, і сам прафесар ужо сёння верыць вам.

Друцкі пабляднеў і схапіў доктара за руку:

— Што вы сказалі?

— Расказваю. У прафесара нядаўна з’явілася думка, што ў псіхіцы індывідуума, як і ў яго марфалогіі, можна адшукаць сляды папярэдніх пакаленняў, а перш за ўсё бацькоў.

— І што?

— Не буду заглыбляцца ў падрабязнасці. Досыць таго, што прафесар правёў цэлы шэраг гіпнатычных эксперыментаў, як у клініцы, так і тут, — доктар указаў на закрытыя шторай дзверы, — у нас. Наколькі я мог зрабіць выснову з яго скупых справаздач, гэтыя даследаванні не далі такіх вынікаў, якіх ён чакаў і якія б дазвалялі яго гіпотэзе называцца навуковай тэорыяй. Аднак жа ў яго было некалькі выпадкаў, якія прымушаюць задумацца. Учора ж ён паставіў эксперымент на Пятру.

— І вы пры гэтым прысутнічалі?!.

— Не. Я толькі ведаю, што прафесар цэлы дзень рыхтаваўся да сеанса, а вечарам ён замкнуўся з сынам у кабінеце на гадзіну, а праз гадзіну… выйшаў ззяючы, нават, я б сказаў, узбуджаны. Ён заявіў мне, што яго гіпотэза ўзрушыць сучасную навуку і што ўгляданне павінна існаваць і павінна быць прызнана афіцыйнай навукай.

Друцкі слухаў затаіўшы дыханне і амаль крыкнуў:

— Тысяча чарцей! У мяне камень спадае з сэрца!

Японец слаба ўсміхнуўся:

— О, у нас і без гэтага быў шэраг, а дакладней, дваццаць два несумненныя доказы існавання частковага ўглядання, выкліканага штучна з дапамогай пераканання, і сем выпадкаў углядання, таксама частковага, без выкарыстання гіпнозу, а з дапамогай натуральных сродкаў.

— Як гэта, натуральных?

— З дапамогай канцэнтрацыі ўвагі цяжарнай па пэўнай дэталі. Так, напрыклад, у пакоі, пазбаўленым якіх бы тое ні было ўпрыгожванняў ці разнастайнасці, змяшчалі карціну з выявай чалавека з адным ненатуральна вялікім вухам. Пачварнасць гэтага вуха прыкоўвала пагляд пацыенткі месяцамі. Яе сын нарадзіўся з правым вухам, большым за левае на семдзесят чатыры працэнты.

— Фенаменальна!

— Альбо, напрыклад, для іншай цяжарнай мы напоўнілі пакой пахам мускусу. Потым адразу стварылі моцны раптоўны шум. Жанчына праз пэўны час, як толькі адчувала пах мускусу, ведала, што хутка будзе грукат, і затыкала вушы. Дык вось яе дачка, якой зараз гадоў дзевяць і якая вучыцца ў агульнаадукацыйнай школе, як толькі адчуе пах мускусу, адразу затыкае вушы. Калі ў яе пытаюцца, навошта яна гэта робіць, дзяўчынка адказвае, што не ведае. Затое загіпнатызаваная яна без вагання сцвярджае, што будзе стрэл.

— А ў маці таксама захаваўся гэты рух?

— Не. Маці зусім не рэагуе на гэты пах. Але я скажу вам яшчэ нешта цікавае. Гэтая жанчына выйшла замуж за кур’ера з банка і нарадзіла яму сына. Хлопец, якога прафесар Бруніцкі даследаваў год таму, аўтаматычна рэагаваў на пах мускусу затыканнем вушэй. Як бачыце, уражанне, аказанае на маці, перадаецца і плоду, а гэты плод настолькі адлюстраваўся на арганізме маці, што транслюе ўражанне наступным дзецям.

— Неверагодна! Значыць, розныя арыгінальныя рэфлексы ў людзей можна будзе растлумачыць?

— Не толькі рэфлексы, а і адхіленні, агіду, пакутлівыя сны пра рэчы, якія пэўны індывідуум ніколі не бачыў, размовы праз сон на чужых, невядомых мовах, часцей за ўсё на санскрыце. Усё гэта наступствы ўражанняў, атрыманых падсвядома ва ўлонні маці, а часта перададзеных праз сотні пакаленняў.

— Да ашаламляльных высноў прыходзіць сённяшняя навука! — усклікнуў Друцкі.

— Ну, не такая ўжо і сённяшняя, — усміхнуўся Кунокі. — Бацька ятрахіміі[1], швейцарскі ўрач Парацэльс ужо ў пачатку шаснаццатага стагоддзя адшукваў крыніцы анамалій і паталагічных змен ва… угляданні маці падчас цяжарнасці. Праўда, для яго было важна выявіць прычыны ахрамазіі…

— Чаго?

— Ахрамазія — гэта поўны дальтанізм альбо калі чалавек усё бачыць шэрым. Парацэльс адкрыў гэта яшчэ за дзвесце гадоў да Дальтона і сцвярджаў, што людзі з ахрамазіяй — гэта дзеці жанчын, якіх падчас цяжарнасці трымалі ў турэмнай цямніцы. Канечне, гэта версія не вытрымлівае крытыкі. Затое іншыя яго ідэі

---

[1] Ятрахімія — рацыянальны напрамак алхіміі XVI—XVII стст., які імкнуўся паставіць хімію на службу медыцыне і галоўнай мэтай рабіў гатаванне лекаў.

пацверджаны ўжо некалькімі маімі вопытамі. Я маю на ўвазе музыкальнасць, якая часам бывае спадчыннай, аднак часцей гэта вынік уражанняў, атрыманых цяжарнай.

— Але гэта ўсё частковыя ўгляданні, калі ж гаворка пра Пятра, яно неверагодна поўнае.

— Так.

— І гэта неяк тлумачыцца?

— Зразумела. Прызнаюся вам, гэты выпадак мяне надта зацікавіў, — закруціўся ў крэсле доктар Кунокі. — Зацікавіў не толькі як свайго роду феномен, але і як пытанне, што датычыць непасрэдна прафесара Бруніцкага, да якога я з усёй душой, вельмі паважаю і ўзношу.

— Такім чынам? Вы прыйшлі да якіх-небудзь высноў?

— Так. Я б вельмі хацеў толькі, каб спачатку вы адказалі на адно пытанне.

— Я да вашых паслуг.

— Дык вось, жонка прафесара кахала вас?

Друцкі зрабіў няпэўны рух рукой.

— Хм… на жаль, так.

— Я быў упэўнены ў гэтым, — усміхнуўся японец, — і, як бачыце, гэта была якраз сіла, больш магутная за ўсялякі гіпноз. Наколькі я разумею, вам бы хацелася, каб гэтага пачуцця не было. Я лічу, аднак, што яно павінна было быць моцным. Думаю, поўнае ўгляданне тут тлумачыцца трыма ўплывамі: вашым вобразам, які жыў у псіхіцы гэтай жанчыны, уяўленнем, якое ў момант апладнення павінна было ўнушаць, што акт здзяйсняеце вы, і ўрэшце вашай прысутнасцю падчас цяжарнасці.

— Якімі шляхамі ўздзейнічалі гэтыя ўплывы?

— Біялогія яшчэ не ведае гэтых шляхоў. Яна толькі іх вывучае, абапіраючыся на маю тэорыю электранейронаў, якія з’яўляюцца эманацыяй цельцаў Нісля. Гэта эманацыя ўяўляе сабой пастаянную энергію з рознай частатой хваль і ў кожным арганізме ёсць тым, што мы прывыклі называць псіхічнай энергіяй.

— Значыць, гэта эманацыя не матэрыяльная? — спытаўся Друцкі.

— Даражэнькі, здаецца, што мы, біёлагі, звернемся да пэўнай дапамогі фізікаў, якія так апантана працуюць над вырашэннем праблем матэрыі і энергіі. Бо ў жывым арганізме ўсё выразней праяўляецца аксіёма, што дакладнай мяжы паміж матэрыяй і энергіяй няма. Вось і мае электранейроны знаходзяцца ў бясконцасці пастаянных змен і фаз. У сваёй энергетычнай, безумоўна, форме, як і ўсе не звязаныя ў атамы электроны, яны пранікаюць у матэрыю і аднолькава паспяхова могуць заставацца ў арганізме, які іх выслаў, і дзейнічаць на іншы. Разумееце?

— І гэтым шляхам адбываецца псіхічны ўплыў аднаго чалавека на другога?

— Не толькі псіхічны, даражэнькі, не толькі. Гэта ўжо даказала нам існаванне тэлепатыі, гіпнозу і да таго падобнага. Але мы назіраем і ўплыў чыста фізічны, анатамічны! Я не хачу стамляць вас прыкладамі, дастаткова, калі згадаю пра тое, што эпілепсія, якая выклікаецца зменамі ў тканках нервовых валокнаў, перадаецца шляхам угладання ў выглядзе барадавак, касавокасці, заікання і г. д.

— Гэтыя электроны нічым не адрозніваюцца ад электронаў, якія вылучае, напрыклад, радый?

— Адрозніваюцца толькі спецыяльным спосабам перадачы.

— А вылучаюць іх нервы?

— Увесь арганізм — гэта комплекс незлічоных перадатачных станцый, для якіх нервовая сістэмы — нібыта антэна. Акрамя таго, у ім нашмат большы комплекс прыёмных станцый. Гэтыя станцыі — залозы ўнутранай сакрэцыі. Яны прымаюць шматлікія імпульсы, як з самога арганізма, так і звонку. І пад уплывам гэтых імпульсаў утвараюць свае гармоны.

— Гэта страшна складана, — уздыхнуў Друцкі.

— Толькі для нас, — усміхнуўся доктар Кунокі, — па сутнасці сваёй усё гэта, відаць, ідэальна проста. Толькі сучасная навука знаходзіцца яшчэ ў зародкавым

стане. Да вашага ведама, пачатак свядомага чалавечага мыслення адносіцца да часу, калі чалавек вынайшаў агонь, гэта прыкладна чатырыста тысяч гадоў таму. Праз чатырыста тысяч гадоў працы гэта мысленне дайшло да выкарыстання радыё і да члянення атама! А калі верыць вялікаму астраному Джынсу, людзі будуць жыць яшчэ сотні мільёнаў гадоў. Тады, пане, наша навука — гэта нават не алфавіт. І таму нам падаецца такой цяжкай шматскладовая будова спасцігальнага свету, як дзіцяці чытанне першага слова ў азбуцы. Але давайце не будзем больш пра гэта. Я вас стамляю.

— Вы што, доктар, сапраўды думаеце, што я дурань, — абурыўся Друцкі, — якога стамляюць падобныя рэчы?

— Не, не. Але хутка прыбудзе прафесар. Дык я хачу яшчэ вярнуцца да цікавай вам справы. Дык вось, угляданне, плёнам якога стала такое неверагоднае падабенства Пятра да вас, мела нечуванае ўздзеянне дзякуючы самому прафесару Бруніцкаму!

— Не разумею?

— Гэта натуральна. Ён быў вашым аднакласнікам і сябрам дзяцінства. Паводле яго слоў, ён заўсёды быў слабым і хваравітым і пастаянна прыгнечаны гэтым. Гледзячы на вас і адчуваючы вашу апеку і абарону, ён, пэўна, найбольш прагнуў быць такім, як вы. Гэта зразумела. Зразумела таксама, што ён так маляваў сабе ідэал маладога хлопца. Падсвядома, падкрэсліваю, падсвядома ён горача жадаў, каб, па меншай меры, яго сын стаў такім.

Друцкі задумаўся.

— Атмасфера, створаная дзякуючы гэтаму жаданню, у момант, калі прафесар даведаўся пра асаблівы стан жонкі, павінна была спрыяць угляданню.

— Гэтая атмасфера, паводле вашых слоў, уздзейнічала на прымальныя станцыі яго жонкі?

— Канечне.

— Неверагодна, неверагодна… Чорт, вашыя адкрыцці зробяць пераварот у медыцыне.

— У чым? — засмяяўся японец.

— У медыцыне.

— Не, тут гаворка не пра медыцыну. Медыцына — гэта вузенькі, мізэрненькі фрагмент навукі пра чалавека. Адкрыцці прафесара Бруніцкага і мае дадуць… — доктар зрабіў паўзу, — дадуць чалавецтву магчымасць неабмежаванага і свядомага развіцця! Разумееце? Свядомага!

Доктар Кунокі пачаў разгортваць перад Друцкім вобраз будучыні, як перад вілай пачуўся сігнал аўтамабіля. Вярнуўся прафесар Бруніцкі. Ужо сам знешні выгляд выдаваў небывалы для яго выдатны настрой.

Ён доўга і шчыра паціскаў руку Друцкаму, за абедам быў вясёлы і гаваркі. Без ваганняў расказваў пра Пятра з такой свабодай, з якой ніколі пры Друцкім гэту тэму не чапаў.

Пазней яны перайшлі ў залу на каву, і Друцкі, сядаючы на канапу, ледзь не раздавіў ката.

— Чорт, Караль! — усклікнуў ён. — Я калі-небудзь раззлуюся і застрэлю гэтую скаціну.

— І вельмі нас пакрыўдзіш, — засмяяўся прафесар. — Праўда, доктар?

— Канечне. Я рэкамендаваў бы ваш знішчальны інстынкт скіраваць на нашых арпінгтонаў[1] і марскіх свінак. Апошніх у нас зараз зашмат.

— Начорта вам гэтае паскудства?

— Гармоны, сябра. Гэта наша фабрыка гармонаў. Да твайго ведама, у катоў найбольш актыўныя такія залозы, як селязёнка, шышкападобная залоза, валляковая залоза, а перш за ўсё печань. Сакрэцыя гэтых залоз у катоў можа падняцца

[1] Арпінгтоны — мяса-яечная парода кур.

вышэй, чым у любога іншага самца. Так, напрыклад, і ў марскіх свінак, трусоў і курэй самыя прадукцыйныя полавыя залозы.

Размова доўжылася да позняга вечара. Друцкі распытваў пра дастаўленых ім «трусоў», пра поспехі вопытаў над чаканым малышом і ці праўда будзе хлопчык.

— Бачыш, — смяяўся, праводзячы яго ў вітальню, прафесар, — ты адзін з рэдкіх і ўсё радзейшых аднаполых тыпаў.

— Ты што, лічыш сябе гермафрадытам? — пажартаваў Друцкі.

— Павер мне, Багдане, што так. І не толькі сябе, а і пераважную большасць людзей. Я гавару гэта не толькі як псіхіятр, але і як біёлаг. Калі б навука не дайшла да адкрыцця дзеяння асобных залоз, чалавецтва з яўгенічных[1] поглядаў не рашылася б рабіць вывады з вопытаў доктара Кунокі і маіх. Я цябе запэўніваю, што праз некалькі соцень гадоў розніца ў псіхіцы, а таксама другасныя полавыя і фізічныя прыкметы паміж мужчынамі і жанчынамі перастануць існаваць.

— Чорт! Ці не хочаш ты сказаць, што ў баб будуць расці вусы? Гэта было б непажадана.

— Не хвалюйся. Хутчэй у нас перастануць расці вусы, а ўзамен расшырацца косці таза і павялічыцца падскурны слой тлушчу. Жаночы пачатак у прыродзе мацнейшы.

— Ліха! Гэта значыць, што калі б я жыў праз тысячу гадоў, то павінен быў бы нараджаць дзяцей і карміць іх сваімі грудзьмі! — не стрымаў смех Друцкі.

— Наадварот, — паляпаў яго па плячы Бруніцкі, — можаш не хвалявацца. Хутчэй жанчыны перастануць нараджаць. Не па сваёй віне, а па віне жанчынападобных мужчын. Што ж ты хочаш, сотні рас вымерлі ў выніку гэтага. Грамадства, якое жыве ў надта вялікім дабрабыце, свабоднае ад фізічнай працы павінна дэгенераваць, а паколькі кожная дэгенерацыя ў прыродзе галоўным чынам і перш за ўсё ўплывае на атрафію здольнасці прадаўжэння роду, яно вымірае.

— Ну, Караль, вы тут столькі ўсяго нагаварылі, што мне пэўна ноччу прысніцца, што я нараджаю трайнят. Пакуль, стары дружа.

— Пакуль, стары дружа, — з цёплай ноткай у голасе паўтарыў прафесар, і яны моцна пацiснулі адзін аднаму руку.

Аднак гэтай ноччу Друцкаму не суджана было заснуць. У «Аргенціне», куды ён паехаў проста з Дэмбовай, ён заспеў пані Хэлміньску. На шчасце, яна была з мужам і яго сястрой, што перашкаджала ёй прад’яўляць прэтэнзіі па прычыне яго доўгай адсутнасці ў іх вёсцы. Аднак вырвацца дадому яму ўдалося толькі а пятай.

Ён быў рады, што вароты адчыніла Зоська:

— Ты ўжо не спіш, малышка?

— Чакаю, — сказала яна, углядаючыся яму ў вочы.

— Ты сёння яшчэ прыгажэйшая, чым заўсёды, — пагладзіў Друцкі яе па шчочцы.

— Э-э-э… я ўжо, відаць, не зачыню вароты, — вырашыла яна, — пайду рабіць вам снеданне. А… можа, надта рана?..

Яны былі ўжо ў вітальні, і Друцкі прыцягнуў дзяўчыну да сябе.

— На такое снеданне ніколі не рана.

Зоська прытулілася да яго і прашаптала:

— Ой, гэта праўда, гэта праўда…

Ужо сапраўды была пара снедаць, таму што гадзіннік паказваў восем, і Зоська раптам усклікнула:

— Ой-ей! Памяць адбіла! Вам жа тэлеграма!

---

[1] Яўгеніка — вучэнне пра селекцыю прымяняльна да чалавека, а таксама пра шляхі паляпшэння яго спадчынных уласцівасцей. Вучэнне было заклікана змагацца са з’явамі выраджэння ў чалавечым генафондзе.

— Якая тэлеграма?

— Прынеслі апоўначы, — дзяўчына падала Друцкаму дэпешу.

Ён раскрыў.

Юлька клікала яго прыехаць на Хель як мага хутчэй. Ніякіх прычын яна не ўказвала, але ён не сумняваўся, што павінна быць нешта важнае.

— Ліха! — вылаяўся ён. — Што ж там магло здарыцца? Я павінен ехаць.

Друцкі з нежаданнем думаў пра гэта. Калі б пад тэлеграмай быў подпіс Аліцыі, то ён бы не вагаючыся выслаў дэпешу з адмовай. Не можа — і ўсё. Аднак Юлька?.. Гэта павінна нешта значыць.

— Едзеце? — спыталася ўсхваляваная Зоська.

— Трэба, — кінуў ён дэпешу на стол і ўстаў.

— Але вы хутка вернецеся?

— Хутка, малышка, як толькі змагу.

Друцкі патэлефанаваў у гараж, каб падрыхтавалі машыну, Залкінду з паведамленнем, што зноў павінен з'ехаць і з просьбай, каб ён папрасіў прабачэння ў Любы за невыкананне абяцання наведаць яе ранкам у Канстанціне.

Праз тры чвэрці гадзіны Зоська, высоўваючыся ў акно, бачыла, як аўто Друцкага знікала за паваротам.

Не паспела яна пачаць прыбіраць, як у вітальні пачуўся званок. Дзяўчына адчыніла дзверы. На парозе стаяла тая самая прыгожая жанчына, якая раней тут так часта бывала, толькі цяпер яна была загарэлая і, відаць, вярталася з цягніка, бо ў руцэ трымала чамадан.

— Пана няма, — сказала Зоська, засланяючы сабой уваход.

— Нічога, я пачакаю, — адказала Аліцыя і ўвайшла.

— Доўга вам прыйдзецца чакаць, бо пан з'ехаў.

— Куды?

Зоська паціснула плячыма:

— З'ехаў туды, дзе яму спадабалася.

Аліцыя строга паглядзела на яе:

— Навучыцеся больш ветліва адказваць, маладая лэдзі! Калі з'ехаў пан Вінклер?

— Не ведаю, не мая справа.

— Як гэта, вы тут прыслуга і не ведаеце, калі ён з'ехаў?

— Ведаю ці не, я не абавязана кожнаму адказваць.

Аліцыя зняла капялюш, паправіла перад люстэркам валасы і села ў крэсла.

— Вы ж мяне ведаеце, — спакойна сказала яна, — і ведаеце, што я знаёмая пана Вінклера.

— Ведаю. Але мне не давалі распараджэння, каб я кожнай знаёмай, што бегае за маім панам, усё расказвала. Шмат бы знайшлося такіх аматарак.

Зоська так сказала наўмысна, і яе аж распірала ад радасці, што яна дапякла жанчыне, якую не магла цярпець.

— Вам здаецца, што я «бегаю» за панам Вінклерам?

— А хіба не? — здзекліва спыталася дзяўчына.

— І вы мяне не любіце?

Зоська паціснула плячыма.

— І не скажаце мне, калі пан вернецца?

— Адкуль жа я магу ведаць? Ён казаў, што едзе да настолькі прыгожай жанчыны, што другой такой на свеце няма, — зманіла дзяўчына, цалкам усведамляючы, якое ўражанне выкліча яе наіўны тон, — а калі яна такая прыгожая, то пэўна ж яму не захочацца хутка вяртацца.

Аліцыя сціснула вусны і адвярнулася. У гэты момант яе позірк упаў на стол, дзе ляжала тэлеграма. Яна хутка ўстала і схапіла яе, перш чым Зоська паспела ёй перашкодзіць.

Аліцыя чытала, і твар яе рабіўся ўсё бляднейшы. Раптам яна ўсё зразумела: Юлька — палюбоўніца Багдана, яны так усё зладзілі, каб пазбавіцца ад Аліцыі…

— О, гадзіна, гадзіна… — зашыпела яна праз сціснутыя зубы і, не звяртаючы ўвагі на Зоську, спешна надзела капялюш, узяла сумку і выбегла.

Аліцыя была напаўпрытомная, калі загадала ехаць на вакзал. Тут яна даведалася, што найбліжэйшы поезд на Хель адыходзіць у сем вечара.

— Калі б удалося яшчэ трапіць у аэрапорт, — сказаў служачы, — то вы б паспелі на самалёт да Гданьска. Але ўжо, відаць, не атрымаецца, бо засталося толькі пяць хвілін.

Аліцыя супакоілася. Канечне, яна не паспее. Зрэшты, перш за ўсё трэба авалодаць сабой, узяць сябе ў рукі. Яна не памятала, каб калі-небудзь так хвалявалася.

Аліцыя назвала таксісту адрас на Тапалёвай.

— Ох, гадзіна, гадзіна… Чакай жа, ты!.. Шчаня! Найпрыгажэйшая ў свеце жанчына! — выбухнула яна кароткім здзеклівым смехам. — Але я табе адпомшчу, страшна адпомшчу!.. Гадзіна!

— Слухаю вас? — павярнуўся да яе шафёр.

Толькі цяпер яна заўважыла, што гаварыла ўголас.

— Вам я нічога не гаварыла, — кінула Аліцыя ледзь не са злосцю і падумала: «Авалодаць сабой, авалодаць сабой любой цаной!»

Яна баялася дапусціць у сваю свядомасць думку, што губляе Друцкага, што выпускае з рук шчасце, якое яна не можа аддаць, таму што яе жыццё страціць сэнс і вартасць.

«О, Бох, Бох, як я цябе кахаю! Як я цябе кахаю…»

— Два злотыя сорак грошаў, — сказаў таксіст, спыняючы аўто.

— Што? — не зразумела яна.

— Два сорак.

— Ага, калі ласка.

Аліцыя хісталася, узыходзячы па лесвіцы:

— Пачакай жа, змяя, пачакай!

## Раздзел 22

Юлька тулілася ў абдымках Друцкага, і на яго светлым пінжаку слёзы расплываліся мноствам цёмных плям.

— Я подлая, пане Янэк, я найпадлейшая з подлых, вы павінны мяне ненавідзець, пагарджаць мной… Але я так за вас баялася. Аліцыя пасля паведамлення, што вы не вернецеся сюды, вельмі змянілася. Я яе павінна любіць і, можа, нават люблю, але не магу… не магу…

— Не румзай, малышка, — стараўся супакоіць яе Друцкі, — якая ёсць, такая ёсць, і не рві ў сябе на галаве валасы, а старайся заўсёды быць сабой. Гэта аснова. Ты яшчэ страшна смаркатая і з гадамі паразумнееш.

— Вы мной не пагарджаеце? — усхліпвала яна.

— Ах ты, дзіцятка. Ты ж ведаеш, што я вельмі цябе люблю.

— А вы не злуяцеся, што я вам тэлеграфавала?

— Не злуюся, хоць ты зрабіла не падумаўшы.

— І непрыстойна, — уздыхнула яна.

— Прыстойна ці непрыстойна, я ў гэтым не разбіраюся, — засмяяўся Друцкі, — пра гэта спытайся ў каго-небудзь іншага. Але што неразумна — гэта напэўна.

— Пан Янэк, а Аліцыю вы… кахаеце?..

— Я табе казаў, што не.

— Мой дарагі, мой адзіны!.. Дык вы і не засмучаецеся, што не ўбачыліся з ёй?

— Дзяўчына! Не мялі пустое! Мяне нічога не засмучае. За мяне засмучаецца адзін ветлівы конь.

— Конь?

— Так. У яго вялікая галава, дык яму з гэтым лягчэй. Ну, хадзем на пляж.

Юлька не кранулася і сказала, гледзячы долу:

— Аднак…

— Што там яшчэ?

— Аднак вы кахалі Аліцыю… Пане Янэк, вы ж былі яе каханкам…

— І што з таго?

— А… а… маім не…

Друцкі не стрымаў смех.

— О, вы з мяне смеяцеся, — схавала яна галаву пад яго пінжак. — Я ведаю, я непрыгожая!

— Нічога ты не ведаеш! — раззлаваўся Друцкі. — Зараз я табе падніму спаднічку і так адлупцую, што ўспомніш Кейптаўн.

— Кейптаўн, — расчырванелася яна, — дзе з недалёкіх здымаюць тры скуры?

— Памятаеш? — рассмяяўся ён. — Бач ты!

— О, я памятаю ўсё-ўсё.

— Няўжо? А ведаеш, што робіцца ў Марсэлі?

— Натуральна! — падскочыла дзяўчына, — там, калі хтосьці кажа, што лжэ, то таксама лжэ, бо ён на самай справе не лгаў. Так?

— Брава! А чаму рыбы ў Сінгапуры п'юць ваду?

— Бо там стаіць шатландскі гарнізон, а ў рыб няма грошай.

— Гляньце вы! Яшчэ годзік навучання і ты магла б у начных туфліках да цёткі Фанны на…

— …сняданкі хадзіць! — трыумфальна скончыла дзяўчына, і абое рассмяяліся.

Да позняй ночы яны сядзелі на тэрасе і размаўлялі, а на золку Друцкі выехаў.

З таго, што даведаўся ад Юлькі, ён зрабіў выснову, што Аліцыя, не заспеўшы яго ў Варшаве, вернецца на Хель. Пэўна ж Зоська ёй сказала, куды ён паехаў. Ён прагнуў пазбегнуць сустрэчы з Аліцыяй. Ён ведаў, што сутыкненне будзе непрыемнае, і радаваўся, што не спаткае яе зноў.

У дарозе яго «фулд» два разы псаваўся. Таму ён толькі на золку прыехаў у Варшаву і быў такі змораны, што тут жа лёг спаць, пакінуўшы машыну на вуліцы.

Прачнуўся позна.

У суседнім пакоі завіхалася Зоська. Быў, відаць, пасляабедзенны час.

— Зоська! — паклікаў Друцкі.

— Аў! — адазвалася дзяўчына, стоячы ў дзвярах, — я вас не разбудзіла?!

— Не, я сам прачнуўся. Колькі зараз?

— Ужо трэцяя гадзіна, — наблізілася яна і каленямі абаперлася на ложак. — Вы выспаліся?

Ён спытаўся ў яе, ці не прыходзіў хто, калі ён адсутнічаў. Зоська дала дакладную справаздачу пра ўсе візіты, адзінае, пра знаходжанне ў кватэры Аліцыі расказала сцісла, не ўспамінаючы пра тое, што Аліцыя чытала тэлеграму.

— Такая прыгожая, але такая брыдкая, — скончыла Зоська сваю справаздачу.

— Брыдкая? Што значыць брыдкая?

— А хто яго ведае? — паціснула дзяўчына плячыма.

Друцкі рассмяяўся і, загарнуўшы яе ногі, паклаў Зоську побач з сабой. Гэтая дзяўчына неверагодна ўздзейнічала на яго пачуцці. І гэты пах малака і чабору… І гэтая прастата жарсці…

Невядома чаму, але пасля кожных абдымкаў ён не толькі не адчуваў, што яна яму прыкра чужая, а наадварот — яго апаноўвала прага чуйных пяшчот, хацелася ёй гаварыць нешта мілае, ужываць чулыя словы, ласкавыя і прыгожыя.

Вось ён, абапершыся локцем на падушку, і тлумачыў гэта Зосьцы, углядваючыся ў яе заружавелы твар і ў раскрытыя хуткім дыханнем вусны, як у вітальні загучаў званок.

— Каго там чэрці нясуць? — спытаў ён.

— Я адчыню і пагляджу, — Зоська паднялася, хутка папravіла валасы і паркалёвую сукенку, якая была безнадзейна памятая.

Друцкі лавіў вухам гучанне яе босых ступняў, потым шчоўканне замка, калі яна адчыняла дзверы, і збянтэжаныя галасы.

«Які чорт?» — падумаў ён.

Амаль у гэты ж момант у спальню ўвайшла Аліцыя.

— Бох! — крыкнула яна.

— Гэтая пані адапхнула мяне і ўвайшла без запрашэння, — гучна абуралася Зоська.

Твар Друцкага зморшчыўся.

— Зоська, — цвёрда сказаў ён, — ідзі, калі ласка, дадому.

Дзяўчына адкрыла рот, але не адказала. Толькі акінула Аліцыю ненавісным позіркам і выйшла.

— Бох! — паўтарыла Аліцыя.

Друцкі скінуў коўдру, надзеў туфлі і, паправіўшы піжаму, устаў:

— Што б гэта значыла? — хрыпла спытаўся ён.

— Бох! Так ты мяне вітаеш?

— Я цябе вітаю так, як ты сюды ўвайшла.

— Бох!

— Ну што ты паўтараеш, — раздражніўся Друцкі, — Бох ды Бох!

Ён закурыў і, не гледзячы на яе, сеў на падаконнік.

— Гэта дзеўка, — выдавіла Аліцыя са сціснутай глоткі, — гэта дзеўка — твая каханка!

Друцкі паціснуў плячыма.

— Добрую ты мне знайшоў саперніцу, — дадала Аліцыя з іроніяй.

— Што табе трэба? — абыякава спытаўся ён.

— Бох! Як ты са мной размаўляеш? Чым я заслужыла гэты тон і абразы?

— Прабач, я і сапраўды быў не надта ветлівы, — спахапіўся ён, — але мяне пазбавіла раўнавагі тваё ўварванне. Прабач.

Друцкі наблізіўся да Аліцыі і пацалаваў ёй руку.

Яна села на найбліжэйшае крэсла і глядзела на яго вачыма, поўнымі неспакою.

— Навошта ты пакінула Хель? — спытаўся ён так, нібыта яго не цікавіў адказ.

— Бох! Ты мяне не кахаеш?! — усклікнула Аліцыя. — Ты ўжо мяне не кахаеш!

Багдан маўчаў.

— Скажы… скажы… чаму? Не разумею, чаму?! Няўжо была падстава, няўжо я змянілася?

— Не, — запярэчыў Друцкі, — ты не змянілася. Зусім не змянілася. Ты ўвогуле не можаш змяніцца.

— Ты кажаш гэта з папрокам?

— Хто яго ведае, Аль? Ва ўсякім выпадку, не з папрокам. Я ніколі нікога не папракаю і сам не выношу, калі мяне папракаюць. Не выношу!

Аліцыя схапіла яго за руку:

— Пачакай, Бох, я не хачу сцэн. Я прыйшла проста даведацца, ты… ты… ужо мяне не кахаеш, як раней?..

Друцкі нічога не адказаў, і Аліцыя прыціснула яго руку да грудзей нейкім сутаргавым рухам:

— Бох, Бох, ведаеш, ты для мяне — усё, ты мая радасць, усё маё жыццё. Ты павінен гэта ведаць! Я не магу цябе страціць! Не магу! Бох, ты мяне разумееш?

— Не разумею, — не стрымаўся Багдан, — я не магу зразумець, як можна хацець ад каго-небудзь, каб ён перастаў быць сабой!

— Я не хачу гэтага.

— Так. Ты хочаш, каб я адрокся ад свабоды, ад свабоды, якая ўласна і ёсць я. Гэта мая сутнасць.

— А памятаеш, як ты прапанаваў мне шлюб?

— Не спрачаюся, — пацінуў плячыма Друцкі.

— Ну і?..

— Ну і нічога! Ты мне тады адмовіла.

— Дапусцім, тады адмовіла. Але, напрыклад, сёння?..

— Давай не будзем пра гэта, Аль. Ты ж дарослы чалавек і добра ўсведамляеш, што сёння ўсё зусім інакш.

Аліцыя да крыві пракусіла вусны, паглядзела на яго дзіўна звужанымі зрэнкамі.

— Паслухай, Аль, — пачаў Багдан прымірэнча. — Ты мяне добра ведаеш. Ты ведаеш, што я не змагу вытрымаць ніякіх сувязей, яны супярэчаць маёй прыродзе. Нам было добра разам. Гэта так? Я, па меншай меры, захаваў да цябе шмат добрых пачуццяў і ўдзячнасці за гэтую частку жыцця, за гэтую цудоўную частку жыцця, якую ты мне падарыла. Таму не трэба…

— Пачакай, Бох, — перарвала яго Аліцыя, — адкажы мне спачатку, ці ўсім жанчынам ты паўтараеш гэта самае пры расстанні? Здаецца, ты выдаеш гэта аўтаматычна.

— Ты нядобрая, Аль. Навошта ты хочаш іроніяй атруціць і твае, і мае ўспаміны? Паколькі мы расстаёмся…

— Не, не! Не расстаёмся! — не стрымалася Аліцыя. — Гэта ты мяне хочаш кінуць, гэта ты мяне адштурхоўваеш!

Багдан узяў яе за руку:

— Супакойся, Аль, навошта гэты пафас.

— Пафас? — горка засмяялася яна, — я цябе кахаю, Бох, я цябе абагаўляю, без цябе я не змагу жыць. Няўжо ты не разумееш, што гэта павінна быць патэтычна… Нехта хоча адабраць цябе ў мяне, але я цябе не аддам, не аддам ні за якія скарбы!..

Аліцыя апляла яго сваімі абдымкамі, гарачымі вуснамі прыпала да яго вуснаў.

Ён не мог вызваліцца з гэтых абдымкаў, не здолеў адштурхнуць ад сябе гэтую жанчыну, прыгажосць якой яго проста абяззбройвала, а яе страсць выклікала буру ў яго пачуццях.

— Я прагну цябе, Бох, і ты мяне прагнеш, я кахаю цябе да вар’яцтва, Бох!.. Ты маё шчасце, ты маё шчасце… Бачыш, бачыш, тваё каханне таксама не згасла, таму што ты не можаш адрачыся ад мяне, Бох!.. Я так цябе чакала... І скажы, скажы, ты мяне не хочаш?..

Ён панёс яе ў абдымках, а тое, што адбылося потым, стала самым красамоўным адказам на яе пытанне.

Аднак гэты адказ прадыктавалі толькі пачуцці. І цяпер, седзячы ў крэсле і гледзячы, як Аліцыя перад люстэркам папраўляе валасы, Друцкі злаваўся на сябе.

Ён слухаў тое, што яна гаварыла, але зместу слоў не разумеў. Ён думаў пра тое, як ёй растлумачыць, што, нягледзячы ні на што, ужо няма дарогі назад, у тыя часы, калі яна запаўняла яго жыццё. Ён не мог адшукаць слоў, якімі трэба было ёй гэта растлумачыць, ён адчуваў сябе няёмка. Ён не мог гэтага цярпець!

— Чаму ты не адказваеш? — павярнулася да яго Аліцыя.

— Прабач, я не чуў.

— Я пыталася, калі мы едзем на Хель?

— Я не паеду. Застануся ўжо ў Варшаве. Справы мяне трымаюць…

Аліцыя яго не ўгаворвала. Наадварот, яна заявіла, што тады і яна паедзе толькі на некалькі дзён скончыць свае справы на моры.

Ніводнага слова Аліцыя не прамовіла пра Юльку. Яна ўжо не сумнявалася, што паміж ёй і Друцкім быў раман, аднак яна была пераканана, што цяпер, пасля размовы з Багданам, як толькі яна выправадзіць Юльку з Варшавы, усё наладзіцца само сабой. Аліцыя ведала, што Друцкі здраджвае ёй і з іншымі жанчынамі, але яна цвёрда верыла ў сваю прывабнасць і розум і спадзявалася ўзяць сітуацыю пад свой кантроль ды ліквідаваць з яго жыцця не толькі ўмовы, што спрыяюць здрадзе, але і ўсякую цікавасць да іншых жанчын.

Найперш яна вырашыла цалкам змяніць свае адносіны да Друцкага, вырашыла ўнікнуць у яго асабістыя справы, дэталёва пазнаёміцца з раскладам яго заняткаў, ну і дабіцца таго, каб урэшце яны сталі жыць калі не ў адной кватэры, то па суседстве.

Аліцыю не адштурхнула нават тое, што Друцкі не прыйшоў на вакзал і, сядаючы ў поезд, яна дэталёва распрацоўвала план дзеянняў. Для Юлькі вырашыла знайсці пасаду настаўніцы для дзяцей дзе-небудзь на далёкай ускраіне. Ні ў якім разе Аліцыя не збіралася далей займацца выхаваннем гэтай няўдзячнай, да якой яна зараз, акрамя нянавісці, нічога не адчувала. Яна не думала таксама заводзіць з ёй ніякіх размоў, высвятленняў ці спрэчак.

Прыехаўшы ў «Гадзіву», Аліцыя коратка заявіла Юльцы:

— Збірайся. Заўтра вяртаемся ў Варшаву.

Дзяўчына, як заўважыла Аліцыя, павінна была здагадацца, што яе подласць раскрыта, бо яна нават не спрабавала наладзіць ранейшыя адносіны. Яна ўпарта маўчала і была прыгнечаная. Кожны раз, калі, седзячы ў вагоне насупраць адна адной, яны сустракаліся позіркамі, Юлька бляднела, а Аліцыя стрымлівалася, каб не кінуць ёй у твар слова «змяя».

Прыехалі яны позна вечарам, і Аліцыя адразу ж пераапранулася і паехала ў «Аргенціну». Яна загадала пасадзіць яе ў ложу і папрасіла, каб прыйшоў дырэктар Вінклер. У яе быў не надта добры настрой, але яна рабіла ўсё, каб Друцкаму было ў яе кампаніі вельмі весела. Аліцыя піла шмат віна і, калі прыкладна ў чатыры гадзіны яны садзіліся ў «фулд», заявіла, што не змагла б рэшту ночы правесці ў адзіноце.

— Паехалі да цябе, Бох, добра?

Багдан згадзіўся. Згадзіўся! Значыць, усё пачынае складвацца так, як яна і прадбачыла!

І складвалася паўтара тыдня.

За гэты час Аліцыя наведала ўсе самыя вялікія бюро па працаўладкаванні. Для Юлькі пакуль нічога падыходзячага не знаходзілася, аднак хутка павінна была вызваліцца пасада настаўніцы-гувернанткі для трох маленькіх дзяўчынак у заможных сялян у Вандолах, маёнтку, размешчаным на ўскраіне Піншчыны, за сорак кіламетраў ад найбліжэйшай чыгуначнай станцыі. Аліцыя палічыла, што гэта менавіта тое, што трэба, а пасля вяртання дадому сказала Юльцы:

— Хачу табе паведаміць, што далей я не магу цябе вучыць. Ты ўжо ў такім узросце, калі карыстанне чужой дапамогай і жыццё за чужы кошт апраўдваецца толькі, калі на гэта ёсць маральнае права. Думаю, ты гэта разумееш?

— Так, — адказала Юлька дрыжачым голасам.

— Дык вось, я не бачу прычыны, па якой ты не магла б сама сябе забяспечваць. Пра адшуканне ў Варшаве пасады, што магла б даць магчымасць сяк-так існаваць, канечне, цяпер не можа быць размовы. Я, аднак, спадзяюся знайсці для цябе што-небудзь у правінцыі. Ты хочаш гэтым скарыстацца?

— Так, — адказала Юлька. Яна была бледная, і вусны яе дрыжалі.

Аліцыя накіравалася да выхаду і, затрымаўшыся ў дзвярах, дадала:

— Ты будзеш настаўніцай трох дзяўчынак у прыватным доме на вёсцы. Праўда, гэта ў нейкай ступені глуш, але і там з тваім талентам можна знайсці каханка.

Увечары гэтага дня Аліцыя чула праз дзверы прыглушаны плач Юлькі, але гэта яе зусім не кранула.

Водпуск Аліцыі скончыўся якраз назаўтра пасля гэтай размовы, і ўжо зранку яна працавала ў судзе.

Яе сустрэлі цёпла. Асабліва абрадаваўся пракурор Мартыновіч, таму што ў канцылярыі ляжала некалькі вельмі складаных спраў, займацца якімі ён хацеў даручыць Аліцыі.

Аліцыя з вялікім задавальненнем заглыбілася ў працу. Яна адчувала сябе каралевай у свеце параграфаў, правілаў, незлічоных аркушаў паказанняў, пратаколаў, данясенняў. Тут лепей, чым у жыцці, яна разбіралася ў матывах дзеянняў складанай чалавечай псіхікі і хаосе доказаў. Тут яна цвяроза, непрадузята магла расстаўляць людзей, як пешак на шахматнай дошцы, і апеляваць фактамі з поўным усведамленнем вынікаў, прадугледжаных Крымінальным кодэксам.

Калі б уласнае жыццё і жыццё сваіх блізкіх можна было так апрацаваць на пранумараваных старонках, каментаваць заметкамі паводле назіранняў, апісаць паказаннямі сведкаў…

Багдан… Колькі ж таямніц утрымлівае яго жыццё, таяміц, недаступных нават ёй… Аліцыя паглядзела на гадзіннік: першая гадзіна — ужо, напэўна, устаў. Што ён робіць? Яна машынальна ўзяла тэлефонную трубку і назвала нумар.

Яна чула, што знялі трубку і голас Друцкага заканчваў нейкую фразу: «…абы толькі ты не енчыла».

— Ало!

— Гэта я, Бох. Я не перашкодзіла?

— Ах, як справы? Што зноў…

Было такое ўражанне, што ён збянтэжыўся, і Аліцыя раптам адчула востры боль у горле. Яна была амаль упэўнена, што ў яго Юлька…

Аліцыя сказала, што ў яе шмат работы, што яна не зможа выйсці з суда да трох і развіталася нібыта ў добрым настроі. Праз секунду яна звязалася з домам. Адказала Юзэфова.

— Панна Юлька дома? — спыталася Аліцыя.

— Няма, пані, гадзіну, можа, таму выйшла.

— А не казала, куды ідзе?

— Не, пані. Толькі тэлефанавала, а потым выйшла. Відаць, да нейкай сяброўкі.

— Добра. Не гаварыце ёй, што я званіла. Абед у тры. Да пабачэння.

Аліцыя хутка замкнула стол, надзела капялюш і збегла з лесвіцы. Тут жа непадалёк знайшла таксі і загадала ехаць на праспект Шуха. Калі ж машына рушыла, яна спахапілася.

«Калі ў яго Юлька ці іншая жанчына, ён пэўна ж мяне не пусціць і я толькі стану пасмешышчам у яго вачах, а хто ведае, можа, і зноў парве адносіны… Не, гэта бескарысна».

Яна змяніла рашэнне. Загадала таксісту стаць за два дамы далей, на другім баку вуліцы. Адтуль яна добра бачыла вароты дома Друцкага і магла заўважыць кожнага, хто б адтуль выходзіў. Шафёр, які, відаць, здагадаўся пра мэту гэтай стаянкі, з паўусмешкай на твары аглядаў вуліцу, час ад часу кідаючы позірк на сваю пасажырку.

Аліцыя адчувала камічнасць сваёй сітуацыі, але ні за што не пакінула б занятую пазіцыю.

Праз сорак хвілін яны выйшлі.

Інтуіцыя яе не падвяла. Багдан у светлым касцюме з Юлькай пад руку… Змяя, змяя…

«Выкіну яе з дому, як сабаку, — падумала Аліцыя, да болю сціскаючы пальцы, — як сабаку!..»

Аліцыя выйшла з машыны і пешкі накіравалася дадому.

Яна не праклінала Друцкага. Уся яе нянавісць і прага помсты накіраваліся на Юльку. Канечне, Юлька навязваецца яму са сваім каханнем… Змяя…

Адразу пасля прыходу дамоў Аліцыя патэлефанавала ў настаўніцкае бюро. На жаль, пасада яшчэ не вызвалілася. Яна павінна быць свабодная самае ранняе праз месяц.

«Што рабіць, што рабіць?» — адчайна думала Аліцыя, ходзячы па пакоі.

Яна не магла выкінуць Юльку на вуліцу, тая ж тады звернецца да Друцкага…

Дарма яна забрала яе з Хеля… Цяпер абавязкова трэба пазбавіцца ад яе, абавязкова!

Падчас абеду Аліцыя з Юлькай не перамовіліся ніводным словам. Устаючы з-за стала, Аліцыя сказала:

— Я цябе папрашу, каб ты не выходзіла, калі мяне няма дома. Юзэфова часам павінна хадзіць у краму, і кватэра застаецца без нагляду.

— Добра, — адказала Юлька і пайшла ў ванную, адкуль праз хвіліну пачулася плёсканне вады.

«Бессаромная жывёліна», — падумала Аліцыя.

Назаўтра і ў наступныя дні Аліцыя па некалькі разоў тэлефанавала дадому з суда, каб праверыць, ці выконвае Юлька яе забарону. Юлька сапраўды не выходзіла. Затое не было сумненняў, што яна званіла Друцкаму. Аліцыя ўжо некалькі разоў мела намер перагаварыць, у рэшце рэшт, з Багданам на тэму Юлькі, але заўсёды ў апошні момант не рашалася, баючыся апынуцца ў сітуацыі, калі трэба будзе паставіць ультыматум. Яна прадбачыла, што гэта было б роўнае паражэнню, таму што ён ні ў якім разе не саступіць, а яна будзе вымушана.

Зрэшты, на шчасце, Юлька пачала хварэць. Яна была бледная, у яе круцілася галава і яна страчвала прытомнасць.

Аліцыя з нежаданнем прапанавала ёй пайсці да ўрача, але дзяўчына падзякавала і адмовілася:

— Нічога страшнага.

«Тым лепей, — падумала Аліцыя, — хутка вызваліцца пасада, і я пазбаўлюся ад гэтай змяі».

Аднак усё склалася іначай.

## Раздзел 23

Справа братоў Хадаровічаў была адной з тых, якія даюць грамадскаму абвінаваўцу магчымасць паказаць, на што ён здольны.

Праўда, следства не змагло даказаць іх заняткі сутэнёрствам, але прыйшлі трыццаць сведкаў, прыцягнутых пракурорам Аліцыяй Горн, і пакінулі ў яе руках столькі доказаў, столькі адмоўных водгукаў і выкрывальных сведчанняў, што абвінаваўчы прысуд ні для каго не быў сюрпрызам. Зала, перапоўненая жулікамі, альфонсамі, прастытуткамі, нелегальнымі акушэркамі і ўсялякай ускраіннай набрыддзю, прыняла прысуд маўчаннем, занатоўваючы ў памяці дэталі, якія калі-небудзь могуць спатрэбіцца для ўласнай абароны.

Аліцыя склала паперы і выйшла на калідор, у гэты час праход ёй заступіла худая старая жанчына, якую яна яшчэ падчас працэсу заўважыла сярод публікі.

— Што вам трэба? — затрымалася Аліцыя.

— У мяне важная справа, шаноўная пані пракурор, вельмі важная справа…

— Ну?

— Але толькі з вока на вока, бо гэта не абы-што…

— Гэта звязана са справай Хадаровічаў?

— І так, і не.

— За мной, калі ласка, — кінула Аліцыя.

У яе была яшчэ амаль гадзіна, і яна вырашыла даведацца, што гэта падазроная жанчына хоча.

— Калі ласка, — паказала яна на крэсла перад сталом.

— Бо я ведаю нешта, што вам можа спатрэбіцца, — пачала бабка, упіхваючы пад парыжэлы капялюш пасму сівеючых валасоў.

— Зараз, — перарвала яе Аліцыя, — найперш, як вас завуць?

Жанчына ўскочыла на ногі:

— А навошта гэта вам? Я не хачу ні аб што пэцкаць рукі. Я ў жыцці ўжо дастаткова нацярпелася з-за гэтых судоў і паліцыі. Я як прыстойны чалавек прыйшла, не тое што…

— Не хвалюйцеся, — стрымала яе Аліцыя, — аднак вы разумееце, што я павінна ведаць, з кім маю справу. Вы хочаце даць мне нейкія важныя паказанні і жадаеце, каб я вам паверыла, але як я магу верыць камусьці, хто саромеецца нават свайго прозвішча.

— Божа мілы, я ж не саромеюся, толькі мая хата з краю. Я вось слухала справу і тое, што вы гаварылі, і думала сама сабе: «О, такая, значыць, сур’ёзная дама, яна і самым важным не спусціць, а замкне ў турме». Таму я і асмелілася, а не тое, барані божа, каб самой у гэта ўлазіць.

— Чаму вы не звярнуліся ў Следчы камітэт ці ў камісарыят?

— А таму, шаноўная пані, што я падумала, што з вамі як з жанчынай мне будзе лягчэй размаўляць і пакрыўдзіць мяне вы не захочаце, а па-другое, што гэта ўвогуле жаночая справа…

— Добра, — сказала Аліцыя, — я вам абяцаю, што ваша прозвішча ў гэта не замяшаю, але мне яго, калі ласка, назавіце. Ну?

Жанчына скурчылася і прамармытала:

— Ладна… Я Буфалова, Ядвіга, — зіркнула яна спадылба на Аліцыю і дадала: — Вось вы ўжо ведаеце. Што ж, не адмаўляюся, я была асуджаная, але клянуся Богам, што за Пашчукуўну несправядліва. Яна сама, дурніца, кручком спрабавала і нарабіла. Я ўжо нічога не змагла паправіць. Не кажу, што з Малінаўшчанкай я не была вінаватая. Так. Я ведала, што рызыка вялікая, але яна сама настойвала, бо праз два месяцы шлюб… Яны ўсе такія, а потым чалавек з-за іх пакутуе…

— Вы акушэрка?

— А хто ж яшчэ? Шляхцянка я, з землеўласнікаў, але вось так на цяжкі хлеб пайшла…

— Дык што вы хацелі сказаць?

Буфалова шморгнула носам і дзелавітым рухам падсунула сваё крэсла.

— Ага, дык вось глядзіце, сама я не ведаю, чаму ў яго такі густ, каб абавязкова была цяжарнай, а яшчэ для яго важна, каб гэта было першае зачацце…

— Секунду, — перарвала Аліцыя, — хто ж гэта?

— Ён? А, ну, багаты, хіба. Грошай у яго, як лёду, і на сваёй машыне ездзіць, а сам брунецік, такі не малады і не стары, але ніштаваты, і ў пенснэ, а як жа…

— Дык вы нават прозвішча яго не ведаеце?

— Адкуль жа я магу ведаць, Божа мілы, ён спрытны і ніякіх падазрэнняў не выклікае, ніякіх слядоў не пакідае. Прыедзе, агледзіць дзяўчыну, хлараформам або чымсьці падобным усыпіць, і гэты яго шафёр адразу ў пакрывала і ў машыну. А ён толькі спытаецца, а хто яна, а на якім месяцы, а ці вядома з кім, грошы адлічыць — і яго ўжо няма.

— Зараз. Значыць, ён проста купляе ў вас цяжарных дзяўчат?

— Божа мілы, а хто ж гаворыць, што у мяне?! — спужалася Буфалова. — У іншых, а я ведаю, таму што мы ў адной прафесіі, разыходзіцца гэта паміж людзьмі.

— Ну, дапусцім, гэта так. Значыць, вы кажаце, што ў яго ёсць аўтамабіль. А вам не прыходзіла ў галаву запомніць яго нумар?

— А як жа, я ведала на памяць і на лісцік запісала, але, як на злосць, недзе падзела лісцік, а калі па памяці сабралася запісаць, то ў мяне ў галаве ўсё перамяшалася. І цяпер я ніяк не магу ўспомніць, ці то 87.653, ці 78.356, ці нешта падобнае. Але ж спачатку альбо 87, альбо 78, гэта жалезна…

Аліцыя хутка запісала і спыталася:

— Як гэта машына выглядае?

— Чорная, вялікая, а спераду тры залатыя кароны і нешта напісана…

— Можа, «рынкляр»?

— Во, відаць, так.

— Кабрыялет ці лімузін?

— А Бог яго ведае, — развяла рукамі акушэрка.

— Адкрыты ці карэта? — па-іншаму сфармулявала Аліцыя.

— Не карэта, я ж кажу: аўтамабіль. Зроблена, як карэта, але аўто. Пакуль я яшчэ памятала нумар, пайшла ў транспартную ўстанову і пытаюся: «Чыё?» А там мне і кажуць: «А вам, жанчынка, якая сабачая справа, ён вас пераехаў ці што?..» Дык я яму кажу, што, па-першае, ніякая я не жанчынка, грубіян гэткі, а ўвогуле гэта што, вялікая тайна?.. А на наступны дзень я паслала швагра, і ён даведаўся, што гэта машына нейкага генерала і зарэгістравана ў Познані.

Аліцыя нецярпліва закруцілася ў крэсле:

— А гэты мужчына генерал?

— Куды яму ў войска! Здыхлік такі, але пры гэтым, мне здаецца, ён павінен быць доктарам, бо разбіраецца ў гэтым, і па-лацінску запісвае сабе, і пытанні задае прафесійныя.

— Ну, і што ж ён робіць з гэтымі дзяўчатамі?

Буфалова развяла рукамі:

— Пэўна ж нейкія свінствы, не без гэтага, глядзіце, каб там распусты не было.

— А дзяўчаты, калі вяртаюцца дадому, што гавораць?

— У тым і справа, што нічога не гавораць, бо ніколі не вяртаюцца. Пайшла і прапала, як камень у вадзе. Праз пэўны час, бывае, нейкая напіша, што з’ехала ў Амерыку альбо яшчэ далей куды, але хто ў гэта верыць?.. Ні за што не паверу, што ён іх жывымі выпускае. Быў бы дурнем. Калі не забівае, то навошта рабіць тайну і столькі бабак убухваць? А можа, хто прыгажэйшы, таго прадае? Хто яго там ведае…

— А як вы даяце яму знак, што ёсць патрэбная пацыентка?

Акушэрка паціснула плячыма:

— Што вы, пані пракурор, усё на мяне! Я гэтым не займаюся, што мне да гэтага?

Аліцыя засмяялася і з дабрадушным выразам твару сказала:

— Не бойцеся, пані Буфалова. Што паміж намі, тое паміж намі. Я ўжо зразумела, што вы дастаўлялі яму гэты тавар. Калі б справа была ў вас, то я б загадала вас арыштаваць, але, думаю, што вы да мяне прыйшлі, каб адпомсціць гэтаму чалавеку. Я абяцала, што не арыштую вас, вы можаце смела гаварыць усё. Дык якім чынам у вас з ім была наладжана сувязь?

Буфалова адкрыла велізарную паношаную сумку, выняла з яе заплямленую тлушчам паперку і сказала:

— Ладна. Я павінна вам верыць, бо каму ж, як не вам?.. Дык вось, паміж намі дамова, што калі ў мяне ёсць такая, што прыйшла сябе псаваць і хоча, каб ціха, каб ніхто не даведаўся, а нікога, хто б у Варшаве яе шукаў, няма, то я пішу

ў «Кур'ер» аб'яву, напрыклад, вось такую, — жанчына падала паперку Аліцыі. Няўмела спісаная каракулямі паперка ўтрымлівала такі змест: «Прапанова пад квітанцыю № 2718-ф. Прадаецца дубовая шафа. Званіць сёння (альбо ўказаць дату) 118-64».

— У вас ёсць тэлефон?

— Дзе там, гэта нумар дома і кватэры. Я жыву на Паньскай, дом 118. Так мы дамовіліся, каб ён ведаў, да каго заехаць. Бо ён, відаць, не толькі ў мяне бярэ. Дык я кідаю такую прапанову ў «Кур'ер», а перад закрыццём варот ён прыязджае і, калі яму дзяўчына падабаецца, яе забірае, але пераборлівы. Не кожную бярэ.

— Гэтую паперку пісаў ён? — спыталася Аліцыя.

— Не, толькі дыктаваў.

— Што ж, выдатна, — паглядзела на гадзіннік Аліцыя. — Я пра ўсё падумаю і займуся гэтай справай. Прыйдзіце да мяне заўтра ў дзесяць раніцы.

— Добра, шаноўная пані пракурор, я буду роўна ў дзесяць… Толькі адно я хацела б спытаць…

— Ну?..

— Ці будзе мне за гэта якое-небудзь узнагароджанне?.. Я не з-за хцівасці, я з-за беднасці, страшна цяжка ў наш час зарабіць грошы…

Аліцыя паабяцала, што калі вынікі следства будуць паспяховымі, яна папросіць для яе ўзнагароджанне.

Вяртаючыся дадому, Аліцыя разважала пра магчымыя матывы, якімі мог кіравацца той лавец цяжарных жанчын, і прыйшла да пераканання, што гэта павінна быць звязана з нейкай рэлігійнай сектай або, магчыма, з сексуальнымі адхіленнямі. У любым выпадку ў яе не было прычын падазраваць Буфалову ў містыфікацыі.

Аліцыя яшчэ дакладна не ўяўляла сабе справу, а тым больш канцэпцыю расследавання, аднак яна меркавала, што самым простым спосабам выкрыць злачынцаў было б выкарыстанне жанчыны — падстаўнога агента паліцыі.

Яна якраз пра гэта думала, сядаючы абедаць, і тут, гледзячы ў талерку, адазвалася Юлька:

— Я хацела табе сказаць, што атрымала пасаду…

— Якую пасаду? — уперылася ў яе Аліцыя.

— Канцылярысткі, у канторы Гандлёвага дома Б. Залкінд і С-ка.

— Па чыёй пратэкцыі?

— Ні па чыёй, — пачырванела Юлька, — я прачытала аб'яву ў газеце і звярнулася да іх…

Усталявалася маўчанне, і Юлька пасля доўгага перапынку дадала:

— Я буду працаваць у аддзеле пісьмаў. Заробак мой будзе трыста восемдзесят злотых, дык я змагу на гэта жыць…

Аліцыя не стрымала смех:

— Ведаеш, ты магла б набрацца прыстойнасці і не падманваць мяне так наіўна! Ты што, сапраўды лічыш мяне настолькі простай і думаеш, я паверу, што без пратэкцыі табе прапануюць такую вялікую зарплату?.. Зрэшты, гэта няважна, з якога чысла ты заступаеш на «пасаду»?

— З першага, — ціха адказала Юлька. У вачах яе былі слёзы.

Аліцыя хацела яшчэ спытаць, калі ў сувязі з гэтым Юлька яе пакіне, але стрымалася і пайшла ў свой пакой.

Яна была ўпэўненая, што тут не абышлося без Друцкага, што Юлька самым бессаромным чынам не толькі выслізгвае з яе рук, але і забірае ў яе яго. «О, не, — сціснула яна кулакі, — яны яшчэ не ведаюць, хто такая Аліцыя Горн!..» Перш за ўсё Юлька, як непаўналетняя, павінна будзе падпарадкавацца волі апякункі, а значыць, паедзе пад Пінск. Хай бы хутчэй там вызвалілася месца. Зрэшты, калі не туды, то хоць куды паедзе, абы толькі не засталася ў Варшаве ні за што на свеце.

У дзверы пастукалі, і ўвайшла Юзэфова.

— Што вам? — рэзка спыталася Аліцыя.

— Я наконт паненкі, — шэптам пачала старая, акуратна зачыняючы за сабой дзверы.

— І што такое?

Служка наблізілася да яе і патрэсла галавой:

— Нядобрае нешта робіцца з нашай паннай Юлькай, дарагая пані, нядобрае. Пасля прыезду ёй ужо было не па сабе, пастаянна плача, начамі трызніць, крычыць праз сон, а днём альбо піша лісты, альбо тэлефануе і ўсё плача. Я нічога не казала, бо падумала, што гэта не мая справа, вы самі заўважыце…

— Вы слушна падумалі, — суха адрэзала Аліцыя, — я заўважыла і не бачу ў гэтым нічога незвычайнага.

Жанчына ў роспачы махнула рукой:

— Добра калі б яно так і было, але, барані божа, здаецца, нас чакае вялікае няшчасце і вялікі сорам…

— Што вы плецяце?! — ускочыла Аліцыя.

— Кажу, што ведаю. Вы цяпер рэдка дома бываеце, ды і з паненкай неяк меней, але я гэта бачу, о, бачу… У мяне ж у самой унукі, дык я ведаю. Сляпы заўважыў бы, дзяўчына на вачах чэзне, худзее, у яе круціцца галава, яна скардзіцца на млявасць…

Аліцыя схапіла жанчыну за плячо:

— Зараз жа кажыце, што вы ведаеце.

— От, я ўжо даўно назіраю і думаю сабе: можа, не дай божа, так, але, можа, і зусім звычайна, ад нерваў гэта ўсё. Ведама ж, у гэтым узросце, дзявочая справа. Але ж тут дні чатыры таму… не, пяць будзе, дакладна, пяць, бо гэта ў суботу было, адразу пасля вячэрняй імшы, я вяртаюся, а паненка заплаканая, расказала мне пра сваю бяду.

Аліцыя не чакала такой навіны. Праўда, яна не сумнявалася, што Юлька жыве з Друцкім, але ёй проста не прыходзіла ў галаву, што справа можа зайсці так далёка. Яе агарнула нейкая злосць, прама нейкая радасць. Дык вось, змяя, якую яна выхавала на ўласных грудзях, панясе заслужанае пакаранне…

Ні кроплі Аліцыя не шкадавала Юльку. Выходзячы пасля абеду на праспект Шуха, яна зазірнула на кухню:

— Вы хацелі паехаць адпачываць да сястры? — спыталася яна ў Юзэфовай.

— Так, шаноўная пані, пад Груец.

— Дык заўтра можаце ехаць.

— А хто будзе прыслужваць?

— Я спраўлюся, заўтра пасля абеду можаце ехаць.

Друцкага Аліцыя заспела, як часта ў апошні час, стомленым і задумлівым. Ён ажыўляўся толькі ў моманты ўзбуджэння, у асноўным жа быў маўклівы і абыякавы. Аліцыя не сумнявалася, што ва ўсім вінаватая Юлька.

Нават яго пяшчоты сталі нейкія іншыя, больш рэзкія, нечаканыя, а часам да болю грубыя. Аліцыя спрабавала пытацца ў яго пра справы, але ён адказваў неахвотна і коратка. Усё радзей ён згаджаўся забіраць яе ў «Аргенціну», няпэўна адгаворваючыся і нават не стараючыся знайсці праўдападобныя довады.

«Усё зменіцца, — паўтарала сабе Аліцыя, — усё наладзіцца, як толькі не будзе паміж намі Юлькі».

Гэтым вечарам ён раней, чым звычайна, развітаўся з Аліцыяй:

— У мяне важная справа, — буркнуў Друцкі і, глянуўшы на гадзіннік, ускочыў і вылаяўся: — Чорт! Яшчэ спазнюся…

Надзяваючы капялюш, Аліцыя бачыла ў люстэрку, што ён выняў з шуфляды рэвальвер і ўсунуў яго ў заднюю кішэнь.

Выйшлі яны разам. Перад варотамі стаяў яго «фулд», з якога адразу ж выскачыў механік і паведаміў:

— Бак поўны, шаноўны пан, і матор у поўным парадку. Рысоры пан Юркоўскі моцна падцягнуў.

— Дзякуй табе, — усміхнуўся яму Друцкі, — заўтра каля васьмі вечара прыходзь сюды па машыну.

— Далёка едзеш? — спыталася Аліцыя.

— Не ведаю, у любым выпадку заўтра вечарам вярнуся, калі, канечне, чорт мяне не возьме. Да пабачэння.

Друцкі пацалаваў Аліцыі руку, сеў за руль і рушыў, не азіраючыся. Аліцыя, вяртаючыся дадому, выразна пачула праз адчыненае акно голас Юлькі: яна размаўляла па тэлефоне… Зразумела, з ім! Ён, відаць, выязджаючы з горада, затрымаўся і патэлефанаваў Юльцы…

Не, гэта было ўжо занадта!

Ноч Аліцыя правяла без сну ў роспачы і перапоўненых жаданнем помсты разважаннях. Калі яна ўстала, то была ўжо зусім спакойная і авалодала сабой настолькі, што змагла амаль цёпла павітацца з Юлькай. Праз паўгадзіны яна была ўжо ў судзе.

Прынятае рашэнне ў псіхіцы Аліцыі цалкам актывізавала мысленчы працэс. Тое, што шэраг доўгіх тыдняў напаўняла яе мозг хаосам супярэчнасцей і сумненняў, цяпер укладвалася ў лагічныя, простыя сувязі, у якіх не магло быць памылкі.

У дзесяць прыйшла Буфалова. Служку, які яе праводзіў, Аліцыя заявіла, што сёння яна нікога не прыме, і зачыніла дзверы на ключ.

Прайшло добрыя дзве гадзіны, перш чым дзверы адчыніліся і служка ўбачыў, як прасіцелька выходзіць і вельмі спешна збягае па лесвіцы.

## Раздзел 24

Юлька адклала пяро, заклеіла канверт і выцерла хусцінкай заплаканыя вочы. Пасля ўчарашняга ад’езду пана Янка яна не магла пазбавіцца ад нейкага дрэннага прадчування. Папраўдзе, яна не ведала, куды ён паехаў, ён сказаў ёй толькі, што яго чакае непрыемная паездка, ад якой ён не можа адкруціцца, таму што справа ў стрыманні абяцання, дадзенага сябру.

Юлька была ўпэўнена, што гэта звязана з нейкай небяспекай, і літаральна не магла сабе знайсці месца ў доме, у гэтым доме, які быў для яе чымсьці горшым і больш страшным, чым турма.

Яна проста не магла дачакацца моманту, калі атрымае гэтую пасаду. Тады яна паселіцца ў пані Бірмановай, цёткі адной са школьных сяброўак, якая трымае пансіён у Калоніі Сташыца[1] ў такім прыгожым дамку з палісаднікам… Цяпер, калі паедзе Юзэфова, ёй тут будзе зусім нясцерпна…

А Юзэфова якраз стаяла ў дзвярах, апранутая ў дарогу.

Калі яна развітвалася з Юлькай, у яе вачах былі слёзы і такі выраз твару, нібыта яна радавалася, што вызваляецца з гэтага дому і спачувае тым, хто павінен тут застацца. На развітанне яна яшчэ раз напомніла Юльцы, каб тая заўсёды замыкала дзверы на ланцужок, і выйшла, згорбленая пад сваім вузлом.

Юлька накінула ланцужок і, абапершыся на сцяну, разрыдалася. Як страшна, як жахліва быць на свеце такой самотнай… Калі б і пан Янэк не захацеў яе больш бачыць, ёй засталося б толькі самагубства…

Рэзка, нецярпліва прагучаў тэлефонны званок.

Напэўна, звоніць Аліцыя з пытаннем, ці паехала Юзэфова… Юлька падняла трубку:

— Слухаю?

---

[1] Калонія Сташыца — жылы масіў у раёне Ахота ў Варшаве.

Загучаў чужы жаночы голас, нібыта занепакоены:

— Магу я пагаварыць з паннай Юліяй Горн?

— Гэта я, — здзівілася Юлька, — а хто гаворыць?

— Я ад імя аднаго мужчыны, ён загадаў… Ён цяжка паранены…

— Езус-Марыя! — крыкнула Юлька. — Які мужчына?

— Ціха, не крычыце і нікому нічога не кажыце, ён так загадаў, каб усё было тайна, бо яго заб'юць. Прыязджайце зараз. Ён чакае. Паньска, 118, кватэра 64…

— Але які мужчына? — хапалася за надзею Юлька. — Як яго завуць?

— Вінклер, пан…

Юлька захісталася на нагах і ледзь не ўпала.

— Дык што, вы прыедзеце?

— Ужо еду, ужо, момант, толькі паўтарыце, калі ласка, адрас…

— Паньска 118, кватэра 64, гэта ў другім двары, правы флігель, пяты паверх. Запомніце?

— Так, так… Ужо еду…

— І нікога ў двары не выпытвайце, каб ніхто не ведаў, бо яму смерць. І хутка!

Юлька, дрыжучы ўсім целам, у непрытомнай спешцы надзела капялюш, схапіла сумачку і, з трэскам зачыніўшы за сабой дзверы, выбегла на вуліцу. На рагу Фільтровай яна села ў таксі і выпаліла вадзіцелю адрас.

Значыць, яе прадчуванне не было дарэмным… Паранены… Божа, ён не памрэ, ён не можа памерці: што гэта было, паядынак ці напад, а можа, катастрофа?.. Пан Янэк страшна хутка ездзіць…

Дома нікога няма, могуць пранікнуць злодзеі… А, няхай, цяпер ёй усё роўна…

Разладжанае таксі рэзка падскоквала на выбоістым бруку. Вакол уздымаліся шэрыя, брудныя, абшарпаныя камяніцы. Юлька ніколі не была ў гэтым раёне горада, дзе жылі самыя бедныя, і выгляд наваколля яшчэ больш падкрэсліваў у яе ўяўленні адчайнае становішча пана Янка.

Машына спынілася перад велізарнай бруднай камяніцай. Юлька заплаціла таксісту і ўвайшла ў вароты, адкуль на яе патыхнуў смурод нагрэтага сонцам сметніка. У першым двары гуляла з паўтара дзясятка абадраных дзяцей, у другім, вузкім, як студня, панаваў вільготны холад і цішыня. Брудная траскучая драўляная лесвіца вілася ўгару стромкім серпанцінам. Юлька бегла, задыхаючыся, спатыкаючыся на стаптаныя прыступкі і лічачы паверхі.

Нарэшце яна спынілася перад вузкімі некалі чырвонымі дзвярыма, над якімі была прыбіта шыльда з нумарам «64». Сэрца білася, як молат. Некалькі хвілін яна шукала званок перш чым зразумела, што яго ўвогуле няма. Тады ціха пастукала.

Праз хвіліну яна ўбачыць яго, ляжачага, у акрываўленых бінтах… Божа, Божа… Ён павінен жыць, ён не памрэ, можа, жанчына, якая званіла, перабольшыла, жанчыны так часта перабольшваюць, можа, рана не такая небяспечная?.. Яна будзе яго даглядаць дзень і ноч… Цяпер нават Аліцыя не здолее адштурхнуць яе ад яго… Толькі б доктара ўжо выклікалі…

Юлька пастукала другі раз, ужо мацней і даўжэй, бо дарагая кожная хвіліна, а яны не адчыняюць…

За дзвярыма пачулася шлёпанне і рыпучы голас, той самы, што па тэлефоне:

— Хто там?

— Гэта я, вы мне званілі, адчыніце, калі ласка.

Дзверы адкрыліся, і Юлька ўбачыла за імі мажную сівеючую жанчыну ў заплямленым попельным халаце.

— Калі ласка.

— Дзе ён? — схапіла яе за руку Юлька. — Доктар быў?..

Жанчына замкнула дзверы і павярнула ключ у замку, пасля чаго схавала яго ў кішэню халата.

— Дзе ён? — непакоілася Юлька.

— Ой-ей, зараз, чаго вы так спяшаецеся, цягнік не адыходзіць. Пачакайце тут.

Гаспадыня знікла ў глыбіні суседняга цёмнага пакоя.

Юлька агледзелася: яна знаходзілася ў даволі вялікай кухні. Пліта была застаўлена закуранымі рондалямі, стол накрыты старой зялёнай цыратай, некалькі зэдлікаў з непафарбаванага дрэва і крывы жалезны ложак у куце — вось усё, на чым затрымліваўся погляд у гэтым даўно не мытым і не беленым памяшканні, перапоўненым густым, цяжкім паветрам, у якім змяшаўся смурод цвілі з рэзкім пахам карболкі.

Акно з цьмянымі шыбамі выходзіла на сляпую сцяну суседняй камяніцы. На падаконніку стаяла некалькі дзясяткаў бутэлек з-пад гарэлкі і ляжалі брудныя акрываўленыя лахманы.

У суседнім цёмным пакоі, аддзеленым пакрывалам з яркага зялёнага паркалю, панавала поўная цішыня. У кватэры павінен быў быць яшчэ адзін пакой, і адтуль даносіўся прыглушаны адгалосак нібыта спрэчкі. Нізкі мужчынскі голас змяняўся жаночым скрыпучым сапрана, але Юлька не магла адрозніць асобных слоў.

«Там, відаць, ляжыць пан Янэк, — думала яна, — а гэта голас доктара і гэтай бабы».

Раптам з цёмнай нішы пачуўся пранізлівы жаночы стогн і крык:

— Я, відаць, старая ты ведзьма, сканаю ад гэтых боляў… Ты мне, напэўна, там усе кішкі павыцягвала… Ой… ой… ой-ей…

У гэты момант аддаленыя дзверы з шумам адчыніліся і ў нішу ўвайшла ўладальніца кватэры:

— Ціха, ліха на цябе! — крыкнула яна. — Што ты ныеш! За твае паршывыя трыццаць злотых табе, можа, яшчэ на гармоніку вальс сыграць?!

— Дык баліць жа…

Юлька з жахам выслухала гэтую размову, інстынктыўна адступаючы аж да выхаду. Яна не магла зразумець, дзе знаходзіцца і навошта сюды прывязуць параненага пана Янка.

У гэты час у кухню ўвайшла жанчына ў халаце і, акінуўшы Юльку дапытлівым позіркам, спыталася:

— А што ж гэта вы стаіце? Сядайце.

— Я, я хацела ўбачыць пана Вінклера. Ці яшчэ нельга?..

— Не спяшайцеся. Яго яшчэ няма.

— Як гэта, няма?

— Ой-ей, якая вы цікаўная! Няма, але хутка будзе. Сядайце ж.

Жанчына нядбайна пхнула крэсла ў бок Юлькі.

— Я не хачу. Скажыце мне, калі ласка, дзе пан Вінклер, — пачала непакоіцца Юлька.

— Я ж кажу, прыйдзе, — амаль крыкнула на яе баба.

— Значыць, ён можа хадзіць? Ён не надта цяжка паранены?..

Старая хацела пра нешта даведацца, але ў гэты момант з-за паркалёвай занавескі выйшаў малы хударлявы мужчына з лысай галавой і пляскатым носам.

— Ну, што такое? Ты ідзеш, швагерка, ці не? — прабурчаў ён, прыглядаючыся адначасова да Юлькі.

— Іду ўжо, толькі кажу табе: глядзі!

— Варушыся, варушыся, не балбачы.

Мужчына сплюнуў праз зубы і, наблізіўшыся да Юлькі, паклікаў:

— А вы ідзіце за мной.

— Я не хачу, — адступіла Юлька да дзвярэй, — выпусціце мяне, гэта нейкая памылка… Пані, выпусціце мяне!

— Ага, зараз, — захіхікаў лысы, — не спяшайцеся. Ну, ты ідзеш, швагерка?

— Мяне падставілі! — крыкнула Юлька і кінулася да дзвярэй, аднак яны былі замкнёныя. З усіх сіл яна пачала торгаць ручку і біць кулаком па дрэве, мужчына ж схапіў яе за плечы і без высілкаў адцягнуў у цэнтр пакоя.

— Ша, паненка, чаго вы кідаецеся!

— Дапамажыце, дапамажыце, дапа… — пачала крычаць дзяўчына, але ў гэты момант адчула, як моцна схапілі яе за карак і груба сціснулі шыю.

Гэтая баба такім чынам прымусіла яе захоўваць спакой.

— Не выць мне тут! — зашыпела яна ў Юлькі над вухам. — Бо я так размалюю, што сама сябе не пазнаеш. Ну, марш!

Дапамагаючы сабе кулакамі, яна прапіхнула дзяўчыну цераз цёмную нішу і, штурхнуўшы нагой нізкія дзверкі, пхнула яе наперад:

— Сядзець тут ціха, — прыгразіла яна кулаком, — бо як вярнуся, то мала не падасца!..

Дзверцы замкнуліся з трэскам, які ўвянчаўся скрыпам засаўкі, і Юлька засталася адна. Хвіліну яна прыслухоўвалася. Агледзелася. У маленькім пакойчыку было толькі мініяцюрнае акенца ледзь не пад столлю, але замест шыб у яго былі ўстаўлены тоўстыя непразрыстыя шкляныя пліты. У куце стаяла кушэтка, абцягнутая пашарпанай цыратай, а побач, на падлозе, жалезнае вядро, ад якога смярдзела, і маленькі збанок з вадой.

Цяпер Юлька ведала, што трапіла ў рукі гандляроў жывым таварам. У момант яна прыгадала ўражальныя апісанні выкрадання маладых дзяўчат, якія ведала з кніг і газет. Іх выкрадаюць сілай ці падманам, так, як цяпер яе, б’юць, каб прымусіць падпарадкоўвацца, а потым гвалтуюць…

Юлька згадала, што тут жа на кухні знаходзіцца гэты лысы бандыт з брыдкім агідным тварам, і здрыганулася…

А потым прадаюць у публічныя дамы Паўднёвай Амерыкі або Кітая, як было ў адным фільме.

«Не, не, лепей смерць!..»

Яна знойдзе спосаб пазбавіцца жыцця, хоць сабе парве сукенку на палоскі і скруціць з іх шнур або заморыць сябе голадам… У любым выпадку яна будзе абараняцца з усіх сіл… Ох, пан Янэк… Каб яна толькі магла неяк даць яму знак, ён бы пэўна адшукаў яе і ўратаваў… Альбо… Аліцыя… Яна, праўда, ненавідзіць сваю выхаванку, але цяпер яна пракурорка, можа ўсё, і яна такая разумная, што, без сумнення, адразу ж здагадаецца, што адбылося…

Аднак больш упэўненая была Юлька, што пан Янэк першы яе адшукае. Якое шчасце, што ён цэлы! Бо, зразумела, усё гэта было прыдумана тымі злачынцамі, каб завабіць яе… Яны павінны былі даўно за ёй сачыць, паколькі ведалі пра тое, чым яе лягчэй за ўсё заманіць, і гэта тады, калі ён з’ехаў… Але ён, відаць, вернецца, як абяцаў, і, даведаўшыся пра яе знікненне, своечасова прыйдзе на дапамогу.

І гэтую жанчыну выратуе, яна, відаць, хацела нарадзіць дзіця, а яны ёй не дазволілі і прымусілі зрабіць аборт… О, пан Янэк!.. Ведаў бы ён, калі б толькі ён мог ведаць, але, можа, ніколі і не даведаецца, і труп Юлькі закапаюць дзе-небудзь у падвале…

Дзяўчына сядзела на кушэтцы і плакала.

Расхістаныя нервы, здавалася, трымцелі ўсе, надзея і роспач змянялі адна другую ў думках. Рукі яе падчас рыданняў спляліся на галаве, з якой ссунуўся капялюш…

Раптам Юлька ўскочыла. Яна выразна пачула скрыгат засаўкі, якую адчынялі.

У пакой увайшоў гэты лысы бандыт. У руках ён трымаў дымную газавую лямпу, у жоўтым святле якой яго пажадлівы твар здаваўся яшчэ больш агідным.

Ён паставіў лямпу на падлогу, выцер рукі аб штаны і засмяяўся:

— Такая прыгожая дзяўчына, а плача, хе, хе, як дзіця… А?

Бандыт зрабіў некалькі крокаў да яе, але яна адскочыла ў кут пакоя і крыкнула:

— Не набліжайцеся да мяне!

— А то што? Святошка ці як?.. — здзекліва сказаў ён і, не цырымонячыся, працянуў руку, каб узяць яе за падбародак.

— Прэч, прэч! — адапхнула яна яго з усіх сіл.

— Гляньце, якая гордая, — захіхікаў бандыт, — я не аматар такіх, можаце не баяцца… Так, ад добрага сэрца хацеў пашкадаваць…

Ён сеў на канапу і, выцягваючы з яе ніткі, пачаў гаварыць:

— Мне нават вас шкада, маладзенькая ж яшчэ, а неспадзяванка з кожнай можа здарыцца, каханне не пытаецца, хто ж там, кахаючыся, зважае на такія рэчы… А ў вас жа такая зграбная фігурка, што калі я хачу збавення, то лепей мне нічога не ведаць, а гэтая дрэнь дык якраз на такое ласая, каб на першым, на другім і не пазней, чым на пятым… Свіння ён, а нібыта вялікі пан і з адукацыяй. Так… А вы на мяне, як на ваўка, а мне вас шкада, калі б не швагерка, то я б вас адпусціў і ўсё… так я вам спачуваю…

Юлька нарэшце зразумела, што гэты чалавек зусім не такі злы, якім выглядае, і што зараз, калі гэтай страшнай жанчыны няма, ён яе можа выратаваць…

— Пане, пане, — залямантавала яна шэптам, — выпусціце мяне, выратуйце мяне…

— Ага… Трэба было адразу са мной так, а то вы на мяне, як сабака на ката, без палкі не падыходзь…

— Пане, — кінулася Юлька перад ім на калені, малю вас, выпусціце мяне! Я вам заплачу, добра заплачу…

— У вас ёсць бабкі? — зацікавіўся бандыт. — І шмат?

— У мяне няма, але за мяне заплацяць, у мяне толькі некалькі злотых…

Дзяўчына ліхаманкава адкрыла сумку і, высыпаўшы на далонь некалькі манет, працягнула яму, нібыта каб запэўніць, што яна гатова стрымаць абяцанне.

Бандыт узяў грошы, пералічыў і спрытна засыпаў іх сабе ў кішэнь, пасля чаго кіўнуў галавой:

— Так, мне вас шкада, але што калі вернецца швагерка, а вас не заспее, тады мне хана… Хіба… Каб хаця ведаць, за што я рызыкую, каб вы былі мой сват ці брат, а так што? За прыгожыя вочы?

— Мой знаёмы дасць вам шмат грошай…

— Што мне гэтыя грошы… Я не карыслівы. Каб вы былі якой маёй сваячкай альбо, скажам, каханкай. Дык я б рызыкнуў… Калі б вы добра папрасілі…

— Малю вас, малю, злітуйцеся нада мной! — працягнула дзяўчына да яго заламаныя рукі.

— Навошта вы да мяне кленчыце, я што святы? Вось, калі ласка, сядзьце тут ля мяне і пагаворым. Ну!

Ён пасадзіў дзяўчыну на канапу побач з сабой.

— Усё можна вырашыць, — паляпаў ён яе па спіне, — а тым больш з такой прыгожай дзяўчынай, хе… хе…

Яго рука ссунулася ніжэй і абняла яе ў поясе. Адначасова другая працягнулася да грудзей. Юльку агарнула непераадольная агіда. Яна рванулася з усіх сіл, але ён яе не пусціў і закрычаў:

— Ах, так, паненка?.. Я трымаць не буду, але з ратаваннем — баста.

Юлька апамяталася і зноў пачала плакаць:

— Выпусціце мяне… Яна зараз можа вярнуцца, і тады будзе надта позна… Выпус…

— Ша, — перарваў бандыт і, схіляючыся да яе вуха, сказаў: — Я вам па-добраму раю, зробім баш-на-баш. Я дапамагу вам уцячы, а вы мне за гэта па сваёй волі не будзеце супраціўляцца, толькі хутка, бо швагерка прыйдзе… Ну, давай, давай…

Яго рукі пачалі сквапна лапаць дзяўчыну, бліскучы ад поту і тлушчу твар наблізіўся да яе твару, яе абдало гнілое агіднае дыханне.

Дзяўчына неспадзявана моцна ўдарыла гвалтаўніка абодвума кулакамі ў твар і вырвалася, ад чаго яе сукенка ў той жа час разадралася ў некалькіх месцах.

Юлька скокнула да дзвярэй, як шалёная, мінула нішу і дасягнула збавіцельных, як яна меркавала, дзвярэй, якія вялі на лесвіцу.

Аднак яны былі замкнёныя на ключ і, відавочна, звонку, таму што праз шчыліну замка пранікала святло з лесвіцы, а яе крыўдзіцель, які павольна прыйшоў сюды за Юлькай, не толькі не хваляваўся, але нават ціха смяяўся. Затое, калі яна скокнула да акна ў жаданні клікаць на дапамогу, ён схапіў яе:

— Ша, халера, бач ты, якая разумная. Давай! Ну! Не рыпайся, бо я цябе так размалюю, што чорта з рагамі ўбачыш!

— Прэч ад мяне! — крычала задыханая ад высілкаў дзяўчына. — Не дакранайцеся да мяне!

Бандыт увапхнуў яе ў апошні пакойчык і, сам запыханы, засмяяўся:

— Я табе зараз тут пакажу «не дакранайцеся», ты, сука, так пакажу… што табе прысніцца. Ну, кладзіся, тваю маці, ужо, зараз!

Юлька ад роспачы, дрыжучы ўсім целам, схапіла збанок з вадой. У яе так трэсліся рукі, што вада расплёсквалася вакол. Яна будзе абараняцца да апошняга ўздыху ад гэтага злодзея, павінна абараняцца…

— Пастаў гэта, — гыркнуў крыўдзіцель і рушыў да яе.

— Дапамажыце, дапамажыце… — крыкнула дзяўчына і адначасова з усёй сілы ўдарыла яго збанком па нахіленай лысіне.

Раптам у дзвярах Юлька ўбачыла жанчыну ў кароткай кашулі, з-пад якой былі відаць тоўстыя чырвоныя ногі, яна ішла да іх, а на яе твары быў нейкі жахлівы выраз болю і злосці. У гэты ж момант крыўдзіцель адскочыў убок і нешта мільганула ў паветры, а жанчына захісталася і ледзь не ўпала.

Толькі цяпер Юлька ўбачыла ў яе руцэ доўгі кухонны нож. Ні слова не гаворачы, яна падала нож Юльцы. Сама, відаць, страціла сілы, таму што прысела і пачала стагнаць.

А між тым, бандыт флегматычна абтрасаў з адзення ваду, выціраў твар і лысіну хусткай і нешта мармытаў пад нос.

— Ну, рэж яго, с…, чаго ты чакаеш? — прамовіла ў стогне жанчына.

Бандыт вылаяўся і хацеў адступіць, калі да яго вушэй данёсся гук ад уваходных дзвярэй, якія адчынялі. Праз некалькі секунд з'явілася гаспадыня.

Адным позіркам яна ацаніла сітуацыю і закрычала:

— Што тут робіцца?

— Хацела ўцячы, — буркнуў лысы.

— Ён маніць, — крыкнула хворая і, не шкадуючы самых жудасных слоў, расказала ўсё. Яна яшчэ не скончыла, як баба кінулася на вінаватага і пачала малаціць яго кулакамі, акампануючы сабе вульгарнымі абразамі.

Лысы, праўда, ухіляўся ад удараў, але нават не спрабаваў абараняцца.

Праз пяць хвілін ён ужо дапамагаў сваёй крыўдзіцельцы перанесці хворую зноў на ложак.

Юлька з жахам, шырока раскрытымі вачыма назірала за гэтымі сцэнамі. Калі ж на момант яна засталася адна, як найхутчэй схавала нож пад парванай цыратай кушэткі.

З таго, што выкрыквала гаспадыня, б'ючы гэтага злодзея, Юлька зрабіла выснову, што яна для гэтай ведзьмы каштоўны аб'ект і што бандыту нельга яе чапаць, таму што інакш нейкі нехта за яе не дасць і гроша, а як нейкая «тая» даведаецца, то неба ў клетку… З усяго ясна было адно: яе прададуць, але тут ёй нічога не пагражае, асабліва ў прысутнасці гаспадыні.

Яна якраз увайшла і кінула на канапу рудую дзіравую коўдру.

— Не бойцеся, — сказала яна, супакойваючы, — тут вас ужо ніхто не кране, я зараз прынясу вячэру.

Сапраўды, яна прынесла кавалак хлеба, памазаны растопленым салам, і кубак мутнай гарбаты.

— З'ешце і кладзіцеся спаць, і не забудзьцеся патушыць святло. Дабранач.

Баба выйшла і замкнула дзверы на засаўку. Юлька, зразумела, не кранула ежу. Падціснуўшы пад сябе ногі, яна нерухома сядзела ў куце кушэткі, услухоўваючыся ў цішыню, якую парушала толькі хрыплае дыханне хворай у суседняй нішы.

Тысячы думак мітусіліся ў яе галаве. Яна добра ўсведамляла безнадзейнасць свайго становішча, ведала, што ніхто яе адсюль не зможа ўратаваць, аднак усё гэта ёй падавалася нейкім нерэальным, якімсьці ўяўным, надуманым, няпраўдападобным, нягледзячы на тое, што пад рукой яна адчувала халодны дотык цыраты, а прама перад яе вачыма дагарала газавая лямпа…

На шчасце, калі апошні раз шуганула блакітная рэштка полымя, на дварэ пачало ўжо віднець і праз тоўстую плітку сляпога акенца стала сачыцца святло.

Юлька так ціха, як магла, устала і выпрастала здранцвелыя мышцы. Асцярожна кранула ручку, але дзверы былі яшчэ замкнёныя.

«Божа мой, — падумала яна, — хай бы пан Янэк напаў на мой след, бо ён жа сам расказваў, як у Танкіне знайшоў выкрадзенага анамітамі[1] касіра з Ханоя… А тут жа не дзікая краіна, а цэнтр Еўропы… Яе пэўна ўжо шукаюць… О, чаму яна не пакінула дома паперку з гэтым адрасам, была б ужо вольная, а гэтыя злачынцы апынуліся б у турме…

Тым часам у кватэры пачаўся рух, відаць, прачнулася хворая, бо пачала стагнаць. Хутка адсунулася засаўка і ўвайшла гаспадыня.

Пабурчала даволі лагодна на Юльку за тое, што яна нічога не з'ела, і прынесла кубак гарачай кавы, да якой Юлька таксама не дакранулася.

Дзяўчына зноў засталася адна. Гадзіны цягнуліся так павольна, што яна час ад часу заводзіла гадзіннік, думаючы, што ён адстае. У гадзіну дня баба з'явілася з місай супу, але Юлька заявіла ёй, што яна не галодная. Затое спрабавала ўгаварыць гэтую страшную жанчыну, каб яна яе выпусціла, бо тады яна атрымае шмат грошай, больш, чым ёй могуць заплаціць гандляры жывым таварам.

Старая толькі паціснула плячыма і выйшла.

Пад вечар Юлька пачала адчуваць надакучлівы голад і смагу. Таму ў восем гадзін, калі гаспадыня прынесла вялікі кубак гарбаты і сухую на гэты раз лусту хлеба, яна не магла стрымацца і не пакаштаваць і адно, і другое. Хлеб быў смачны, а гарбата, хоць і мела нейкі непрыемны пах, што нагадваў расцёртае лісце лопуха, і гаркаваты смак, аднак спатоліла смагу.

Прайшло няшмат часу, і Юлька адчула не санлівасць, а нейкую дзіўную стомленасць. У той жа час яна заўважыла, што ў пакоі вельмі душна. Яна з усё большай цяжкасцю дыхала, рукі і ногі сталі невыносна халоднымі, ледзь было чуваць, як білася сэрца, адрывіста, няроўна… Па лбе сцякалі кроплі поту. Яна хацела падняць руку, каб выцерці пот, але рукі былі бяссільныя…

«Ага, — падумала дзяўчына, — я атручана, у гарбаце, відаць, была атрута…»

Гэта яна сцвердзіла так спакойна і абыякава, нібыта ўсё адбылося не з ёй, а з некім іншым. Тым часам прыкрае адчуванне ўдушша адступіла, затое ў вушах пачало шумець, нібы гэта былі вялікія хвалі вады ці лес… Так шумеў лес вакол іх палянкі ў Тухольскай пушчы… У гэты гук цяпер уплятаўся нейкі аддалены іншы. Юлька адкрыла вочы і ўбачыла мутную і расплывістую жаночую постаць з мігатлівым святлом у руках. Ёй нешта гаварылі, але яна не магла разабраць слоў, ды ёй, зрэшты, было ўсё роўна.

Юлька не страціла прытомнасці, ёй толькі авалодала млявая, блазнаватая апатыя. Яна разумела, што яе атруцілі і смерць нястрашная, а наадварот — прыемная… Усё здаецца малым і нязначным, туманным, прыглушаным і нейтральным.

[1] Анаміты — устарэлая назва в'етнамцаў, якая паходзіць ад наймення часткі іх краіны Анам, якое выкарыстоўвалася раней.

І час перастаў існаваць. Усе яе думкі, пачуцці, успаміны, усе даўнія і найдаўнейшыя вобразы аказаліся ў адной часавай прасторы сплюснутымі, уціснутымі адно ў другое, але пярэстымі і цікавымі…

У пакой увайшло некалькі чалавек, невыразная гаворка данеслася да яе вушэй, нехта ўзяў яе за запясце, прыемнае адчуванне дотыку гэтай далоні захоўвалася яшчэ доўга… Потым, а можа, і ў той жа час, бяссільнае цела панеслі і агарнулі нечым шорсткім… Відаць, кладуць у труну, значыць, я памерла… Аднак яна адчувае кожнае дакрананне, і любое прыносіць ёй задавальненне…

Зараз яе нясуць высока ўгору або вельмі глыбока апускаюць, паклалі на мяккія падушкі, пухлыя, узбітыя… Працэсія — прамільгнула ў яе галаве — мяне вязуць на Павонзкі… Юлька спрабавала адкрыць вочы, але павекі сталі неверагодна цяжкімі.

І зноў яе ўзялі за руку, так міла і асцярожна… Яе распраналі, яна ясна адчувала, як вызвалялі пояс ад падвязак, як сцягвалі панчохі… І раптам яе атуліла такая прыемная цеплыня і яна пачула вельмі аддалены плёскат вады… Ах, так, яе мылі… На скуры яна адчувала дотык спрытных рук, а ў ноздрах — пах мыла…

Яе зноў паклалі на нешта гладкае і мяккае, нейкім цвёрдым прадметам ёй адкрылі вусны і ўлілі даўкую вадкасць з вострым пахам… Юлька адчувала, як яна гарачым струменем сплывала ў страўнік, але нейк па паверхні, па скуры, і страціла прытомнасць.

## Раздзел 25

Барыс Залкінд нервова хадзіў уздоўж дома на праспекце Шуха і нецярпліва паглядаў на гадзіннік.

Ён дамовіўся з капітанам, што калі той не вернецца да дзевяці, гэта будзе абазначаць, што яму не ўдалося раздабыць кантракт ад Фаерсонаў, альбо што ён нічога не прадпрыняў і справа безнадзейная, ці, тым больш, не дай божа, гэтыя лайдакі застрэлілі яго недзе цішком. Зразумела, цішком, бо калі б разнеслася, агент Залкінда ў Белавежы ўжо тэлеграфаваў бы.

Было ўжо дзесяць хвілін на адзінаццатую, калі Залкінд прыняў рашэнне: «Пачакаю яшчэ дваццаць хвілін, а калі не прыедзе, то званю Любе, каб пакавала мне чамадан, і яшчэ паспею на цягнік».

Якраз у гэты момант ён пачуў за спінай сігнал аўтамабіля і ўбачыў чаканы «фулд», з якога выходзіў капітан.

— Дзякуй богу! — усклікнуў Залкінд, моцна трасучы капітану руку. — Нарэшце! З вамі ўсё ў парадку?

— Пачакай, Джэк, дай аддыхацца, — засмяяўся Друцкі, — і не будзем, хіба, размаўляць на вуліцы. Хадзем.

Яны ўвайшлі ў кватэру, і гаспадар, скінуўшы пінжак, пайшоў памыць рукі. Праз хвіліну ён вярнуўся з бутэлькай шатландскага віскі і двума бакаламі:

— Ну, сябра, — сказаў ён не без выхвалyяння ў голасе, — можам абмыць ваш кантракт.

Уражаны Залкінд пабляднеў і працягнуў дрыжачую руку:

— Ёсць?.. Ёсць?.. — паўтараў ён прыглушаным голасам.

Друцкі не стрымаў смех і гучна сказаў, наліваючы жоўтую вадкасць у бакалы:

— Як табе не сорамна, Джэк, ты трасешся, як старая баба. Ці ж такі Чорны Джэк з Чыкага?

— Мільён, капітане, мільён! — крыкнуў Залкінд, пафасна ўзнімаючы над галавой рукі.

— Ну і што з гэтага? Далібог, ты здаў пазіцыі, стары. А некалі, хай мяне пярун, ты быў гангстарам з тых, якія любяць перчык. Ну, за цябе!

Яны выпілі. Друцкі абыякава палез у кішэню пінжака і, не спяшаючыся, выняў з кішэні тоўсты шэры канверт і падаў яго Залкінду.

Ён пачаў расказваць, час ад часу глытаючы віскі. Справа пайшла неспадзявана лёгка. Цесця Фаерсонаў не было дома. Калі б не гэта, хто яго ведае. Гэтыя трое і іх кузен — жаўтаротыя. Яны адразу паверылі. А калі дакумент быў ужо ў руках капітана, ну дык і ўсё. На шчасце, у іх пры сабе не было рэвальвераў, толькі ў гэтага паршывага кузена, але ўдалося штурхануць яго руку — і цацка выпала. Кінуліся ўсе чацвёра, не зважаючы, чэрці, на браўнінг капітана, сапраўдныя вар'яты…

— Мільён, дык мільён жа! — перарваў Залкінд.

— І яны толькі пра гэта думалі, таму так і шалелі. Ну, а акно гэта я яшчэ спачатку адчыніў, нібы дзеля свежага паветра. З такімі ёлупамі ўсё можна зрабіць. Тады я скочыў на нейкія кусты, а цёмна хоць вока выкалі, падумаў, што ўжо не патраплю пад плот, дзе пакінуў машыну. Аднак перш чым я здолеў выехаць на дарогу, яны ўжо выбеглі і пачалі ў мяне страляць…

— Ну, нягоднікі! — усклікнуў Залкінд.

— Мільён, — рассмяяўся Друцкі. — Пару дзірак зрабілі і бак таксама прадзіравілі, але да мястэчка я даехаў. Перад тым як каваль мне залатаў бак, я наўмысна пайшоў у паліцыю, каб тыя думалі, што я там пакіну кантракт. Як я разумею, яны сачылі за мной, паспелі ўжо прыехаць, бо ля машыны стаяў нейкі малы жыдок і, як толькі ён мяне ўбачыў, то пабег, а праз хвіліну прыйшоў гэты бухгалтар, што мяне бачыў у Варшаве ў вас, і кажа: «Гэта ўвесь капітал Фаерсонаў, калі вы ім па сваёй волі не аддасце, яны на ўсё гатовыя. І Залкінда, і вас са свету звядуць».

— Хай паспрабуюць, — буркнуў Залкінд.

— І будуць спрабаваць, — з задавальненнем запэўніў Друцкі, — цесць там ужо ўсё абмазгаваў. Яны здолелі спаліць канцылярыю натарыуса, змаглі зарэзаць Бульчука, дык і нам не даруюць. Але, я так думаю, Джэк, што свісцелі мы з вамі на гэта. А?

— І кулі пасвісцяць, — ціха сказаў Залкінд, а яго худы твар набыў змоўніцкі выраз.

— Ну, за здароўе Фаерсонаў!

Выпілі, і Залкінд пачаў тлумачыць Друцкаму дэталі гэтай заблытанай справы, якую ні адзін з бакоў не мог падаць у суд, і, такім чынам, заставалася толькі разабрацца паміж сабой. А тым часам лес, вартасць якога была больш за мільён злотых, рос і чакаў сякеры, права на якую меў Барыс на падставе кантракта з нежывым ужо ўладальнікам лесу, а не пазбаўленыя слушнасці прэтэнзіі Фаерсонаў, якія былі спадчыннікамі памерлага. Сітуацыяй зараз валодаў, дзякуючы ўдалай вылазцы Друцкага, Залкінд.

Аповед перарваўся тэлефонным званком. Друцкі пацягнуўся і зірнуў на гадзіннік. У гэты час магла званіць толькі Аліцыя.

— Джэк, вазьміце трубку і скажыце, што мяне няма, я не прыехаў, чэрці мяне забралі ці што заўгодна.

Залкінд падышоў да апарата і вярнуўся з паведамленнем, што гэта з «Аргенціны». Друцкі ўзяў трубку. Тэлефанаваў касір Юстэк:

— Пан дырэктар, тут гэтая пані, з якой вы бываеце, загадала злучыць і зараз падыдзе…

Пакуль Друцкі здолеў нешта сказаць, пачуўся голас Аліцыі:

— Вы прыехалі? Гэта добра. Я зайшла ў «Аргенціну», думала, што заспею вас тут, але раз так, то я зараз да вас прыеду. Да пабачэння.

Яна паклала трубку, а Друцкі скрывіўся.

— Баба? — з усмешкай спытаўся Залкінд.

— Ліха на яе! Я змарыўся… ведаеш, Джэк, даволі мне ўжо сядзець у гэтым горадзе. Чалавек ржавее ў гэтай вечнай бяздзейнасці і аднастайнасці…

— Ну, цяпер на недахоп прыгод вы наракаць не можаце… — пажартаваў Залкінд.

— Э… раз на год нешта цікавае. Я баюся так заседзецца, як вы… Ну, я павінен выкінуць вас за дзверы… З Фана[1] зараз выплываюць старыя судны на кашалотаў… А ў Фларыдзе штогадовае дэрбі… Свет цудоўны, Джэкі, цудоўны і шырокі. Ідзі ты ўжо на ўсе чатыры і падумай пра гэта, калі твая пярына астыне…

— Так хутка не астыне, яны не такія. Бывай, капітане, і памятай, што Чорны Джэк разумее значэнне слова «ўдзячнасць».

У паўзмроку вітальні вочы яго так дзіўна блішчалі, нібы на іх навярнуліся слёзы, але Друцкі гэтага не заўважыў. Няўпэўненым крокам ён хадзіў з кута ў кут і ўголас паўтараў:

— З Фана зараз выплываюць старыя судны на кашалотаў… А першы рушыў, канечне, Мак Холан на сваім каўчэгу «Ной»… З Фана зараз выплываюць за Гусіны мыс, а там ужо ловяць спадарожны вецер…

Друцкі наліваў сабе віскі, калі зазвінеў званок. Ён няспешна падышоў адчыніць. Аліцыя была вясёлая і ўзбуджаная. Яна моцна пацалавала яго, заўважыла, што ён стомлены, і прапанавала легчы адпачыць. Яна сама расшпіліла яму каўнерык і развязала гальштук, расказваючы дэталі нейкага забаўнага працэсу, які праходзіў сёння ў судзе. Калі ён лёг, яна села ля яго і, гладзячы па валасах, засыпала чулымі словамі, якія даўно ўжо не магла прамовіць у адносінах да яго не таму, што не адчувала гэтага, а таму, што халоднасць Багдана паралізавала ўсялякую чуласць.

І так працягвалася б доўга, пакуль паміж імі не стала Юлька…

У Друцкага былі шэрыя цені пад вачыма і абветраныя вусны, а на гэтых вуснах блукала такая прыгожая паўусмешка.

— Ведаеш, Аль, — пачаў ён, не расплюшчваючы вачэй, — што зараз з Фана выплываюць старыя судны на кашалотаў?..

— Чаму ты пра гэта падумаў? — спакойна спыталася яна.

Ён не адказаў, толькі пацягнуўся і ўздыхнуў. Аліцыя не сумнявалася, што ён увогуле не чуў яе аповеду. Яна закусіла вусны, але тут жа авалодала сабой. Яна не магла сабе дазволіць распаліць нават самую нязначную спрэчку. Яшчэ некалькі месяцаў — і вернуцца даўнія, нічым не азмрочаныя адносіны, яшчэ некалькі месяцаў — і яна застанецца з ім назаўсёды… Хай будзе што будзе, ён ужо не маладзён. У ім павінен згаснуць запал валацугі. У Аліцыі ўжо быў гатовы дэталёва прадуманы план паступовага ўтаймавання гэтай буйнай натуры. З гэтай мэтай яна вырашыла нават узяць на год водпуск за свой кошт, каб разам з Багданам накіравацца ў якое-небудзь далёкае падарожжа, хутчэй пілігрымку па «святых месцах яго авантурнай маладосці». Ён жа так любіць пра іх гаварыць. Напэўна, яшчэ больш прыемна было б яму іх паказваць. І такая пілігрымка павінна была б нагадваць развітанне з мінулым.

Аліцыя Горн разважала лагічна і была ўпэўнена ў сваёй логіцы. Калі яна чагосьці не брала пад увагу, то ролі, якую ў яе планах можа адыграць ужо адсутная Юлька.

А пачалося ўсё так.

Каля поўначы Багдан падняўся з тахты і заявіў, што, нягледзячы на стому, ён павінен зазірнуць у «Аргенціну».

— Мне трэба было б пераапрануцца, — пачала Аліцыя, — а зрэшты, не надта і хочацца. Ведаеш, а ты не прыехаў бы з «Аргенціны» да мяне?

— Што за ідэя? — пацісну́ў ён плячыма. — Па-першае, я страшна змучаны, а па-другое… увогуле. Што ў цябе дома можна прыдумаць?

— Нічога мы не будзем прыдумваць, — нязмушана адказала Аліцыя, — таму што няма пра каго думаць. Я адна.

— Як гэта? — Друцкі павярнуўся да люстэрка, перад якім завязваў гальштук.

[1] Фан — тэрыторыя Партугаліі.

— Адна, — паўтарыла Аліцыя. — Юзэфова ў адпачынку, а Юлька паехала на пасаду.

Аліцыя ведала, што Багдана ўразіць гэтая навіна, але не думала, што настолькі, яна таксама не чакала, што ён не будзе нават спрабаваць схаваць гэтае ўражанне.

Друцкі апусціў гальштук, які сціскаў у руцэ, і падышоў да яе з такім выразам твару, што калі б не яе вытрымка, то яна б адступіла за стол.

— Як гэта паехала на пасаду? На якую пасаду? — спытаўся ён глуха і вельмі ціха.

— На ўскраіну.

— Яна ж не хацела ехаць? Так?.. Я ж прапанаваў ёй выдатную пасаду ў Варшаве? Хіба не?..

— Я табе паўтараю, — ссунула бровы Аліцыя, — што яна паехала на крэсы.

— Гэта ты яе змусіла?

— Выбачай, Бох, але якое права ты маеш умешвацца ў пытанні маёй апекі над Юлькай? Я лічу, што ты мог бы сябе прымусіць хоць з прыстойнасці праявіць крышачку такту. Мая выхаванка да паўналецця застаецца выключна пад маёй апекай, і я вырашаю, якая пасада ёй падыходзіць, а якая не. Ты мяне здзіўляеш, Бох, сваім жаданнем падкрэсліць тое, пра што я, якая павінна цікавіцца Юлькай і як дзяўчынай, якую я выхавала з малога дзіцяці, і як жанчынай, якой я магу выставіць пэўныя вельмі дакладныя патрабаванні, магла толькі з-за далікатнасці ў адносінах да цябе змаўчаць.

— Гэта не «fair play»[1]! — абурыўся Багдан.

— Не ёсць і не было ні з аднаго боку, дарагі мой, не было спачатку… Не будзем больш пра гэта.

— Твая праўда. Не будзем.

Друцкі засунуў рукі ў кішэні штаноў, пакруціў галавой і дадаў:

— Здаецца, Аль, нам увогуле няма чаго сказаць адно аднаму. У нас ніколі і не было надта шмат, а зараз не засталося нічога, акрамя слоў, якімі развітваюцца людзі, што не хочуць, каб іх раздзяляла больш, чым можа яднаць.

— Ты жартуеш, Бох!

— Я сур’ёзна, Аль. І думаю, што размаўляю з чалавекам, які таксама добра разумее гэта, як і я. Лепей расстацца, калі яшчэ можна абмяняцца шчырымі поціскамі рук і ветліва ўзаемна падзякаваць за адрэзак жыцця, праведзенага побач, чым пакінуць пасля сябе горыч і пракляцце.

— Але я цябе кахаю, Бох, — прашаптала Аліцыя.

— Ты не можаш мяне кахаць, — сказаў ён, падумаўшы. — Для таго, каб кахаць, трэба палюбіць тое, што ён любіць, што з’яўляецца часткай яго існавання. А ты не любіш жыццё. Не толькі не любіш. Ненавідзіш яго. Усё, што ўтрымлівае гэта жыццё: радасць, свабоду, волю, бесклапотнасць, адкрытую барацьбу, сумленную, на роўных, — ды ці я ведаю, што яшчэ, словам, усё, з чаго складаецца маё найвялікшае шчасце, выклікае ў цябе непрыязнасць. Ты мяне не кахаеш, Аль, не!

— А раней…

— Не будзем лічыць мінулых дзён. Я не разбіраюся ў гэтых рахунках. Я ніколі не ўмеў рабіць нешта сёння таму, што так думаў пра гэта ўчора, ці што так будзе заўтра. Можа, гэта нават не вельмі разумна, але я лічу, што, жывучы сёння, я павінен радавацца праўдзе, якую бачу сёння.

Аліцыя закусіла вусны. Яна хацела кінуцца яму ў ногі і маліць, каб ён паверыў, што яна кахае яго больш за ўсё на свеце, што ўласным жыццём яна гатова заплаціць за яго пачуццё, што звар’яцее, калі ён ад яе адрачэцца…

---

[1] Fair play *(англ.)* — справядліва.

Аднак яна маўчала. Ведала, што гэта быў бы не лепшы шлях, што ўсе яе словы, самыя горкія, самыя палымяныя і адданыя, адскочаць ад яго аргументаў, нічога для яе не змяняючы. Трэба было любой цаной перайсці на іншую тэму.

— Бох, — спакойна сказала яна, хоць у яе дрыжаў кожны нерв, — сёння мы абое стомленыя, усхваляваныя, мы надта паддаёмся імпульсам, зразумела, не заўсёды намі самімі жаданым… Магу я папрасіць цябе пра адну паслугу?.. Давай адкладзём гэта да заўтра…

Друцкі зрабіў невыразны рух рукой:

— Навошта, Аль? Навошта нам мучыцца яшчэ раз?

— Я прашу цябе…

— Ну добра, як хочаш…

— Дзякуй табе, — яна падала Друцкаму руку, а тая так дрыжала, што Друцкі аж здзівіўся.

Аднак гэта ніяк не магло змяніць яго намеру. У яго проста ў галаве не ўкладвалася, што Аліцыя змагла рашыцца на такі брыдкі і нізкі ўчынак у адносінах да Юлькі. Калі б гэта было ў яго сілах і праве, то ён зрабіў бы ўсё, каб вярнуць Юльку ў Варшаву. Зрэшты, ён яшчэ не адмовіўся ад гэтага. Калі ён атрымае ад Юлькі ліст са скаргай на гэта выгнанне, то прымусіць Аліцыю дазволіць ёй вярнуцца або прывязе яе сам.

З Аліцыяй ён вырашыў парваць, нягледзячы ні на якія наступствы. Ён улічваў тое, што яна яму адпомсціць. Магчыма, яна нават выкрые яго як злачынцу, які хаваецца пад іншым прозвішчам. Не мае значэння, а хутчэй не, якраз тым лепей… У любым выпадку Друцкі ні за што не змяніў бы свайго рашэння.

Таму назаўтра ўсе надзеі Аліцыі цалкам не апраўдаліся. Друцкі не мог і не хацеў зразумець яе трагедыі, ні на момант ён не адступіў ад сваёй невыносна спакойнай і ветлівай манеры паводзін. Яго не кранула нават тое, што яна, такая гордая, такая незалежная, адмаўлялася цяпер ад усялякіх правоў, адракалася ад усялякіх прэтэнзій, молячы толькі пра дазвол бачыць яго час ад часу, пра ласку яго мімалётнай пяшчоты, пра магчымасць чуць ад яго некалькі хаця б самых абыякавых слоў.

Аліцыя цалавала яго рукі, у роспачы чаплялася за яго ногі, скавытала, як выгнаны сабака, клялася ў поўным паслушэнстве…

Дарма.

Яна прайграла… Цяжка паднялася з падлогі, у яе круцілася галава, калі, стоячы перад люстэркам, яна аўтаматычна надзявала капялюш. Вочы яе ўжо высахлі і гарэлі зараз небяспечным чорным полымем. Аліцыя акінула Друцкага позіркам, якога ён не мог вынесці, і выйшла, не развітаўшыся ні словам.

У гэты момант абое ведалі, што яшчэ не заплачана па ўсіх рахунках, што дарогі іх яшчэ павінны перасекчыся.

Друцкі быў настолькі шчыры з самім сабой, што не стараўся ўнушыць сабе абыякавасць да гэтага непазбежнага перакрыжавання. Ён чакаў помсты, ён асцерагаўся яе, але ж не баяўся. У любым выпадку варта было быць асцярожным і таму, што пасля белавежскай вылазкі трэба было лічыцца з пагрозамі людзей, якія ўмелі спраўляцца з праціўнікамі.

Ён цяпер пастаянна насіў зброю і звяртаў пільную ўвагу на ўсё, што адбывалася вакол яго, і ў «Аргенціне», і на вуліцы. Дзякуючы гэтаму на працягу некалькіх дзён ён заўважыў Аліцыю ў варотах насупраць, раз перад выездам з праспекта Шуха і раз у таксі, што стаяла перад «Аргенцінай». Аднойчы пасля абеду Друцкі даведаўся ад Зoські, што нейкія два падазроныя тыпы выпытвалі яе бацьку пра яго. Вартавы наўмысна даў ім ілжывую інфармацыю, бо — як казала Зоська — гэтыя, вядома, бандыты. Друцкі таксама не сумняваўся, тым больш што на наступны дзень нехта падпаліў таварныя склады Залкінда ля чыгуначнай веткі.

Ён якраз збіраўся ехаць на Наваліп'е, каб абмеркаваць справу, калі пазваніў Бруніцкі.

Ён вярнуўся з Закапанэ, куды ездзіў наведаць сына. Караль вельмі хацеў бы пабачыцца з Друцкім, і калі ў яго няма лепшых планаў, то няхай бы ён дазволіў запрасіць яго на абед.

У Друцкага не толькі не было лепшых планаў, а ён вельмі ўзрадаваўся. Цяпер ужо не было сумнення, што іх сяброўства пасля стольkіх гадоў было на шляху да поўнага аднаўлення.

У Друцкага ў свеце было шмат сяброў. Пра яго нават казалі, што яму страшэнна шанцуе на людзей, аднак ніводная з гэтых прыязнасцей не была для яго настолькі важнай, як прыязнасць да Караля Бруніцкага, гісторыя якой пачалася тады, калі абодва пад стол пешшу хадзілі.

Багдан чакаў Залкінда, размаўляючы з Любай. Яна вярнулася з Канстанціна загарэлая, як цыганка, і страшна маркотная. Таму яна адразу ж заняла наступальную пазіцыю, шукаючы любую нагоду, каб прытуліцца да яго або пацерціся з хітрай кашэчай пачуццёвасцю. Ёй у дэталях расказалі пра гісторыю кантракта, аднак яна зусім не ведала пра небяспеку, якая пагражала Барысу і капітану. Калі вярнуўся Залкінд, яна была вельмі заінтрыгаваная, чаму яны замкнуліся, просячы яе, каб пакінула іх на чвэрць гадзіны сам-насам.

Нарада даўжэй і не зацягнулася. Паколькі немагчыма было ўмешваць у гэтую аферу паліцыю, якую б не задаволіла павярхоўная інфармацыя і яна б захацела ўсунуць нос у справу цалкам, сябры павінны былі самі знайсці сродкі абароны. Друцкі як чалавек адзінокі і не ўласнік ніякай маёмасці, якая магла б стаць прадметам атакі з боку Фаерсонаў, запэўніў Залкінда, што ахова яму зусім не патрэбная. Затое Барысу раіў перадусім забараніць Любе і дзіцяці выходзіць з дому, у вітальні паставіць пару ахоўнікаў, ну і арганізаваць разведку, каб высачыць тых, хто нападаў, і ўзяць іх на мушку.

— Гэта не складана, — сказаў Залкінд. — У мяне тут ёсць сястра, якая на Цеплай трымае начны бізнес з дзяўчынкамі. Такая вось справа, нават нядрэнна ідзе. Дык вось у яе ёсць свае людзі, вы разумееце, у гэтай прафесіі, у яе павінны быць адпаведныя людзі. Так што, усё атрымаецца. Мяне турбуюць толькі дзве рэчы: Любе трэба будзе сказаць, і яна спужаецца…

— Хай лепей спужаецца, чым штосьці іншае. Ужо забылася Чыкага?

— А па-другое, што вы застаяцеся без абароны. Яны як убачаць, што тут усё абстаўлена, а у вас не…

— …ну дык панюхаюць, чым пахне мая табака, — скончыў Друцкі.

— Дай божа, каб вашы словы абярнуліся ў золата.

Залкінд паклікаў Любу, і Друцкі растлумачыў ёй сітуацыю. Яна не прыняла ўсё блізка да сэрца. Толькі пажадала, каб дома ёй пакінулі рэвальвер. Зразумела, муж пагадзіўся з гэтым і, больш за тое, абяцаў, што будзе старацца як мага менш выходзіць з дому.

Праз паўгадзіны Друцкі ўжо быў на Дэмбовай. Прафесар павітаўся з ім з ранейшай шчырасцю, і яны адразу селі абедаць.

— А дзе доктар Кунокі? — пацікавіўся Друцкі.

— Паехаў на тры дні ў Швейцарыю, — пацёр рукі Бруніцкі з такім выразам твару, нібыта праз момант ён раскажа нешта нечувана важнае.

— Ну? — з усмешкай спытаўся Друцкі.

— Хутка ўжо мы абвесцім свету, Багдане, сенсацыйныя вынікі нашых даследаванняў і адкрыццяў, да якіх і ты спрычыніўся!

— О? Вы і гэта абвесціце?

— Не жартуй, Багдане. Тое, што мы хутка абвесцім у парыжскай Сарбоне, паставіць пад сумненне асновы традыцыйнай навукі пра чалавека, яго псіхіку, і фізіялогію, і марфалогію, цалкам зменіць погляд на сутнасць самой з'явы жыцця і нават паўплывае на мадыфікацыю многіх паняццяў у фізіцы, хіміі, гісторыі, антрапалогіі, сацыялогіі… Ну, бачыш… Падумай толькі!

— Разумею, Караль. Але як вы дасце справаздачу пасля вашых вопытаў, яны ж забаронены законам?

— Гэтага я яшчэ не ведаю. Гэта, зрэшты, няважна. У параўнанні з маштабам саміх адкрыццяў пытанне нашай асабістай бяспекі выглядае проста смешна. Аднак падумаем пра гэта. Можа, некаторыя часткі нашай справаздачы мы абмяркуем на тайным пасяджэнні. Цяпер скончым нашу падрыхтоўку… Кунокі якраз прывязе пэўныя неабходныя даныя пасля найноўшых назіранняў аднаго з маладых швейцарскіх біёлагаў. Набліжаецца вялікі дзень, дарагі Багдане!

— Віншую цябе, Караль, а скажы мне, што ты, чорт, зробіш са сваім «трусятнікам»?

— Ах, менавіта! Даруй, што і на гэты раз я не запрасіў цябе цалкам бескарысліва. Ведаеш, для канчатковага выніку не хапае нам яшчэ праверкі на новым аб’екце сакраторнай рэакцыі задняй долі гіпофіза на ўвядзенне ў кроў на раннім этапе цяжарнасці злучэнняў брому, што амаль напэўна павінна ўплываць на павелічэнне жоўтых цел, ці на лепшае працяканне цяжарнасці. У той жа час трэба абавязкова паўтарыць вопыт з бікарбанатам натрыю. Гэта павінна быць зроблена неадкладна. Ты сам прызнаеш маю праўду, калі я табе скажу, што гармон Эванса, які выпрацоўвае пярэдняя доля гіпофіза, не толькі ўплывае на рэгуляцыю росту плода, але і пад уздзеяннем гарманальных сакрэтаў міждольнага шэрага рэчыва прадвызначае пол дзіцяці. Дык вось, увядзенне ў арганізм маці бікарбанату натрыю павялічвае актыўнасць шэрага рэчыва, гарантуючы без найменшага сумнення мужчынскі пол будучаму дзіцяці, і пацвердзіць гэта назіранне за лютэінізацыяй ужо на шостым тыдні цяжарнасці.

— Хвілінку, хвілінку, а што ж такое лютэінізацыя?

— Якраз выдзяленне жоўтых цельцаў, якія спрыяюць нармальнаму працяканню цяжарнасці. Зрэшты, гэта не твае справы. Хопіць таго, што я хацеў цябе прасіць пра… новага «трусіка»…

Друцкі страшна скрывіўся, а прафесар узяў яго за руку:

— Я вельмі прабачаюся за маю навязлівасць, але ты адзіная мая надзея. Я пазнаёміўся з адной вельмі непрыемнай і нечаканай прафесіяй. Уяві сабе, што, не хочучы больш злоўжываць тваёй дабрынёй, я здабыў патрэбны аб’ект даўняй дарогай, праз адну з нелегальных акушэрак. Маладзенькая, інтэлігентная дзяўчына, правільна складзеная і развітая, словам, здавалася б, выдатны аб’ект. У той жа час ужо пры пачатковым аглядзе Кунокі сцвярджае — не паверыш — цнатлівасць! Я правяраю. Без сумнення, плява не парушаная. Паколькі бываюць нават і такія апладненні, мы праводзім дэталёвыя даследаванні на ўтрыманне гармонаў пад назвай праланы ў мачы. Гэта найлепшы і надзейны метад выяўлення цяжарнасці на ранняй стадыі. Дык вось, мы страцілі дзесяць маладых мышэй — і нічога. Пацыентка — стапрацэнтная дзяўчына. Проста акушэрка падманула. Такім чынам, я аказаўся без патрэбнага аб’екта і ты мая адзіная надзея.

— А што ты зробіш з гэтай дзяўчынай?

— З дзяўчынай? — прафесар не стрымаў смех. — Ах, Багдане, ты ніколі не адвыкнеш ад погляду на свет праз прызму твайго полу! Хм… Я яшчэ не ведаю, што зраблю з ёй. У любым выпадку я не магу яе адпусціць яшчэ і таму, што бедалажка хворая. Яна, відаць, перажыла моцны псіхічны стрэс. У дадатак, гэтая баба дала ёй такую порцыю настою з *cannabis indica*, ці з індыйскіх канопляў…

— Гэта з іх робяць гашыш?

— Так. Але акушэрка, якая не ўмее дазіраваць, дала гэтай малой столькі настою, што як мінімум толькі праз тыдзень я змагу прывесці яе арганізм у парадак. Словам, мне ад гэтага не толькі ніякай выгады, а яшчэ і шмат клопатаў, а я проста па вушы заняты падрыхтоўкай да паездкі ў Сарбону.

Друцкі згадзіўся. Ён абяцаў, што пастараецца ў найбліжэйшыя дні знайсці нешта адпаведнае. Ён успомніў, што Зоська згадвала яму пра нейкую дзяўчыну, якая жыве ў Грохуве і прасіла маці Зоські параіць, як пазбавіцца ад цяжарнасці.

Прасядзеў Друцкі ў Бруніцкага да вечара за размовамі пра панну Лэнску і Пятра. Да панны Лэнскай, на жаль, ужо не вернецца голас, яна, праўда, пачы-

нае гаварыць, але пра спевы не можа быць і размовы. Яна навучылася пісаць на машынцы і выстуквае цэлымі днямі на «раялі» справаздачы Бруніцкага, які, дарэчы, мог паверыць толькі некаму абсалютна дастойнаму даверу. З яе будзе добрая супрацоўніца, тым больш што выявілася яе шчырая зацікаўленасць у навуцы і яна ходзіць на заняткі па медыцыне.

— Можа, яна больш, чым супрацоўніца? — па-сяброўску спытаўся Друцкі.

Прафесар усміхнуўся і пачаў гаварыць пра Пятра. Яго ўжо не чапляла падабенства сына да Друцкага. Наадварот, ён сам пачаў адшукваць розныя супадзенні ў іх характарах і густах і не мог выказаць словамі захапленне хлопцам.

У «Аргенціне» было ўжо шмат публікі, калі Друцкі з’явіўся ў зале і, як звычайна, пачаў вітацца з гасцямі. Перад трэцяй гадзінай ён выйшаў праз службовыя дзверы, дзякуючы чаму мог заўважыць амбала, які хаваўся ў нішы варот насупраць, а трое стаялі паводдаль і падавалі таму нейкія знакі. Уся іх увага была скіраваная на аўто Друцкага, якое стаяла перад галоўным выхадам. Дурні!

Друцкі перад самым іх носам сеў у таксі і праз пяць хвілін быў ужо дома.

## Раздзел 26

— Во, паглядзіце, — сказала Зоська, падаючы Друцкаму нейкі нямецкі ілюстраваны штотыднёвік, — як гэта пані на фатаграфіі падобная да той, што да вас сюды прыходзіла. Гэты часопіс прыходзіць да адной сям’і з трэцяга паверха, што зараз сядзіць на лецішчы. Я ўчора там праветрывала і якраз паштальён аддаў.

Друцкі шырока адкрыў вочы. Перад ім была выява Аліцыі, а подпіс абвяшчаў: «Зорка польскага правасуддзя падпракурор Аліцыя Горн прыме паўнамоцтвы кіраўніка пракуратуры Варшаўскага акруговага суда, замяшчаючы выйшаўшага ў адпачынак пракурора Мартыновіча. Гэта новае пацвярджэнне аксіёмы, што жанчына ў любой прафесіі можа з поспехам канкурыраваць з мужчынам і самога яго прымусіць прызнаць яе перавагу над многімі супернікамі супрацьлеглага полу…»

Друцкі адклаў часопіс. Яму прыйшло ў галаву, што Аліцыя павінна быць вельмі рада свайму кар’ернаму росту і з цягам часу, напэўна, увогуле забудзецца пра яго і пра сваё каханне, якое яна сёння яшчэ лічыць вечным. З часу іх апошняга разрыву яна тэлефанавала яму адзін раз пад маркай просьбы, каб знішчыў усе яе лісты (хоць ведала, што ён даўно ўжо гэта зрабіў) і напісала яму вельмі доўгі ліст, у якім паўтараліся ўсе клятвы і абяцанні з мальбой выдзеліць ёй хоць крыху часу, які ён траціць на першых найпрыгажэйшых са спатканых жанчын… Ён не адказаў, а праз некалькі дзён атрымаў новы ліст, у якім быў толькі адзін сказ: «Памятай, што я не ўмею прабачаць».

Ён ведаў пра гэта, але зараз быў заняты справамі, якія патрабавалі надзвычай шмат увагі, каб выдзеліць час і думаць пра Аліцыю.

Бандыты, нанятыя Фаерсонамі, пастаянна суправаджалі Друцкага, і не было спосабу пазбавіцца ад іх інакш, як праз паведамленне ў паліцыю, што было б раўназначна арышту як Фаерсонаў, так і Залкінда. Канечне, такі шлях нават не прыйшоў Друцкаму ў галаву. Тым больш што Залкінду пагражала двухгадовае зняволенне за ўдзел у махінацыі цесця Фаерсонаў, пра якую Друцкі нічога добрага не ведаў і ведаць не хацеў.

Акрамя таго, ён рыхтаваў «труса» для Бруніцкага.

Гэта была маладая манікюрка, якая на гэты момант засталася без працы і паходзіла з таго самага маленькага мястэчка, што і маці Зоські. Распытваючы яе пра гэтую дзяўчыну, Друцкі лёгка здабыў шмат патрэбнай яму інфармацыі. Манікюрку звалі шматабяцальна: Цеплік, Ірэна Цеплік. Ёй было дваццаць гадоў, і жыла яна ў Грохаве. Ва ўладальніка цырульні, у якой яна працавала, быў з ёю раман, і ён ад яе пазбавіўся, як толькі яна зацяжарыла, а сам пераехаў некуды на Памор’е.

Друцкі лёгка адшукаў у Грохаве маленькі домік з садочкам, які належаў адстаўному чыгуначнаму кандуктару і яго сястры, таксама старой бабульцы. Цеплікуўна здымала ў іх паддашак. Друцкі некалькі разоў ездзіў туды, перад тым як яму ўдалося пазнаёміцца з дзяўчынай. Зрабіў ён гэта проста, карыстаючыся тым, што домік стаяў наводшыбе, на значнай адлегласці ад іншых. А менавіта, калі заўважыў дзяўчыну ў садочку, то спыніў машыну і папрасіў у дзяўчыны шклянку вады. Пасля трэцяга візіту ён з ёй быў ужо на кароткай назе. Пазнаёміўся Друцкі і са старымі, якім дзяўчына прадставіла яго як даўняга кліента з цырульні і, відаць, дала ім зразумець, што гэты мужчына хоча з ёй ажаніцца. Падчас чацвёртай сустрэчы яна сама прызналася яму ў падмане, тлумачачы яго тым, што пратэрміноўвае аплату і, акрамя таго, старая пачынае яе падазраваць.

У гэты час Друцкі рашыўся на максімальна простую і ясную развязку справы. Ён растлумачыў дзяўчыне, што мог бы даць ёй грошы на пазбаўленне ад плода, але шкада яе здароўя, аднак, калі яна пагодзіцца нарадзіць дзіця, то і сама, і малое будуць пад надзейнай апекай у аднаго вельмі багатага прафесара, які і пасаду для яе потым знойдзе, і пасаг дасць. Трэба толькі, каб яна дома сказала, што едзе ў іншы горад, напрыклад, у Кракаў, і каб ні словам не ўпамінала аб прафесару.

Дзяўчына раздумвала два дні і нарэшце згадзілася. Развітваючыся вечарам, дамовіліся, што заўтра ў дзесяць вечара Друцкі па яе прыедзе. Старыя ўсяму вераць і пра яе «нарачонага» адгукаюцца з захапленнем.

Адразу пасля вяртання дамоў Друцкі па тэлефоне паведаміў прафесару, што заўтра ў дзесяць трыццаць ён даставіць «трусіка». Бруніцкі ўзрадаваўся, але папрасіў перанесці дастаўку на паўгадзіны пазней, таму што ён хоча сам паехаць на вакзал па Пятра, які прыязджае з Закапанэ якраз у дзесяць з хвілінамі, а прафесар хацеў бы быць дома ў момант прыезду пацыенткі.

Назаўтра Друцкі ва ўмоўлены час пад’ехаў да брамкі саду ў Грохаве. Аднак ён не паставіў «фулд» перад самай каліткай, як гэта заўсёды рабіў, таму што тут над дарогай звісалі галіны дрэў, мокрых ад вечаровага дажджу. Толькі таму ён пераставіў машыну на некалькі дзясяткаў крокаў далей і спыніў пад плотам, не ўяўляючы, наколькі гэта паўплывае на далейшы ход справы.

Дзяўчына з радасцю павіталася з Друцкім, аднак старой, якая настойвала прыгатаваць ёй што-небудзь паесці ў дарогу, каб утаіць сваю гатоўнасць, сказала, што яна яшчэ не вырашыла: ехаць ці застацца.

— Ой, даражэнькая мая, ён кажа, што кахае і не можа без мяне жыць. Але я зусім за ім не бегаю і не паехала б, калі б не тое, што я яго баюся.

Старыя абое паўшчувалі яе за гэта, а Друцкі заліваўся ад смеху, седзячы на ганку і чуючы ўсю размову. Калі Цеплікуўна выйшла да яго і спыталася, выглянуўшы за брамку, дзе машына, ён падвёў яе да тыльнага плота.

— А хіба тут змесціцца мой кош? — пажартавала дзяўчына. — Хто яго ведае, добрая гаспадыня столькі мне ўсяго гатуе… Ну, можа, пакуль пасядзім на лавачцы? Яна, відаць, высахла ўжо…

— Ціха! — схапіў яе за руку Друцкі і стаў як укапаны. Ён бы пакляўся, што чуў скрып брамкі і прытоеныя крокі. Але зноў усталявалася поўная цішыня.

— Мне здалося, — сказаў ён. — Так цёмна… Вось тут гэтая лавачка?

— Тут, пад язмінам… Езу!!!

У гэты ж момант пачуўся стрэл, другі, трэці… З кустоў выскачыў нейкі цень, побач прамільгнуў другі… Друцкі бліскавічным рухам дастаў рэвальвер і чатыры разы стрэліў па ўцекачу. Ён хацеў бегчы за ім, але спатыкнуўся і ледзь не ўпаў. Упоцемках ён намацаў плячо дзяўчыны, якая ляжала на зямлі. Пад пальцамі адчуў кроў. Кулі з кустоў, відаць, трапілі ў яе… Яна параненая…

Друцкі схіліўся над ёй, каб яе падняць, але раптам адчуў моцны ўдар у плячо і ўпусціў рэвальвер. У той жа час ён адчуў на спіне чыесьці жылістыя рукі і тут жа побач пачуў прыглушаны свіст. З боку кустоў адказалі таксама.

Друцкі зразумеў, што адзінае выйсце — уцёкі, і проста да тыльнага плота. Адным падкідваннем ён вызваліўся ад захопу і, нанёсшы праціўніку хуткі ўдар у шчаку, пераскочыў праз клумбу, некалькімі крокамі дасягнуў плота, пераскочыў і праз пяць секунд быў ужо ў аўто. Ён націснуў на стартар і рушыў якраз у момант, калі рэшта банды, якая сцерагла на дарозе ля каліткі, зарыентавалася і бягом акружала сад, каб дагнаць яго. Не ўключаючы фар, Друцкі звярнуў на бакавую дарогу і даў поўны газ.

«На гэты раз яны добра спрацавалі. Іх было пяцёра ці нават шасцёра, — падлічваў ён, — і калі б не гэтая цемната, я быў бы ў іх руках. А дзяўчына альбо параненая і самлела ад страху, ці… Чорт… Раптам Друцкі спыніў машыну: — А калі гэта была паліцыя?.. Нонсенс… Канечне, людзі Фаерсонаў. Калі, аднак, ім удалося збегчы, а пэўна ж ніхто іх тут не мог затрымаць, калі дзяўчына загінула…»

Ён вельмі выразна ўсвядоміў небяспеку, якая можа яму зараз пагражаць. Зразумела, калі Цеплікуўна мёртвая. І нават у іншым выпадку. Ён жа павінен будзе растлумачыць паліцыі, куды хацеў забраць гэтую дзяўчыну… Справа дрэнь…

Ён не паехаў дадому, а прама на Наваліп’е. Трэба было перш за ўсё параіцца з Залкіндам. На шчасце, ён быў дома. Друцкі папрасіў, каб яго пакінулі аднаго ля тэлефона і пазваніў Бруніцкаму.

— Караль, мяне не чакай, — сказаў ён, — выйшла вельмі брыдкая гісторыя. Я некалькі дзён буду хавацца, пакуль не выявіцца, нападуць на мой след або не. Ні пра што мяне зараз не пытай і, наколькі можна, трымайся на людзях.

— Гэта жахліва, — адказаў Бруніцкі, — заўтра я павінен паехаць у Парыж, бо паслязаўтра ў мяне справаздача ў Сарбоне… Хм… Тут усё трэба пакінуць на доктара Кунокі. У любым выпадку, я не думаю, што паліцыя можа зацікавіцца маім домам.

— Пакуль, канечне, не, але потым, чорт яго ведае. Зрэшты, Кунокі не будзе адзін, ёсць твой сын, а калі мяне не зловяць, то я таксама, калі што якое, буду пра яго памятаць.

— Я быў бы табе ўдзячны, тым больш што Пятра я не магу цалкам увесці ў курс справы.

Яны перакінуліся яшчэ некалькімі фразамі і развіталіся. Друцкі паклікаў Залкінда, і яны заселі за доўгую нараду. Было ўжо позна, калі яны, грунтоўна ўзважыўшы сітуацыю, прыйшлі да высновы, што пакуль не будзе вядома, ці напала паліцыя на яго след, адна з давераных асоб Залкінда адгоніць «фулд» у гараж на Налеўках.

## Раздзел 27

З моманту вяртання ў прытомнасць Юлька не магла пазбавіцца ад панічнага страху, які адольваў яе пры любым шуме, любым водгаласе людскіх крокаў. Нервовае ўзрушэнне, якое яна перажыла ў страшнай кватэры акушэркі, зусім зламала яе волю, дарэшты вычарпала яе псіхічныя сілы, якія і так у апошнія некалькі месяцаў прайшлі не абы-якое выпрабаванне на трываласць. Да таго ж, атрута, якой яе напаілі, настолькі падкасіла фізічныя сілы, што Юлька, не ўсведамляючы, чаму яна так робіць, на ўсё, што яе акаляла і што было такое чужое і пагрозлівае, рэагавала сімуляцыяй страты прытомнасці.

У яе замірала сэрца, калі ў белую камеру турмы, у якой яе трымалі, уваходзіў японец-маўчун, мераў яе пульс, паднімаў павекі, сілай адкрываў вусны, прымушаючы піць нейкія салёныя або агідныя горкія вадкасці, калі ўбіваў пад скуру іголку з нейкай ін’екцыяй. Нарэшце з’явіўся суровы мужчына ў акулярах, яны з японцам перакінуліся шэрагам фраз па-лацінску, і мужчына сказаў:

— Сімуляцыя… Мая дарагая, вы робіце так, як стары дасведчаны майскі жук, які робіць выгляд, што мёртвы, але і жук так доўга б не вытрываў у гэтай ролі, асабліва калі б убачыў, што яму ніхто нічога дрэннага не робіць.

Гэта значна падбадзёрыла Юльку. З гэтага дня японец і строгі мужчына час ад часу прыходзілі пагаварыць, і Юлька паступова пачала аднаскладова адказваць на пытанні. Цяпер яна разумела, што яе тут ніхто не збіраецца крыўдзіць, што гэта род турэмнага санаторыя або клінікі, а можа, дом для вар'ятаў. Праз нейкі час яна асмелілася нават спытацца пра гэта. Тады яе запэўнілі, што яна знаходзіцца ў прыватным доме на лячэнні, што здароўе яе хутка паправіцца і што яна зможа вярнуцца ў Варшаву. Адсюль яна зрабіла выснову, што знаходзіцца недзе далёка на вёсцы. Увогуле абодва мужчыны рэдка гаварылі пра нешта, што было б для яе крыніцай хоць якой інфармацыі. Толькі раз, відаць, не думаючы, што яна разумее па-англійску, яны пры ёй дыскутавалі пра тое, загіпнатызаваць яе ці не. Строгі мужчына ў акулярах быў супраць гэтага, сцвярджаючы, што ў іх няма часу на сур'ёзныя вопыты, а паколькі тут няма цяжарнасці, эксперымент дзеля самога эксперыменту быў бы ў некаторай ступені злоўжываннем. Японец настойваў на сваім, сцвярджаючы, што неабходна высветліць, навошта нейкая Буфалова даставіла такую пацыентку. У гэтым павінна хавацца нешта надта падазронае. Урэшце ён, аднак, згадзіўся, што на гэта будзе час пасля вяртання прафесара з Парыжа.

Юлька прыслухоўвалася да гэтага з затоеным дыханнем і прыйшла да высновы, што яе становішча, аднак, адчайнае. Відаць, яна апынулася тут, таму што яе падазравалі, што яна была каханкай пана Вінклера і што яна стане маці. Яна доўга не спала ўначы, ламаючы сабе галаву над разгадваннем загадкі. Можа, яна стала ахвярай якой-небудзь суперніцы… Але на якой падставе яна магла дапусціць, што Юлька ў цікавым становішчы… Яна ж увогуле нікому не давяралася, не расказвала пра сваё каханне да пана Янка, ні пра іншае, што магло б кінуць на яе такое агіднае падазрэнне… Нікому…

Раптам ёй трапіла думка: «Я скардзілася Юзэфовай на слабасць і што…»

Мозг працаваў ліхаманкава: Юзэфова магла сказаць Аліцыі. Аліцыя павінна была звязаць гэта прызнанне з панам Янкам… Яе суперніцай была менавіта Аліцыя… Божа…

— Не, не… — схапілася яна за скроні, — так нельга нават думаць!!!

Лягчэй было забараніць сабе думаць, чым адагнаць надакучлівую думку ў доўгія, неймаверна доўгія гадзіны адзіноты. Бяздзейнасць пачала ёй невыносна надакучваць. Таму яна ўрэшце вырашыла папрасіць, каб японец даў ёй хоць якую работу. Назаўтра яе просьба была задаволена. Яна павінна была ўрачыста паабяцаць, што будзе паслухмянай і не дазволіць сабе зазіраць туды, куды ёй забаронена, пасля чаго ёй далі белы халат і правялі ў пакой, які нагадваў лабараторыю. Яна павінна была пастэрылізаваць мноства бліскучых хірургічных інструментаў і складваць іх у шкляныя ёмістасці, якія потым трэба змясціць пад пэўнымі літарамі ў шафах. Юлька была захоплена гэтай працай, не гаворачы ўжо пра задавальненне ад таго, што яна пакінула на некалькі гадзін свой пакой-камеру. У гэты ж дзень яна ўбачыла вельмі прыгожую жанчыну ў такім самым халаце, як і яна, якая ішла па лесвіцы на другі паверх. Жанчыла ўсміхнулася Юльцы, але нічога не сказала. Назаўтра, калі яна скончыла работу ў лабараторыі, японец спытаўся, ці любіць яна дзяцей, а на яе станоўчы адказ праводзіў дзяўчыну ў іншы пакой, дзе ў маленькім ложачку знаходзілася дзяўчынка-калека з жахліва вялікімі вачыма і цалкам сівымі валасікамі, якой было каля паўтара года.

Юлька атрымала паперку з правіламі абыходжання з малой, яна павінна была яе выкупаць і даваць ёй лекі з пранумараваных бутэлечак. Да вечара яна пазнаёмілася з новай асобай. Гэта быў каржакаваты, барадаты служка, які прынёс нейкі вялікі металічны апарат і, не глянуўшы на Юльку, выйшаў. Праз хвіліну прыйшоў мужчына ў акулярах і, агледзеўшы дзіця, памясціў яго ў апарат, даручыўшы Юльцы прынесці з пакоя нумар 14б тоўстую чорную кнігу.

Так паступова Юлька знаёмілася з гэтым дзіўным домам, які быў поўны людзей, што не бачылі адно аднаго. На першым паверсе, у маленькіх пакойчыках, такіх самых, як і яе пакой, жылі чатыры жанчыны, з якімі ёй нельга было размаў-

ляць пад пагрозай «арышту». Наверсе пакояў павінна было быць значна больш, мяркуючы па колькасці порцый, якія некалькі разоў на дзень туды завозіў ліфт з кухні, што знаходзілася ў падвале. Наверсе таксама быў большы пакой з шасцярымі немаўлятамі і другі з дваімі блізнятамі. Там гаспадарыла гэтая прыгожая жанчына, якая ёй трапілася першай і якая, як яна хутка заўважыла, была нямая. Тут, аднак, павінна быць клініка, нават бальніца, таму што ўсе жанчыны, якія тут знаходзіліся, былі або ў цікавым становішчы, або кармілі. Апошнія патрабавалі найбольшай увагі, таму што не толькі іх саміх трэба было даглядаць, але трэба было вельмі дакладна прытрымлівацца гадзін кармлення, калі ім прыносілі немаўлят.

Некаторыя пацыенткі спрабавалі размаўляць з Юлькай, але яна, баючыся, што яе не выпусцяць больш з пакоя, а таксама стараючыся стрымаць абяцанне, не адказвала ніводным словам. Юльку прымушала задумацца велізарная розніца ўмоў, у якіх знаходзіліся насельніцы гэтага дома. У адных былі пакоі з каляровымі шыбамі, засцеленыя дыванамі, поўныя рознакаляровых тканін, у другіх — голыя сцены, белыя або шэрыя, затое грамафоны, радыёпрыёмнікі і музычныя інструменты, а іншыя проста душыліся ад паху распыленай парфумы. Больш за тое, кожная атрымлівала сваю ежу, па-іншаму была апранутая і адносіны да кожнай былі розныя — ад амаль грубай строгасці да надзвычайнай пяшчотнасці. Кожная асобна хадзіла на прагулку альбо ў сад, акружаны вельмі высокай сцяной, альбо на прасторную тэрасу на даху.

Акрамя жылых пакояў, Юлька пабывала ў цэлым шэрагу такіх, дзе былі абсталяваны розныя лабараторыі, поўныя дзіўных апаратаў, аперацыйныя зальчыкі, газавыя ванны, асвятленне з кварцавых лямп, маленькія звярынцы з пацукамі, трусамі, катамі і марскімі свінкамі. Яна, аднак, усведамляла, што не мае ўяўлення пра ўсю вялікую частку дома, дзе жыў мужчына ў акулярах, якога японец называў прафесарам і ў якога на футляры ад акуляраў была манаграма «К.Б.». Прафесар да японца звяртаўся «калега».

Вось што ўжо ведала Юлька, калі рызыкнула спытацца ў японца (ён ствараў уражанне больш адкрытага чалавека), за што, кім і на які тэрмін яе сюды змясцілі. Яна атрымала адказ, які, праўда, няшмат праясніў, але ў любым выпадку быў суцяшальным:

— Адбылася памылка. Пасля вяртання прафесара з паездкі, а гэта ўжо хутка, вы зможаце нас пакінуць. Я вас запэўніваю, што памылка, якую дапусцілі не па нашай віне, будзе вам кампенсавана такім спосабам, які вы самі выберацe.

Прымушала Юльку задумацца і тое, чаму ні прафесар, ні доктар не пачынаюць з ёй размову пра яе. «Альбо я іх цалкам не цікаўлю (тады навошта яны мяне тут трымаюць?), альбо ў іх няма на гэта часу». Сапраўды, абодва гэтыя мужчыны былі пастаянна занятыя і, відаць, нават вельмі мала спалі. Юлька ўначы не раз, калі была замкнутая ў сваім пакоі, чула іх крокі на калідоры.

І яна не спала начамі. Чым хутчэй яе пакідала дэпрэсія, тым мацней адклікалася ў ёй туга па пану Янку, які, пэўна ж, забыўся пра яе, але ўсё яшчэ шукае. Калі б яна толькі магла нейкім чынам даць яму пра сябе знаць… А можа, ён ужо лічыць яе памерлай? Можа, Аліцыя так запоўніла яго жыццё, што памяць пра маладую няшчасную дзяўчыну цалкам сцерлася з яго свядомасці… О, Аліцыя напэўна зрабіла ўсё, каб аддаліць яго ад ненавіснай кузіны… Аліцыя… Ці магла б яна аддаць Юльку той страшнай жанчыне, якую прафесар назваў тады падчас размовы па-англійску Буфаловай?.. Не, не…

Менавіта начамі Юлька ўслухоўвалася ў шумы, менавіта начамі ўглядалася ў шыбы змешчанага высока ў столі акна, чакаючы, што ў любы момант за ім пакажацца ў змроку сілуэт пана Янка, які — як у дэтэктыўным рамане — адшукаў яе і ідзе выкрадаць… Сапраўды, чаму б яму так не зрабіць?.. Для яго няма нічога немагчымага!..

Гэтым ранкам прафесар паехаў па Пятра. Юлька даведалася пра гэта толькі ў адзінаццаць, калі японец з’явіўся на калідоры і адчыніў дзверы яе пакоя са словамі:

— Ну, зараз вы павінны будзеце замяніць прафесара! У нас сёння маленькая аперацыя. Падрыхтуйце, калі ласка, аперацыйнае крэсла ў пятым пакоі. Я хутка адвяду пацыентку наверх і адразу прыйду туды.

Доктар сёння падаваўся нейкім весялейшым і больш разняволеным, чым звычайна. Гэты настрой перадаўся і Юльцы. Яна пабегла ў пяты пакой і праз чвэрць гадзіны была гатовая. Гэты пакой знаходзіўся ў самым канцы калідора, побач з тоўстымі акаванымі дзвярыма, якія вялі ў незнаёмую Юльцы частку дома. Гэтыя дзверы зусім не мелі ручак, і прафесар з доктарам адчынялі і замыкалі іх заўсёды ключамі.

Як жа Юлька здзівілася, калі ўбачыла зараз, што яны прыадчыненыя. Доктар пакінуў іх так з-за рассеянасці. Спакуса была надта вялікая, і Юлька зазірнула: малы, высцелены лямцам калідорчык, які заканчваецца іншымі дзвярыма, а калі і гэтыя адчыненыя… Сэрца забілася мацней. На дыбачках Юлька падышла да тых дзвярэй і паклала пальцы на ручку. З другога боку яна пачула чыесьці крокі і хацела ўжо адступіць, калі да яе данёсся голас, які прымусіў яе аслупянець. Яна прытулілася да дзвярэй… Божа!.. Яна не магла памыліцца… З таго боку гэтых некалькіх гладкіх дошак быў пан Янэк. О, яго голас яна пазнала б на іншым канцы свету, і голас, і яго любімую амерыканскую песеньку, якую немагчыма забыцца і якую яна пазнавала з кожным новым словам…

«It’s a long way to Tipperary, It’s a long way to go...»[1]

Яна пачала з апошніх сіл стукаць кулакамі ў дзверы і крычаць:

— Пан Янэк, я тут, ратуйце, ратуйце, ратуйце!!!

Спеў у момант змоўк, а Юлька працягвала:

— Ратуйце! Ратуйце! Ратуйце!

Юлька пачула цяпер гучны тупат ног, і дзверы пад моцным ударам расчыніліся з такім шумам, што рэха пайшло па ўсім доме.

Юлька адступіла і знерухомела: перад ёй стаяў малады чалавек у белым тэнісным касцюме як дзве кроплі вады падобны да пана Янка, але такі малады, што яна сама не ведала, гэта ён ці нехта загрыміраваны… У той жа час яна пачула, як ён звяртаецца да яе голасам пана Янка:

— Што адбылося? Пажар? Што з вамі?..

І выраз твару ў яго быў, як у таго, калі ён быў занепакоены. Юлька хацела нешта сказаць, але ў гэты момант за яе спінай пачуліся спешныя крокі. «Гэта, відаць, доктар — прамільгнула ў яе галаве, — яны мяне зноў замкнуць!» Юлька кінулася наперад і, хапаючы свайго збаўцу за руку, закрычала ў панічным страху:

— Выратуйце мяне, абараніце мяне!.. Яны мяне заб’юць!.. Малю вас!..

Малады чалавек адным рухам загарнуў яе за сябе і, сціснуўшы кулакі, стаў у абараняльную пазіцыю, гаворачы:

— Спакойна! Не бойцеся. Я за сябе пастаю, толькі не трымайце мяне за локаць, бо гэта мяне…

Ён не скончыў. Занавеска, што аддзяляла выбітыя дзверы ад пакоя, у якім яны знаходзіліся, рэзка адкрылася і з’явіўся задыханы японец, які крычаў страшным прыглушаным шэптам:

— Зараз жа вяртайцеся! Неадкладна! — доктар паспрабаваў схапіць Юльку за руку, але малады чалавек захіліў яе сабой і пагрозліва сказаў:

— Стоп, доктар! Я вас вельмі паважаю, але гэтую дзяўчыну чапаць не дазволю!

---

[1] It’s a long way to Tipperary, It’s a long way to go... *(англ.)* — радкі прыпеву маршавай песні брытанскай арміі «Доўгі шлях да Тыперэры».

— Пане Пётр, гэтая дзяўчына павінна зараз жа вярнуцца! Пусціце яе хутчэй!

— Гэтая дзяўчына туды не вернецца, пан доктар, калі яна не хоча, а сілай гэта зрабіць я не дазволю.

— Пан Пётр! — узбуджана крычаў японец. — Гэта супраць волі вашага бацькі! Не перашкаджайце мне выконваць яе!

— Хай сабе нават супраць волі ўсяго свету, — халодна адказаў малады чалавек, — але гэта дзяўчына не вернецца туды, толькі па сваёй волі, даю вам слова джэнтльмена. Я не ведаю, чым вы яе пакрыўдзілі, але яна прасіла ратунку, даверылася, і мне цікава, пан доктар Кунокі, што б вы самі сказалі пра мужчыну, які зрабіў бы ў такім выпадку іначай, чым я?

— Але ж, пан Пётр, вы многага не ведаеце, вы не ўяўляеце, да якіх страшных наступстваў для вашага бацькі можа прывесці гэта несвоечасовае рыцарства! Зрэшты, я магу вас запэўніць, што гэтай дзяўчыне нічога, абсалютна нічога не пагражае. Я нават здзіўляюся, што яна зрабіла так неабачліва.

— Прабачце, доктар, — не змяняючы абарончай пазіцыі, перарваў малады чалавек, названы Пятром, мы губляем час. Вы хочаце туды вярнуцца? — спытаўся ён у Юлькі.

— Не, не, абараніце мяне! — шаптала яна дрыжачым голасам.

— Значыць, усё вырашана. Вы можаце мне давяраць. Ніхто не асмеліцца прымусіць вас вярнуцца туды.

Доктар Кунокі бачыў, што ён бяссільны. Ён, праўда, мог паклікаць на дапамогу служкаў і нават абяззброіць гэтага малакасоса, але гэта пацягнула б за сабой шмат складанасцей, найперш трэба было б абавязкова замкнуць і Пятра аж да вяртання прафесара. Таму Кунокі выбраў шлях перамоў. Пётр адразу згадзіўся з прапановай, каб дзяўчына засталася ў холе пад яго апекай, але каб не магла выйсці з вілы да той пары, пакуль не вернецца доктар і не паразмаўляе з Пятром і з ёй. Цяпер ён павінен быў абавязкова пакінуць іх сам-насам, таму што трэба было рабіць аперацыю адной пацыентцы. Праклінаючы ў душы сваю неасцярожнасць, што не зачыніў другія дзверы, ён выйшаў, замыкаючы іх з падвойнай увагай.

Пётр нерухома стаяў, праводзячы вачыма доктара, калі адчуў на руцэ гарачыя кроплі слёз і дотык дрыжачых вуснаў. Ён рэзка вырваў далонь і ўсклікнуў:

— Што вы робіце! Як можна!.. Ну, чаму вы плачаце? Ужо ўсё мінула. Сядайце сюды і супакойцеся!

— Не магу, не магу, — усхліпвала яна, — вы да мяне такі добры, ніхто так да мяне не адносіўся, вы такі высакародны!..

Пётр усадзіў яе на канапу і, заняўшы месца побач, пачаў тлумачыць, што ён не высакародны, а такі, якім быў бы ў такой сітуацыі кожны мужчына. Яна пакрысе супакойвалася і пачала гаварыць, што ён нават не ведае, каго выратаваў, ці заслугоўвае яна гэтага, што клікала яго, бо яго голас, ды і сам ён цалкам падобны да аднаго старэйшага мужчыны, найлепшага і найцудоўнейшага чалавека на свеце, што яна страшна няшчасная, бо на ўсёй зямлі ў яе нікога блізкага няма, што яе каварна завабілі ў жахлівую нару і далей хаатычна, але ў дэталях яна расказала яму ўсё, што з ёй здарылася аж да моманту вызвалення.

Малады чалавек слухаў са зморшчаным ілбом і сціснутымі зубамі. Загарэлая скура яго твару станавілася ўсё бляднейшай, на скронях выступілі жылы. Як жа ён зараз быў казачна падобны да пана Янка!.. Юлька гаварыла далей, а калі змоўкла, яе абаронца ўстаў і сказаў:

— Шаноўная пані, даю вам слова гонару, што, тысяча чарцей, са мной вы будзеце ў поўнай бяспецы, а з тымі, хто вам прычыніў шкоду, як і з тымі бандытамі на вуліцы Паньскай, я разбяруся.

Ён быў такі ўзрушаны і ўзбуджаны, што голас яго дрыжаў.

Калі потым праз чвэрць гадзіны вярнуўся Кунокі, ён застаў Пятра яшчэ больш непрымірымым. Дарма ён адвёў яго ў бок і падрабязна тлумачыў сітуацыю, дарма пераконваў. Пётр заявіў, што гэта ўсё яго не цікавіць і ён не збіраецца ўмешвацца ў справы доктара і свайго бацькі, але гэтую дзяўчыну ён не пакіне, і рукі прэч ад яе. Кунокі мусіў скарыстацца ўсімі сваімі дыпламатычнымі здольнасцямі, каб Юлька, а таксама Пётр, згадзіліся часова застацца ў доме прафесара, ужо не ў клініцы, а тут, у пакоі прафесара.

Увесь пасляабедзенны час Пётр правёў з Юлькай. Яна павінна была яшчэ раз дэталёва апісаць ход падзей, шчаслівым фіналам якіх было іх спатканне. На змярканні ёй захацелася расказаць Пятру сваю гісторыю цалкам, яна распавяла пра Аліцыю, якая пачала яе ненавідзець і хацела выслаць далёка на ўскраіну, пра пана Вінклера, якому аднаму адзінаму яна цалкам давярала, бо гэта адзіны высакародны чалавек на свеце, а пан Пётр — другі, пра свае падазрэнні, пра недарэчныя, канечне, падазрэнні, што, можа, гэта Аліцыя, жадаючы пазбавіцца ад Юлькі, зрабіла з яе прынаду…

Пётр выказаў здагадку, што такое падазрэнне магло з'явіцца толькі пад уплывам стрэсу і гэта, безумоўна, нонсэнс ад пачатку і да канца. Калі, аднак, Юлька не любіць больш сваячку і не хоча да яе вяртацца, то можа пасяліцца тут альбо дзе захоча, а прафесар павінен знайсці ёй добрую пасаду, натуральна, калі яна хоча працаваць, а, зрэшты, зараз лепш за ўсё ні пра што не думаць, пакуль яна не супакоіцца пасля гэтых жахлівых перажыванняў…

Вечарам Пётр сам прынёс Юльцы вячэру, а на яе падзяку адказаў поглядам, у якім можна было прачытаць, што дзеля яе ён быў бы гатовы на ўсё і проста не можа зразумець, як маглі знайсціся такія, хто рашыўся ўчыніць столькі подласцей. У яго ўжо быў запісаны адрас пана Вінклера і гэтай бабы на Паньскай. Да пана Вінклера ён збіраўся пайсці заўтра раніцай, каб растлумачыць яму сітуацыю і параіцца наконт далейшага лёсу Юлькі. На Паньскую, аднак, ён вырашыў пайсці яшчэ сёння, бо не вытрымаў бы больш.

Юлька ўбачыла яго толькі назаўтра ранкам. Выглядаў ён жахліва. Быў увесь у сіняках, на лбе меў вялікі шнар, заклееньі пластырам, і рука яго была перавязаная, але настрой — выдатны. На яе страх і спачуванне ён адказваў смехам і жартаўлівым запэўніваннем, што ўчора ў яго была вельмі цікавая размова з адным лысым мужчынам і з адной элегантнай дамай і што праз пару месяцаў, калі згаданыя асобы будуць адчуваць сябе крыху лепш, ён ім зноў нагадае элементарныя правілы салоннай гульні, якая называецца бокс.

Тут жа падчас сняданку ён сказаў доктару Кунокі:

— Здаецца, пане доктар, што праз гэтыя дзверы, якія я выламаў, у маё жыццё ўвайшло нешта такое, што людзі называюць шчасцем…

— Шчасце, пане Пётр, — усміхнуўся японец, — захоча — уваходзіць праз акно, захоча — праз выламаныя дзверы, толькі не нармальным шляхам, праз адчыненыя, але такім жа чынам любіць і ўцякаць.

— Не ад мяне, доктар, — нахмурыў бровы Пётр, — у мяне дастаткова моцныя лапы, халера, каб яго ўтрымаць… Акрамя таго, я не ведаю, ці захоча яно ўвогуле ўцякаць.

Кунокі, які лепей разбіраўся ў гармонах, чым у афтальмалогіі, па выразе вачэй Юлькі, калі бачыў яе праз некалькі хвілін падчас развітання з маладым чалавекам у яе пакоі, зрабіў выснову, што ў гэтым выпадку «нешта такое» не пакідала ўражання планаваных уцёкаў.

Пётр вярнуўся з горада каля поўдня і паведаміў Юльцы, што не змог пабачыцца з панам Вінклерам, таму што ён надоўга пакінуў Варшаву.

Не мог жа ён ёй сказаць праўду, не мог чарговы раз расчараваць гэтую бедную, цудоўную, каханую дзяўчыну тым, што чалавек, якога яна лічыла ўвасабленнем высакароднасці, яе сябар, быў арыштаваны за забойства.

## Раздзел 28

Перыяд замяшчэння Аліцыяй Горн пракурора Акруговага суда быў такім адносна рэдкім часам, калі праз канцылярыю пракуратуры праходзіла не толькі шмат выключна важных спраў, што давалі здольнаму яе начальніку надзвычай шырокія магчымасці паказаць сябе, але і, з-за ўвядзення ў дзеянне закона аб часовых судах, абцяжарвала яго вялікай адказнасцю і такім чынам адкрывала шырокую перспектыву вялікай кар'еры.

А начальнікам гэтым была якраз падпракурор Аліцыя Горн.

Суд судом, але даўно не было такога тэмпу працы і такіх вялікіх патрабаванняў, накіраваных з кабінета пракурора ў адрас следчых, паліцыі і непасрэдна падначаленых. Суд судом, але ў гэтых сценах не памяталі такога пракурора, які б настолькі заўзята расследаваў злачынствы, які б днём ці ноччу асабіста з'яўляўся на месца кожнага з іх, нават самага апошняга гатунку, так жыва ўдзельнічаў у следстве, ну і так геніяльна ўмеў ім кіраваць.

— Баба робіць нечуваную кар'еру! —ківалі галовамі калегі.

І зусім не ведалі, наколькі неабходнай была Аліцыі гэта пякельная праца, гэтай прыгожай жанчыне, у якой пад непарушнай маскай спакою звіваліся ў адчайным болі ўсе нервы, усе думкі і пачуцці. Не ведалі, што гэта халодная, стрыманая жанчына вечарамі стаіць пад асеннім дажджом ля варот дамоў, толькі б хоць мімалётна пабачыць сілуэт чалавека, які якраз праходзіць побач з іншай, што гэтая гордая і прыгожая жанчына, якая магла б кінуць да сваіх ног любога, потым вяртаецца дадому і рве на сваёй галаве валасы, і б'ецца ёй аб цвёрдае дрэва падлогі, і сціскае грудзі, каб яны не разарваліся ад рыданняў… Ніхто гэтага не ведаў.

Кожны ранак з-за яе стала гучалі кароткія дакладныя распараджэнні, загады, даручэнні, якія не дапускалі пярэчанняў, заўсёды бязлітасныя, але трапныя. Яна цяпер радзей стаяла перад судом, аднак калі гэта адбывалася, абаронцы разводзілі рукамі — яна прыходзіла толькі па смяротнае пакаранне і ніколі без яго не вярталася.

Так, аднойчы глыбокай ноччу яе выклікалі па тэлефоне з-за новага, загадкавага злачынства: у Грохаве ўчынілі забойства. Выстралам з рэвальвера забілі безабаронную манікюрку, вельмі прыгожую дзяўчыну, якая павінна была стаць маці. Злачынец збег на ўласным аўтамабілі, здаецца, маркі «фулд»… Здаецца таксама…

— Зараз, зараз, пан камісар, — ледзь стрымліваючы дрыжанне голасу, перарвала Аліцыя, — якой маркі?

— «Фулд», шаноўная пані. Па вас заехаць?

Канечне, яна вырашыла зараз жа ехаць у Грохаў. Па дарозе яна даведалася пра дэталі папярэдняй экспертызы, якую правёў веласіпедны патруль, што праязджаў міма. Уладальнікі доміка, у якім жыла забітая, далі паказанні, што забойца абяцаў шлюб, а вечарам прыехаў па нарачоную і сядзеў на лаўцы ў садзе. Потым яны пачулі шматлікія выстралы, а калі выбеглі ў садок, то знайшлі Цеплікуўну мёртвай на зямлі недалёка ад лаўкі. У забойцы з ахвярай, відаць, даўно быў раман, таму што ён часта наведваўся да яе і заўсёды прыязджаў на шэрым двухмесным аўтамабілі, які выглядаў, паводле апісання, несумненна як «фулд». Камісар, калі даведаўся адрас, адразу ж па тэлефоне выдаў распараджэнне затрымліваць любую машыну падобнага выгляду ў радыусе двухсот кіламетраў ад Варшавы.

Аліцыя слухала справаздачу з напружанай увагай. Цяпер яна амаль не сумнявалася, хто забойца. У горадзе — як яна ведала ад самога Друцкага — было толькі з паўтара дзясятка «фулдаў», а адзіны шэры быў яго. Рэшту няўпэўненасці развеялі допыты пенсіянера-чыгуначніка, бабулькі і некалькіх самых блізкіх суседзяў, якія неаднаразова бачылі нарачонага Ірэны Цеплікуўны. Ён, па праўдзе, выглядаў «панам з паноў»: высокі, элегантны, ветлівы, але ўжо з самага пачатку яму нельга

было давяраць. Акрамя гэтых меркаванняў, і апісанне знешнасці цалкам супадала. Аповед пра манеры ўладальніка «фулда» і яго адносіны да Цеплікуўны для Аліцыі таксама мелі каштоўнасць як рэчавы доказ.

Аднаго яна толькі не магла зразумець, а менавіта — мэты забойства. Дапусціўшы нават, што Друцкі быў бацькам дзіцяці ахвяры і абяцаў з ёю ажаніцца (што ўжо было непраўдападобна), навошта яму яе забіваць… Не, яна надта добра яго ведала, каб дапусціць тут момант парыву, помсты ці рэўнасці, а тым больш боязі наступстваў сувязі з ім. Жаданне прыбытку выключалася само сабой. Дык з якой жа мэтай?.. Неасцярожнае абыходжанне са зброяй? Самазабойства ахвяры? І гэта немагчыма, таму што ў яго не было б тады нагод для ўцёкаў, бо выстрал адбыўся з адлегласці самае малое пяці крокаў (значыць, самазабойства выключаецца!), таму што на месцы злачынства быў знойдзены рэвальвер з чатырма выстраленымі зарадамі і чатыры гільзы тут жа побач (можна адзін раз выстраліць выпадкова, але чатыры — ніколі!).

Такім чынам, што было матывам забойства?.. Для людзей, якія зараз хадзілі тут з электрычнымі ліхтарыкамі, свецячы ў адкрытыя вочы трупа і рэканструюючы ход злачынства, усё было цалкам зразумела. Спакушальнік хацеў забраць сваю ахвяру, вывезці куды-небудзь далей і там забіць. Яна яму супраціўлялася, дык ён і забіў. Відаць, ён быў вымушаны ад яе пазбавіцца, таму што яна ведала нейкую яго тайну і пагражала скандалам. Крыху дзіўнай акалічнасцю была вялікая колькасць слядоў, але гэта тлумачылася тым, што па размяклай пасля дажджу зямлі патапталіся цікаўныя суседзі, што ж да паказанняў старых, дык яны дакладна чулі больш як чатыры выстралы: спачатку з пяць, а потым пяць ці шэсць — гэта належала спісаць на рахунак памылкі відавочцаў. Стрэлаў было чатыры, гэта значыць, столькі, колькі патронаў не хапае ў кінутай забойцам зброі.

Так лагічна разважаў судовы следчы, камісар, доктар, паліцэйскія і зявакі, якія сабраліся пад плотам. Аднак Аліцыя Горн думала інакш. Тым не менш, яна не выказвала свайго пункту погляду. Ніколі, асабліва цяпер, яна не лічыла слушным дзяліцца сваімі ідэямі з іншымі да пэўнага моманту. Аднак яна даўжэй распытвала гаспадароў пра развіццё падзей, даўжэй разглядвала рэшткі спаленых ахвярай папер у малой бляшанай печачцы на гарышчы, уважлівей вывучала сляды ног на сцежцы, чым іншыя. Яна рабіла гэта таму, што ведала: уладальнік аўто не мог учыніць гэта злачынства, таму што ім быў Багдан Друцкі, якога яна ведала як аблупленага.

Паколькі яна са свайго пункту гледжання вывучала справу, то заўважыла іншыя рэчы, чым астатнія. Такім чынам, навошта Друцкі выкінуў бы рэвальвер, навошта бачыўся з дзяўчынай з пэўнага моманту тут, на вачах у людзей, навошта ахвяра пісала лісты нейкаму «Самаму Каханаму» на Памор'е, лісты, якія пошта ёй вяртала як непрынятыя адрасатам, чаму, маючы такога каханка, як Друцкі, яна маліла пра каханне кагосьці іншага?.. Чаму ён яе забіў? Чаму чулі больш, чым чатыры стрэлы, чаму ён увогуле страляў, ён мог забіць яе без шуму, а калі страляў, то чаму з вялікай адлегласці?..

Несумненна, шмат пераканаўчых доказаў указвала на яго як на вінаватага ў злачынстве, аднак Аліцыя Горн была ўпэўнена, што ён невінаваты. Між тым, начальнік Следчага ўпраўленя ўжо дзейнічаў.

Назаўтра ў дзесяць раніцы Аліцыі далажылі, што аўто належала ўладальніку клуба «Аргенціна» Яну Вінклеру, які нядаўна абвінавачваўся ў гандлі наркотыкамі, але быў апраўданы. Зараз ён хаваецца, але яго кватэра пад наглядам, а тэлефонныя апараты ў клубе і ў яго кватэры праслухоўваюцца. Пэўна ж Вінклер не змог пакінуць горад, таму што дарожныя пасты не прапускалі яго машыну. Птушка лёгка вылеціць з хованкі, бо пасля прачытання пасляпаўдзённых газет даведаецца, што следства ўстановіць самазабойства Цеплікуўны ў выніку спрэчкі з нарачоным, вадзіцелем уласнага аўто з невядомым нумарам маркі «чэстар».

Дасведчаны начальнік Следчага камітэта не памыляўся. Прынада спрацавала адразу ж. У дзесяць вечара Яна Вінклера, уладальніка клуба «Аргенціна», арыштавалі шэсць агентаў тайнай паліцыі ў момант, калі ён уваходзіў у вароты дома на праспекце Шуха. Яго тут жа даставілі на Данілавічоўскую і зладзілі допыт.

Пракурорка Аліцыя Горн сядзела ў суседнім пакоі, адкуль магла добра чуць усе пытанні, якія задавалі арыштаванаму, і ўсе яго адказы. Ён не прызнаваўся. Сцвярджаў, што так, ён ведаў памерлую, што бываў у яе, што ўчора вечарам заехаў па яе, але ў момант, калі размаўляў з ёй, з кустоў перад лаўкай пачуліся стрэлы і некалькі незнаёмых яму людзей кінуліся на яго, выбілі з яго рукі рэвальвер, з якога ён выстраліў па нападаўшых чатыры разы. Хто яны былі, ён не мог растлумачыць, чаму яны напалі на яго, не мог зразумець. Ці ведаў ён, што Цеплікуўна была цяжарная?.. Так, ведаў. Ці даўно ён жыў з ёй?.. Увогуле не, яна ніколі не была яго каханкай. Ага! Дык чыёй?.. Нейкага цырульніка, у якога яна працавала, перш чым ён згарнуў сваю справу і паехаў на Памор’е. А куды ж тады пан Вінклер выбіраўся з гэтай дзяўчынай?..

Пасля доўгай паўзы ён адказаў. Ён меў намер забраць яе да сябе. «Цяжарную жанчыну да сябе? Хітруеце, пане Вінклер, я раю вам памятаць, што вы можаце патрапіць пад часовы суд! Ну, я адвяду вас зараз у камеру і да раніцы папрашу добра падумаць, ці не лепей ва ўсім прызнацца!»

— Можаце не турбаваць сябе паўторным допытам, — спакойна адказаў арыштаваны, — я сказаў усё, што мог. А парады і павучанні прыберажыце для сябе.

Пасля размовы з начальнікам і судовым следчым, упэўненасць якіх у віне арыштаванага ўзрасла, Аліцыя заявіла ім, што насамрэч лічыць, што гэта справа ў кампетэнцыі часовага суда, і таму яна просіць аб паскарэнні следства такім чынам, каб ужо заўтра пасля абеду акты былі перададзены ў пракуратуру.

Праз хвіліну яна ўжо ехала ў Грохуў. Не толькі знаёмства з Друцкім, але і інстынкт прыроджанага крымінолага падказваў ёй, што Друцкі не забіваў Цеплікуўну, што, хоць ён і не ведае, але, відаць, не хоча выдаваць следству сапраўдных вінаватых, якія, тым не менш, існавалі. А калі існавалі і стралялі з-за кустоў, у кустах павінны знаходзіцца гільзы таго самага калібру, што і куля, вынятая з цела забітай, гэта ясна. Таму што ўсе чатыры гільзы ад выстралаў Друцкага знайшлі каля пакінутага ім браўнінга, наяўнасць у кустах яшчэ некалькіх гільз такога ж калібру, але, несумненна, не з браўнінга Друцкага, абвяргала б канцэпцыю следства і была б нагодай для непрымянення часовага суда. Пакуль гэта магло паспрыяць таму, што абвінавачанаму пагражала б не смяротнае пакаранне, а некалькі гадоў турмы або нават поўнае апраўданне. Аліцыя ведала, што ўжо заўтра зранку, пасля паўторнага падрабязнага допыту Друцкага, следства можа зацікавіцца месцам пад кустамі. Таму яна сама вырашыла паехаць туды раней…

Яна спыніла таксі перад дамком, у якім было патушана святло. Брамка была адчыненая. Асвятляючы сабе дарогу ліхтаром, яна адразу адшукала месца, на якім учора ляжаў труп. Аліцыя зрабіла некалькі крокаў наперад, расхінула галіны і павольна перамяшчалася, даследуючы глебу сантыметр за сантыметрам і адначасова стараючыся не пакінуць сваіх слядоў. Зямля тут была яўна вытаптана, і на ёй ляжалі раскіданыя тры латуневыя гільзы.

Аліцыя выняла з сумкі хустачку, асцярожна сабрала іх і, закрыўшы, схавала ў сумачку. Друцкі гаварыў праўду. Гаварыў праўду, але зараз ужо не мог яе даказаць.

Аліцыя Горн не спала ўсю ноч. Яна трымала яго зараз у сваіх руках. Тыя следчыя надта грэбавалі паказаннямі Друцкага, каб захацець пашарыць кусты язміну. Значыць, пасля атрымання актаў яна зможа запатрабаваць запоўніць гэты прабел следства, у яе будзе час адвезці гільзы браўнінга на месца альбо проста выкінуць іх на сметнік. Так, ён зараз быў у яе руках. І яна здолее скарыстацца гэтым…

Хто мог страляць у Цеплікуўну? Каму была патрэбна яе смерць? Зразумела, Друцкі добра гэта ведае, але па нейкіх прычынах не хоча гаварыць. Магчыма, у Багдана заўсёды былі складаныя адносіны з жанчынамі. Але тут?.. Анатаміраванне трупа паказала, што Цеплікуўна была на пятым месяцы цяжарнасці. Значыць, і тут Друцкі гаварыў праўду, ён не мог быць бацькам гэтага дзіцяці, ён тады адпачываў на моры. Што ж яго звязвала з гэтай дзяўчынай?..

Аліцыя ўважліва агледзела гільзы, адчыніла стол, бакавы тайнік, каб пакласці ў яго гэты каштоўны рэчавы доказ. Там ляжалі толькі запіскі наконт знікнення Юлькі. Яна машынальна ўзяла іх у рукі і пачала праглядаць. Распіска Буфаловай пра атрыманне тысячы злотых, расследаванне пра машыну №76032W, што належыць прафесару Бруніцкаму, які скупляе цяжарных дзяўчат… Раптам Аліцыя адклала запіскі і здрыганулася: «Цеплікуўна была цяжарная!.. Друцкі сябраваў з Бруніцкім!..»

«А-а-а-а… вось яно што! Дык прафесар мог падзяліцца з ім і тым, што Юлька ў яго або што яна ў яго была, пакуль яшчэ… жыла. Значыць, Багдан займаўся дастаўкай жывога тавару ў навуковую бойню Бруніцкага…»

Справа станавілася ўсё больш складанай. Нават горш! Небяспечнай для самой Аліцыі. Яна ўзяла ўсю волю ў кулак, каб прымусіць сябе ясна і спакойна мысліць.

Яна ведала адно: калі Друцкі ведае пра лёс Юлькі, Аліцыя прапала. Яго нічым не падкупіш, нават цаной уласнай свабоды.

Ногі Аліцыі падкошваліся… Але яна была не з тых, хто адступае. Такім чынам, вынікам бяссоннай ночы быў дакладны план дзеяння.

Найперш любой цаной трэба было выключыць магчымасць уцягвання Бруніцкага ў справу забойства ў Грохуве. Акрамя папярэджання пра гэта Друцкага, што цалкам лагічна, існаваў і значна больш сур'ёзны шлях: атрымаць забарону зверху, з Міністэрства юстыцыі.

У восем раніцы выконваючая абавязкі пракурора Акруговага суда Аліцыя Горн па тэлефоне папрасіла аб аўдыенцыі, а ў дзесяць была прынята міністрам.

Яна прадставіла справу коратка: ёсць доказы, што ў сувязі з адным малаважным працэсам пэўныя шантажысты хочуць скампраметаваць аднаго з карыфеяў нашай навукі, прафесара Караля Бруніцкага, які якраз і праславіў нашу краіну на ўвесь свет сваімі вялікімі адкрыццямі, пра што з энтузіязмам піша прэса Еўропы і Амерыкі, кампраметацыі гэтай нельга дапусціць, таму што ўжо сёння гэта было б роўна кампраметацыі ўсёй Польшчы. А размова, уласна кажучы, пра дробязь. Дык вось, прафесар ва ўласным доме трымае тайную клініку, у якой праводзіць навуковыя вопыты, тэарэтычна не дазволеныя законам. Пракуратура канфідэнцыяльным шляхам канстатавала, што ў гэтых вопытах няма нічога амаральнага, па меншай меры, няма нічога, што б выходзіла за межы дробнага злачынства. Аднак, улічваючы сённяшнюю велізарную славу прафесара Бруніцкага, выяўленне гэтых рэчаў выклікала б каласальны розгалас і стала б сусветным скандалам.

Дык вось, ці не лічыць пан міністр, што варта гэта папярэдзіць выключэннем магчымасці ўмяшання асобы прафесара ў любы адкрыты працэс.

Пан міністр не толькі так лічыў, але нават сардэчна падзякаваў падпракурору Аліцыі Горн за такую мудрую празорлівасць і за такія дзяржаўна-творчыя адносіны да пытання. Адначасова ён уручыў ёй пісьмо, у якім выключалася магчымасць кампраметацыі вучонага. Аднак папрасіў яе, каб яна канфідэнцыяльным шляхам адразу пасля прыезду прафесара ў краіну запатрабавала ад яго тут жа ліквідаваць клініку.

З міністэрства Аліцыя паехала адразу ў Следчы камітэт, каб у выпадку выяўлення ніцей, якія звязваюць абвінавачанага з Бруніцкім, адразу іх парваць на падставе рашэння міністра.

Аднак гэта аказалася цалкам збыткоўным. Аліцыі прадставілі пратаколы апошніх паказанняў Яна Вінклера. Яны не адрозніваліся ад папярэдніх. Гэты

вар'ят проста не меў паняцця, што сам на ўласнай шыі зацягвае пятлю, нават не спрабуючы ратавацца, раскрыўшы сапраўдных вінаватых, нават шляхам тлумачэння сваёй ролі ў знаёмстве з «жывым таварам» для Бруніцкага.

Аліцыя, між іншым, спыталася, ці не даследавалі месца забойства другі раз, і, атрымаўшы запэўненне, што гэта было б бессэнсоўна, паехала ў суд. Праглядаючы прэсу, яна знайшла аб'ёмныя артыкулы пра новыя поспехі вялікага польскага вучонага ў Лонданскай каралеўскай акадэміі і не менш аб'ёмныя справаздачы з ходу следства па справе забойства ў Грохуве. Усе газеты ўтрымлівалі навіну пра тое, што забойцу свеціць часовы суд у надзвычайным парадку і што абвінавачваць яго будзе, як падало адно з «жоўтых» выданняў, «анёл смерці» нашых судоў падпракурор Аліцыя Горн…

Працэдура праходзіла хутка і па правілах. Да вечара справа Яна Вінклера была перададзена ў пракуратуру, і ў адпаведнасці з гэтым арыштаванага перавезлі ў турму на Павяку і пасадзілі ў асобную камеру, прычым турэмныя ўлады атрымалі паведамленне, што ў дзевяць раніцы в.а. пракурора Аліцыя Горн прыбудзе з мэтай асабістай гутаркі з абвінавачаным.

І другую бяссонную ноч Аліцыя правяла ў роздумах. Ніводную сваю прамову ніколі яна не рыхтавала так дэталёва, як зараз абдумвала заўтрашнюю размову з Багданам Друцкім, чалавекам, жыццём якога яна магла распарадзіцца так, як пажадае.

Яна хадзіла па пакоі і заклінала яго самымі чулымі словамі, пагражала яму самым страшным, што толькі можа быць, маліла яго, каб ён, які так любіць жыццё, паколькі павінен будзе з ім развітацца, няхай ахвяруе яго ёй! Яна пагодзіцца на ўсё, будзе самай пакорнай з жонак, будзе яго нявольніцай, не стане на дарозе яго фантазій ці мімалётных захапленняў, абы толькі ён пагадзіўся застацца з ёй назаўсёды… Яна выратуе яго жыццё, але хоча мець на гэта жыццё хоць маленькае, хоць толькі фармальнае права…

Ці ж можа ён адвергнуць гэтую ахвяру, ці здолее адштурхнуць яе, калі, маючы магчымасць прыйсці і размаўляць загадным тонам, яна стане перад ім з мальбой пра ласку?.. Не, ён не можа яе адштурхнуць, не здолее!..

Так думала Аліцыя Горн. Так думала да моманту, калі адчыніліся дзверы кабінета начальніка турмы і на парогу з'явіўся абвінавачаны, якога прывёў наглядчык. Апошні на ўзмах яе рукі адказаў паклонам і знік.

Яны засталіся сам-насам.

Друцкі быў бледны, вусны яго былі сціснутыя, а вочы спакойныя і абыякавыя. Ніводным жэстам ён не паказаў, што ўзрушаны нечаканым для яго спатканнем у такіх новых ролях. Без слоў ён сеў на ўказанае яму крэсла.

Аліцыя пачала гаварыць. Ціха, спакойна, вельмі спакойна, хоць і хацела крычаць. Яна гаварыла ў першую чаргу пра забойства. Усё сведчыла супраць яго. Вельмі дрэнна, што ён не хоча сказаць, каго падазрае ў нападзе, што не кажа, навошта хацеў забраць Цеплікуўну. Ці не звязана гэта нейкім чынам — неспадзявана спыталася Аліцыя — з асобай прафесара Бруніцкага?

Ніводзін мускул не здрыгануўся на яго твары, аднак з погляду, якім ён прабег па яе вачах, яна зразумела, што не памылілася.

— Што Бруніцкаму да маіх асабістых спраў, Аль, навошта ты ўвогуле сюды прыйшла? Усё, што я мог сказаць, я ўжо сказаў. А нам з табой няма пра што гаварыць. Калі ты будзеш мяне абвінавачваць у судзе, вер мне, я магу быць прызнаны забойцам, але не буду прызнаны неджэнтльменам.

— Як мне гэта разумець, Бох?

— О, гэта проста. Я не зраблю нічога, што б магло цябе скампраметаваць, і як пракурора, і як жанчыну. Калі ты прыйшла сюды па гэта, то вяртайся спакойна і спакойна выконвай свае абавязкі.

— Я не па гэта сюды прыйшла, Бох, не па гэта… Ты мне не павінен даваць такіх гарантый. Я сама гэта ведала… Я прыйшла ратаваць цябе.

Друцкі паглядзеў на яе і пацiснуў плячыма:

— Вельмі ласкава з твайго боку. Калі я са свайго боку не павінен буду памяняць паказанні, а ты, нягледзячы на гэта, зможаш выцягнуць мяне з гэтай гісторыі, у якой я не вінаваты… Я буду табе шчыра абавязаны.

— Бох… Табе пагражае смяротнае пакаранне!!!

— І я так думаю, — сказаў ён праз хвіліну, — калі мне не павераць, відаць, так. Ну, а што ты хочаш за сваю дапамогу, мая прыгожая Аль?

— Ты мяне ненавідзіш, Бох!

— Зусім не, — паматаў ён галавой, — я настолькі больш убогі за многіх бліжніх, што ўвогуле не маю ў сваім багажы такога пачуцця. Калі ж гаварыць пра цябе, Аль, то быў час, калі я думаў, што кахаю цябе. Так… так… І шкада, што я не магу цябе нават любіць. Не магу любіць цябе пасля таго, што ты зрабіла з Юлькай… Гэта асудзіла справу…

Аліцыя пабляднела і прашаптала:

— Што я з ёй зрабіла?..

— Ты зрабіла, даруй, брудна, на мой погляд, вельмі брудна, карыстаючыся сваёй перавагай, ты вымусіла яе з’ехаць… Гэта да канца сапсавала маё стаўленне да цябе… Але давай не будзем кранаць сентыментальныя ўспаміны. Ты можаш мяне выратаваць, але па тваім тоне я чую, што на нейкіх умовах. Дык я слухаю.

— Я цябе кахаю, Бох… Я цябе кахаю да вар’яцтва, кахаю так, як не могуць сабе ўявіць іншыя жанчыны, якіх ты пускаеш у сваё жыццё… Бох!.. Вярніся да мяне… Ведаеш, я не змагу жыць з думкай, што мне нельга нават глядзець на цябе… вярніся да мяне!.. Я нічога ад цябе не хачу, я нічога не буду ад цябе патрабаваць, дазволь мне толькі быць ля цябе!..

— Дарагая Аль, я павінен гэта разумець так: ты мяне выратуеш, а я ўзамен павінен быць тваім каханкам?.. Не, Аль, я думаў, што ты пра мяне лепшага меркавання. Я не хачу цябе крыўдзіць, таму давай спынім гэту размову. Загадай адвесці мяне ў камеру.

Аліцыя схапіла яго за руку. Бязладныя, непрытомныя словы скатваліся з яе вуснаў. У шырока раскрытых вачах гарэў жах… Яна адмяняе ўсё, што сказала, адракаецца ад усяго, не ставіць ніякіх умоў, моліць толькі пра літасць, яна не зможа без яго жыць і сто разоў жадае смерці, смерці і яго, і сваёй… Яна выратуе яго і так, а ён потым зробіць, як сам захоча.

Друцкі лагодна паклаў далонь на яе руку: спакойна, перш за ўсё, спакойна, і больш самавалодання. Акрамя таго, няхай разумее, што прыняцце дапамогі ад яе ўжо само па сабе накладала б на яго маральныя абавязкі, навязвала б яму доўг, які б ён не мог заплаціць без пагарды да самога сябе, гэта было б для яго горшай няволяй, чым любая іншая. Яна ж павінна зразумець, што ён не можа прыняць ад яе таго, што, ужо зыходзячы з саміх умоў, у якіх ён зараз апынуўся, было б для яго самым невыносным цяжарам. Паміж імі ўсё скончана, па ўсіх рахунках заплачана, і трэба змірыцца з гэтым.

Паступова Аліцыя прыходзіла ў сябе. Яна хвіліну маўчала, апусціўшы галаву, а калі падняла яе, сказала ціха, ледзь чутна:

— Ты маеш рацыю, Бох, да пабачэння… Я разумею, што ты не хочаш прыняць маю ахвяру, але ведай, што іншай я зрабіць не змагу. Бывай, Бох.

Яна націснула гузік званка і сухімі, як шкло, вачыма глядзела на акаваныя дзверы, якія замыкаліся за ім.

## Раздзел 29

Калі яго ўвялі, у перапоўненай да краёў зале ўсталявалася цішыня. У параўнанні з пакоем, у якім ён да гэтага часу сядзеў, тут было так светла, што даволі доўга ён не мог разгледзець рысы людзей, якія займалі нават самыя блізкія шэрагі лавак.

Ён бачыў толькі скучаныя галовы і сотні пар вачэй, скіраваных на яго. Не адрозніваючы яшчэ іх выразу, ён адчуваў, што глядзяць яны на яго зычліва і з нейкім спалоханым спачуваннем, з якім чулыя людзі прыглядаюцца да таго, хто памірае і каму яны не могуць дапамагчы. У іх поглядзе быў нібыта сорам і ў гэтай цішыні як бы затойванне дыхання перад момантам блізкай катастрофы.

Ён не ведаў, чаму, але яму прыгадалася Зоська. Ужо тады, калі ён выйшаў з закратаванай турэмнай машыны, ён адчуў проста дзіўную патрэбу ўбачыць гэтую дзяўчыну. І цяпер ён дарма шукаў яе ў зале. Ён пачаў пазнаваць знаёмых. Панна Лэнска, пані Хэлміньска, бармэн Грабоўскі, Тоня ў чырвоным берэце. Люба, якая сядзела з галавой, паднятай так, нібыта яна сама ішла на эшафот, побач Барыс, на твары якога застыла драпежная нерухомая маска. Касір Юстэк з тужлівай усмешкай на тоўстых жаласных вуснах. Палкоўнік Яшчолт, які пастаянна праціраў манокль, што заўсёды не хацеў трымацца на дрыжачых складках завялага твару. Тэця, уся ў чорным, як у жалобе, о — і Франя, старэйшая сястра Зоські… І столькі прыгожых, мілых жанчын, і столькі кампаньёнаў у вясёлых забавах, столькі знаёмых твараў і столькі ўспамінаў… Яны прыйшлі сюды, як на пахаванне…

Раптам у Друцкага з’явілася неадольнае жаданне выступіць перад імі з жартаўлівай прамовай, яшчэ больш жартаўлівай, чым тыя, за якія ў «Аргенціне» ён атрымліваў такія гучныя апладысменты. Ён з усмешкай кланяўся і ўжо адкрываў рот, калі да яго звярнуўся абаронца, мажны лысы мужчына ў тоўстых, выпуклых акулярах, які да гэтага моўчкі вывучаў акты…

Яму трэба была нейкая дробная інфармацыя, і ён даў кліенту некалькі ўказанняў наконт метадаў абароны. Ён гаварыў звязна, па сутнасці, і Друцкі быў перакананы, што, выбраўшы сабе абаронцам адваката Шарневіча, ён зрабіў правільна. Зрэшты, у Шарневіча была рэпутацыя самага бліскучага адваката ў крымінальных справах і яго лічылі не толькі выдатным знаўцам права, але і самым таленавітым прамоўцам.

Яшчэ падчас першай размовы, якая адбылася ў турме, Друцкі даведаўся ад яго, што, улічваючы паскораны парадак, справа ў лепшым выпадку скончыцца прысудам да пажыццёвага зняволення, строгім рэжымам. Шанцы пераносу працэсу ў звычайны суд маглі б з’явіцца толькі ў выпадку, калі б Друцкі адмовіўся ад прынятай ім тактыкі пакрывання фактычных забойцаў Цеплікуўны і з выяўленнем сапраўдных намераў у адносінах да яе.

Калі, аднак, Друцкі катэгарычна заявіў, што нічога ў сваіх паказаннях ён не зменіць, Шарневіч яго запэўніў:

— Я не збіраюся вам навязваць свае погляды, я не лекар дзіцячых хвароб і не гувернантка. Як адвакат жа я трымаюся правіла, што найперш варта ва ўсім дагадзіць кліенту. Такім чынам, калі вам хочацца даўжэйшага зняволення, а не карацейшага, я пакаруся вашай волі.

З гэтага часу ён ні разу не згадаў пра змену паказанняў, што цалкам задавальняла Друцкага. Перад самім працэсам ён толькі між іншым заўважыў:

— Абвінавачваць будзе пракурор Горн. Гэта самы небяспечны праціўнік з тых, на якіх мы маглі разлічваць.

— Я ведаю, — кіўнуў галавой Друцкі, — у працэсе аб морфіі яна таксама мяне абвінавачвала, і я быў апраўданы.

— Тут горш, — адказаў адвакат, — цяпер яна возьме рэванш. У любым выпадку, наколькі я магу меркаваць як псіхолаг, я раіў бы вам пастарацца пакінуць у абвінаваўцы станоўчае ўражанне пра сябе. Варта памятаць, што гэта жанчына, і я не думаю, каб які б тое ні было ўбор, хоць бы і пракурорская тога, мог дазволіць забыцца, што яна жанчына.

Друцкі ўсміхнуўся і нічога не адказаў.

Ён вельмі добра ўсведамляў небяспеку сітуацыі, у якой знаходзіўся. Ён верыў, што адвакат зробіць усё, што ў яго сілах, аднак ён быў упэўнены, што гэта мала дапаможа. Канечне, ён зусім не збіраўся пагаджацца на пажыццёвае зняволенне,

на якое яго, відаць, асудзяць. У думках ён пралічваў, што на падрыхтоўку ўцёкаў з Павяка яму хопіць месяца, няхай нават двух. І толькі яго тут бачылі. Ці з такіх турмаў ён здолеў збегчы! У Шатане[1] было тры сцяны, і кожная па восем метраў, у Сан-Антоніа чалавека трымалі, як дварняка, на ланцугу, два паверхі пад зямлёй. У Сінг-Сінг[2] краты электрызавалі, у Вальпараіса[3] кожную камеру адчынялі два наглядчыкі, а на даху стаялі кулямёты і пражэктары!..

Праз залу прабег шум. Друцкі агледзеўся: высокая, зграбная, з узнятай галавой, можа, толькі крыху бляднейшая, чым звычайна, увайшла Аліцыя. Спакойным плаўным крокам яна прайшла тут жа, побач з ім, кіўком галавы яна адказала салютуючым паліцэйскім і заняла сваё месца на ўзвышэнні. У той жа час прагучаў званок, урачыста адчыніліся дзверы і ўвайшлі суддзі.

Ля ўзвышэння і далей ля дзвярэй паставілі некалькі дзясяткаў крэслаў, якія занялі важныя судовыя і міністэрскія саноўнікі. Калі ў зале панавала засяроджаная цішыня, тут гучаў шумок размоў напаўголасу. Гэтыя знаўцы працэдуры не цікавіліся ўступнымі фармальнасцямі справы. Пакуль не пачуўся рэзкі хрыплы голас чытальніка акта абвінавачвання «супраць Яна Вінклера, сарака гадоў, сына Адама і Ганны, аб наўмысным забойстве, учыненым у адносінах да асобы Ірэны Цеплікуўны».

Чытальнік стараўся, відаць, выклікаць эфект жаху, таму што пафасна акцэнтаваў наймацнейшыя словы, а мімікай худога, аскетычнага твару ён падкрэсліваў высновы. Аднак у яго было не надта шырокае поле для выступлення, таму што акт абвінавачвання быў незвычайна кароткі і сціслы, хоць кожнае яго слова складвалася з другім, як гранітны блок ля блока ў цяжкую непахісную сцяну. Таксама і спіс сведкаў абвінавачвання ўтрымліваў толькі некалькі самых неабходных прозвішчаў. Аліцыя Горн, па словах адваката Шарневіча, не любіць рэжысіраваць драмы з вялікім складам. Чытальнік таксама абмежаваўся называннем чатырох асоб.

Асноўная частка. Спакойны, цёплы голас старшыні і дакладныя, простыя адказы Друцкага… Ён не прызнае сваёй віны. Ён цалкам пацвярджае свае паказанні, якія даваў падчас следства. На пытанне дакладчыка адказвае, што так, можа іх паўтарыць. З Цеплікуўнай ён пазнаёміўся выпадкова за два тыдні перад трагічным днём. Ён ніколі не збіраўся з ёй жаніцца, а хацеў забяспечыць яе матэрыяльна ў сувязі з цяжарнасцю дзяўчыны і адсутнасцю працы. Ён абяцаў размясціць яе ў сябе і ў той ракавы вечар прыехаў па яе. У момант, калі яны размаўлялі ў палісадніку, з кустоў пачуліся стрэлы. Друцкі зразумеў, што нападнікаў некалькі, і паколькі ў яго з рукі выбілі зброю, ён павінен быў ратавацца ўцёкамі…

Друцкі гаварыў спакойна і свабодна, падрабязна расказваў пра ход падзей, растлумачыў, што сапраўды хаваўся адзін дзень, жадаючы пазбегнуць падазрэння і арышту, бо ўсведамляў, што шмат доказаў сведчаць супраць яго. Аднак ён не сумняваецца, што будзе апраўданы.

Суддзя-дакладчык задае некалькі пытанняў, якія датычаць дат. Старшыня яшчэ раз пытаецца, ці не ведае абвінавачаны, хто і з якой мэтай мог страляць у Цеплікуўну ці ў яго, і, зноў пачуўшы запэўніванне, што абвінавачаны абсалютна ні пра што не ведае, дае слова Аліцыі. Узнікае першае пытанне:

— Абвінавачаны ўпэўнены, што ён не меў дачынення да цяжарнасці ахвяры?

Друцкі павярнуўся да той, хто пыталася, і спаткаў яе прамы смелы погляд.

— Так. Я ў гэтым упэўнены, таму што Цеплікуўна ніколі не была маёй каханкай. Я пазнаёміўся з ёй, калі яна была на пятым месяцы цяжарнасці.

---

[1] Шатан — невялікая вёска ў Англіі, у Дэрбішыры.

[2] Сінг-Сінг — амерыканская крымінальная ўстанова строгага рэжыму ў штаце Нью-Ёрк.

[3] Вальпараіса — горад у Цэнтральным Чылі ля падножжа Андаў.

— Ці з многімі жанчынамі ў падсуднага былі блізкія адносіны?

Друцкі ўсміхнуўся і ўжо хацеў адказаць станоўча, як абаронца сарваўся з месца, жадаючы адхіліць пытанне, якое не мела ніякіх адносін да справы.

— Як жа, — запярэчыла Аліцыя, — гэта мае непасрэднае дачыненне да справы, таму што мы не ведаем, як шмат было каханак у падсуднага, і, магчыма, яго падводзіць памяць у адносінах да Цеплікуўны.

— Я ніколі не лічыў сваіх каханак, — амаль весела адказаў Друцкі і падумаў, што Аліцыя, аднак, рызыкоўная і смелая.

Яна, між тым, пыталася зноў:

— Значыць, абвінавачаны сцвярджае, што меў намер паклапаціцца пра Цеплікуўну. Чаму менавіта пра яе, чужога чалавека, выпадковую знаёмую? Ці былі яшчэ такія жанчыны, пра якіх клапаціўся падсудны?

— Не, не прыгадваю…

— Дык чым абвінавачаны тлумачыць свой выключны гуманізм менавіта ў гэтым выпадку? Можа, аднак, былі нейкія маральныя абавязацельствы? Ці проста звычайны капрыз?..

Адно за другім сыпаліся пытанні. Трапныя, дакладныя, звязаныя ў шчыльную сетку паслядоўнасці, якія з усіх бакоў асаджалі лабірынтам пацверджанняў, а з-за іх ужо не бачылася выйсця. Друцкі амаль фізічна адчуваў, як камяк за камяком выслізгвае ў яго з-пад ног зямля. Потым, паступова ён пачаў заўважаць, што кожнае слова, якое ён прамаўляў у сваю абарону, павінна было быць прадбачана Аліцыяй, што было падсунута яму проста для таго, каб стала новым звяном у абвінавачванні.

Ужо цяпер, гаворачы, ён ведаў, што сведчыць сам супраць сябе, і толькі чакаў наступнага пытання, якое тлумачыла сапраўдную мэту папярэдняга, ставячы адначасова новую пастку.

Ён заўсёды лічыў Аліцыю прафесіяналам у гэтым сэнсе, але ніколі не дапускаў, што гэтае майстэрства можна было развіць да такога ўзроўню дасканаласці. Ён прыгледзеўся да яе тактыкі, якая заключалася ў падрыванні рэштак даверу да яго праўдзівасці, грунтавалася на знішчэнні ўсялякіх шляхоў назад і доказванні яго ўяўнай хітрасці, яго амаральнасці і жывёльнага эгаізму.

Аліцыя знішчала ўсё, што толькі магло сведчыць на яго карысць, знішчала ўсе магчымыя шанцы абароны, дыскрэдытавала верагоднасць акалічнасцей, якія сведчылі на яго карысць. Яна свядома абмінала сутнасць справы, ніводным пытаннем не закранула сам працэс забойства, не старалася паставіць кропку ў пытанні матываў, якімі мог кіравацца Друцкі ў сваіх дзеяннях у адносінах да Цеплікуўны, але менавіта таму яны выступалі яшчэ выразней, набываючы выгляд аксіёмы.

Хутка бегала пяро сакратара, натуючы кожнае кінутае слова, кожнае слова, цяжар якога адчуваў не толькі Друцкі, але і ўся зала, якая затаіўшы дыханне слухала трагічны дыялог двух галасоў: металічнага альта і сакавітага, нізкага барытона…

Адвакат Шарневіч сядзеў, занурыўшыся над сваімі паперамі, і рабіў выгляд, што не звяртае ўвагі на тое, што дзеецца вакол яго. Калі старшыня даў знак, ён ачуўся і, у сваю чаргу, стаў задаваць пытанні. Публіка іх нецярпліва чакала ў надзеі, што знакаміты абаронца паставіць пад сумненне факты, якія ўнушыла суду пракурор. Аднак усіх, а асабліва сяброў Друцкага, чакала прыкрае расчараванне. Друцкі, уласна, таксама не хаваў здзіўлення, калі адвакат спытаўся:

— Вы не маглі б нам сказаць, што, па-вашаму, з'яўляецца мэтай чалавечага жыцця?

— Мэтай?.. Гэта залежыць ад чалавека…

— Я маю на ўвазе вас.

— Мая мэта… Думаю, само жыццё… Здабыванне з яго максімуму радасці, прыгажосці, не ведаю, сонца…

— Разумею. А што вы лічыце найвялікшым скарбам жыцця?

— Свабоду, — не раздумваючы адказаў Друцкі.

— Пра якую свабоду вы гаворыце?

Друцкі пачаў тлумачыць. Свабода — гэта найперш пазбаўленне сябе залежнасці ад усяго, што можа нас звязваць унутры нас саміх, гэта вераванні, забабоны, пачуцці, пачуццё віны ў дачыненні да іншых, крыўды, учыненыя слабейшым, палітычныя перакананні…

Адвакат пытаўся ў падсуднага пра яго погляды на каханне, на шлюб, на сям'ю, на жанчын, на грамадскі лад, на пытанне гонару, адвагі і баязлівасці… Нарэшце ён перайшоў да ўстанаўлення маёмаснага стану падапечнага, прычым аказалася, што Друцкі дакладна не ведае, колькі ў яго грошай на рахунку: «Нешта каля двухсот тысяч. Акрамя таго, «Аргенціна» ацэньваецца ў некалькі соцень тысяч».

Пачалі слухаць сведкаў, і толькі цяпер Друцкі зразумеў значэнне цэлага шэрагу пытанняў, на якія ён павінен быў адказаць Аліцыі. Праўда, яна зараз дапытвала сведкаў пра акалічнасці, якія датычыліся непасрэдна забойства, аднак з дзіўным спрытам здабывала з іх дадатковыя паказанні, якія паказвалі Друцкага ў найгоршым святле.

Як цырульнік, якога выклікалі з Паморʼя, сцвярджаў, што ніколі ў яго з Цеплікуўнай рамана не было, як і абодва старыя з Грохава сцвярджалі, што памерлая была даўно знаёмая з падсудным. Больш за тое, старыя кляліся, што абвінавачаны ўгаворваў Цеплікуўну паехаць у Кракаў, але яна не хацела.

Становішча Друцкага станавілася безвыходным. Пасля выслухоўвання апошняга сведкі, парцье з атэля «Брысталь», які пацвердзіў, што падсудны Вінклер кожны дзень у сваім пакоі прымаў іншую жанчыну альбо ўвогуле не начаваў, старшыня скончыў судовы разбор і абвясціў перапынак на гадзіну.

— Што вы думаеце, адвакат? — спытаўся Друцкі, калі яны разам з паліцэйскім суправаджэннем апынуліся ў закратаваным пакойчыку.

— Думаю, што ў вас ёсць яшчэ час усвядоміць абсурднасць, з якім вы замоўчваеце істотныя для справы рэчы.

— Значыць, вы не бачыце магчымасці атрымаць апраўдальны прысуд?

— Вы з глузду зʼехалі?! — абурыўся адвакат. — Дай божа, каб я здолеў абараніць вас ад пятлі!

— Так, — уздыхнуў Друцкі, — гэта вельмі непрыемна. Таму дазвольце мне паабедаць.

Адвакат Шарневіч з нянавісцю паглядзеў на яго і выйшаў, грукнуўшы дзвярыма, а Друцкі ўзяўся за прынесеную ежу.

Ён разумеў раздражнёнасць адваката. Калі б справа была ў кімсьці іншым, абаронца, відаць, сам бы стараўся яго ўгаварыць адмовіцца ад прыкрывання сабой трэціх асоб, відаць, найлепшых сяброў, такіх, як Бруніцкі або Залкінд. Сам Друцкі, аднак, нават не думаў пра збочванне з аднойчы абранага шляху.

Калі яго зноў прывялі ў залу, ён адразу заўважыў адваката Лэнчыцкага, які нешта тлумачыў адвакату Шарневічу, і, робячы выгляд, што не бачыць Друцкага, хутка выйшаў праз бакавыя дзверы.

— Вы, кажуць, асабіста ведаеце пані Горн? — напаўголасу звярнуўся Шарневіч да Друцкага.

— Я? — Друцкі пацiснуў плячыма. — Магчыма, я ведаю шмат людзей, але не ўсіх памятаю.

— Не жартуйце! Я дазнаўся, што вы, падобна, вельмі добра ведаеце пракурорку Горн…

— Вам Лэнчыцкі напляткарыў…

— Якая розніца хто, тут справа ў нечым вельмі важным, пане Вінклер. Калі ў вас з ёй была блізкая сувязь, мы можам запатрабаваць змены абвінавачвання! А гэта раўназначна адтэрміноўцы справы! Разумееце?.. Гэта можа паспрыяць пераносу справы ў звычайны суд!

— Вы так думаеце, адвакат?.. А што калі мяне з пані Горн не звязвала ніякае знаёмства.

— Пане! — сціснуў зубы адвакат.

— Суд ідзе, — зазвінеў урачысты голас судовага служкі.

Суддзі займалі месцы. Старшыня ціха сказаў:

— Слова мае пані пракурор.

Яна ўстала і павольным рухам надзела берэт. Яе твар быў бледны, як палатно, толькі вочы палалі ледзь не ліхаманкавым бляскам. Яе цудоўныя вусны, вусны, роўных якім немагчыма было сабе ўявіць, яе ганарліва выпрамленая зграбная постаць і гэты рух галавы, у якім было столькі жаноцкасці і столькі надзвычайнай сілы — усё гэта проста гіпнатызавала. Друцкі адчуваў яе ў паветры перапоўненай залы, ды што там, адчуваў яе на самім сабе.

Аднекуль здаля, з-за шырока адчыненых галоўных дзвярэй, з таксама перапоўненага перадпакоя сярод цішыні пачулася гучнае жаночае сапрана:

— Божа, якая яна прыгожая!

«Так, — падумаў Друцкі, — страшэнна прыгожая. І не адна з гэтых жанчын хацела б быць на яе месцы. А яна?.. Яна, відаць, гатова была б кожнай гэтае месца і гэтую сваю прыгажосць аддаць…»

— Высокі суд! — працяў залу моцны металічны голас. — Вось нам трэба вырашыць справу, у якой, з аднаго боку, на карту пастаўлена жыццё аднаго чалавека, а з другога — жыцці многіх соцень, многіх тысяч слабых, наіўных істот. Так, гэтых многіх нешчаслівых дзяўчат, якія не маюць ніякіх сродкаў у барацьбе за існаванне, пазбаўленых усялякай зброі, якой яны маглі б сябе абараніць ад уздзеяння строю, у якім мы жывём і на варце якога стаіць справядлівасць, справядлівасць, якая няхай будзе блаславёная, калі не з’яўляецца пустым гукам, і няхай будзе праклятая, калі на яе вагах пакаранне можа быць меншае за крыўду!..

Так моляцца вусны безабаронных і пакрыўджаных, моляцца нячутным шэптам па падвалах, паддашках, сутарэннях, сотні і тысячы дзяўчат, якім мы загадваем нараджаць незаконных дзяцей, у той час як іх спакушальнікі беспакарана праходзяць міма ўчыненай крыўды. А калі часам у роспачы бездапаможныя рукі намагаюцца іх затрымаць, тады гучыць стрэл — і пакорны шэпт цярпення ператвараецца ў трагічны крык смерці!.. У такі крык, які прагучаў пранізлівым рэхам у садку ўбогага дома на Грохаве! Паны суддзі! Маўчаць зараз куты гэтай залы, але ўслухайцеся!.. Ці ж не чуеце вы ва ўласным сумленні жахлівы крык паміраючай дзяўчыны?!. Ці не чуеце яе перадсмяротны стогн?!. Ці ж не адчуваем мы ўсе, якім вялікім цяжарам падае на нас гэты крык: «Справядлівасці! Справядлівасці!»

Голас пракуроркі сціх, і запанавала поўная цішыня. Ніхто не азірнуўся, аднак ледзь не кожны чакаў, што вось за яго спінай раптам вырвецца гэта жахлівае, нечыімі вуснамі кінутае слова.

Але зноў загучаў чысты металічны голас Аліцыі Горн:

— Гэта была сціплая вясёлая дзяўчына. Сумленная працаўніца і мілая кватарантка. Усе сведкі пацвердзілі, што паводзіла яна сябе ўзорна. Аднак лёс адзіным пакрыўдзіў яе: адарыў незвычайнай прыгажосцю. І вось на яе шляху з’яўляецца чалавек, галоўная рыса якога тое, што ён не ўмее лічыць. Ён не лічыць сваіх грошай, не лічыць сваіх каханак, але не лічыць таксама і чужых няшчасцяў, у якіх ён вінаваты!.. Што ж для яго ў такім выпадку яшчэ адна трагедыя сярод соцень пакінутых за плячыма?! Нічога, абсалютна нічога!.. Ён іх не лічыць, а калі нехта асмеліцца пажадаць ад яго платы, то плаціць ён так, як зрабіў гэта легкавернай Ірэне Цеплікуўне!..

Гэта была сціплая вясёлая дзяўчына, наіўная дзяўчына з мноства тых, хто схіляецца над іголкай ці над напільнікам і марыць пра кар’еру кіназоркі, аб казачным прынцу, аб закаханым у яе вялікім пане і хто знаходзіць сваё маленькае ціхае шчасце ў шлюбе з хлопцам са свайго асяродку. Але на шляху Ірэны Цеплікуўны, беднай манікюркі з беднай цырульні, з’явіўся казачны прынц!.. З’явіўся

абвінавачаны Ян Вінклер! Ён нам тут сказаў, што любіў Цеплікуўну, але яна яго кахала, павінна была яго кахаць, таму што ён быў увасабленнем яе мары. І калі гэта прыстойная і сціплая дзяўчына аддала яму тое, што было яе адзіным багаццем, калі яна аддала яму сябе, то насамрэч няма на свеце такой жанчыны, якая за гэта магла б кінуць у яе камень! І таму ён займеў яе без цяжкасцей, узяў яе сваёй прывабнасцю, сваёй мужнасцю, сваімі манерамі прыроджанага ўтаймавальніка, сваім майстэрствам ці таксама натурай спраўнага спакушальніка, якому не кожная жанчына, нават разумная і моцная, здолела б адмовіць…

Друцкі ўсміхнуўся і падняў вочы на Аліцыю. Яна ўглядалася ў яго дзёрзка адкрытымі вачыма, нібыта правакуючы, каб ён усклікнуў: «І ты не ўстаяла, а цяпер помсціш мне!.. Глядзіце, вось кінутая мною каханка, якая поўзала ля маіх ног, каб я дазволіў ёй вярнуцца да мяне, да мяне, якога яна зараз называе злачынцам!..»

Ён мог гэта зрабіць у любы момант, і калі ён пра штосьці і шкадаваў, то пра тое, што павінен адмовіцца ад каласальнага эфекту, які выклікаў бы такі вокрык.

— …а Ірэна Цеплікуўна, — працягвала Аліцыя, — была толькі маладзенькай наіўнай дзяўчынай. Проста цяжка зразумець, навошта абвінавачаны, у распараджэнні якога так шмат сродкаў спакушэння, пачаў у дадатак лгаць сваёй ахвяры, што ажэніцца з ёю. Праўда, ён нас тут запэўнівае, што ніколі Цеплікуўне гэтага не абяцаў, але відавочнасць гэтага падману была пацверджана паказаннямі гаспадароў забітай, якія не раз чулі ад яе, нават у прысутнасці Вінклера, які не пярэчыў наконт гэтага, што хутка адбудзецца іх шлюб.

Значыць, ён ашукваў дзяўчыну без якой-небудзь патрэбы, проста каб прыхарошыць сваю нізкую ролю, а потым выкарыстаў гэта для маскіроўкі свайго права забраць дзяўчыну з-пад апекі, дзе яна знаходзілася — нягледзячы ні на што — у бяспецы. Ноччу ён прыехаў яе забраць. Чаму ноччу? Хіба чалавек, у якога прыстойныя намеры, хаваецца з імі?.. Не, але Ян Вінклер не мог мець прыстойных намераў, навошта б ён хлусіў, што забірае «нарачоную» ў Кракаў, калі — як ён сам тут казаў — хацеў узяць яе да сябе на кватэру ў Варшаве?.. План яго быў просты. Вывезці абрыдлую каханку ў глуш, за некалькі дзясяткаў кіламетраў ад горада, забіць і кінуць у Віслу.

Ён быў настолькі ўпэўнены, што нічога не перашкодзіць яго намерам, што нават — наперакор звычцы — не пакінуў машыну ля брамкі, а адвёў яе далей, каб раптам не ўбачылі, у які бок ён паедзе.

Перашкодзіла ўсяму раптам абуджаная падазронасць дзяўчыны.

Як выявіў судовы разбор, Цеплікуўна ўжо са змяркання пачала непакоіцца, гаварыла пра свой няпэўны лёс, пра боязь і нават пра намер застацца. Старыя супакойвалі Цеплікуўну, хоць і не пакінулі па-за ўвагай нервовасць «нарачонага», і яго прыспешванне таксама падавалася ім падазроным, як і наўмысны выбар начной пары для ад’езду.

Між тым, у кветніку Цеплікуўна павінна была пачуць ад Вінклера тое, што канчаткова пераканала яе ў яго злых намерах. Яна заяўляе яму, што не паедзе, што ён павінен стрымаць абяцанне і тут, у Варшаве, пабрацца з ёй шлюбам. Тады Вінклер, які перад гаспадарамі, а пэўна і перад Цеплікуўнай, выступаў пад выдуманым прозвішчам, які ведае, што бедныя людзі гэтага раёна не змогуць адрозніць марку яго аўтамабіля, што, значыць, яму не пагражае выкрыццё, — рашаецца. Халодна забівае дзяўчыну і ўцякае, каб з хованкі даведацца, ці напалі прадстаўнікі закону на яго след. Усё тут проста і ясна.

Наколькі ж моцна адрозніваецца ад гэтай фактычнай карціны злачынства фантастычная казка, якую распавёў нам абвінавачаны, казка пра таямнічых бандытаў, якія схаваліся ў кустах язміну, пра барацьбу, якую, нібыта, ён вёў з нападнікамі і якая не пакінула ніводнага следу, пра забойцу, які страляў з тых самых кустоў, які страляў, відаць, з нейкага дзіўнага браўнінга, што пасля стрэлу не пакідае гільз.

Аліцыя ўдарыла рукой па стале:

— Сапраўды, калі б мы не ведалі, што маем справу з разумным чалавекам, можна было б дапусціць, што гэта казачка, якую распавяло малое дзіця. У дадзеных жа ўмовах нам не застаецца нічога, акрамя як назваць паказанні падсуднага ганебнымі і абуральна цынічнымі. Трэба мець ледзяное сэрца, каб стаяць над труной сваёй ахвяры і не толькі не паказаць і ценю роспачы, а кпіць з яе і з нас, каб хаця не абцяжарыць сябе прыдумваннем чаго-небудзь больш праўдападобнага, што б меней скажала элементарную логіку! Таксама абвінавачаны не тлумачыць, чаму ён хацеў забраць да сябе Цеплікуўну, чаму менавіта яе, а не якую-небудзь іншую спакушаную ім дзяўчыну. Падсудны, відаць, лічыць, што жыццё беднай манікюркі настолькі мізэрнае, што правасуддзе спусціць яму з рук яго злачынства?..

Але, Высокі Суд, вось перад намі класічны прыклад бясконцай крыўды, якую пастаянна чыняць бедным дзяўчатам і якая толькі часам даходзіць да органаў юстыцыі і патрабуе: кары, кары, кары!..

Перад намі адзін з гэтых цынічных спакушальнікаў, якія з халодным сэрцам забіваюць нявыгадных для сябе каханак, перад намі злачынец, які не толькі павінен быць пакараны смерцю, але і стаць грознай перасцярогай для сабе падобных. У абвінавачвання для яго няма змякчальных абставін, таму я за смяротнае пакаранне.

Старшыня даў слова абаронцу. Адвакат Шарневіч устаў і пачаў гаварыць. Як Друцкі і прадбачыў, адвакат знітаваў сваю прамову з тых пытанняў, якімі так здзівіў на пачатку працэсу ўсіх прысутных.

Адвакат пачаў са сцвярджэння, што доказ сваёй невінаватасці не абавязак падсуднага. Наадварот, гэта судовы разбор павінен даказаць яго віну. Калі ж шмат матэрыяльных доказаў сведчыць супраць яго, не менш важкія доказы стаяць у яго абарону. Гаворка ідзе пра матывы забойства. З якой мэтай чалавек ураўнаважаны, які мае сур’ёзную жыццёвую пазіцыю і ўсё, чаго толькі не пажадае, сабраўся б увогуле учыніць забойства, і ў дадзеным выпадку ў прыватнасці? Пытанне грашовага прыбытку цалкам выключана. Няма тут гаворкі таксама і пра страх плаціць аліменты, таму што, як слушна зазначыла прадстаўніца пракуратуры, абвінавачаны Вінклер не ўмее лічыць, у яго шырокая душа і ён ніколі не шкадуе грошай. Абсурдным было б таксама дапусціць, што ён баяўся жыццёвых цяжкасцей у выніку выяўлення яго рамана з Цеплікуўнай. Як нежанаты і чалавек абсалютна незалежны, не звязаны падтрыманнем адкрытых адносін з многімі жанчынамі, чаму яму раптам баяцца перасудаў?

Далей адвакат Шарневіч патрабаваў, каб суд прызнаў, што альбо абвінавачаны быў несвядомы, паколькі ўчыніў забойства без якіх бы тое ні было матываў, альбо варта паверыць яго паказанням, што ён яго не ўчыняў. Tertium non datur[1]. Калі гаварыць пра неверагоднасць паказанняў Вінклера, то адвакат на падставе практыкі гэтай жа судовай залы гатовы прывесці цэлы шэраг выпадкаў з жыцця, якое з’яўляецца аўтарам самых дзіўных фантазій.

Потым адвакат перайшоў да характарыстыкі абвінавачанага:

— Падсудны Вінклер, — гаварыў ён, — далёкі ад тыпу, які можна ставіць у прыклад. Тым не менш, склад яго розуму і псіхіка такога роду, што забойства істоты, слабейшай за сябе, проста неверагоднае і тым больш немагчымае, калі яна была яго каханкай. Варта толькі паглядзець на абвінавачанага, каб зразумець, што баязлівае ўхіленне ад адказнасці не характэрна для яго натуры. Ён ведае, што яму пагражае смяротнае пакаранне, і як чалавек інтэлігентны, цалкам усведамляе, што супраць яго вельмі шмат абцяжарваючых абставінаў.

Калі б ён быў баязліўцам, то спрабаваў бы заблытаць і ўскладніць справу. Ён гэтага не робіць, таму што верыць у справядлівы прысуд. А можа, ён свядома хоча пазбавіцца жыцця?.. Не, Высокі Суд, гэта таксама неверагодна, калі гаворка

[1] Tertium non datur *(лацін.)* — трэцяга не дадзена.

пра чалавека, які, нягледзячы ні на што, палюбіў жыццё, свабоду, незалежнасць, які дзеля гэтай незалежнасці гатовы дзейнічаць насуперак уласнай выгадзе, які дзеля гэтай незалежнасці адрокся ад тысячы выгод у сваім існаванні, выгод, якія даступныя нам дзякуючы існаванню грамадства, яго правоў і іх аховы.

Так, Яна Вінклера можна назваць асацыяльнай адзінкай, у нас ёсць падставы заўважыць сур'ёзную розніцу паміж яго этыкай і этыкай нашай; з таго, што ён сам пра сябе гаварыў, мы ведаем, што найважнейшым правам ён лічыць права на жыццё. Давайце задумаемся! За якія ж вялікія крыўды ён вырашыў забіць бедную слабую істоту, у адрас якой ён і сёння выказваецца з вялікай цеплынёй.

Паны Суддзі! У мяне няма доказаў невінаватасці Яна Вінклера! Адзіным доказам ёсць ён сам! Гэты чалавек не мог учыніць забойства! І, Бог сведка, гэты чалавек яго не ўчыняў!

Апошнія словы прагучалі амаль як заклінанне. Сярод мёртвай цішыні адвакат павольна апусціў узнятыя рукі і сеў.

Раптам у куце залы нечыя рукі ўдарылі брава, іх прыклад перанялі другія, трэція, чацвёртыя — і вось праз хвіліну ўся публіка ўзнялася з месцаў і вялікая зала Акруговага суда выбухнула шалёнымі захопленымі апладысментамі…

Добрая хвіліна прайшла, пакуль гучны званок старшыні здолеў справіцца з шумам, пагражаючы суровым адказам на такі выбрык і абвяшчэннем пакінуць залу, калі нешта падобнае паўторыцца.

Рэпліка пракурора Аліцыі Горн на прамову адваката была чымсьці, чаго ў гэтай зале яшчэ не чулі. Проста цяжка было сабе ўявіць, каб чалавечыя словы маглі звязацца ў такія магутныя акорды абвінавачвання, у такія бліскучыя кантрасты супрацьлегласцей, у такія знішчальныя маўленчыя лавіны.

Толькі цяпер стала ясна, што дасведчаная абвінаваўца наўмысна абмінула ў першай прамове самыя цяжкія аргументы, што нездарма пакінула абаронцу некранутае поле пытанняў псіхікі падсуднага, каб толькі ў рэпліцы перакрэсліць развражанні адваката і даць яму вырашальную бітву.

З небывалым майстэрствам, не карыстаючыся нічым іншым, а толькі аргументамі абаронцы, яна сказ за сказам будавала сваё неабвержнае абвінавачванне.

Друцкі слухаў са сціснутымі вуснамі і сканцэнтраваным выразам твару. Слухаў, як яго любоў да вольнасці ў яе вуснах ператваралася ў найвялікшае злачынства, безразважны анархізм, як яго любоў да жыцця перараджалася ў пачварны эгаізм, які нічым не стрымаць, як ён ператвараўся ў жывёлу, якая карыстаецца грамадскім ладам, драпежнага звера, для якога адзіным правам з'яўляецца права наймацнейшага. Ён зразумеў, што для гэтых суддзяў, для ўсіх гэтых людзей ён ператвараецца ва ўвасабленне самага шкоднага пустазелля, якое трэба вырваць, у паразіта, само існаванне якога павінна быць небяспекай…

Атмасфера жаху запаўняла залу. Там, дзе словы былі бяссільныя, само гучанне металічнага голасу, само ўнушэнне прыгажосці Аліцыі і жывёльнае полымя, якое вырывалася з яе, павінны былі дабіцца свайго.

Калі сярод магільнай цішыні старшыня даў слова Друцкаму, ён цяжка ўстаў і хвіліну стаяў моўчкі. Ён вельмі яскрава ўсведамляў, што сваё выратаванне ён трымае ва ўласных руках, што ён можа, больш за тое, мае права, і гэта не толькі права прысутных тут людзей, але яго ўласнае права ратавацца і выратавацца. Вось зараз ён адкрые рот і прамовіць: «Шаноўныя мудрыя суддзі! Наіўныя людзі! Я не ўчыняў гэтага ганебнага забойства. Я да гэтага часу маўчаў, жадаючы абараніць майго сябра Барыса Залкінда, таму што я вельмі люблю яго і яго прыгожую жонку, бо ў іх ёсць сын, і ўласны дом, і асабістае шчасце, якое яны берагуць. Выканаўцамі забойства былі бандыты, насланыя на мяне хаўруснікамі Залкінда, разам з якімі Залкінд адправіў на той свет і абрабаваў аднаго старога жыда з Белавежы. Так, мудрыя суддзі, вы, напэўна, не здагадваецеся, што гэта паспяховая сёння прыгожая жанчына, ад выгляду якой вы ўздыхаеце і аблізваецеся, што

гэты падпракурор Аліцыя Горн не далей як два дні таму клялася, што вызваліць мяне, калі я ёй прабачу тое, што ў яе халодная і брудная душа. Так, шаноўныя і паважаныя паны і пані, яна была маёй каханкай, яна абвінавачвае тут Яна Вінклера, хоць і ведае, што маё сапраўднае імя Багдан Друцкі, якога гадамі шукалі праз публікацыі аб вышуку, і я гвалтаўнік Аліцыі Жэраньскай, цяпер Аліцыі Горн. Яна мяне кахае і хоча, каб вы мяне забілі, бо жадае бачыць мой труп, а не іншых жанчын у маіх абдымках!.. Адсюль палымянасць яе абвінавачванняў, мудрыя паны суддзі…»

— Падсуднаму няма чаго сказаць?! — нецярпліва спытаўся старшыня з-за маўчання Друцкага.

Друцкі ўсміхнуўся і паківаў галавой:

— Так, мне няма чаго сказаць… праўда, пані падпракурорка?.. Нічога!..

Не паспеў ён сесці, як з-за ўзвышэння ўскочыла некалькі мужчын: падпракурор Аліцыя Горн самлела.

У зале падняўся гучны шум, сярод якога ледзь чуваць былі спешныя словы старшыні:

— Суд ідзе на нараду.

Адначасова з суддзямі з залы выйшла і Аліцыя, якую падтрымлівала некалькі калег. Яна хутка апрытомела і са слабай усмешкай дзякавала ім, тлумачачы свой станператамленнем і нервовым спусташэннем. Зрэшты, ёй не далі на гэта часу. Суддзі, пракуроры і розныя саноўнікі з міністэрства ў захапленні засыпалі яе віншаваннямі.

Праз чвэрць гадзіны абвясцілі прысуд: Яна Вінклера асудзілі да пакарання смерцю праз павешанне.

Абвінавачаны выслухаў прысуд спакойна. Затое яго абаронца, адвакат Шарневіч, пачаў пісаць просьбу на імя Прэзідэнта Рэспублікі аб памілаванні. Варта было з гэтым паспяшацца, таму што выкананне экзекуцыі было прызначанае на пяць гадзін раніцы.

Падпракурорка Аліцыя Горн, між тым, паклікала калегу Меснера і заявіла:

— Я вельмі прабачаюся за навязванне вам такой прыкрай функцыі, але я вас прашу замясціць мяне ад імя пракуратуры заўтра ў пяць раніцы падчас выканання прысуду, што адбудзецца на тэрыторыі Цытадэлі.

— Я з задавальненнем пазбаўлю вас ад гэтага агіднага відовішча, — адразу згадзіўся Меснер, — аднак думаю, што да экзекуцыі справа не дойдзе. Мне здаецца, пан Прэзідэнт змілуецца з гэтага Вінклера.

— Памыляецеся, — коратка адказала Аліцыя і, развітаўшыся, паехала дадому.

У яе вушах стаяў шум, і яна хісталася на нагах, уваходзячы ў сваю кватэру. Тут, дзе нічые вочы на яе не глядзелі, нервы цалкам далі сабе волю. Яна кінулася на тахту і, нервова сплёўшы пальцы, пачала грызці іх да крыві.

Як жа яна ненавідзела сябе! З якой жа асалодай гэтыя самыя зубы яна ўпіла б у сваю глотку, каб перагрызці яе!.. Яна шалёна біла сябе кулакамі ў скроні, у вусны, у шчокі, у грудзі… Яна не адчувала болю, а толькі нарастанне гневу, які, здавалася, пераходзіў у шаленства…

Яна ўскочыла, запаліла ўсё святло і, не засланяючы акно, пачала здзіраць з сябе адзенне. У гэтую ж хвіліну яна заўважыла сябе ў люстэрку і пасыпала праклёнамі. З яе вуснаў ненавісным шэптам зрываліся пагардлівыя, прыніжальныя словы, з кожным разам больш вульгарныя, чым далей, тым брыдчэйшыя… Нарэшце яна выбухнула дзікім спазматычным смехам і, заглыбіўшы пальцы ў валасы, пачала жменямі іх рваць…

У дзверы пастукалі.

— Хто там? — крыкнула Аліцыя. — Што вы хочаце, Юзэфова?!

— Мне здавалася, вы мяне клікалі.

— Не клікала! Ідзіце прэч!

За дзвярыма ўсталявалася маўчанне. Відаць, старая служка аслупянела ад незвычайнага тону пані. Паколькі, аднак, не было чуваць, што яна сыходзіць, Аліцыя шалёна закрычала:

— Ідзіце адсюль, што гэта за падслухоўванне!

— Я не падслухоўваю, — абурылася Юзэфова, — я толькі хачу аддаць ліст.

Аліцыя прыадчыніла дзверы і ўзяла ліст. Раптам яе апанавала адчайнае перакананне, ну так, поўная ўпэўненасць, што гэта ліст ад яго!.. Нягледзячы на абсурднасць такога дапушчэння, яна прыціскала канверт да грудзей і паўтарала, нібыта хацела ўмацаваць сябе ў гэтай веры:

— Бох… Бох… Гэта ён… Яшчэ не ўсё страчана, я яшчэ змагу яго ўратаваць, відаць, цаной прызнання ва ўсім!..

Яна паглядзела на ліст, і рукі яе бяссільна апусціліся: гэта быў вялікі ўрадавы канверт з пячаткай Міністэрства юстыцыі. Яна машынальна распячатала яго і прабеглася вачыма.

А пісьмо гэта было не абы-чым! У ім было прызначэнне падпракурора Аліцыі Горн у гонар прызнання яе заслуг у галіне правасуддзя, яе ведаў і таленту на пасаду пракурора Варшаўскага Акруговага суда…

Аліцыя змяла паперу ў далоні і кінула долу.

## Раздзел 30

Падрапаныя дрожкі, запрэжаныя старой кашчавай клячай, затрымаліся ля аднаго з апошніх дамоў на вуліцы Тарчыньскай. Залкінд, які ўсю дарогу прыспешваў рамізніка, хутка ўсунуў яму ў руку нікелевую манету і, больш, чым звычайна, кульгаючы, убег у вароты.

Увесь другі і апошні паверх гэтага дома займала «ўстанова» яго сястры Фені, у вулічных колах шырока вядомай пад мянушкай Купчыха. Паколькі час быў надта ранні для «гасцей», а ўсе пансіянеркі яшчэ адсыпаліся, адчыніла сама Феня, магутных памераў, нябрыдкая яшчэ жанчына ў папільётках і ярка-зялёным халаце.

— Ну, нарэшце, — прамовіла яна з лёгкай нецярплівасцю.

— Яны тут? — спытаў Залкінд.

Сястра не адказала, а толькі паціснула плячыма, нібыта абражаная сумненнем у яе арганізацыйных здольнасцях.

Не здымаючы капелюша і паліто, наадварот, яшчэ больш наставіўшы каўнер, ён увайшоў за сястрой у малы, напаўцёмны і поўны дыму ад танных папярос пакойчык. За сталом, накрытым чырвоным плюшавым абрусам, і на двух ложках сядзела некалькі мужчын, занятых прыглушанай размовай. Залкінд нешта буркнуў пад нос і кожнаму падаў руку. Адзін з мужчын падсунуў яму нагой крэсла і кіўнуў на гаспадыню:

— Гэй, Купчыха, дай бутэльку і закуску, якая там лепшая.

— Хай сабе, — пагадзіўся Залкінд.

— Абавязкова, а як жа?! За такую справу! — засмяяўся малы рухавы жыдок у куце.

— Ну, што? — спытаўся Залкінд у плячыстага панурага мужыка з кучаравай растрапанай чупрынай, які да гэтага часу сядзеў моўчкі.

Кучаравы скосу паглядзеў на яго, сплюнуў паміж ног і сказаў:

— У парадку.

— У Цытадэлі?

— Ага.

— А сёння не завязуць? — занепакоіўся Залкінд.

— Шафёр не працверазее да поўначы, дык ім лепей акупіцца адразу на шыбеніцу.

— Гэты шафёр глытае мятную, як дзяўчына, — засмяяўся жыдок.

— А ксіва дайшла?

— Жалезна, — кіўнуў носам кучаравы.

— Слухайце, хлопцы, што я вам скажу, — падсунуўся да стала Залкінд, — я вам скажу, што я абяцаў пятнаццаць «кускоў» і мы на гэтым пагадзіліся. Але я ў гэтым чалавеку зацікаўлены, як у самім сабе. Калі ўсё атрымаецца, я дадам…

Залкінд зрабіў паўзу і, акінуўшы прысутных хуткім позіркам, скончыў:

— Дадам яшчэ пятнаццаць!

Запанавала цішыня. Кучаравы ўстаў, падцягнуў штаны і працягнуў вялікую лапу Залкінду.

— Што можа не атрымацца? Ці такую працу я рабіў у Амерыцы? На тутэйшых недарэк няма чаго азірацца. Ім нават у галаву не прыйдзе. Ну, рабяты[1], варта і напіцца пад такую закуску, як гэтая дабаўка, а?

Толькі цяпер эфект шчодрасці кліента праявіўся ў тым, што ўсе па чарзе паціскалі яго руку і абселі стол па крузе. Каржакаваты, сівы ўжо чалавек падышоў да Залкінда і пачаў падрабязна расказваць пра тое, як яму ўдалося купіць «беспрызорнага»[2] каня, што нават сам д'ябал не даведаецца, чый ён і адкуль, і калі яго пераедуць, то невялікая бяда. Што ж да грузу, то наваляць якой драўніны і ўсё.

Увайшла Феня і спрытнай рукой пачала расстаўляць на стале талеркі з закускамі, бутэлькі і шклянкі для гарэлкі, пасля чаго прысела сама і пачалося дэталёвае абмеркаванне плана.

* * *

Позні восеньскі золак замутніў чорныя шыбы і павольна пачаў змешвацца з бледна-зялёным святлом абажура, з-пад якога невялікі жоўты круг лямпы, які падаў на пісьмовы стол, асвятляў выпуклае шкельца гадзінніка.

Даўжэйшая, тонкая і востраканцовая яго стрэлка, здавалася, спяшаецца, нераўнамерна, рыўкамі і нервова. Часам яна нібыта прыпынялася ў сваім цыклічным бегу, то зноў згадвала, што павінна няўхільна здарыцца вельмі важнае, на што ёй нельга спазніцца, і тады яна бегла так хутка, што чалавечая думка з цяжкасцю даганяла яе, лічачы хвіліны. Затое меншая, шырокая і плоская, як кінжал, заўсёды, здавалася б, нерухомая, бо перамяшчалася павольна, незаўважна пасоўвалася наперад, упарта, заўзята, бязлітасна…

Дзве чорныя малыя стрэлкі, два недарэчныя дарожныя ўказальнікі, якія абарочваюцца вакол сваёй восі ў вечным, бязмэтным руху, накіроўваючы тых, хто стаў перад імі, пытаючыся пра дарогу, на ўсе бакі сусвету. Дзве шалёныя стрэлкі, якія намагаліся сваёй карпатлівай працай змераць усё, што немагчыма змераць, пералічыць тое, што не мае ліку…

Гадзіннік сваім ціканнем запаўняў цішыню, якую не парушалі самыя нязначныя шолахі. За вокнамі заканчвалася восеньская ноч, мёртвая, бясшумная. На бліжэйшым аэрадроме яшчэ спалі. У кватэры таксама панавала поўная цішыня ўжо столькі гадзін… Столькі? Дык колькі ж гэта?.. Ужо амаль пяць іх мінула з моманту, калі званіў тэлефон, калі Меснер паведаміў, што Прэзідэнт адхіліў просьбу пра памілаванне і што, такім чынам, пакаранне адбудзецца роўна а пятай раніцы…

А пятай раніцы!.. Праз дванаццаць хвілін меншая, шырокая і плоская стрэлка сустрэнецца з секунднай, а яе востры канец няўмольна кране чорны знак «5»…

---

[1] Рабяты — у арыгінале *rebiata*, аўтар наўмысна ўводзіць «рускую» лексіку для характарыстыкі персанажаў, якія відавочна ўсходнеславянскага (магчыма, беларускага) паходжання.

[2] Беспрызорнага — у арыгінале *bezprizornego*, каб падкрэсліць усходнеславянскае паходжанне персанажа.

У галаве Аліцыі прамільгнула, што ў яе яшчэ хапае часу, каб напісаць паўтара дзясятка слоў… Прызнання… развітання… Але для каго было пісаць?.. Нікога няма! Абсалютна нікога! О, яна зразумела гэта ўжо вечарам, калі стаяла, нахіліўшыся над пустым ложкам, там, у апошнім пакоі, над пустым ложкам Юлькі… зараз яго праводзяць на плошчу для пакаранняў… Яна памятала: два каштаны на схіле, з левага боку вышчарбленая сцяна, а насупраць варот — шыбеніца. Напэўна, ён ідзе і ўсміхаецца, з узнятай галавой… Толькі лісце на каштанах цяпер павінна быць жоўтае і чырвонае. Калі яна была там падчас пакарання бандыта Гарлача, лісце было яшчэ зялёнае… Уся Цытадэль тады яшчэ поўнілася зелянінай...

Даўжэйшая, тонкая і вастраканцовая стрэлка дабіралася да верху цыферблата.

Аліцыя ўзняла руку. На стале, амаль нябачны за жоўтым кругам лямпы, ляжаў маленькі чорны браўнінг. Ён там чакаў. Цярпліва чакаў пяць гадзін.

Пяць гадзін, доўгіх, як вечнасць!!!

Зараз ён павольна ўзняўся на вышыню грудзей. Рука Аліцыі не здрыганулася, пад пальцамі свае апошнія ўдары адлічвала сэрца, стукала ва ўнісон з гадзіннікам…

— Я іду з табой, Бох, іду… Калі б я магла верыць, што мы не ідзём у нікуды, калі б магла… Бох!

Прагучаў стрэл.

Кароткі, сухі, адрывісты трэск браўнінга.

Востры, колючы боль — і лёгкія заліла гарачая хваля.

— А-а-а-а…

Цела перагнулася і ссунулася на падлогу павольна і бязгучна.

Дзверы адчыніліся, і ў пакой дробным крокам убегла Юзэфова, босая, у доўгай накрухмаленай кашулі. Яна нават не крыкнула, адразу ўзялася падымаць пані. Гэта было, аднак, ёй не пад сілу. Яна хутка падсунула пад бездапаможную галаву вялікую белую падушку і патупала да тэлефона.

Праз дзесяць хвілін прыехала «хуткая дапамога». Доктар разам з санітарам паклалі Аліцыю на канапу. Пакуль Юзэфова здолела надзець пеньюар, першасны агляд быў скончаны і пані знасілі ў карэту.

На пытанне служкі доктар адказаў:

— Яшчэ жывая. Звязвайцеся, калі ласка, са шпіталем Дзіцяці Езуса.

Вароты шпіталя былі ўжо адчыненыя. Калі насілкі з самазабойцай паставілі пасярэдзіне амбулаторыі, доктар «хуткай дапамогі» стаў прыспешваць заспанага служку:

— Разбудзіце хутчэй дзяжурнага ўрача, бо, магчыма, што адразу трэба будзе класці яе на стол. Хто сёння дзяжурыць?

— Доктар Лазіньскі, — буркнуў служка і знік з рэгістрацыйнай карткай за дзвярыма кабінета.

Не мінула і хвіліны, як адтуль выбег у расшпіленым халаце дзяжурны:

— Што такое! — ускрыкнуў ён, падбягаючы на насілак. — Відаць, калега зрабіў памылку, калі запісваў! Аліцыя Горн? Пракурор Аліцыя Горн?

— Так. Стрэл у вобласць сэрца, стан вельмі цяжкі.

Лазіньскі адкрыў твар параненай і пакруціў галавой:

— А-ёй! Канец свету! Слухайце, калега, я яе ведаю. Сёлета на Хелі яна ледзь не патанула… Ну, але за работу!

Паколькі доктар Лазіньскі не належаў да тых марудлівых урачоў, якім заўсёды не хапае хуткасці ў прыняцці рашэнняў, праз чвэрць гадзіны параненай зрабілі рэнтген і яна ляжала на аперацыйным стале. Куля засела пад левай лапаткай, шчасліва абмінуўшы сардэчную сумку. Уласна кажучы, яе дарога праходзіла праз сэрца, але яно, як часта здараецца, у момант стрэлу павінна было скараціцца. Аднак жа вельмі моцны ўдар раскалоў костку ў месцы, дзе яна злучаецца з ключыцай, што магло не толькі паўплываць на функцыю рукі, але і сам працэс

вымання кулі надта ўскладняла. Да таго ж, і вельмі моцнае ўнутранае кровазліццё не прадвяшчала нічога добрага.

Аперацыя доўжылася дакладна гадзіну і дваццаць дзве хвіліны, і хоць Лазіньскі быў апантаным хірургам, калі ўжо ён аддаў пацыентку ў рукі медсясцёр, то ўпаў у крэсла і лаяўся добрых пяць хвілін лексіконам сапраўднага бадзягі. Нарэшце ён памыўся, таму што ўвесь быў мокры ад поту, і паклікаў служку, каб ён злучыў яго з такім вось нумарам.

— Гэта кватэра доктара Чухноўскага? — спытаўся ён.

— Так. Але ён яшчэ спіць.

— Дык будзіце яго зараз жа. Доктар Лазіньскі на сувязі.

Праз хвіліну заспаны Чухноўскі падышоў да апарата:

— Што здарылася, Ромэк?

— Прыязджай, Уладэк, зараз жа ў бальніцу, хутчэй.

— У мяне сёння выхадны, — запратэставаў Чухноўскі.

— Ідзі ты са сваім выхадным! Разумееш? Прыязджай зараз, ды вазьмі таксі, бо я цябе чакаць не буду, а ты потым сам пашкадуеш.

Калі Чухноўскі прыехаў, Лазіньскі ўвапхнуў яго парай штуршкоў у кабінет:

— Ты кажаш, Уладэк, — пачаў ён, — не тваё дзяжурства, але ў мяне тут такая пацыентка, ля якой ты сам захочаш дзяжурыць.

— Чаму гэта? — зяўнуў Чухноўскі.

— Ды вось, хуткая прывезла. Спроба самазабойства, але запісана як выпадак са зброяй. Так пажадала паліцыя. Паскудная рана. Працята левае лёгкае і лапатка. Я там усё прыбраў, ну і, мажа, прамыецца, з паўгода ў ложку, жалезна.

— Ну добра, — пацiснуў плячыма Чухноўскі, — не разумею, аднак, навошта ты мне гэта гаворыш і чаму я павінен утойваць, што гэта была спроба самазабойства?

— Утойваць? Ды таму, што самазабойца — значная фігура, не абы-хто… пракурор Аліцыя Горн.

Чухноўскі ўскочыў, смяротна збялеў, адкрыў вусны, захістаўся і ўпаў у крэсла.

— Толькі не млець мне тут! — рыкнуў Лазіньскі. — Ты, румза! Я табе кажу, што ёй нічога не будзе. Хадзем, я праводжу цябе да яе, ну!

У маленькім белым пакоі без кроплі крыві на твары з закрытымі павекамі ляжала Аліцыя.

Чухноўскі ўкленчыў перад ложкам, і ціхае рыданне стала трэсці яго сагнутую спіну. Вусны прыпалі да нерухомай белай рукі на коўдры, а слёзы болю, слёзы спачування, слёзы надзеі і шчасця падалі з яго вачэй так густа, што ніхто не здолеў бы адрозніць, якая з іх якім пачуццем была выклікана.

Доктар Лазіньскі хвіліну стаяў моўчкі, нарэшце махнуў рукой і выйшаў, асцярожна замыкаючы за сабой дзверы.

## Раздзел 31

Роўна а чацвёртай наглядчык ніжняга калідора ў турме на Павяку пастукаў у камеру асуджанага. Наглядчык адчыніў дзверы, увайшоў і стаў як укапаны: мужчына, які знаходзіўся ў камеры, спаў глыбокім сном і на гукі звонку не звярнуў ніякай увагі, нібыта не ведаў, што з сённяшняга дня для сну ў яго будзе дваццаць чатыры гадзіны ў суткі аж да канца свету.

У двары ўжо чакала закратаваная машына. У ёй, акрамя асуджанага, занялі месцы тры рослыя наглядчыкі, спераду ля шафёра сеў камісар паліцыі. Да таго ж, аўто суправаджаў паліцэйскі на матацыкле.

— Можаце тэлефанаваць у Цытадэль, што мы выязджаем, — крыкнуў камісар начальніку турмы, які выглядваў з акна, і даў знак кіроўцу.

Матор завуркатаў, адчынілі вароты і машына паехала. На вуліцы адразу яе апярэдзіў матацыкл. Пасля дробнага дажджу, які сыпаў цэлую ноч, дарогі вузкіх старых вуліц былі пакрытыя бліскучай вільгаццю.

Горад яшчэ спаў, і толькі зрэдку тут і там было відаць мінака або рамізніка на рагу.

— Дай газу, — сказаў камісар, — дарога чыстая, чаго валачыся, як на пахаванні.

— А ці ж гэта не пахаванне, — буркнуў вадзіцель, але дадаў газу, і машына з ветрыкам уехала за матацыклам у доўгую вузкую вуліцу.

Але менавіта тут, ліха на яго, па самым цэнтры цягнуўся вялікі воз, гружаны дровамі.

Паліцэйскі, які ехаў спераду, спыніўся і загадаў нетаропкаму фурману з’ехаць на тратуар, але той па-ранейшаму няўмела манеўраваў сваёй клячай, што не здолеў з’ехаць своечасова, і машыну прыйшлося затрымаць.

— З’язджай, халера! — крыкнуў камісар.

— З’язджаю, ужо, — флегматычна запэўніваў барадаты мужык у насунутай на вочы шапцы, але дарэмна ён пацягнуў лейцы. Кляча круцілася то ўправа, то ўлева, і ў выніку павозка з дровамі зусім загарадзіла дарогу.

— Ах, ты, недарэка! — лаяўся паліцэйскі і, абапершы матацыкл на ліхтар, схапіў каня за цуглі.

Раптам недзе паблізу пачуўся ціхі свіст.

Амаль адначасова ў кабіне машыны прагучалі моцныя стрэлы, але перш чым камісар зразумеў, што ўнутры ідзе барацьба, вялы рамізнік падняў вялікую калоду і пачаў калаціць ёй па матацыкле з такой сілай, што ледзь не раздавіў яго, і матацыкл са звонам зваліўся на зямлю.

— Напад! — крыкнуў камісар і палез па рэвальвер.

Аднак было надта позна.

Якраз у гэты момант у паветры шмыгнуў нейкі чорны прадмет і ўпаў пад матор аўтамабіля.

Аглушальны гук страсянуў паветра. Выбух гранаты сарваў пярэднія колы і капот у машыны. Амаль адначасова затрашчалі рэвальверы.

Камісар, паранены ў калена, і паліцэйскі, які здолеў схавацца за целам забітага каня, не пераставалі страляць у паўтара дзясятка мужыкоў, якія нібыта выраслі з-пад зямлі.

Яны засыпалі тых кулямі, не шкадуючы зараду.

У гэты ж час два моцныя мужыкі выдзіралі жалезнымі ламамі дзверы аўтамабіля. За іх спінамі з парабелумам[1] стаяў Барыс Залкінд. О, калі б тыя наглядчыкі ўнутры асмеліліся забіць капітана Вінклера, ніводзін з іх не выйшаў бы жывым!..

Яшчэ адзін удар ломам — і браніраваныя дзверы вылецелі з завес.

Унутры ў цемнаце замаячылі тры сілуэты, якія ляжалі на падлозе, і з машыны лёгка выскачыў Друцкі.

— Бягом! — крыкнуў Залкінд і рушыў наперад.

Калі яны міналі перавернутую павозку з дрывамі, Друцкі прыкмеціў магутнага кучаравага мужыка, які, заўважыўшы іх, усунуў сабе два пальцы ў рот і працягла свіснуў. Страляніна адразу змоўкла, затое пачуўся спешны тупат ног.

Спраўная банда пайшла ўрассыпную. Бегучы з Залкіндам, Друцкі дасягнуў дзвярэй крывой шавецкай лаўкі. Іх тут, відаць, чакалі, таму што дзверы самі прыадчыніліся. Аднак на адпачынак не было часу, хоць Залкінд і цяжка, са свістам дыхаў. Яны пачалі ўздымацца па стромкай драўлянай лесвіцы, потым па драбінах і праз гарышча выбраліся на дах суседняга дома. Зноў стромкая лесвіца, маленькі брудны двор, вароты і таксі, якое стаяла перад імі.

---

[1] Парабелум — нямецкі аўтаматычны пісталет калібру 9 мм.

Яны былі на іншай вуліцы, нават у іншым квартале. Нягледзячы, аднак, на гэта, калі аўто мчала ўжо на поўную, Залкінд доўга яшчэ выглядваў праз задняе шкло і загадаў Друцкаму ні на момант не высоўвацца. Нарэшце ён супакоіўся, пачаставаў сябра папяросай і ляпнуў па калене:

— Як справы, Джон?

— Не самыя дрэнныя, Джэк! — адказаў Друцкі.

— Думаю, што яны тут яшчэ надта зялёныя, Джон, якраз на шпінат. Ці не так?

— Well, але шпінат добры з яйкамі.

Абодва заліліся смехам.

— Пашпарт, адзенне, бабкі і машына гатовыя, — сказаў Залкінд. — Толькі ты павінен, капітан, да Гданьска патрэсціся ў грузавіку і перавезці тону тавару.

— Я ведаў, Джэк, — пасля хвіліны маўчання адклікнуўся Друцкі, — што так проста ты не дасі мяне павесіць. Абдымай там Любу за мяне.

Гадзінай пазней ад установы пані Фені, якая карысталася добрай рэпутацыяй, па вуліцы Тарчыньскай рушыў вялікі запылены грузавік, за рулём якога сядзеў моцна выпацканы і брутальны вусаты шафёр.

На павароце ён азірнуўся і па-сяброўску памахаў рукой у бок балкона, на якім стаяў вядомы варшаўскі гандляр і прамысловец пан Барыс Залкінд.

На вуліцы крычалі:

— Сенсацыя! Спецы-ы-ы… Збройнае выкрада… асуджанага…

## Пасляслоўе

Ля ўвахода ў заліў Путалам[1] з захаду вялікі двухтрубны «Рэгенс» вымушаны быў затрымацца і нават даць контрпару, толькі дзякуючы гэтаму ён пазбег сутыкнення з невялікім, самае большае на сем тысяч тон караблём, які выпісваў паміж рыфамі дзіўныя фігуры.

— Ready![2] — гукнуў капітан, высоўваючы галаву з люка і звяртаючыся да праходзячага матроса. — Скажы ты таму аслу, каб навучыў жаб плаваць! Што ён сабе думае? Спытай у яго, ці яму часам і на Ціхім акіяне не цесна, і няхай мне зараз жа змываецца з дарогі, бо я яму яго бляшанку з сардзінамі спушчу на самае дно!

Праз хвіліну з рупара «Рэгенса» на «бляшанку з сардзінамі» валіў спіч, шчодра прыпраўлены літаніяй з лаянкі і адпаведных эпітэтаў, дзеля весялосці ўсёй каманды, якая, нягледзячы на шалёную спёку, выйшла на палубу цалкам, каб паназіраць за манеўранымі выкрутасамі нявопытнага, відаць, капітана пасудзіны.

Аднак і на тым борце не любілі маўчаць і па слова ў кішэню не лезлі, бо праз хвіліну ўжо на «Рэгенсе» пачулі адказ:

— А вы не ведаеце старога Тоні з Хоўпвіля?.. Ідзіце вы да яго, а ён вам пакажа, у якое месца яго пацалаваць!..

— Навошта вы пакінулі маму дома?! Самі не справіцеся! — крычалі з «Рэгенса».

— Ваша маці павінна была быць каровай, ад якой вы навучыліся дасціпнасці!

— Вы хіба вучыце ваша карыта танцаваць кадрылю?!.

— Не, мы праводзім вопыт. Хочам паглядзець, як доўга аслы могуць назіраць, як мы ў іх пад носам загароджваем ім дарогу!

Гэтага было ўжо больш чым дастаткова для карабля «Рэгенс». На борце пачаўся рух, і праз хвіліну з’явіўся сам капітан Тэры.

[1] Путалам — лагуна на ціхаакіянскім узбярэжжы Цэйлона.

[2] Ready *(англ.)* — гатовы.

— Я ім пакажу! — засмяяўся ён і пачаў аддаваць распараджэнне першаму афіцэру, калі раптам сярод патоку беглай ангельшчыны з рупара праціўнікаў выпала адно чужое выразнае слова, слова, наконт паходжання якога не магло быць ніякіх сумненняў.

— Dranie![1]

— Што гэта за судна? — усхвалявана спытаў капітан Тэры.

— Чорт яго ведае, цяжка прачытаць, пад польскім флагам.

— Падзорную трубу! — гукнуў капітан.

Праз трубу на носе судна ён прачытаў «Мазоўшэ»… І раптам нешта спыніла капітана, бо ён не толькі змяніў распараджэнне і загадаў спакойна чакаць, калі бездапаможнае судна вылавіруе, але і прагнаў усіх з борта працаваць.

Праз паўгадзіны «Мазоўшэ» прычаліла да пірса ў малым порце Путалам, а за ім адразу ўвайшоў «Рэгенс». Капітан Тэры загадаў хутчэй спусціць шлюпку і быў ужо на беразе, калі з «Мазоўшэ» толькі пачала пацяху вылазіць каманда. Раптам ён здрыгануўся і хутчэй адвярнуўся. Калі ён зноў паглядзеў у бок пірса, на яго твары ўжо былі вялікія зеленаватыя акуляры, якія носяць для аховы ад сонца. З карабля сходзіў высокі, стройны малады чалавек у белым мундзіры лейтэнанта гандлёвага флоту.

— Вітаю, лейтэнант! — закрычаў капітан Тэры, а калі той наблізіўся і прасалютаваў, дадаў: — Я забараніў маім хлопцам пачынаць якую б ні было сварку з вашымі. Я капітан Тэры з «Рэгенса».

— Лейтэнант Бруніцкі, польскі гандлёвы флот, — даволі халодна прадставіўся малады чалавек.

— Польскі? — здзівіўся Тэры. — Вы гаворыце па-англійску, як карэнны лонданец. Польшча — прыгожая краіна…

— Вы ведаеце Польшчу? — адтаў малады чалавек.

— Так… Я бываў там калісьці, лейтэнант… А ці не прапусціць нам па шклянцы рому з лёдам, а? Пякельная спёка.

Лейтэнант Бруніцкі ахвотна згадзіўся. Праз хвіліну яны сядзелі пад саламянай страхой на верандзе крывога бунгала і прыемна гутарылі.

Капітан Тэры даведаўся, што «Мазоўшэ» прыйшло з грузам эмаліраванага посуду, а забірае ў Гдыню гарбату, што ў іх паламаўся штурвал, што ноччу яны трапілі ў вялікі шторм і што лейтэнант Бруніцкі нядаўна скончыў мараходку і гэта якраз яго першае падарожжа па паўднёвых морах, якім ён не вельмі задаволены, бо яго капітан — сапраўдны скнара і хварэе на песімізм.

У порце Путалам нічым лепшым не займешся, як толькі распіваннем рому з лёдам, таму, відаць, паміж капітанам Тэры і лейтэнантам Бруніцкім хутка з’явілася шчырая сімпатыя. Аднак паколькі «Рэгенс» вечарам адплываў у Дакар, лейтэнант папрасіў капітана, каб той забраў ліст, і тут жа пачаў яго пісаць.

— Здагадваюся, што да нарачонай, — засмяяўся Тэры.

— Вы не памыліліся. Да самай цудоўнай дзяўчыны на свеце.

— Так. Я ведаю некалькі полек. У вашай краіне прыгожыя жанчыны, — у задуменні прамовіў капітан.

— Такой прыгожай, аднак, вы, б’юся аб заклад, ніколі не бачылі, — сказаў малады чалавек і, дастаўшы з бумажніка фатаграфію, падаў яе таварышу.

Тэры ўзяў фота ў рукі і ўскочыў на ногі. На здымку была выява маладзенькай чароўнай дзяўчыны…

— Ліха! Я некалі ведаў падобную… прыгожую… А можна мне паглядзець на адваротны бок?

— О, калі ласка. Праўда, там вельмі пяшчотны надпіс, але вы яго не прачытаеце, бо гэта на маёй роднай мове.

Капітан, аднак, прачытаў:

---

[1] Dranie! *(польск.)* — нягоднікі.

«Майму найкаханейшаму Марскому Ваўку замест сябе самой у кампанію на доўгае падарожжа — Юлька».

— Я прачытаў толькі подпіс, — усміхнуўся Тэры, вяртаючы фатаграфію, — Юлька… Віншую, дружа… Яна сапраўды прыгажэйшая, чым… чым асоба, якую я ведаў. Напэўна, у яе таксама салодкае сэрцайка. Віншую, дарагі дружа… Даўно вы з ёй знаёмыя?..

Малады чалавек, хоць і крыху здзівіўся ўсхваляванасці капітана, аднак пранікся тэмай і вырашыў спыніцца на ёй падрабязна. Зрэшты, і ром з лёдам зрабілі сваё. Таму ён не мог утрымацца, каб не падзяліцца з гэтым прыемным суразмоўцам таямніцамі свайго сэрца.

— Я з ёй пазнаёміўся ў сапраўды незвычайных абставінах, — пачаў ён свой аповед…

Калі ж скончыў, то сонца даўно ўжо зайшло за пярыстыя пальмы паўвострава, а па капітана трэці раз прыбег усхваляваны боцман. Лейтэнант праводзіў капітана Тэры на пірс і, падаючы яму ліст, сказаў:

— Я толькі не ведаю, у Варшаве ў майго бацькі зараз мая нарачоная ці ў сваёй кузіны Аліцыі ў Закапанэ. На ўсялякі выпадак я адрасаваў у Варшаву.

— А што, ваш бацька займаецца яшчэ сваёй забароненай клінікай, якой вы ўдзячныя спатканнем са сваёй нарачонай?

— Дзе там! З той пары, як ажаніўся, ён займаецца выключна вывучэннем нематы.

— Так… так… ну, бывай, лейтэнант, і ведай, што і табе, як і тваёй нарачонай, я зычу столькі шчасця, як самому сабе! Бывай!..

Яны моцна пацiснулі адзін аднаму руку, і капітан Тэры ўскочыў у шлюпку, аднак перш чым яна адчаліла, ён крыкнуў:

— А свайму бацьку скажы, калі яго ўбачыш, лейтэнанце, скажы, што ты сустрэў мяне і што я шлю яму прывітанне ад старога вернага сябра Факіра! Ён будзе ведаць, што гэта значыць. Ад Факіра!.. Бывай!..

Шлюпка аддалялася па гладкай, як люстэрка, вадзе, у ціхім плёскаце вёслаў.

Над залівам Путалам узышоў вялікі белы месяц.

***Пераклад з польскай Веранікі БАНДАРОВІЧ.***



Аляксандра ЧАРНАВОКАЯ

# РЭПРЭЗЕНТАЦЫЯ ЖАНЧЫНЫ-СЯЛЯНКІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЕ ПЕРШАЙ ТРЭЦІ XX СТ.: САЦЫЯКУЛЬТУРНЫ КАНТЭКСТ

Распрацоўка праблемы канструявання жаночай ідэнтычнасці ў творах беларускіх пісьменнікаў патрабуе ўвагі да адлюстравання ў літаратуры ідэалаў і стэрэатыпаў жаноцкасці. Адным з істотных аспектаў даследавання з'яўляецца супастаўленне жаночых вобразаў з мэтай вызначэння ўплыву глабальных сацыяльных трансфармацый першай паловы XX стагоддзя на ўяўленні пра ідэал жанчыны.

Даследаванне жаночых вобразаў у якасці своеасаблівага ўступу патрабуе адказу на пытанне: якія погляды мелі беларускія пісьменнікі на праблему становішча жанчыны ў грамадстве? Аналіз творчасці Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага і іншых пісьменнікаў-нашаніўцаў дазваляе сцвярджаць, што прадстаўнікі беларускай творчай інтэлігенцыі пачатку XX стагоддзя мелі прагрэсіўныя погляды па так званым «жаночым пытанні». У «Нашай ніве» знаходзім нямала публікацый, прысвечаных праблеме адукацыі, дзе абгрунтоўваецца значнасць рамесніцкіх школ для дзяўчат, сцвярджаецца права жанчын на атрыманне вышэйшай адукацыі і г. д. Аўтары былі далёкія ад таго, каб лічыць адзіным прызначэннем жанчыны вядзенне хатняй гаспадаркі і выхаванне дзяцей. Хутчэй за ўсё, у асяроддзі дэмакратычнай інтэлігенцыі такі погляд уважаўся б за выключнае рэградства.

У творах Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Цёткі, Цішкі Гартнага знаходзім вобраз маладой адукаванай дзяўчыны, якая мае акрэсленыя сацыяльна-палітычныя погляды, далучаецца да грамадскага руху. Так, курсістка Зялёнка з аднайменнага апавядання Цёткі (1913) спалучае вучобу і настаўніцкую працу, яна любіць тэатр і музыку, глыбока адчувае сілу і веліч мастацтва. Дзяўчына ахвяруе грошы, каб дапамагчы «сваім» у Якуцку, сябруе са Шмулькам, які імкнецца, каб яўрэі «звярнулі з дарогі асіміляцыі» [16, с. 134], піша разам з аднакурснікам п'есу пра яго дзеда-беларуса, высланага ў Сібір. Размовы паміж сябрамі Зялёнкі дазваляюць меркаваць, што ўсе яны маюць дэмакратычныя погляды і з'яўляюцца людзьмі «вальнадумнымі» — як вядома, менавіта з такімі асобамі пісьменніца кантактавала падчас вучобы ў Санкт-Пецярбургу.

У аповесці Максіма Гарэцкага «Дзве душы» (1919) і трагікамедыі Янкі Купалы «Тутэйшыя» (1922) гераіні — маладыя вясковыя настаўніцы Іра Сакавічанка і Алена Гарошак, адданыя справе нацыянальнага адраджэння. Вялікае значэнне мае для іх праца ў вёсцы — магчымасць «сеяць беларускую свядомасць сярод сялян і сялянскай інтэлігенцыі, вучыць чытаць і пісаць па-беларуску» [4, с. 209]. Гераіні цікавяцца народнай культурай, дэманструюць абазнанасць у сацыяльна-палітычнай сітуацыі. Вобраз «свядомай беларускі» сведчыць пра ўпэўненасць аўтараў у безумоўнай магчымасці дзяўчат далучыцца да справы нацыянальнага адраджэння, да працы ў галіне адукацыі і культуры.

У рамане Цішкі Гартнага «Сокі цаліны» (1922) галоўны герой рэвалюцыянер Рыгор з захапленнем ставіцца да перакананай і дзейснай рэвалюцыянеркі Наталлі, «занятай служэнню рабочай грамадзе» [7, с. 377]. Яго абранніцай паўстае дзяўчына, якая звязала жыццё з медыцынай і з'яўляецца перакананай камуністкай.

Пры разнастайнасці мастацкіх падыходаў да стварэння гэтых вобразаў, відавочная іх дадатная ацэнка. Высокай пазітыўнай значнасцю надзелены вобразы сацыяльна-актыўных гераінь.

Выбар, зроблены вядомымі пісьменнікамі ў прыватным жыцці, таксама сведчыць пра тое, што сімпатыі прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі ўжо на пачатку XX стагоддзя былі на баку жанчыны адукаванай і самастойнай. Якуб Колас пазнаёміўся з будучай жонкай Марыяй Дзмітрыеўнай, калі яны разам настаўнічалі на Піншчыне, жонка Цішкі Гартнага Надзея Сцяпанаўна была прафесійнай рэвалюцыянеркай [13]. Леаніла Усцінаўна Чарняўская — жонка Максіма Гарэцкага — скончыла Марыінскае вышэйшае вучылішча ў Вільні, працавала настаўніцай і выхавацелькай, займалася літаратурнай дзейнасцю. Педагагічную адукацыю мела і Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, якая працавала інспектарам дашкольных устаноў Наркамасветы БССР, выхавацелькай і педагогам-метадыстам дзіцячых устаноў.

Не варта меркаваць, што прадстаўнікі нацыянальнай інтэлігенцыі падтрымлівалі кардынальныя сацыяльныя пераўтварэнні ў сферы гендарных адносін. Аднак думка пра тое, што жанчына мае права атрымліваць адукацыю, займацца прафесійнай дзейнасцю, адстойваць уласныя палітычныя і сацыяльныя погляды была, безумоўна, пашыранай у асяроддзі дэмакратычнай інтэлігенцыі Расійскай імперыі пачатку XX стагоддзя і адпавядала агульным тэндэнцыям эпохі мадэрнізму.

Паўстае цікавае пытанне: якім чынам уяўленні пра ідэал жаноцкасці, якія існавалі ў асяроддзі творчай інтэлігенцыі, паўплывалі на рэпрэзентацыю прадстаўніц розных сацыяльных груп — у першую чаргу жанчыны-сялянкі, бо менавіта сяляне ў першай палове XX стагоддзя былі буйнейшай сацыяльнай групай сярод этнічных беларусаў?

Лагічна было б дапусціць, што ў пісьменнікаў-нашаніўцаў будзе прадстаўлены ідэал жанчыны, уласцівы патрыярхальнаму грамадству. Гэты ідэал знайшоў адлюстраванне ў многіх творах рускай, украінскай і іншых славянскіх літаратур. Аднак беларуская проза пачатку XX стагоддзя не дадала яркіх вобразаў у гэтую літаратурную галерэю. Чым гэта тлумачыцца?

У першую чаргу звернем увагу на тое, што ў творах тагачасных беларускіх празаікаў жанчына найчасцей паўстае ахвярай, аб’ектам уціску і прыгнёту, закладніцай сацыяльных праблем. Аўтары, якія арыентаваліся на розныя літаратурныя традыцыі, часта рабілі вясковую дзяўчыну гераіняй трагічнай гісторыі («Зарабляюць» Ядвігіна Ш., «Маці» М. Гарэцкага, «Рамэа і Джульета на Беларусі» Я. Нёманскага), дэманстравалі падпарадкаванае становішча жанчыны ў сям’і («Гаротная» Ядвігіна Ш., «Зіма» М. Гарэцкага і інш.). Такі падыход да рэпрэзентацыі жанчыны-сялянкі цалкам адпавядае агульнай тэндэнцыі: для беларускай дарэвалюцыйнай прозы ўласцівы крытычны погляд на рэчаіснасць, праблематызацыя сялянскага жыцця. Пісьменнікі не імкнуліся да ідэалізацыі і акцэнтавалі праблемныя моманты, каб выклікаць у чытачоў думку пра неабходнасць сацыяльных змен. Праблемы, з якімі сутыкаліся гераіні, яскрава сведчылі пра недасканаласць тагачаснага сацыяльна-палітычнага ладу.

Адпаведна, пісьменнікі не выяўлялі тыповую сялянскую жанчыну як увасабленне традыцыйнага ідэалу жаноцкасці. У рэальным жыцці яны хацелі б бачыць сялянку-беларуску, па-першае, больш адукаванай, а па-другое, больш прывабнай (што будзе прадэманстравана ніжэй). Да таго ж, у дарэвалюцыйным грамадстве дзяўчына-сялянка была чалавекам з «народных нізоў», не лічылася эталонам жаноцкасці для адукаваных людзей і пры супастаўленні з паненкай ці гарадской дзяўчынай саступала апошнім. Скептычная ацэнка мужчынамі вясковай жанчыны ці дзяўчыны, усведамленне ёю ўласнай непаўнавартасці — locus communis у прозе першай паловы XX стагоддзя (гл. [7, с. 278], [4, с. 42], [5, с. 154]).

Несупадзенне вобраза жаданай жанчыны з абліччам рэальнай сялянкі адлюстравана ў гумарыстычным апавяданні Змітрака Бядулі «Дудар» (1915). Твор мае форму аповеду (у падзагалоўку — «апавяданне старога дзеда»), апавядальнік — вясковы дудар, які прыгадвае колішні відзеж. Аднойчы герою давялося везці гарэлку ў карчму, пакаштаваўшы «трунку» ён зайграў на дарозе калядную песню і атрымаў запрашэнне ад шыкоўнага паніча пайграць у палацы. Паніч і дудар прыязджаюць у палац, пачынаецца баль, але дудар скардзіцца на тое, што яму мерзнуць пальцы.

«— А яму холадна! — засмяяліся ўсе. — Ну, дык выбірай сабе паненку. <…> выбірай, якую толькі хочаш — ажэнім!» [3, с. 121]. Паненкі значна больш вабяць дудара, чым жонка «Наста з чырвоным носам», якая на дарогу адшкадавала «ёмкі кавалак свежага сала» [3, с. 119]. Паненкі маюць ценькія салодкія галасочкі, добра скачуць, пахнуць «парфумай і цукеркамі» [3, с. 122], што выяўляе вабнасць і жаноцкасць прадстаўніц вышэйшага свету. Герой згаджаецца на паненку.

«— Пацалуй ты маю ручку! — кажа яна. <...> каб гэтак казала мая Наста, дык я пхнуў бы яе ад сябе, што яна б увідзела бацьку з таго свету, а тут я раскіс — і давай цалаваць і яшчэ і яшчэ! Ніколі я смаку гэткага не чуў... » [3, с. 122]. Паненка кліча дудара ў цёплы пакой — і раптам відзеж мінае, герой апынаецца на лёдзе пад мастком. Так пісьменнік карае за цікаўнасць да паненак і «завялікую выпіўку» на Каляды.

У апавяданні Янкі Брыля «Сірочы хлеб» вясковы хлопчык Даніла Малец з захапленнем ставіцца да маладой настаўніцы-полькі. Твор напісаны ў 1942 годзе, але з'яўляецца красамоўным прыкладам «тугі па жаноцкасці», якая неаднойчы выяўляецца пры апісанні дарэвалюцыйнага вясковага жыцця, альбо — як у гэтым выпадку — жыцця ў «панскай» Польшчы.

Даніла неаднойчы параўноўвае сваю маці-сялянку з настаўніцай пані Мар'яй. Хлопчык «глядзіць на белую, маленькую руку настаўніцы, потым крадком цікуе на мілы, прыгожы твар яе, абапал якога звісаюць чорныя кучаравыя пасмы коратка, "пад польку", астрыжаных валасоў. І ў душу яго чамусьці просіцца слова "матуля"» [1, с. 57]. Маці клапоціцца пра сына: набывае боцікі, шкадуе, калі яго крыўдзяць іншыя хлопцы, плаціць за адукацыю і нават падпісвае пратэст супраць польскай школы. Але настаўніца прываблівае хлопчыка нашмат больш: «Ён думаў нават, чаму яна такая добрая, разумная, прыгожая, чаму яна не мама яго, чаму ён не можа прытуліцца да яе, падставіць сваю сівую астрыжаную галаву пад яе цёплую, маленькую руку...» [1, с. 60]. «Маленькая белая рука» настаўніцы — дэталь, якая неаднойчы паўтараецца ў партрэтным апісанні гераіні. Маленькая рука — сведчанне жаноцкасці і выкшталцонасці, дастаткова высокага сацыяльнага становішча жанчыны (рабочая рука павінна быць вялікай, ніяк не беленькай).

«Якая яна добрая, прыгожая, якія яны шчаслівыя з такою мамай...» — думае Даніла пра дзяцей пані Мар'і, часцяком раўнуе настаўніцу да іншых вучняў. Аднойчы настаўніца карае Данілу за тое, што ён не выконвае заданні, і хлопчык злуе на «мілую пані Мар'ю» і адчувае няёмкасць за ранейшыя думкі: «Як дрэнна ён тады думаў пра сваю маму! Яна, бачыш, і ў школу не прывяла яго ні разу, і не пахадзіла вось так, і не спытала ніколі, ці цяжка яму, і пра што ён чытае... Усё завіхаецца вечна, усё маўчыць... » [1, с. 60].

Першае захапленне мінае, але стасункі з настаўніцай застаюцца вельмі прыязнымі: пані Мар'я неаднойчы абараняе Даніка і даводзіць яму, што не ўсе палякі — паны (хаця менавіта так іх успрымаюць вяскоўцы). Настаўніца не толькі прыгожая — яна разумная, тактоўная, з павагай ставіцца да вучняў. У яе абліччы хлопчык адкрывае той ідэал жаноцкасці, які не сустракаецца ў сялянскім свеце. Калі пані Мар'я падаравала Даніку кнігу, яму «вельмі хацелася схіліцца над яе рукой, хоць дакрануцца да гэтай белай, маленькай рукі губамі. Ды ён жа не рабіў так ніколі, нават маме сваёй...» [1, с. 72]. Адметна, што гэты матыў прысутнічае і ў апавяданні Змітрака Бядулі: галоўныя героі ў абодвух выпадках хочуць пацала-

ваць руку прывабнай паненцы, і з пэўнай няёмкасцю адзначаюць, што ніколі не адчувалі такога жадання ў стасунках з больш блізкай жанчынай — жонкай ці маці. Пацалаваць жанчыне руку — значыць выказаць пашану да жаноцкасці, жаночай прывабнасці, а вясковая кабета не з'яўляецца ўвасабленнем гэтых якасцей.

У апавяданнях Змітрака Бядулі і Янкі Брыля, розных па настраёвасці, можна ўгледзець тугу па недасягальным ідэале жаноцкасці, якая выяўляецца і ў творах многіх іншых аўтараў. Сялянскае жыццё не дазваляла жанчыне заставацца прыгожай, прывабнай, вытанчанай, гэтыя рысы як у айчынным фальклоры, так і ў прозе пачатку ХХ ст. уласцівыя дзяўчыне ці маладзіцы. Цяжкая праца, перажыванні і нягоды хутка нішчаць жаночую красу, таму недастаткова прывабная жанчына-сялянка — заўсёды абвінавачванне той сацыяльна-палітычнай сістэме, якая згадваецца ў творы.

Тым не менш, у беларускай літаратуры першай трэці ХХ стагоддзя можна знайсці і творы, дзе дзяўчына-сялянка паўстае вобразам-ідэалам, увасабленнем жаноцкасці, «выключэннем з правіл».

Асаблівая ўвага да вобраза дзяўчыны-сялянкі выявілася ў абразках Змітрака Бядулі «Ля кросен», «Шчасце не ў золаце», «Яе душа» («Абразкі», 1913). У «нашаніўскіх» артыкулах пісьменнік неаднойчы імкнуўся растлумачыць «красу» беларускім сялянам, звярнуць увагу на прыгажосць жыцця, якую варта ствараць і адначасова ўмець бачыць. У абразках «Яе душа» і «Ля кросен» Змітрок Бядуля малюе вобраз дзяўчыны за кроснамі. Народнае рамяство ператвараецца ў мастацтва — так рэалізуецца «думка аб неадольным падсвядомым імкненні кожнага чалавека да прыгожага, аб здольнасці людзей ствараць прыгажосць уласнымі рукамі і душой» [15, с. 97]. Каб адзначыць дзівоснасць звыклай жаночай працы, пісьменнік апісвае натхненне ткаллі, плёнам якога робіцца незвычайны новы ўзор. У абразку «Ля кросен» вясковая дзяўчына прыпадабняецца да каралеўны «ў зачараваным залатым хораме», да «святога вобраза кемнага маляра» [3, с. 17]. Гераіні надзелены не толькі знешняй, але і духоўнай прыгажосцю: душа — жывая, шчырая, вочы «ззяюць незямным шчасцем» [3, с. 36]. Гераіня можа здзівіцца незвычайнаму ўражанню, з'яўляецца чуйнай да харäства.

Верш у прозе Цішкі Гартнага «Я бачыў» (1911) — расповед пра смерць маладой прыгожай дзяўчыны. Пісьменнік стварае вобраз вясковай красуні праз зварот да параўнанняў з раслінна-кветкавага тэзаўруса, традыцыйных для фальклору і прыгожага пісьменства і, адпаведна, зразумелых для чытача-селяніна: маладая дзяўчына цвітучая, як «чырвоны махрасты мак ды свежае, толькі што ўзышоўшае восенню жыта»; «простая, як маладая грушка» [6, с. 15], яе валасы «як вытрапаны дарагі лён», губы «поўныя, як спелая маліна» [6, с. 16]. Прыгажосць дзяўчыны прываблівае мужчын, сяброўкі зайздросцяць Ганне. «Бабы старыя і маладзіцы гаварылі пра яе, што яна паненка і толькі цудам нейкім, дзіўнымі чарамі радзілася ў простай небагатай сям'і беднага мужыка — Гаўрылы» [6, с. 16].

Ганна паўстае дзяўчынай мілай («не капрызная, не ганорная, і ніколі ні перад кім не задавалася»), яна адкрыта радасці жыцця. Праз некалькі дзён Ганна паміраe ад хваробы, і Я-герой, глыбока засмучаны гэтай падзеяй, разважае пра ўразлівасць чалавечага жыцця і эфемернасць прыгажосці

У апавяданні М. Гарэцкага «На этапе» (1916) салдаты спыняюцца на пастой у хаце, дзе жыве прыгожая маладзіца-паляшучка. Аўтар падрабязна апісвае яе аблічча: «Дужа доўгія і чорныя вейкі... Твар — авальны, тонкі і мяккі, толькі троху цьмяны, як ва ўсіх тутэйшых жанчын, але прыгожыя вейкі рабілі гэты твар надта цікавым і харошым. Карцела ўвесь час глядзець, як яна вячэрала і зрэдку ўскідала тымі чорнымі пушыстымі вейкамі, кладучы лыжку ці кусаючы хлеб» [9, с. 105].

Я-герой адзначае вялікую ўвагу сваіх часовых таварышаў да маладой гаспадыні: «мне было і прыемна, што ёсць такія жанчыны ў маім народзе, а разам і сорамна за таварышаў, якія не маюць належнае павагі да тутэйшых людзей, быў-

шы самі нетутэйшымі і звыкшы на этапах быць лішне свавольнымі» [9, с. 105]. Жаночая прыгажосць паўстае спакусай для іншых мужчын, пагрозай сямейнаму шчасцю і — асабліва ў часы вайны — небяспекай для самой жанчыны.

Галоўны герой апавядання Міхася Зарэцкага «Мар'я» (1923) пісар Ляксандра таксама звяртае ўвагу на неспадзявана прыгожую маладую сялянку і ў стасунках з ёю ідзе далей за іншых герояў. Адпаведна, вобраз Мар'і абмалёўваецца найбольш дэталёва, пісьменнік стварае дэканцэнтраванае дынамічнае партрэтнае апісанне гераіні. Таямнічая і трагічная жыццёвая гісторыя Мар'і прываблівае маладога чырвонаармейца, які «шукае хараства», і засмучаецца, што яго так мала ў жыцці.

Прыгажосць звычайнай сялянкі зноў жа паўстае з'явай выключнай, што неаднойчы акцэнтуецца ў творы: «Што за баба! Першы раз ён бачыць такую. Сялянка, простая сялянка, а колькі жаноцтва, колькі жыцця нутранога, колькі павабнасці — нейкай ціхай, прыветнай і разам таемнай» [12, с. 42]. Герой неаднойчы звяртае ўвагу на прыгажосць жанчыны, але прываблівае яго не толькі знешнасць. Распавядаючы сябру пра аблічча Мар'і, Ляксандра адзначае: «яна не надта прыгожая, аб гэтым і гаварыць не будзем: нос троху кірпаты, шыракаваты рот. Адным словам — тыпічны твар сялянкі-беларускі. А якая рухавасць, якая выразлівасць...» Выразлівасць вачэй і голасу, «тонка-таемная» ўсмешка жанчыны зачароўваюць героя. Каб апісаць голас жанчыны пісьменнік выкарыстоўвае каля дзясятка эпітэтаў: «ціхі, грубаваты і прыемны» [12, с. 41], «шчыры, задушэўны» [12, с. 41], «мілагучны, задорны» [12, с. 44].

Вылучае жанчыну і чуласць душы, што шматкроць падкрэсліваецца ў творы: Мар'я «здавалася яму загадкавай, глыбокай і багатай натурай, якія часам трапляюцца сярод простых людзей, але ў большасці марна гінуць, зціраюцца жыццём не развінуўшыся, не даўшы прастору сваім духоўным сілам» [12, с. 42]. Апавяданне дазваляе яшчэ раз пераканацца, што жаноцтва і павабнасць, а таксама «глыбіня і багацце натуры», на думку аўтара, і яго героя — рысы, як правіла, не ўласцівыя вясковым кабетам.

Сустрэча з прыгажосцю ва ўсіх творах паўстае яркай, насычанай падзеяй, якая кантрастуе з агульным эмацыянальным фонам. Так, у абразках Змітрака Бядулі «ўжыванне рамантычна стылізаваных эпітэтаў абумоўлівае своеасаблівае лірычнае, рамантычна-казачнае ўспрыняцце гэтага вобраза» [15, с. 102]. Партрэтнае апісанне Ганны («Я бачыў... ») паўстае яркім і каларытным, і рэзка кантрастуе з расповедам пра заўчасную смерць дзяўчыны. У апавяданні М. Гарэцкага сустрэча з прыгажосцю асвятляе паляшуцкую хату, ажыўляе зморанных салдат. Пісар Ляксандра («Мар'я») у вясковай жанчыне бачыць «хараство адцвітання душы», «прыгожыя астатнія абуджэнні паволі засынаючага сэрца», «астатнія асеннія кветкі» [12, с. 53]. Каханне немаладой кабеты параўноўваецца з восенню, багатай на «красу, смутнае, ціхае хараство ў чароўна-маўклівым задуменні» [12, с. 53].

У вершы і прозе Цішкі Гартнага вобраз дзяўчыны найбольш супадае з ідэалам традыцыйнай культуры. Ганна прывабная, пазбаўленая недахопаў, добрая і працавітая (пра гэтую якасць сведчыць апісанне падворка ля Ганнінай хаткі: невысокі белы частакол, побач — доўгая, гладкая і шырокая лавачка, якую дзяўчына робіць, «каб многім хапіла месца пасядзець» [6, с. 16]). Для аўтараў істотная не толькі прывабнасць, але і духоўнасць, «чуласць душы» (Бядуля, Зарэцкі). У апавяданях М. Гарэцкага і М. Зарэцкага прыгожая маладзіца прываблівае таямніцай прыватнага жыцця. На прыкладзе гэтых твораў можам заўважыць, што гераіня малюецца як увасабленне традыцыйнага ідэалу, але не з'яўляецца тыповай сялянкай, вылучаецца не толькі прыгажосцю, але таксама духоўнай гармоніяй, альбо наяўнасцю «жаночай» таямніцы.

Беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя зафіксавала паступовую змену сацыяльных ідэалаў і, адпаведна, змену мужчынскіх поглядаў на ідэальную спадарожніцу жыцця. У беларускай прозе гэтага перыяду неаднойчы ўзнаўляецца

сюжэт, пашыраны ў літаратуры эпохі мадэрну: малады чалавек адчувае сімпатыю да дзяўчыны-сялянкі, але стасункі апынаюцца пад пагрозай, бо героі значна адрозніваюцца між сабой. Ён — адукаваны, разумны, мае вясковае паходжанне, але ўключаны ў іншыя сацыяльныя і культурныя практыкі, выразна адчувае сваю прыналежнасць да іншых сацыяльных груп і ў большай ці меншай ступені праблематызуе свае дачыненні з беларускай вёскай. Яна — прывабная сялянка, значна саступае герою па ўзроўні адукацыі, тыповая прадстаўніца сваёй сацыяльнай групы, арганічна пачуваецца ў вясковым свеце, мае непарыўныя сувязі з народам, прыродай і ў плане сімвалічным можа лічыцца ўвасабленнем вясковага, традыцыйнага свету.

Такую расстаноўку персанажаў знаходзім у рамане Цішкі Гартнага «Сокі цаліны» (квадра першая «Бацькава воля» (1916, 1922) і квадра другая «На перагібе» (1922)), аповесці Максіма Гарэцкага «У чым яго крыўда?» (1926), напісанай паводле аднайменнага дарэвалюцыйнага апавядання, апавяданні Якуба Коласа «Адукацыя» (1926), аповесці Змітрака Бядулі «Салавей» (1927), рамане Кузьмы Чорнага «Зямля» (1928).

Непаразуменні, якія ў гэтых творах паўстаюць паміж маладымі людзьмі, — не толькі перашкода для развіцця іх прыватнай любоўнай гісторыі, у больш шырокім сэнсе — гэта сведчанне сацыяльных супярэчнасцей. Галоўны герой асэнсоўвае сваё стаўленне да дзяўчыны не толькі як да асобы, але і як да прадстаўніцы канкрэтнай сацыяльнай групы, што прадугледжвае супастаўленне і роздум над перспектывамі сваіх адносін з роднай вёскай, сваякамі дзяўчыны і наогул з сялянствам. Як адзначае В. Шыманец, «Праблематыка шлюбу <...> мае адначасова сімвалічнае і палітычнае вымярэнне» [11, с. 380].

Па сутнасці, адна з цэнтральных праблем усіх пяці твораў — наяўнасць значнай культурнай дыстанцыі паміж сялянствам і іншымі сацыяльнымі групамі, якая можа быць пераадолена на прыкладзе стасункаў галоўных герояў. Аўтары дэманструюць розныя погляды адносна магчымасці вырашэння сацыяльных супярэчнасцей і, разам з тым, канстатуюць спецыфіку стаўлення маладога чалавека да дзяўчыны-сялянкі. Таму пры супастаўленні твораў увага будзе звернута як на развіццё сюжэта, так і на ацэнку гераіні маладым чалавекам і яе бліжэйшым асяроддзем.

Раман «Сокі цаліны» распачынаецца лістом ад рабочага-рэвалюцыянера Рыгора Нязвычнага — каханага Зосі Прыдатнай. Рыгор згадвае Зосю як працавітую і прыгожую дзяўчыну: «…успамінаю, як ты <...> ездзіла на поле ці з поля пасля ворыва ці баранавання, і заўсёды вясёлая ды жыццерадая, з гасцінна адкрытымі вачыма, з лёгкім маладзістым ружам на светлым пекным твары... каханая Зоська!» [7, с. 5]. Дзяўчына жвавая, рухавая і здаровая, таму праца не стамляе і не прыгнечвае яе. На прыгажуню звяртаюць увагу ў мястэчку, сяброўкі лічаць яе самай прывабнай [7, с. 25].

Адразу па вяртанні ў вёску на пабыўку Рыгор даведваецца, што з дзяўчынай збіраецца ажаніцца Васіль Бераг — хлопец «знатны і багаты». Рыгор засмучаны, але не сватаецца да дзяўчыны. Сябры лічаць, што Зося — не лепшая пара для Рыгора: «Вось вернешся ў Рыгу ды пакахаешся з гэткай паненкай, што Зося і не падыходзь» [7, с. 106]. Зося ж імкнецца пераканаць бацькоў у праве самастойна вызначаць свой лёс, і гэта імпануе герою: «можна было адчуваць, што ў ёй маюцца добрыя парывы, што яна не дазваляла і думаць, каб там, у яе за плячыма, гаспадарылі яе доляю, каб таргавалі яе любоўю, хочучы абмяняць на нейкую дзьмутую і няясную ёй знатнасць ды славу» [7, с. 82]. Хлопец прапануе Зосі ехаць разам з ім у Рыгу і ўладкавацца на фабрыку, але дзяўчына ставіцца да гэтага з недаверам і ўрэшце падпарадкоўваецца бацькам.

Рыгор без шкадавання пакідае вёску: «Яму стала незразумелай Зосіна няволя ў густых сетках мяшчанскасці, яе дробныя інтарэсы, засасанасць багнаю забабонаў струхлелае шляхоцкае традыцыйнасці» [7, с. 114]. Побач з прывабнай

знешнасцю пры ацэнцы дзяўчат вялікую значнасць для героя маюць такія якасці, як шырокі кругагляд, адданасць камуністычным ідэалам, прынцыповасць, рашучасць, смеласць. Адпаведна, найбольш уражвае яго знаёмства з рэвалюцыянеркай Наталляй, «напружаная думка, уся істота якой былі прышрубаваны да праблем класавага вызвалення» [7, с. 376]. Перавага Наталлі і абранніцы Рыгора Лібы вызначаецца больш шырокім кругаглядам, наяўнасцю сталых сацыяльна-палітычных поглядаў, актыўнай грамадзянскай пазіцыяй. Абмежаванасць і нерашучасць Зосі — адна з галоўных прычын разрыву паміж героямі. Разам з тым пісьменнік падкрэслівае, што прычынай разрыву з'яўляюцца таксама сацыяльная няроўнасць і кансерватыўнасць беларускай вёскі.

У аповесці М. Гарэцкага дзеянне таксама адбываецца ў дарэвалюцыйны час. Лявон Задума — вучань «апошняга класа сельскагаспадарчай школы», «дэмакрат, сацыяліст» [9, с. 9] і «пэўны адраджэнец» [9, с. 10]. У стасунках з аднавяскоўцамі ён адчувае сябе чалавекам больш высокай культуры [9, с. 39], але аднойчы на вечарушках знаёміцца з Лёксачкай — «курносенькай, але бойкай, нішто сабе, дзяўчынай» [9, с. 27]. Лёксіна бойкасць (рашучасць, настойлівасць) найбольш імпануе герою. Закаханы Лявон вырашае ажаніцца з дзяўчынай і нават мяркуе, што «не горш нашы Лёксачкі, з якімі мы выраслі, за перашпіленых ненатуральных гарадскіх паненак» [9, с. 40].

Аднак у вясковым асяроддзі гэты праект успрымаецца крытычна: Лявон Задума дзякуючы атрыманай адукацыі займае больш высокую прыступку ў сацыяльнай іерархіі і павінны знайсці належную жонку. Лёкса адпавядае гендарнаму ідэалу традыцыйнай культуры, але гэтага не дастаткова, каб стаць жонкай «панічa». Працавітасць Лёксы — вельмі важная якасць вясковай жанчыны — ужо не з'яўляецца істотнай характарыстыкай, нават для бацькі героя гэта не аргумент: «Працавітая, дык роўная Лявону? Мужыку якому працавітая, а не яму!» [9, с. 49]. Бацька Лявона і большасць аднавяскоўцаў вырашаюць, што спадарожніцай жыцця для будучага агранома павінна быць не сялянка, а вучоная паненка.

Праз трагікамічную гісторыю з лістом пісьменнік дэманструе значную культурную дыстанцыю паміж адукаваным юнаком і вясковай дзяўчынай. Зноў жа, у творы прысутнічаюць указанні на неабходнасць сацыяльных змен: «Каб было можна, пэўна ж і Лёксачка не засталася б без навукі... О, гэтая беднасць, гэтая несправядлівая сацыяльная няроўнасць!» [9, с. 33].

Такім чынам, у якасці сацыяльнага фактару ў фарміраванні жаночай ідэнтычнасці паўстае яе апалітычнасць, недатычнасць да грамадскіх працэсаў, існаванне ў статычнай прасторы пэўнай сацыяльнай групы, арыентацыя на традыцыйныя каштоўнасці. Герой Цішкі Гартнага не засяроджваецца на разрыве з Зосяй, але гэтая падзея ўмацоўвае яго ў думцы, што рэалізаваць свае здольнасці і далучыцца да грамадска-палітычнага жыцця можна выключна ў горадзе. Таму Рыгор Нязвычны настойліва запрашае ў горад сваіх сяброў.

Для Лявона Задумы расчараванне ў Лёксе паўстае яшчэ адным сведчаннем немагчымасці «застацца сваім» у вёсцы; герой расчароўваецца не толькі ў дзяўчыне, але і ў аднавяскоўцах. Разрыў паміж дзяўчынай і хлопцам у абодвух творах ёсць сведчаннем сацыяльнага песімізму аўтараў, якія лічаць культурную дыстанцыю паміж вёскай і маладой нацыянальнай элітай занадта вялікай, каб яна магла быць пераадоленай у дачыненнях між канкрэтнымі персанажамі.

У гумарыстычным апавяданні Якуба Коласа «Адукацыя» (1926) адлюстраваны сучасныя пісьменніку рэаліі. У паслярэвалюцыйнае дзесяцігоддзе традыцыйны ідэал жаноцкасці, на які працягвалі арыентавацца многія маладыя дзяўчаты, ставіцца пад сумнеў: «…тып жанчыны-прыгажуні, хрупкай, прывабнай і прыцягальнай, змяняецца тыпам жанчыны маскулiннай — фізічна моцнай, энергічнай, з рэзкай пластыкай і нязвыклай лексікай — жанчыны-таварыша, жанчыны — члена калектыва» [10, с. 153]. Змены гендарнага ідэалу абумоўліваюць новыя непаразуменні ў асабістым жыцці. Якуб Колас пачынае расповед з таго моманту,

калі студэнт рабфака Кузьма і дачка селяніна-хутараніна Наста пабраліся шлюбам і распачалі супольнае жыццё ў горадзе.

Кузьма захоплены вучобай і грамадскай дзейнасцю (сходкі, мітынгі, вечарыны). Клопаты пра сваё жытло і знешні выгляд ён лічыць справай другараднай. Наста выконвае традыцыйныя жаночыя абавязкі: дбае пра чысціню ў жытле, ахайнасць вопраткі мужа, набывае патрэбныя для гаспадаркі рэчы, але Кузьма ставіцца да гэтага з непаразуменнем і называе мяшчанствам. Мяшчанства жонкі ён звязвае з недастатковай адукаванасцю: Наста скончыла тры гады царкоўнапрыходскай школы: «У цябе няма адукацыі, ты несвядомая. Але ж гэта яшчэ не такая вялікая загана, усё гэта можна паправіць, і я буду вучыць цябе, адукую цябе» [14, с. 109]. Кузьма імкнецца адукаваць жонку, але бярэцца за гэта няўмела: піша складаныя заданні, размаўляе з дзяўчынай незразумелымі словамі, сэнс якіх для яго самога вельмі цьмяны (тут бачыцца паралель на непасрэдныя зносіны паміж камуністычнай моладдзю і беларускім сялянствам). Апошняй кропляй робіцца пазычаны Настай капялюш, у якім яна, прыхарошаная, сустракае мужа. Дзяўчына мяркуе, што Кузьма заўважыць яе прывабнасць і будзе зноў лагодным і спагадлівым, але трывіяльная жаночая псіхалогія яшчэ больш раздражняе хлопца.

Напрыканцы Якуб Колас звяртае ўвагу на неабходнасць больш уважлівага, памяркоўнага стаўлення да іншых («калі я люблю цябе, а ты мяне, то мы заўсёды знойдзем патрэбны кампраміс, каб жыць у згодзе» [14, с. 124]), паказвае, што нават невялікія справы дзеля шчаслівай будучыні патрабуюць глыбокага асэнсавання і не робяцца з пляча. Недастатковая адукацыя вясковай дзяўчыны, знаходжанне герояў на «розных полюсах у сэнсе культурнасці» застаюцца нязменнай праблемай, хай сабе цяпер галоўны герой прадстаўляе не «панскую», а пралетарскую культуру.

У рамантычна-фальклорнай аповесці Змітрака Бядулі «Салавей» (1927) таксама мае месца расчараванне галоўнага героя ў вясковай дзяўчыне — сваёй каханай — і акцэнтаванне сацыяльнай несправядлівасці ў эпоху Рэчы Паспалітай XVII—XVIII стагоддзяў.

Галоўныя героі аповесці — Зося і Сымон — прыгонныя пана Вашамірскага. Зося — дзяўчына працавітая, чулая, эмацыянальная, яна шчыра кахае Сымона. Хлопец умее спрытна падрабляць галасы жывых істот, таму яго забіраюць у панскі палац і далучаюць да акцёраў, якія будуць удзельнічаць у вялікім тэатральным святе Вашамірскага. Праз нейкі час хлопец уцякае з палаца і вяртаецца да Зосі, але сустрэча герояў не радасная. У палацы герой далучыўся да мастацтва, да «панскай» культуры, да больш камфортнага ладу жыцця. У час падрыхтоўкі прадстаўлення маладыя студыйцы — усе былыя сяляне — не толькі трываюць прыніжэнне і здзекі, але і вывучаюць польскую мову, знаёмяцца з сусветнай культурай, авалодваюць акцёрскім майстэрствам. «Рухі ва ўсіх пазграбнелі, зрабіліся лёгкімі і спрытнымі. Нават выраз вачэй змяніўся: паглыбеў, іншы змест адсвечваецца ў іхнім бляску. Панскі гебаль адгабляваў людзей, адгаліфаваў» [2, 122]. Далучэнне да культуры незваротна змяняе стаўленне Сымона да вясковага побыту і любай дзяўчыны.

Герой заўважае, што «Зоська — простая, а маленькая ўбогая хатка душыць яго. Пасля вялікіх пышных панскіх палацаў (хоць ён іх ненавідзеў) простая хатка здавалася яму канурою, у якой нельга жыць не то што чалавеку, але і панскаму сабаку. Ранейшага захаплення Зоськай у яго ўжо не было. <...> Жаль да Зоські агарнуў яго. <...> панскія пакоі яго перарабілі. Ён сам сабе чужым стаў» [2, с. 122].

На змену ў стаўленні да дзяўчыны ўплывае і інтэр’ер вясковай хаты, і розніца ў культурным узроўні, якая пачынае адчувацца вельмі хутка, і, верагодна, вясковая знешнасць Зосі (невыпадкова ў час сустрэчы Сымон прыгадвае, што «з твараў студыйцаў сышоў мужычы колер» [2, 122]). Праз далучэнне да больш высокай культуры герой адчувае сябе вышэйшым за звычайную маладую сялянку, культурная розніца робіць немагчымымі ранейшыя стасункі.

Сымон і Зося вырашаюць, што ў зменах вінаваты палац. Помста аб’ядноўвае герояў: Зося забівае гайдука Макара, які хоча прывесці яе на панскае свята. За гэта слугі жорстка караюць сялянку. Вернасць сваёй сацыяльнай групе падкрэсліваецца як станоўчая рыса дзяўчыны. Як і ў паэме Янкі Купалы «Бандароўна» (1913), вобраз Зосі робіцца гераічным праз супрацьстаянне панскай волі і абарону галоўнага дзявочага скарбу — цноты. Сымон сыходзіць у лес каб змагацца супраць прыгнятальнікаў.

Галеча вясковага жыцця, некультурнасць сялянства выяўляюцца як загана прыгоннага ладу. Пісьменнік даводзіць супрацьстаянне паноў і сялян да найвышэйшай кропкі напружання і, адпаведна, драматызуе стасункі галоўных герояў.

Далейшы пошук сюжэтаў, дзе закаханыя — прадстаўнікі розных сацыяльных груп, прыводзіць да аналізу рамана Кузьмы Чорнага «Зямля» (1928). У гэтым творы шмат сюжэтных супадзенняў з аповесцю М. Гарэцкага «У чым яго крыўда?»: у вёску прыязджае малады каморнік Андрэй, які таксама паходзіць з сялян, і звяртае ўвагу на Юлю — «дзяўчыну зграбную, трохі вучаную» [17, с. 320]. Каморнік быў крыху знаёмы з дзяўчынай у мястэчку, па прыездзе ў вёску кватаруе ў яе бацькоў. Адна з першых размоў паміж хлопцам і дзяўчынай завяршаецца «прыкрай маўчанкай»: Юля не скончыла школу і пакуль не збіраецца гэта рабіць. Дзяўчына вельмі падабаецца каморніку, таму адразу пасля пытання пра адукацыю ён упершыню цалуе яе. Пісьменнік прыводзіць безліч вясковых размоў, якія тычацца магчымага развіцця адносін паміж Андрэем і Юляй. Зноў паўстае пытанне: ці вартая вясковая дзяўчына быць жонкай каморніку? Сяляне высока ацэньваюць Юлю: «І вучоная, і прыгожая, і натуры добрае, і працавітая. Яна табе ўсё зробіць, усяго дагледзіць. У яе не будзе, як у іншае, у хаце непарадкаў. Гэта не дзяўчына, а золата» [17, с. 397].

Да таго ж прыгожая маладая сялянка паўстае ўвасабленнем жаноцкасці: «Яна прыбягала роснымі агародамі і паплавамі да яго кожны вечар, ён абхватваў яе рукамі, песціў, насіў на руках, і яна ўся дрыжэла ад гэтай шалёнай блізкасці мужчынскай сілы, тулілася ўся да яго, маўчала, свяціла вачыма; рабілася тут каля яго малою і кволай; і разам з тым вялікай і моцнай жаночасцю сваёю» [17, с. 393]. Так згадвае сустрэчы з Юляй іншы герой Алесь. Юля часта губляецца і плача, бо не можа зрабіць выбар паміж каморнікам Андрэем і селянінам Алесем, што сведчыць пра глыбіню натуры і перажыванняў дзяўчыны. У «Зямлі» і «Соках цаліны» жаночыя вобразы прапісаныя найбольш дэталёва ў параўнанні з іншымі разгледжанымі творамі.

Галоўная інтрыга рамана Кузьмы Чорнага — ці будзе Андрэй верны сваёй сімпатыі? Максім Гарэцкі прадэманстраваў, што паводзіны героя і яго канчатковы выбар такі супадаюць з агульнымі экспектацыямі: Лявон пераконваецца, што Лёкса яму не пара, і адмаўляецца ад думкі пра шчаслівае развіццё адносін з дзяўчынай. У «Зямлі» апісваюцца стасункі паміж прадстаўніком той самай прафесіі і вясковай дзяўчынай, але ўжо ў савецкую эпоху. Малады каморнік насуперак чаканням многіх вяскоўцаў бярэ шлюб з Юляй, вязе яе ў горад і лічыць вартай спадарожніцай жыцця. На нейкі час дзяўчына вяртаецца да бацькоў і атрымлівае ліст ад Андрэя, які змяніў працу і месца жыхарства: «Работу я дастаў, і мы пражывем не вельмі гаруючы. ‹...› Я буду старацца, каб табе тут было добра. Адно ты кахай мяне гэтак, як кахала. Перад намі шырокі прастор будучыні. Перад намі — усё наша. Хутчэй жа будзь тут, родная мая» [17, с. 531]. Захоплены зменамі і пераўтварэннямі герой адчувае сілу, натхненне, дзівосную акрыленасць, якіх значна бракавала Лявону Задуму. Герой упэўнены ў сабе, у веліччы новай эпохі і не бачыць рызыкі ў тым, каб забраць Юлю ў новае шчаслівае жыццё.

Калі ў папярэдніх творах галоўныя героі ў стасунках з вясковай дзяўчынай лічылі праблемай значную культурную дыстанцыю, альбо апалітычнасць і несамастойнасць гераіні, то раман Кузьмы Чорнага прасякнуты сацыяльным аптымізмам. Паводле гэтага твора, кожнаму прыгожаму і шчыраму чалавеку знойдзецца

месца ў шчаслівым савецкім жыцці, а незавершаная адукацыя дзяўчыны — праблема пераадольная. Галоўны герой Андрэй паўстае менш патрабавальным за Рыгора Нязвычнага ці Лявона Задуму: вясковая дзяўчына, вобраз якой адпавядае традыцыйнаму ідэалу, робіцца добрай парай маладому савецкаму спецыялісту. Нельга не заўважыць, што ў творах Коласа і Чорнага галоўны герой як бы робіць ласку дзяўчыне-сялянцы і ставіцца да яе дастаткова паблажліва. Але чым далей, тым больш пераадольнай паўстае дыстанцыя паміж прадстаўнікамі розных сацыяльных груп (адпаведна савецкім рэаліям і не без уплыву савецкай ідэалогіі).

Такім чынам, у беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя вобраз жанчыны-сялянкі часта не супадае з ідэалам, які традыцыйна звязваецца з прыгажосцю, абаяльнасцю, далікатнасцю. У многіх творах адзначаецца, што сялянка значна саступае ў плане прывабнасці прадстаўніцам іншых сацыяльных груп. Прыгажосць вясковай дзяўчыны пазіцыянуецца як выключная з’ява, прычым знешняя прывабнасць спалучаецца або з «чуласцю душы», або з загадкавасцю гераіні.

У разгледжаных творах Ц. Гартнага, М. Гарэцкага, З. Бядулі, Я. Коласа і К. Чорнага падкрэсліваецца, што адным з істотных недахопаў дзяўчыны-сялянкі, якая адпавядае гендарнаму ідэалу патрыярхальнага грамадства (прывабная, працавітая, вясёлая і г. д.), з’яўляецца недастатковая адукаванасць, вузкі кругагляд, недалучанасць да сучасных сацыякультурных працэсаў. За выключэннем аповесці З. Бядулі, дзе характар Сымона паказаны ў развіцці, героі-мужчыны ў гэтых творах маюць акрэсленыя сацыяльна-палітычныя погляды, дастаткова выразна ўяўляюць свае перспектывы. У адрозненне ад іх гераіні не надзелены «ідэнтыфікацыйнай пэўнасцю», існуюць у статычнай прасторы традыцыйнай вёскі, што адпавядае супрацьпастаўленню актыўнага мужчынскага і пасіўнага жаночага пачаткаў. Праз пазіцыянаванне сацыяльных роляў герояў у любоўных адносінах надаецца ўвага грамадска-палітычным аспектам жыцця. Заканамерна, у творах, дзе адлюстроўваецца савецкая рэчаіснасць, пісьменнікі дэманструюць большы сацыяльны аптымізм, чым у творах, прысвечаных «дасавецкаму» перыяду. Літаратура першай трэці XX стагоддзя дэманструе зменлівасць ідэалу жаноцкасці, што адпавядае інтэнсіўным мадэрнізацыйным працэсам, якія мелі месца ў тагачасным беларускім грамадстве.

## Спіс літаратуры:

1. Брыль, Я. Выбраныя апавяданні / Я. Брыль. — Мн.: Вучпедвыд, 1959. — 295 с.

2. Бядуля, З. Выбраныя творы / З. Бядуля; уклад., прадм., камент. У. Казберука. — Мінск: Беларус. кнігазбор, 2006. — 496 с.

3. Бядуля, З. Спатканне: абразкі, мініяцюры, апавяданні / З. Бядуля. — Мн.: Маст. літ., 2007. — 206 с.

4. Галавач, П. Дробязі жыцця / П. Галавач. — Менск: Беларус. дзяржаўнае выдавецтва, 1927. — 176 с.

5. Галавач, П. Спалох на загонах / П. Галавач — Мн.: Маст. літ., 1996. — 222 с.

6. Гартны, Ц. Завяўшая краса: апавяд. / Ц. Гартны. Уклад. В. Г. Роліч. — Мн.: Маст. літ., 2001. — 223 с.

7. Гартны, Ц. Сокі цаліны / Ц. Гартны. — Мн.: Юнацтва, 1993. — Квадры першая і другая. — 1993. — 456 с.

8. Гарэцкі, М. Аповесці. Драматычныя абразкі. / М. Гарэцкі // Зб. тв.: у 4 т. — Мн.: Маст. літ., 1985. — Т. 2 — 415 с.

9. Гарэцкі, М. Выбраныя творы / М. Гарэцкі — Мінск: Кнігазбор, 2009. — 640 с.

10. Гудкова, В. Рождение советских сюжетов: типология отечественной драмы 1920-х — начала 1930-х годов. — М.: Новое литературное обозрение, 2008. — 456 с.

11. Женщины на краю Европы / Под ред. Е. Гаповой. — Мн.: ЕГУ, 2003. — 436 с.

12. Зарэцкі, М. Пачатак шчасця / М. Зарэцкі. — Мінск: Маст. літ., 1975. — 72 с.

13. Коктыш, М. «З гэтага самавара, можа, Цішка Гартны з жонкай гарбату пілі!» / М. Коктыш // Народная Воля. — 2017. — 13 сак. — [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://www.nv-online.info/np/z-getaga-samavara-mozha-tsishka-gartny-z-zhonkaj-garbatu-pili/. — Дата доступу: 22.09.2017.

14. Колас, Я. Збор твораў: у 12 т. / Я. Колас — Мн.: Беларус. навука, 2009. — Т. 6. — 574 с

15. Мельнікава, З. П. Беларускае гісторыка-функцыянальнае літаратуразнаўства / З. П. Мельнікава. — Брэст: БрДУ, 2003. — 276 с.

16. Цётка. Творы / Цётка. — Мн.: Маст. літ., 1976. — 306 с.

17. Чорны, К. Збор твораў: у 8 т. / К. Чорны. — Мінск, 1973 — Т. 6. — 544 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 20 лістапада 2017 года.

## Рэзюмэ

**Аляксандра ЧАРНАВОКАЯ**

### Рэпрэзентацыя жанчыны-сялянкі ў беларускай прозе першай трэці XX ст.: сацыякультурны кантэкст

УДК 821.161.3.09-3(091),,19”+82.0

Першая трэць XX стагоддзя — час пераходу ад традыцыйнага да індустрыяльнага грамадства, перыяд інтэнсіўных мадэрнізацыйных працэсаў, якія прыкметна паўплывалі на спецыфіку рэпрэзентацыі сялянскага жыцця і жанчыны-сялянкі. Мэта артыкула — суаднесці жаночыя вобразы гэтага перыяду з ідэалам жанчыны, уласцівым традыцыйнай культуры, вызначыць, як змяняўся падыход да рэпрэзентацыі жанчыны-сялянкі ў 1900—1920-я гады, якія недахопы бачылі пісьменнікі і іх героі ў вясковай жанчыне. Прадметам даследавання з’яўляюцца творы Змітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага і іншых аўтараў.

**Ключавыя словы:** літаратурныя тэндэнцыі, вобраз-ідэал, гендарныя ідэалы, мадэрнізацыя, традыцыйная культура, Змітрок Бядуля, Максім Гарэцкі, Кузьма Чорны.

## Summary

**Aliaksandra TSCHARNAVOKAYA**

### Representation of countrywoman in Belarusian prose of the first third of the XXth century: socio-cultural context

The first third of the XXth century is the time of intensive modernization processes, what predetermined the representation of peasants’ life and countrywoman. How had the approach to the representation of countrywoman changed in 1900 — 1920-th years? Did the Belarusian prose of this period depict the traditional ideal of femininity? What negative features of countrywoman were accentuated? To answers these questions we turn to the works of Zmitrok Biadulia, Macsim Harecki, Jakub Kolas, Csishka Hartny and other writers.

**Keywords:** literary trends, image-ideal, gender ideals, modernization, traditional culture, Zmitrok Biadulia, Macsim Harecki, Kuzma Chorny.

Марыя ШАМЯКІНА

# АДЛЮСТРАВАННЕ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ Ў ТВОРЧАСЦІ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА: ВАЙСКОВАЯ ЛЕКСІКА

У адмірала Сцяпана Макарава, героя руска-японскай вайны 1904—1905 гг., ёсць лаканічнае, але надзвычай ёмістае па сэнсе выказванне: «Памятай пра вайну». Пра вайну ці войны, якія некалі ішлі, і пра тыя, што, магчыма, будуць. Словы гэтыя актуальныя для нас, бо сёння напружанне паміж рознымі краінамі, «полюсамі сілы», толькі ўзрастае.

Памяць пра вайну не можа быць эпізадычнай — прымеркаванай да знамянальных дат. Яна павінна мець пастаянную «прапіску» ў свядомасці людзей і захоўвацца не толькі вайскоўцамі, а ўсім народам. У нас, беларусаў, такая памяць — базавая, яна вызначае асноўныя прынцыпы выхавання насельніцтва, асабліва моладзі, аб'ядноўвае прадстаўнікоў розных пакаленняў.

Безумоўна, мы памятаем, перш за ўсё, Другую сусветную вайну, на якой загінуў кожны трэці беларус. І толькі ў 2014 годзе, у стагоддзе з пачатку Першай сусветнай, шмат загаварылі пра імперыялістычную вайну, аб якой ведалі мала і заўсёды ўспаміналі неяк сарамліва. Прычым не толькі ў Беларусі і на постсавецкай прасторы не любілі пра яе ўзгадваць, але і на Захадзе. Былі, відаць, падставы для глушэння памяці — шмат чаго з той вайны прарасло, стала гістарычнай тэндэнцыяй, выспела сусветным ліхам.

Адчуваецца нешта злавеснае, нават містычнае ў падзеях таго часу. Нібыта сышліся ўсе мінулыя і будучыя еўрапейскія праблемы. Першай сусветнай вайной закончылася эпоха небывалага росквіту навукова-тэхнічнага прагрэсу. Такога хуткага развіцця тэхнікі і тэхналогій да тых часоў на планеце яшчэ не ведалі. Чалавецтва атрымала выключна хуткасныя і эфектыўныя транспартныя сродкі ды сістэмы сувязі і нават пакарыла паветраную прастору. У шырокі ўжытак увайшлі радыё, тэлефон, пішучая машынка, швейная машынка, ровар, кінаапарат, грамафон. Меўся і такі від паветранага транспарту, якога мы не маем сёння, — цэпелін.

Але ўсе названыя і шмат якія іншыя адкрыцці паслужылі не толькі дабрабыту людзей. У хуткім часе яны сталі асновай для распрацоўкі ваенных тэхналогій, стварэння новых відаў зброі. А пасля Першай сусветнай, калі стомленыя вайной краіны толькі пачалі вяртацца да звыклага мірнага жыцця, па тэрыторыі Еўропы пракаціліся спусташальныя эпідэміі — спачатку ў 1918—1919 гадах іспанкі (разнавіднасці грыпу), а пасля ноны (летаргічнага энцэфаліту). Ахвярамі іспанкі стала больш людзей, чым пацярпелых ад ваенных падзей. Наступствы вайны — і знікненне з палітычнай карты свету чатырох імперый: Расійскай, Аўстра-Венгерскай, Германскай і Асманскай.

Найбольш поўным адлюстраваннем Першай сусветнай вайны застаецца ў беларускай літаратуры дакументальная аповесць Максіма Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне». Кніга Гарэцкага — аўтабіяграфічная. У вобразе Лявона Задумы лёгка пазнаецца сам аўтар, які ўдзельнічаў у Першай сусветнай вайне ў складзе расійскага войска. Даследчык Міхась Кенька адносна названай аповесці піша: «Лявон Задума ў кнізе "На імперыялістычнай вайне" — гэта чалавек, які нагледзеўся на тое, што прынесла бессэнсоўная бойня ваюючым народам,

які пераканаўся ў амаральнасці знішчэння народаў, набыткаў іх матэрыяльнай і духоўнай культуры. Па сваім антываенным пафасе, адмаўленні бессэнсоўнага знішчэння людзей у імя чужых ім інтарэсаў гэты твор Гарэцкага стаіць на ўзроўні блізкіх па часе напісання раманаў Э. М. Рэмарка і Анры Барбюса аб Першай сусветнай вайне» [1, с. 12—13].

У падзеях Першай сусветнай вайны шмат таямнічага, у поўнай меры не даследаванага. Звычайна лічыцца, што агрэсіўныя намеры Германіі выклікала абдзеленасць яе калоніямі. Да пачатку ХХ ст. свет, па сутнасці, быў падзелены паміж некалькімі еўрапейскімі краінамі. Нават маленькія Бельгія і Нідэрланды, не кажучы ўжо пра Вялікабрытанію і Францыю, валодалі каласальнымі абшарамі зямлі ў розных частках свету. У Германіі, сапраўды, аказалася менш захопленых тэрыторый, але яны былі. Прытым імператар Вільгельм, стрыечны брат расійскага цара Мікалая II, вайны, як быццам, не хацеў, а адносіны паміж Германіяй і Расіяй, у якую ў той час уваходзіла тэрыторыя Беларусі, вызначаліся плёнными сувязямі і сяброўствам.

Супраць вайны, што выспявала і паступова рыхтавалася ў Еўропе, выступалі самыя розныя аўтарытэты: прэм’ер Расіі манархіст Аркадзь Сталыпін, аўстрыйскі прынц Франц Фердынанд, французскі сацыяліст Жан Жарэс. Можна назваць яшчэ некалькі імёнаў актыўных праціўнікаў яе. І іх усіх забілі. З выстралу сербскага студэнта Гаўрылы Прынцыпа ў Фердынанда, які стаў для аўстрыйца смяротным, і пачалася Першая сусветная вайна. Праўда, паміж замахам серба і ўласна аб’яўленнем вайны Германіяй супраць Расіі прайшоў месяц, на працягу якога стрыечныя браты вагаліся, а Францыя актыўна інтрыгавала і такі ж уцягнула еўрапейскія імперыі ў барацьбу за свае інтарэсы. Такім чынам, адным з завадатараў агрэсіі выступала Францыя, якая, як мяркуецца, не магла дараваць Германіі свайго разгрому ў 1870 г.

Першыя ваенныя аперацыі праходзілі паміж Германіяй і Расіяй ва Ўсходняй Прусіі. Там наступалі дзве лепшыя рускія арміі — пад камандаваннем генералаў Рэненкампфа і Самсонава. Менавіта ва Усходняй Прусіі і адбываецца дзеянне аповесці Гарэцкага.

У той час, калі рускія войскі актыўна прасоўваліся на Кёнігсберг, германскія на заходнім фронце амаль падышлі да Парыжа. І ўсё ж узяць яго не здолелі, бо вымушаны былі перакінуць войскі на ўсходні фронт. Уласна наступленні рускіх і былі выкліканы патрэбай узяць агонь на сябе дзеля выратавання саюзнікаў — па іх настойлівых просьбах. Немцы хутка прагналі рускае войска са сваёй тэрыторыі. У асабліва неспрыяльных умовах аказалася армія Самсонава, бо складалася з неабстрэленых прызыўнікоў, такіх, як герой Гарэцкага, і вельмі дрэнна забяспечвалася харчам і снарадамі. Армія немца Рэненкампфа, які фармальна служыў Расіі, не прыйшла на дапамогу арміі Самсонава, што трапіла ў акружэнне, а сам праслаўлены генерал застрэліўся [2, с. 472—473].

Значную частку аповесці Гарэцкага складае Дзённік героя. У ім ён згадвае імёны вышэйшых камандзіраў, але, просты беларус, хоць і адукаваны, ацаніць у поўнай меры стратэгію і тактыку ўласнага войска і арміі ворага не здольны. Ды і мала хто ў той час мог бы ўбачыць у хаосе наступленняў-адступленняў нейкую стратэгію і тактыку. Безумоўна, рускія аказаліся ў надзвычай цяжкай сітуацыі з-за глупства і няўмельства сваіх начальнікаў, перш за ўсё галоўнакамандуючага вялікага князя Мікалая Мікалаевіча, а таксама з-за жадання ўладаў выканаць свае абавязацельствы перад саюзнікамі, не задумваючыся, у якое палажэнне пастаўлена ўласная армія.

Лявон Задума не мог ацаніць агульную сітуацыю, але ён на ўласнай скуры адчуў сатанінскі жах сусветнай бойні. Твор цудоўна перадае тую атмасферу, у якой апынуліся неабстрэленыя салдаты. Страх смерці, адчай ад няўдач, холад і голад, страшэнная стомленасць — самымі рознымі негатыўнымі эмоцыямі жывуць персанажы аповесці.

У той жа час герой у сваім Дзённіку, а значыць, аўтар, надзвычай дакладны ў апісанні рэалій вайны. Для іх адлюстравання і служыць вайсковая тэрміналогія — прадмет нашага доследу.

У рэалістычных малюнках франтавога быцця, вербальна адлюстраванага ў аповесці, назвы ваеннай атрыбутыкі і паняцці ваеннай справы займаюць важнае месца як па сваёй ролі ў стварэнні адпаведных малюнкаў, так і па колькасці ўжывання. Семантычная інфарматыўнасць найменняў, звязаных з вайной і франтавым існаваннем, непасрэдна выражае іх важнасць і месца ў жыцці героя твора. Дзякуючы вайсковай лексіцы аповесць стала важнейшым мастацкім дакументам часу, прытым такім дакументам, які не страціў свайго пазнавальнага і навуковага значэння да сёння.

Словы, якія характарызуюць надзвычай складаную сітуацыю імперыялістычнай вайны з яе зменлівымі, рухомымі франтамі і няўстойлівай сітуацыяй, шырока раскіданы па ўсім тэксце. Прычым ваенная лексіка размеркавана па наступных прадметна-тэматычных групах:

1. *Словы, што абазначаюць асобу па родзе баявой дзейнасці (па адносінах да падраздзялення, выкарыстоўваемай зброі, віду ваеннай службы і вайсковай спецыялізацыі):* пісар, дзяншчык, ардынарац, канваір, тэлефаніст, пехацінец, феерверкер, сапёр, ездавы, вартаўнік, кашавар, разведчык, кананір, бамбардзір, гарматная прыслуга.

2. *Словы, якія кваліфікуюць службовае становішча ці пасаду ваеннаслужачых*. Дадзеная група асабліва вялікая, што натуральна. Любое войска — гэта перш за ўсё іерархія: вайсковы міністр, вайскавы начальнік, палкаводзец, генерал-маёр, ад'ютант, капітан, штабс-капітан, паручнік, падпаручнік, юнкер, салдат, фельдфебель, афіцэр, камандзір батарэі, узводны, аддзялённы, звыштэрміновыя служачыя, страявыя людзі, вальнапісаны, запасныя, казакі, дабравольцы.

3. *Словы, што абазначаюць віды вайсковых фарміраванняў*: войска, брыгада, корпус, дывізіён, вайсковая школа, штаб, полк, рота, узвод, кавалерыя, рэзервы.

4. *Словы, якія абазначаюць баявую зброю і тэхніку, а таксама сродкі паражэння*: аэраплан, артылерыя, арудзійны парк, гармата, вінтоўка, карабін, шашка, рэвальвер, кінжал, стрэльба, шрапнель, гільза, патрон, бінокль, патронны латок, гарматны шчыт-заслона, вугламер, зарадная скрыня, дула, пражэктар, кулямётная стужка, прыцэл.

5. *Словы, якія абазначаюць аператыўна-тактычныя паняцці баявой дзейнасці войскаў*: бой, кананада, прыкрыцце, паход, тэлефанаграма, пазіцыя, левы фланг.

*6. Фартыфікацыйныя і іншыя, неабходныя для ваенных дзеянняў, збудаванні*: граніца, казарма, лагер, канцылярыя, батарэя, пяхотная частка, дрот, акоп, наглядальны пункт, пантоны, зімовыя кватэры.

7. *Адзенне, абмундзіраванне:* шынель, ранец, нашыўкі, каска.

8. *Паняцці, звязаныя з рознымі этапамі і эпізодамі вайны (паводле нашай уласнай класіфікацыі)*: абоз, мір, перамога, марадзёры, тыл, шпіён, забітыя, раненыя, перавязачны пункт.

9. *Адпаведныя ваенныя дзеянні, якія выражаюцца часцей за ўсё дзеясловамі*: кватараваць, аддаваць чэсць, наступаць, адступаць, прыняць прысягу, узнагародзіць, казыраць, замірэнне, разжалаваць, павысіць у чыне.

10. *Вітанні, загады*: «здраў-жлаў, ва-скродзь!», «ваша дзіцтва», «рад старацца, ваша дзіцтва», «абамунічвай», «расхадзісь», «па конях!».

Класіфікацыя вайсковых паняццяў у навуцы яшчэ канчаткова не склалася. Мы ўзялі за аснову класіфікацыю А. Кожына [3], але дадалі і ўласныя пункты — адпаведна лексіцы, якая сустракаецца ў Гарэцкага.

Па-за класіфікацыяй засталіся вобразныя паняцці, якія ўжывае пісьменнік, напрыклад, «Малох вайны». Іх нельга аднесці да вайсковай тэрміналогіі, але яны добра характарызуюць стаўленне аўтара да ўсяго, што ён назіраў і перажыў.

Вобразна адзначаны і моманты бою: вінтоўкі зашпокалі, батарэя лупіла агнём, шрапнель сыпала гарохам або захвюкала.

Асаблівасцю кнігі Гарэцкага з'яўляецца і нярэдкае ўжыванне спецыфічных выразаў, слоганаў, што замацаваліся ў салдацкім асяроддзі. Напрыклад, замест «шпіён» — «шпег»; «прыняць прысягу» — «прысягненне»; пехацінцы, якія адсталі ад сваіх часцей, названы «шатунамі». Па-свойму называлі салдаты і баявую тэхніку, часткі зброі, напрыклад, замест «аэраплан» — «ераплант», замест «шпоры» — «банькі»; заднія часткі гармат — «хабаты».

Усе падобныя слоўцы і выразы надаюць кнізе своеасаблівы, у тым ліку нацыянальны, каларыт.

У цэлым тэрміналогія, ужытая пісьменнікам, — агульная з рускай мовай, а многія словы ўвогуле ўяўляюць сабою прыклады інтэрнацыянальнай лексікі. Натуральна, звароты і загады таксама прыводзяцца па-руску, але з вуснаў беларуса, што надае ім адметнасць, а таксама яны сустракаюцца ў скарочаным выглядзе, як звычайна выкрыкваецца агульнай масай ваяроў.

Некаторыя кавалкі тэксту літаральна насычаны адпаведнай лексікай. Напрыклад: «**Батарэя** скацілася з дарогі ўніз, к вузкай, але глыбокай і быстрай рэчачцы, за сажаняў сто ад дарогі. **Перадкі батарэйныя** кінуліся ўздоўж рэчкі, каб перабрацца на той бок; **ездавыя кінжаламі** секлі альшэўнік, каб хоць троху накідаць у рэчку **мост-пераправу**. Мы не паспелі ні выкапаць **акопаў**, ні правесці **тэлефону** ў **дывізіён**. Батарэя зараз пачала **страляць**, і я мусіў дрыжачымі ад раздражнёнасці і трывогі рукамі запісваць **каманду**. **Камандзір** узлез на перадок ува ўвесь свой вялікі рост — і з **біноклем** у руках **камандаваў**. Хацелася пакланіцца перад яго **геройскай** постаццю — гатовай **мішэнню** для **ворага.** Над намі закруціўся **аэраплан** і пачаў кідаць на нас нейкія бліскучыя ў паветры стужкі, паказваючы сваім, дзе мы. Калі я троху абдумаўся, гул ад **бою — гарматнага, кулямётнага**, **вінтовачнага** — заглушыў усё. Батарэя апынулася пад **абстрэлам**. Альшэўнік гутаўся і крышыўся ад **снарадаў**, галлё сыпалася ў рэчку, з усіх бакоў гудзелі над галавою **кулі.** Потым **зашпэкалі** і зларадасна **захвюкалі шрапнелі»** [4, с. 407].

Адпаведныя лексемы — як кодавыя сігналы, як ліхтары, што высвечваюць сітуацыю. Прыведзены ўрывак надзвычай дынамічны і, дзякуючы ваеннай тэрміналогіі, яскрава і дэталёва, як і твор у цэлым, перадае атмасферу бітваў перыяду Першай сусветнай вайны.

## Спіс літаратуры:

1. Кенька, М. «… Гадуйся на чытанні класікаў…» // Гарэцкі М. Творы: Апавяданні, аповесці. — Мн.: Маст. літ.; 1995. — 446 с.

2. Селіванаў, П. Першая сусветная вайна 1914—18 // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 5. М — Пуд / Беларус. Энцыкл.; рэдкал.: Г. П. Пашкоў (галоўны рэдактар) і інш. — Мн.: БелЭн, 1999. — 592 с.

3. Кожин, А. О развитии русского литературного языка в эпоху Великой Отечественной войны // Филологические науки. — 1975. — № 3. — С. 48—58.

4. Гарэцкі, М. Творы: Апавяданні, аповесці / Уклад. З тэксталаг. падрых. Т. Голуб; прадм. М. Кенькі. — Мн.: Маст. літ.; 1995. — 446 с.



**Ганна СЕВЯРЫНЕЦ**

# КНІГАЗБОР АЛЕСЯ ДУДАРА

Паэт, празаік, крытык і перакладчык Алесь Дайлідовіч-Дудар (1904—1937) збіраў асабістую бібліятэку амаль усё жыццё. Самыя першыя ўладальніцкія надпісы на тытульных лістах ягоных кніг зроблены яшчэ дзіцячай рукой. У асабістым пакоі мінскага дома на вуліцы Праўднай, 15а, дзе Алесь Дудар з маленства і да апошняга арышту жыў разам з сястрой Жэняй і бацькамі, па сценах месціліся кніжныя паліцы, зробленыя бацькам Аляксандрам Станіслававічам. У лістападзе 1936 года тут было больш за тысячу тамоў мастацкай літаратуры і літаратуры па гуманітарных пытаннях.

Дакладна невядома, колькі кніг было адабрана пры апошнім вобыску і арышце, колькі было адабрана пры арыштах 1929 і 1930 гадоў, а колькі — знішчана перад пагрозайператрусу, але маюцца некаторыя звесткі ад родных. Пляменніца Алеся Дудара, Лідзія Маркаўна Малініна, пераказвала са слоў сваёй бабулі, маці паэта, Вольгі Іванаўны Дайлідовіч, што ў 1936 годзе пасля вобыску супрацоўнікі НКУС вывезлі 6 машын кніг.

Сапраўды, адсутнасць у багатай і невыпадкова сабранай бібліятэцы выданняў паплечнікаў па «Маладняку», літаратурных сяброў, а пасля і сапернікаў М. Чарота, М. Зарэцкага, У. Дубоўкі, А. Бабарэкі, У. Жылкі, А. Гурло, абавязковых для перакладчыка «Анегіна» выданняў Пушкіна, кніг А. Блока, С. Ясеніна — паэтаў, за творчасцю якіх А. Дудар уважліва сачыў і якім шмат у чым наследаваў, дае падставы меркаваць: сапраўды, бібліятэка вельмі пацярпела падчас трох арыштаў.

Рэшткі кнігазбору пасля маштабнай канфіскацыі засталіся ў доме на вуліцы Праўднай. Маці паэта захоўвала бібліятэку сына, ратуючы ў час вайны і пасляваеннай галечы. Сёння кнігазбор Алеся Дудара налічвае амаль восемсот тамоў — мастацкія, літаратуразнаўчыя, гістарычныя выданні 1920—1930-х гадоў — і захоўваецца ў Л. М. Малінінай. Нават яго рэшткі ўражваюць.

У нашай агульнай свядомасці з нейкай «нялёгкай рукі» быў сфарміраваны ўстойлівы стэрэатып пра беларускіх паэтаў міжваеннага часу як пра надзвычай простых, малаадукаваных, пераважна сялянскіх хлопцаў з бедных сямей, якія мелі за плячыма не надта добрую адукацыю і не тое каб вялікі культурны багаж. Часцяком можна было пачуць, што і ў тэорыі літаратуры беларускія паэты значна адставалі ад, прыкладам, рускіх, і замежных моў не ведалі, таму нават пераклады рабілі не з арыгіналаў, а праз пасрэдніцтва рускіх тэкстаў, што беларускія творцы не мелі магчымасці далучыцца да набыткаў сусветнай культуры, бо папросту не было на Беларусі кніжных крам з добрым выбарам навадрукаў.

Кнігазбор Алеся Дудара, паэта высокай паэтычнай культуры, перакладчыка-паліглота, які валодаў пяццю еўрапейскімі мовамі (рускай, польскай, украінскай, нямецкай, французскай), крытыка, які свабодна аперыраваў паняццямі эстэтычнага аналізу твораў, яскрава сведчыць: уяўленне пра беларускую літаратуру 1920-х як пра літаратуру пераважна вясковую, інтэлектуальна небагатую — не болей, чым прыкры міф.

Крыніцы, з якіх поўнілася бібліятэка, часткова могуць быць вызначаны паводле штампаў і ўладальніцкіх надпісаў на кнігах. У першую чаргу гэта букіністычныя і кніжныя крамы Менска. Пра адну з такіх крам успамінае Я. Скрыган у нарысе «Ранішнія росы»: дом, у якім яна знаходзілася, існуе ў сталіцы і сёння па адрасе Валадарскага, 12, адразу за гасцініцай «Мінск». Гэта прыгожы трохпавярховы будынак са старасвецкімі ўпрыгожваннямі на фасадзе, на першым паверсе якога ў дваццатыя гады мінулага стагоддзя месцілася букіністычная крама. У краме (яе штамп — «Магазин дешевой книги», з markdownрознымі варыяцыямі залежна ад года) была вельмі актыўная загадчыца, справу сваю любіла і вяла з натхненнем, пісьменнікаў надта паважала і старалася радаваць новымі паступленнямі. Звычайным пакупнікам можна было заходзіць — і асцярожненька глядзець на кніжкі з таго боку прылаўка, а пісьменнікам дазвалялася карыстацца лесвіцай, каб адшукаць патрэбную кнігу на высачэзных паліцах, заходзіць за прылавак з боку прадаўца, а таксама карыстацца бакоўкай, дзе ляжалі стосы неразабраных яшчэ кніг. Сюды загадчыца адкладала асабліва каштоўныя экзэмпляры, каб іх не бачылі выпадковыя пакупнікі — трымала для пісьменнікаў. Кажуць, тут раз-пораз можна было адшукаць кнігі з аўтографамі самога Льва Талстога. Ці не адтуль у бібліятэцы А. Дудара кнігі з інскрыптамі Ю. Балтрушайцісу і Ф. Салагубу?



*Інскрыпт П. Галавача А. Дудару.*

Засталіся ў кнігазборы кнігі, якія, пэўна, паэт пазычаў у сяброў і знаёмых ці атрымліваў ад іх у падарунак: экзэмпляры з уладальніцкімі надпісамі Я. Коласа, Ю. Лявоннага, Зм. Бядулі. Ёсць сярод кніг асобнікі, на тытульных лістах якіх можна пабачыць штампы прыватнай бібліятэкі В. Фрумкіна, бібліятэкі Лібава-Роменскай чыгункі. Зразумела, шмат кніг з дарчымі надпісамі Алесю Дудару, зробленымі Янкам Купалам, Уладзімірам Хадыкам, Платонам Галавачом, Янкам Ліманоўскім.

Адметнай рысай гэтай прыватнай бібліятэкі з'яўляецца яе скрупулёзная прадуманасць і мэтанакіраванасць: гэта менавіта бібліятэка паэта, перакладчыка і крытыка, які, да таго ж, цікавіўся нацыянальнымі пытаннямі, гісторыяй і культурай «малых народаў» і нацыянальных калоній. Тут няма выпадковых кніг: выключна літаратура па гуманітарных пытаннях, тэорыі літаратуры, па пытаннях гісторыі і лінгвістыкі. Зусім нескладана падзяліць кнігі на моўныя і тэматычныя групы, настолькі добра зразумелы і выдатна скарыстаны гаспадаром прынцып падбору.

## 1. Літаратура на беларускай мове

Беларускія кнігі — не самая вялікая тэматычная група. Хутчэй за ўсё, менавіта яна найперш пацярпела пры вобысках: паколькі Алеся Дудара, які ўжо меў за плячыма два арышты як зацяты «нацдэм», апошні раз у 1936 годзе арыштоўвалі па справе няіснай нацыянал-фашысцкай арганізацыі, то забіралі як доказ віны і беларускія кнігі. Сёння ў кнігазборы — толькі 72 выданні калегаў А. Дудара па пісьменніцкім цэху: зборнікі вершаў А. Александровіча, А. Зарыцкага, К. Крапівы, Я. Купалы, А. Моркаўкі, П. Труса, проза П. Галавача, Ц. Гартнага, Я. Коласа, М. Лынькова, Б. Мікуліча, Р. Мурашкі і іншых, драмы У. Галубка, Р. Кобеца,




*Кніга У. Галубка з уладальніцкім надпісам А. Дудара.*

Е. Міровіча. Мы ўжо згадвалі адсутнасць у бібліятэцы кніг А. Бабарэкі, У. Дубоўкі і іншых пісьменнікаў, высланых у 1930 годзе па так званай «справе СВБ» — альбо яны былі выдалены з бібліятэкі раней, бо з'яўляліся небяспечнымі для ўладальніка, альбо — сталі «рэчавымі доказамі» ў крымінальнай справе паэта. У кожным разе, у адным з пратаколаў допытаў беларускіх аўтараў, якія захоўваліся ў Л. Маракова, сярод паказанняў сустракаем такое: «А. Дудар даставаў схаваныя фотаздымкі высланых нацдэмаў і казаў, што “вось гэта быў росквіт беларускай літаратуры”». Калі паэт хаваў здымкі высланых сяброў — мог хаваць і кнігі. Як бы тое ні было, засталіся ў кнігазборы толькі «бяспечныя» імёны.

Акрамя паэтычных і празаічных зборнікаў, гэта таксама выданні, падрыхтаваныя супрацоўнікамі Інбелкульта, якія тычацца гісторыі, геаграфіі, лінгвістыкі: «Геаграфія Эўропы» М. Азбукіна, «Беларуска-расійскі слоўнічак» М. Гарэцкага, «Зборнік беларускіх ваяцкіх песень», выдадзены пад рэдакцыяй вайсковай камісіі пры Інбелкульце, «Політэізм і монатэізм у яўрэйскай рэлігіі» Н. Нікольскага, «Нарыс гісторыі Беларусі» В. Шчарбакова, надрукаваны па распараджэнні Прэзідыума Беларускай Акадэміі Навук.

Найбольшую каштоўнасць уяўляюць кнігі, на якіх захаваліся дарчыя надпісы (інскрыпты):

● Галавач П. Праз гады: былому комсамольцу, комуністу-інжынеру Андрэю Агеевічу Бародзічу / рэд. Ф. Браўковіч. — Менск: ДВБ, ЛіМ, 1935. — 431 с. Інскрыпт: *«Алесю Дудару — паэту, як знак павагі. Платон Галавач».* (У кнізе паметы алоўкам).

● Дудар А. Слуцак / рэд. М. Клімковіч. — Менск: ДВБ, ЛіМ, 1935. — 100 с. Інскрыпт: *«Любімай адзінай сястрычцы, лепшаму майму другу. Алесь. 3.V.36 г. Менск».*

● Ільючонак П. Жыццё жывёл. Малпы. — Менск: БДВ, 1928. — 144 с. Інскрыпт: *«т. Дудару на ўспамін ад аўтара. П. Ільючонак».*

● Каваль В. Санька-сігналіст / Малюнкі А. Шахрая / рэд. Х. Турэцкая. — Менск: ДВБ, 1936. — 77 с. Інскрыпт: *«Алесю Дудару. Хацеў бы, каб гэтую кніжку ў будучым годзе прачыталі твае будучыя дзеткі сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Васіль Каваль. 4.III.36 г.».* (Малюнак козліка каля кветкі і надпіс: *«Алесю Дудару — другу — на памяць. Васіль»*).

● Колас Я. Новая зямля. — Менск: Бел. Кааперац. выд. тав-ва «Савецкая Беларусь», 1923. — 287 с. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дайлідовіч, 3-IX-1923, Менск».*

● Купала Я. Збор твораў. Том другі. Шляхам жыцця / выд. другое / Менск: БДВ, 1929. — 430 с. Інскрыпт сінім алоўкам: *«Алесю Янка 29/III-32 г.».*

● Ліманоўскі Я. Над абрывам: аповесць / выд. другое — Менск: ДВБ, ЛіМ, 1932. — 312 с. Інскрыпт: *«Алесю Дудару таварышу па працы. Я. Ліманоўскі»*.

● Мурашка Р. Сын: раман / вокладка Е. Тараса. — Менск: БДВ, 1929. — 536. Інскрыпт: *«Алесю Дудару — аднаму з чулых паэтаў. Каб не гэтая сустрэча, дык можа і ня было б гэтага надпісу на гэтым выданні, бо... 22/IX.33 г. Р. Мурашка»*.

● Хадыка У. Выбраныя вершы / рэд. П. Шастакоў. — Менск: ДВБ, ЛіМ, 1932. — 100 с. Інскрыпт: *«Дарагому Алесю. Валодзя. 20/V— 1932 г.»*.

● Хадыка У. Радасны будзень / рэд. П. Галавач / мастак Б. Малкін — Менск: БДВ, 1935. — 167 с. Інскрыпт: *«Алесю Дудару у знак пашаны. Уладзімір Хадыка. 24/XII — 35 г.»*.

## 2. Літаратура на рускай мове

Кніг на рускай мове найбольш: агулам амаль 500 найменняў, больш за 600 тамоў — бо сюды ўваходзяць і шматтомныя зборы твораў. Сярод рускамоўных кніжак выразна вылучаюцца чатыры тэматычныя групы: 2а) мастацкія тэксты (305 найменняў); 2б) філалагічная літаратура: кнігі па пытаннях паэтыкі, крытыкі, лінгвістыкі, гісторыі мастацтва, даведнікі, слоўнікі і інш. (108 тамоў); 2в) навуковая і навукова-папулярная гістарычная літаратура і публіцыстыка, зборнікі архіўных дакументаў (62 тамы); 2г) літаратура па нацыянальных пытаннях, кнігі па гісторыі і культуры «малых народаў» (14 найменняў).

## 2а. Мастацкія тэксты

Кнігазбор яскрава сведчыць: паэт ўважліва сачыў за літаратурным працэсам у Расіі і ведаў не толькі модных ці папулярных творцаў — меў самае поўнае ўяўленне аб развіцці і сучасным стане літаратуры суседзяў. П. Антакольскі, Г. Адамовіч, М. Асееў, Э. Багрыцкі, А. Блок, В. Брусаў, С. Гарадзецкі, М. Забалоцкі, В. Іванаў, В. Каменскі, С. Клычкоў, М. Клюеў, В. Мандэльштам, Ю. Лібедзінскі, В. Лугаўской, Б. Пастэрнак, М. Тарлоўскі, І. Уткін, В. Хлебнікаў, М. Цвятаева, Г. Шэнгелі, М. Шкапская і інш. — асабліва багата прадстаўлена ў гэтай групе паэзія 1920-х. Лёгка прасачыць чытацкія схільнасці гаспадара бібліятэкі: маскоўскія канструктывісты І. Сяльвінскі, С. Кірсанаў і В. Інбер займаюць у кнігазборы адно з самых пачэсных месцаў, усе зборнікі, якія былі выдадзены гэтымі паэтамі ў 1920-х, ёсць у пераліку кніг, прысутнічае амаль усё выдадзенае да 1936 года Б. Пастэрнакам і М. Асеевым.

Здзіўляе адсутнасць зборнікаў С. Ясеніна і У. Маякоўскага, якіх Дудар называў у шэрагу любімых паэтаў разам з імёнамі Я. Купалы і М. Чарота ў аўтабіяграфіі 1926 года. Можна меркаваць, дэфіцытныя томікі былі вывезены супрацоўнікамі НКУС у тых самых «шасці машынах», пра якія згадваюць сваякі паэта.

Шмат паэзіі класічнай, як рускай, так і перакладзенай: ад Гамэра да С. Надсана: Авідзій, А. Апухцін, Д. Байран, К. Бацюшкаў, Я. Баратынскі, Э. Верхарн, Гарацый, Г. Гейнэ (асабліва багаты збор), Д. Давыдаў, Г. Дзяржавін, А. Дэльвіг, Р. Кіплінг, Нізамі, Наваліс, К. Рылееў, Ф. Цютчаў, А. Фет, Шэкспір і іншыя.

Мастацкай прозы дваццатых у бібліятэцы менш. З імёнаў, якія застануцца ў першым шэрагу гісторыі літаратуры — А. Аверчанка, Ю. Алеша, І. Бабель, А. Грын, Я. Замяцін, Л. Ляонаў, І. Эрэнбург. Затое шмат класікаў: зборы твораў Ф. Дастаеўскага, П. Мельнікава-Пячэрскага, А. Пісемскага, М. Загоскіна, М. Ляскова, Казьмы Пруткова, М. Салтыкова-Шчадрына, зборнікі апавяданняў і выбраных твораў Л. Андрэева, у перакладах — Вальтэр, В. Вудворт, К. Гамсун, Д. Дзідро, першы раман Э. М. Рэмарка «Возвращение» і інш.

Сярод кніг, якія маюць надпісы — сапраўдныя рарытэты:

● Городецкий С. Ива. Пятая книга стихов. — СПб: Книгоизд-во «Шиповник», 1913. Інскрыпт: *«Фёдору Сологубу, поэту из мудрых наисладчайшему. Сергей Городецкий. 3.10.1912».*

● Кудимов В. Возвращение Грачика / обложка и илл. худ. Н. Лесько / Ред. Е. М. Блинова. — Смоленск: Западное обл. ГИ, 1934. Інскрыпт: *«Алесю Дудару в знак глубокого уважения и дружеских чувств. В. Кудинов. Смоленск. 16.5.34 г.».*

## 2б. Філалагічная літаратура: кнігі па пытаннях паэтыкі, крытыкі, лінгвістыкі, гісторыі мастацтва, даведнікі, слоўнікі і інш.

Алесь Дудар не атрымаў грунтоўнай акадэмічнай адукацыі. Распачаў вучобу ў 1914 годзе, паступіўшы ў першы клас легендарнай мінскай гімназіі К. Фальковіча і С. Зубакіна, якая вылучалася высокім узроўнем падрыхтоўкі, ахайным і патрабавальным стаўленнем да педагагічнага калектыву, добрымі ведамі вучняў. З першага класа тут вывучалася нямецкая мова, матэматыка, руская славеснасць, гісторыя і геаграфія. Аднак правучыўся ў ёй Алесь Дайлідовіч толькі год — разам з сям'ёй выехаў у расійскі Казлоў (сёння Мічурынск), ратуючыся ад набліжэння фронту Першай сусветнай. У Казлове ён з поспехам адолее яшчэ чатыры класы — гэтым разам мужчынскай класічнай гімназіі. Тут Алесь атрымае веданне французскай і ўдасканаліць сваю нямецкую. Па вяртанні ў Мінск у 1921 годзе ён пойдзе завяршаць адукацыю ў сярэднюю школу — але, здаецца, так і не скончыць яе, па меншай меры ў асабістым архіве А. Дудара застанецца толькі даведка аб тым, што да лютага 1922 года ён з'яўляўся вучнем 22-й школы. Гэтая школа была габрэйскай, вучыцца там Алесь Дайлідовіч не мог, таму паходжанне той даведкі не надта зразумелае. У кожным разе, ужо ў 1921-м імя Алеся Дудара мы сустракаем сярод акцёраў вандроўнага тэатра У. Галубка. У 1923 годзе ён паступіць на першы курс педфака БДУ, але вучыцца не будзе — «не стае часу». Адновіцца адразу на другі курс у верасні 1927-га, а ў снежні 1928-га са скандалам пакіне ўніверсітэт разам з М. Зарэцкім і А. Александровічам, пратэстуючы супраць правалу палітыкі беларусізацыі ў БДУ (знакаміты «ліст трох»). Партыйныя органы прымусяць скандалістаў надрукаваць адмысловыя лісты з прызнаннем памылак і вярнуцца на педфак — але ў сакавіку 1929 года студэнт Дайлідовіч будзе арыштаваны і высланы ў Смаленск. На гэтым скончыцца афіцыйная адукацыя Алеся Дудара.

Аднак ён несупынна вучыўся сам. Зборам філалагічнай літаратуры ў ягонай бібліятэцы мог бы ганарыцца любы прафесар гуманітарнай кафедры (дарэчы, ад 1925 года Алесь Дудар — член-карэспандэнт Інбелкульта), і гэта не проста купленыя тамы, амаль усе яны прачытаныя з алоўкам: клічнікі і пытальнікі на палях, падкрэсленыя радкі, чытацкія заўвагі.

У гэтай тэматычнай групе вылучаюцца найперш кнігі вершаў: «Дневник поэта» і «Работа над стихом» М. Асеева, «Ритм как диалектика и «Медный всадник» А. Белага, «Основы стиховедения» В. Брусава, «Старая записная книжка» П. Вяземскага, «Условности. Статьи об искусстве» М. Кузьміна, «Искусство перевода» К. Чукоўскага. Кожная — з паметамі.

Шмат выданняў, якія адлюстроўваюць стан сучаснага Дудару літаратуразнаўства: «Социологическая поэтика» Б. Арватава з прадмовай Восіпа Брыка, «Введение в метрику. Теория стиха» В. Жырмундскага, «Поэзия как смысл. Книга о конструктивизме» К. Зялінскага, «Литература и общество» В. Палонскага, «Гамбургский счет» В. Шклоўскага, «Литература. Теория. Критика. Полемика» і «Мелодика русского лирического стиха» Б. Эйхенбаўма, тры тамы грун-

тоўнага акадэмічнага альманаха «Поэтика. Временник отдела словесных искусств» з артыкуламі Б. Тамашэўскага, Ю. Тынянава, Л. Гінзбург, С. Балухатага.

Ёсць сярод гэтых кніг нават такі, двойчы каштоўны экзэмпляр:

● Горнфельд А. Пути творчества: статьи о художественном слове / Е. Диканской. Дань сыновней любви. — Пг.: Колос, 1922. — 233 с. Уладальніцкі надпіс *«Якуб Колас. 29.XII.1922»* пастаўлены на вокладцы і тытуле.

Цікавіла гаспадара бібліятэкі гісторыя літаратуры: у кнігазборы — біяграфічныя і мемуарныя выданні, манаграфіі па гісторыі рускай і заходняй літаратур. Вось некаторыя з выданняў — з рарытэтнымі інскрыптамі і без:

● Айхенвальд Ю. Силуэты русских писателей. [Кольцов, Некрасов, Майков, Щербина, Фет, Полонский, Алексей Толстой, Достоевский, Лев Толстой, Тургенев, Островский, Слепцов, дети у Чехова]. — М.: Научное слово, 1908. — Вып. 2. Інскрыпт: *«Юрію Казиміровичу Балтрушайтису съ низкимъ поклономъ благодарности и уваженія — авторъ».*




*«Новая зямля» Я. Коласа з уладальніцкім надпісам А. Дудара.*

● Айхенвальд Ю. Этюды о западных писателях [Шекспир, Ибсен, Гамсун, Метерлинк, Роденбах, Уайльд, Бодлер] — М.: Изд. научного слова, 1910.

● Анненский И. Книга отражений — СПб: Типография СПб т-ва печ. и изд. дела «Труд», Фонтанка, 86. — 1906. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дудар».*

● Беседы Анатоля Франса, собранные Полем Гзеллем / пер. Е. Мечниковой; под. ред. Н. Радлова. — Пг.; М.: ГИ, 1928. — 218 с. (Всемирная литература). Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дудар».*

● Галеви Д. Жизнь Фридриха Ницше / пер. с фр. А. Ильинского; под ред. и с предисл. В. Сперанскаго / с рисунками, портретами и автографами. — СПб.; С.: Изд. т-ва М. О. Вольф, 1911. — 317 с.

● Гоголь в письмах и воспоминаниях / сост. В. Гиппиус; обложка работы худ. Б. Титова. — М.: Федерация. — 496 с. Штамп: *«Бел. Отд. КоГИЗа, магазин удешевленной и букинистической книги».*

● Грибоедов в воспоминаниях современников / ред. и предисловие Н. К. Пиксанова; примечания И. Зильберштейна — М.: Федерация, 1929. Паметы ў тэксце.

● Гроссман Л. От Некрасова до Есенина. Русская поэзия 1840—1925: сб. стихотворений с био-библиогр. примеч. — М.: Современные проблемы. Н. Столляр, 1927. — 199 с. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дудар».*

● Гроссман Л. Пушкин в театральных креслах. Картины русской сцены 1817—1820 годов / обложка работы В. Конашевича. — Л.: Брокгауз-Ефрон, 1926.

● Гроссман Л. Этюды о Пушкине. — М.; Пг.: Изд-во Л. Френкель, 1929.

● Гуковский Г. Русская поэзия XVIII века. Напечатано по распоряжению Отдела словесных искусств ГИИИ 3.11.1926. Председатель отдела В. Жирмундский. — Л.: Academia, 1927. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дудар».*

● Державин К. Сервантес и «Дон Кихот» / Отв. ред. К. Державин / Анатолию Васильевичу Луначарскому. — Л.: Изд. гос акад. театра драмы, 1933. — 79 с.

● Дневник Пушкина. 1833—1835 / под ред. и с объяснит. примеч. Б. Модзалевского и со ст. П. Щеглова. — М.; Пг: ГИ, 1923. Паметы ў тэксце.

● Дневники Софьи Андреевны Толстой. 1860—1891 / ред. С. Л. Толстого / примеч. С. Л. Толстого и Г. Волкова; предисл. М. Цявловского; обложка гравирована на дереве А. Кравченко — Л.: Изд-во М. и С. Сабашниковых, 1928.

● Из архива Достоевского. Письма русских писателей: Голенищева-Кутузова, Гончарова, Григоровича, Достоевского, Мельникова-Печерского, Некрасова, Островского, Плещеева, Полонского, Помяловского, Рыбникова, Салтыкова, Тургенева. Заметки А. Г. Достоевской / ред. и вступ. Н. Пиксанова; коммент. Н. Бельчикова и Н. Пиксанова. — М.; Пг.: ГИ, 1923. — 140 с.

● Каверин В. Барон Брамбеус. История Осипа Сенковского, журналиста, редактора «Библиотеки для чтения» / рис. переплета М. Кирнарского — Л.: Изд-во писателей в Ленинграде, 1929. — 252 с.

● Клевенский М. К. Ф. Рылеев. — М.; Л.: ГИ, 1925. — 80 с. (Биографическая библиотека).

● Клюев Н., Медведев П. Сергей Есенин. — Л.: Прибой, 1927. На тытуле алоўкам (подпіс неразборлівы): *«Правда жизни. Мы так же тут встретимся! 23/4-27 г.».*

● Книга для чтения по истории новейшей русской литературы. Рабоче-крестьянское творчество за 30 лет. Поэзия. Критика. Беллетристика. Манифесты литературных групп / составил, снабдил примечаниями и вводными статьями В. Львов-Рогачевский. — Л.: Рабочее издательство «Прибой», 1925. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дудар».* Паметы ў змесце.

● Коган П. Наши литературные споры. К истории критики Октябрьской эпохи. — М.: 1927. — 117 с. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дудар».*

● Коган П. Очерк истории всеобщей литературы. — М.; Л.: ГИ, 1930. — 192 с.

● Коган П. Очерки по истории новейшей русской литературы / Том второй. — Изд-е 4-е. — М.: Новая Москва, 1923. — 327 с.

● Литература эпохи феодализма: тексты и комментарии (научно-педагогич. секцией Гос. Учен. Совета допущено для школ 2 ступени / под ред. проф. В. Фриче; сост. В. Голубков, Н. Горностаев, Б. Лукьяновский и В. Сахаров. — М.; Л.: ГИ, 1927.

● Лихтенштадт О. Гёте. Борьба за реалистическое мировоззрение. Искания и достижения в области изучения природы и теории познания / ред. и предисл. А. Богданова. — Пг.: ГИ, 1920.

● Львов-Рогачевский В. Революционные мотивы в русской поэзии. — Тула: Тульское отд. ГИ, 1921. — 230 с. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дайлідовіч 26-Х-1923. Менск».*

● Неизданный Пушкин / собрание А. Ф. Онегина // Труды Пушкинского дома при Росс. Академии Наук — М.; Пг.: ГИ, 1923. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дудар».*

● Памяти В. Г. Белинскаго. Лит. сборник, составл. из трудов рус. литераторов / Изд-е Пензен. общ. б-ки им. М. Лермонтова; с фототипиями. — М.: Тов-во типографии А. Мамонтова, 1899. — 568 с. Паметы ў змесце.

● Пиксанов Н. К. Два века русской литературы (Пособие для высш. шк., преподавателей словесности и самообразования). Введение. Темы для литературных работ. Систематическая библиография. Руководящие вопросы. — М. — Пг., 1923.

● Полевой П. Н. История русской словесности с древнейших времен до наших дней. — 2-е стереотипн. изд.: В трех томах. — СПб: Изд-во А. Ф. Маркса, 1903. ТТ. 1-3. Экслібрыс (на кожным томе): *«М. Ф. Лукин».*

● Поэзия первобытного общества и родового строя: тексты и комментарии / науч-пед. секцией гос. уч. совета допущено для школ 2 ступени / под ред. проф. В. Фриче; сост. В. Голубков, Н. Горностаев, Б. Лукьяновский и В. Сахаров. — М.; Л.: ГИ, 1927.

● Сегюр Н. Разговоры с Анатолем Франсом / Пер. с фр. К. Варшавской и Р. Райт. — Л.: Сеятель, 1925. — 120 с.

● Судьба Блока. По документам, воспоминаниям, письмам, заметкам, дневникам и др. материалам / обложка худ. Г. Епифанова. — Л.: Изд-во писателей в Ленинграде, 1930.

● Суслова А. Годы близости с Достоевским. Дневник — повесть — письма / вст. ст. и примеч. А. Долинина. — М.: Издание М. и С. Сабашниковых, 1928.

● Французский реалистический роман XIX века: сборник статей / под ред. В. Десницкого; обложка работы И. Варзар; ред. Н. Еселев. — Л.: М.: АХЛ, 1932. — 240 с.

● Шторм Г. Труды и дни Михаила Ломоносова. Обозрение в 9 главах и 6 иллюминациях / рис. переплета и гравированные на дереве суперобложка, форзац, фронтиспис, титул, илл. работы В. Фаворского; Ред. Ю. Лукин. — М.: ГИХЛ, 1932. — 301 с.

● Эллада. Очерки и картины Древней Греции. Для любителей классической древности и для самообразования. Сочинение д-ра Вильгельма Вегнера. — 4-е рус., испр. и значительно дополненное издание под ред. Проф. В. И. Модестова. — СПб; М.: Изд-во поставщиков его Императорского величества М. О. Вольф, 1901.

● Эльсберг Я. Салтыков-Щедрин / Обложка Н. В. Ильина; посв. А. Авербаху. — М., 1934 (Жизнь замечательных людей. Серия биографий / под ред. М. Горького, Л. Каменева, М. Кольцова, А. Тихонова). — Вып. 11.

Абавязковымі для такой гуманітарна арыентаванай бібліятэкі выглядаюць энцыклапедыі, слоўнікі, даведнікі:

● Всероссийский «словарь-толкователь», составленный несколькими филологами и педагогами под ред. В. В. Жукова по новейшим известным словарям Даля, Толя, Макарова, Павловского, Гейзе, Брокгауза, Березина, Гильдебрандта и мн. др. Издание А. А. Каспари. — СПб.: Книжный склад «Родина», 1893. В 2 т.

● Газетный и книжный мир. Справочная книга. — 1924.

● Гессен Л. Книжка для автора об оформлении рукописи. 4-е изд. Под. ред. и с изменениями Г. Гильо / отв. ред. Г. Гильо. — Л.: Изд-е горкома писателей, 1939.

● Литературная энциклопедия. Словарь литературных терминов в двух томах / под ред. Н. Бродского, А. Лаврецкого, Э. Лунина, В. Львова-Рогачевского, М. Розанова и В. Чешихина-Ветринского. — Тома 1 и 2. — М.: Изд-во Л. Д. Френкель, 1925. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дудар».*

● Литературная энциклопедия. Т. I, Т. II. — М.: Изд-во ком. академии. Секция лит-ры, иск-ва и языка, 1929.

● Пословицы русского народа: сб-к пословиц, поговорок, речений, присловий, чистоговорок, прибауток, загадок, поверий и проч. В. Даля. — М.: Издание Императорскаго общества истории и древностей российских при Московском университете / в университетской типографии, 1862. Паметы ў тэксце.

Востры і часам нават жорсткі крытык, не мог абысціся Алесь Дудар і без такога выдання:

● О писательской этике, литературном хулиганстве и богеме: сб. статей под ред. А. Жарова / сост. Б. Киреев. — Л.: Прибой, 1927. — 147 с. Паметы чырвоным алоўкам.

## 2в. Навуковая і навукова-папулярная гістарычная літаратура і публіцыстыка, зборнікі архіўных дакументаў.

Немагчыма вылучыць нейкі адзін перыяд ці адну краіну, гістарычны малюнак якіх цікавіў бы Алеся Дудара найбольш. Хіба што гісторыя дзекабрыстаў: у бібліятэцы сабраны архіўныя выданні «Восстание декабристов. Материалы / Дела верховного Уголовного суда и следственной комиссии, касающейся госпреступников. / №351-358, №431-439», падрыхтаваныя да друку М. Чулковым, «Восстание декабристов. Материалы. Том IV. Восстание Черниговского пехотного полка», падрыхтаваныя да друку Ю. Оксманам, «Записки и письма декабриста И. И. Горбачевского» і інш. У астатнім геаграфічнае кола ягоных гістарычных цікавасцей — надзвычай шырокае: Японія, Турцыя, Францыя і наогул Заходняя Еўропа, Расія і Украіна, старажытны Егіпет і антычнасць. Тое, што захапленне гісторыяй, прычым не толькі белетрызаванай, але й пададзенай з першакрыніц, было не часовым, а сталым захапленнем паэта, сведчаць, прыкладам, гэтыя экзэмпляры:

● Красный архив. Исторический журнал. Т. 1 (68). 1935. — М.: Гос. соц.-эконом. изд-во, 1935. — 172 с. На адваротным баку вокладкі — паштовая налепка: *«Проводная, 15а, кв. 2, Дудару. Центральный архив РСФСР».*

● Красный архив. Исторический журнал. Т. 4-5 (65-66). 1934. — М.: Гос. соц.-эконом. изд-во, 1935. — 172 с. На адваротным баку вокладкі — паштовая налепка: *«Проводная, 15а, кв. 2, Дудару. Центральный архив РСФСР».*

Цікавіўся паэт гісторыяй рэлігій:

● Философское учение буддизма: лекция акад. Ф. Щербатского, читанная при открытии Первой буддийской выставки в Петербурге 24 августа 1919 года. — Пг.: Изд. отд. по делам музеев и охраны памятников искусства и старины, 1919. — 48 с.

● Черeванский В. Мир ислама и его пробуждение: историческая монография. — Часть I. — СПб, 1901. Экслибрис: *«Николай Д. Савченко. Минск».* — Штамп: *«Магазин удешевленной и букинистической книги. Бел. отд. КОГИЗа. 20 р.».*

● Ярославский Е. Библия для верующих и неверующих. Ч. 1. Сотворение мира. — Изд. 3е. — М.; Л.: Красная новь, Главполитпросвет, 1924. — 111 с.

Некаторыя з выданняў сёння шакіруюць жахлівым прадбачаннем трагічнага лёсу іх уважлівага чытача:

● Ашенбреннер М. Военная организация Народной воли и другие воспоминания (1860—1904) / ред. Н. С. Тютчева; виньетка — общество бывших политкаторжан и ссыльнопоселенцев. — М., 1924. — 200 с.

● Испанские и португальские поэты, жертвы инквизиции: Стихотворения, сцены из комедий, хроники, описания аутодафе, протоколы, обвинительные акты, приговоры / Собрал, перевел, снабдил статьями, биографиями и примечаниями В. Парнах; переплет и суперобложка по рисункам С. Шор; ред. М. Розанов; худ. редакция М. Сокольников. — Л.; М.: Academia, 1934.

● Кащенко П. Суд в Московском государстве. — М.: Изд. Т-ва «Мир», Знаменка, 9, 1920. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дудар».*

## 2г. Літаратура па пытаннях нацыянальных гісторыі, мовы, культуры

Алесь Дудар быў адным з самых зацятых барацьбітоў за нацыянальную самабытнасць Беларусі, за асобны шлях развіцця нашай культуры, за палітычную самастойнасць і незалежнасць ад суседзяў. У варунках 1930-х гадоў такія

настроі не маглі заставацца без пільнай увагі ГПУ, а пасля — НКУС: паэт тройчы арыштоўваўся, быў першым з беларускіх паэтаў, каго асудзілі да высылкі, а па апошняй сваёй, смяротнай справе «праходзіў» разам з М. Зарэцкім, М. Чаротам і Зм. Жылуновічам як арганізатар нацыяналісцкай арганізацыі. Зразумела, ніякай арганізацыі насамрэч не было — але палымяным прыхільнікам культурнай і палітычнай незалежнасці Беларусі Алесь Дудар сапраўды быў.

Пра тое, што настроі ягоныя мелі пад сабой тэарэтычны падмурак, сведчаць кнігі. У асобную групу можна вылучыць выданні, прысвечаныя культуры і гісторыі «малых народаў», якія стаяць на шляху самавызначэння (на сёння іх 14, але іх змест настолькі красамоўны, што цалкам магчыма — кнігі гэтага кірунку канфіскоўваліся пры вобыску). Сярод іх:

● Бартольд В. Киргизы (историч. очерк) — Фрунзе: Киргиз. гос. изд-во, 1927. — 57 с.

● Гросс Э. Авт. Соц. Сов. Респ. немцев Поволжья. — Покровск: Немгосиздат, 1926. — 125 с.

● Мамет Л. Ойротия / Очерк национально-освободительного движения и Гражданской войны на Горном Алтае. — М.: Науч.-иссл. асс. по изуч. нац. и колониальн. проблем, 1930. — 144 с.

● Махарадзе Ф. Хачатуридзе Г. Очерки по истории рабочего и крестьянского движения в Грузии / обложка работы Е. Перникова; рис. на обл. худ. Чудецкого. — М.: Журнально-газетное объединение, 1932. — 248 с.

● Петров Д. Чувашия. Историко-полит. и соц.-эконом. очерк. — М.; Л.: ГИ, 1926. — 104 с.

● Пожидаев В. Горцы Северного Кавказа. Ингуши, чеченцы, хевсуры, осетины и кабардинцы: краткий историко-этнографический очерк. — М.; Л.; ГИ, 1926. — 112 с.

● Тагор Р. Национализм / пер. с англ. И. Колубовского и М. Тубянского. — Пг.: Academia, 1922 — 96 с.

● Танну — Тува. Страна голубой реки — М.: Изд-во об-ва политкаторжан, 1927. — 55 с.

## 3. Літаратура на іншых замежных мовах

У гэта цяжка паверыць, але менавіта Алесь Дудар, які не меў ані сур’ёзнай адукацыі, ані тытулаваных настаўнікаў, быў адным з самых актыўных і аўтарытэтных беларускіх перакладчыкаў 1930-х. Ён перакладаў з нямецкай, французскай, польскай, украінскай, рускай моў, яму замаўлялі літаратурнае рэдагаванне перакладаў з англійскай, хаця менавіта гэтай мовы ён не ведаў. Што тычыцца нямецкай і французскай — ягоныя веды былі настолькі дасканалымі, што ўзровень перакладаў з Шылера, Гейнэ, Гётэ, Бамаршэ і сёння ўражвае перакладчыкаў-практыкаў. Аналізуючы мову перакладаў і перакладчыцкія рашэнні, якія прымае Алесь Дудар, эксперты адзначаюць, што ягоныя замежныя мовы — найперш кніжныя, ім бракуе размоўнай лексікі, але пры гэтым ён выдатна адчувае асаблівасці граматычнага складу і фразеалагічнай тканіны іншай мовы. Невыпадкова менавіта Алесю Дудару, паэту апальнаму, якога ў трыццатых няшмат друкавалі і ніколі не ўспаміналі сярод «генералаў ад літаратуры», старшыня пушкінскай камісіі Янка Купала даручае пераклад пярліны рускага рэалізму — рамана А. Пушкіна «Яўгеній Анегін».

Цяжка сказаць, адкуль у тагачаснай Беларусі браліся выданні на французскай і нямецкай мовах, але іх колькасць у асабістай бібліятэцы А. Дудара ўражвае: тут Вальтэр і Мапасан, А. Дадэ і А. дэ Мюсэ, французскі любоўны раман і прыгодніцкія навэлы, і нават Шэкспір у перакладах на нямецкую.

## 3а. Французская

● Alfred de Musset. Croisilles, Pierre Et Camille, Le Secret De Javotte, La Mouche, Histoire D'un Merle Blanc, Mimi Pinson. — Paris: Bibliotheque Charpentier, 1895. — 315 p. Штамп: *«Библіотека В. Фрумкина».*

● Alphonse Daudet. La petite poroisse. — Paris: Alphonse Lemerre, ed., 1895. — 452 p. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дудар».*

● Boileau. Œuvres poétiques / Précédées d'une notice biographique et littéraire et accompagnées de notes par F. Brunetiére / Paris: Hachette, 1909. — 320 p.

● Farrére. L'homme qui assassina: roman. — Paris, 1907. — 319 p.

● Frans A. Historie contemporaine. L'Orme du mail — Paris: Galmann-levy ed., 1925. — 340 p. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дудар».*

● Franse A. Le Genie latin. — Novelle edition revue par l'auteur. — Paris: Galmann-levy ed., 1925. — 407 p. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дудар».*

● Ízgur E. Nur Volu! La festo de laboro kaj paco. — Leipzig, 1924. — 16 c.

● Jules Mary. Roger-la-Itonte. — Paris: librare illustrée. — 342 c.

● Les cruautés de L'amour par Judith Gautier. — Paris: E.Dentu. — 1879. — 299 p.

● Les nuits de la Maison Dorée. - Paris: ed. E.Dentu. — 304 p.

● Les Voleurs d'or par Celeste de Chabrillan. — Paris: Michel Levi Fréres, 1857. — 311 p.

● Madame de Sevigne. Lettres Choisies. — 354 p. Без тытульных лістоў і выхадных дадзеных.

● Maupassant Guy de. Le Pére Milon. — Paris: Libraire P. Ollendorff, 1904. — 314 p.

● Maupassant Guy de. Toine. — Paris: Libraire P. Ollendorff. — 303 p.

● Michel Strogoff. Moscou-Irkutsk par Jules Verne. — Paris: d'éducation et de récréaion. — 288 p.

● Rasine. Œuvres completes. — Paris: Librairie Hachette, 1875. — 430 p. Уладальніцкі надпіс*: «Z. Minuzchcki».*

● Vanderneym J.-G. Une expédition avec le Négous Ménélik; vingt mois en Abyssinie. — Paris, 1896. — 205 p.

● Voltaire. La Henriade, en dix Chant. — Geneve, M. DCC, LXXVIII,1829.

● Voltaire. Mérope. Tragédie. Annotée par E. Geruzez ancient professeur á la Faculté des Lettres de Paris. — Paris Librairie Hachette et cie 79, Boulevard Saint-Gernan, 1897

● Chateaubriand. Les Martyrs et le dernier des Abencérages. — Paris: Librairie Hachette, 1910. — 468 p.

## 3б. Нямецкая

● Braunbuch űber Reichstagsbrand und Hitler-terror / Gekűrste Ausgabe. — M.; Л.: 1933. — 193 с. Уладальніцкі надпіс: *«Ал. Дудар».*

● Das Gift im Weibe / Sieben Robellen fon Paul Sdjűler. — Berlin, 1918. — 143 p.

● Das Mysterium der Liebe: Silhouetten aus zwei Welten von Hans Iaachim Frhr. v. Rectzenstein. — Berlin. — 144 p.

● Der Heliand. Ein Sachsensang aus dem neunten Jahrhundert. — Bremen, — Berlin. 1915. — 276 S.

● Der Hof Der Königin Luise Von Herman von Petersdorff. — Leipzig: Im Xenien-Verlag. — 60 S.

● Shakespeare Dramatische Werke. — Berlin, 1889. — 540 p.

● Tobias Wilders Weg zur Höhe: roman von Zdenko Kraft — Berlin, Wien, 1918. — 249 S.

Адна з кніг — асабліва цікавая. Гэта вучнёўскі падручнік Алеся Дайлідовіча, вучня Казлоўскай мужчынскай гімназіі — з надпісамі і паметамі, зробленымі дзіцячай рукой. Склаў гэтую нямецкую хрэстаматыю П. Глезер, выкладчык Дзямідаўскага юрыдычнага ліцэя г. Яраслаўля — таго самага ліцэя, у якім навучаўся Максім Багдановіч.

● Немецкая хрестоматия / составилъ П. Глезер, преп. кадетского корпуса и лектор Демидовского юридич. лицея в Ярославле / изд. 12-е. — Пг., 1916. — 104 с. Штамп: *«А. Дайлидович 4 класса».*

Сказаць па праўдзе, на штампе першапачаткова стаяла прозвішча «Дойлидович», але будучы беларускі паэт упарта выправіў чарнілами русіфікаваную версію прозвішча — на беларускую.

Украінскія і польскія выданні часцяком траплялі ў бібліятэку ў якасці падарункаў: сярод іх сустракаюцца і экзэмпляры з інскрыптамі:

● Kowałski W. Dwa poematy. — Minsk: WPS, 1934. — 52 c. Інскрыпт: «*Koledzę pióra towarzyszowi Dudarú z uściskiem dłoni. Minsk 1934 15/VI*».

● Kraiński E. Burza w Koszarach. — Minsk: Wyd-wo państwowe Białorusi, 1935. Інскрыпт: «*Dobremu miłetu, zbiżonetu do [нрзб] przyjażni awtorowi wspaniałych utworów poetyckich — Tow. Dudarowi — na dlugą pamieć od autora. 28 kwietnia 1936 g.*»

З гэтай часткай бібліятэкі звязана драматычная гісторыя. У асабістым архіве сям'і Дайлідовічаў захоўваецца паштоўка, дасланая Алесем Дударом з турмы 10 снежня 1936 года — апошняе прывітанне родным. *«Мамачка! 19-га а 3-й гадзіне зайдзі — будзем бачыцца. Падбяры такія кнігі: Alphonse Daudet. Numa Roumestan; Anatole France. Crainquebille; Paul Bourget. Kazarine; Pierre Loti. (нрзб) Pierre Loti. Ramuntcho. Прывітанне бацьку. Скажы, што ў мяне настрой добры — каб у яго быў такі ж. Жэні прывітанне перадай. Цалую. Ал.».*

Гэтых кніг, якія замест ежы, вопраткі і папярос просіць зняволены, у бібліятэцы Алеся Дудара няма. Ці яны зніклі за ваенным часам, ці маці сапраўды здолела пабачыцца з сынам перад тым, як страціць назаўсёды, і перадаць кнігі — невядома. Як невядома, што сталася з перакладамі, якія паэт, магчыма, рабіў за кратамі.

Між тым — усё ж захавалася бібліятэка, сведка творчага імпэту і натхнёнай працы, бліскучага таленту і несупыннага шляху наперад, сведка таго прыгожага і харызматычнага часу, які ствараўся на Беларусі маладымі і незвычайна адоранымі хлопцамі, пра якіх мы ўсе ледзь не забыліся.



**Эмануіл ІОФЕ**

# ШМАТГРАННЫ ТАЛЕНТ УЛАДЗІМІРА МЕХАВА

Кожны раз, сустракаючы Уладзіміра Львовіча (а мы жылі у адным доме), здзіўляўся яго эрудыцыі і ўсебаковай інфармаванасці. Шмат якія мае знаёмыя называлі яго «хадзячай энцыклапедыяй». Ён быў не толькі празаікам, як сказана ў чацвёртым томе біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі», а і драматургам, журналістам, публіцыстам, кінасцэнарыстам, літаратурным крытыкам, перакладчыкам. І абавязкова трэба дадаць два словы — «таленавітым, арыгінальным».

Працаваць і друкавацца пачаў у сярэдзіне 1940-х, калі яму было сямнаццаць гадоў.

Нарадзіўся У. Мехаў (сапраўднае прозвішча Няхамкін) 25 сакавіка 1928 года ў сям'і рабочага Льва Няхамкіна ў горадзе Рагачове. У студзені 1972 года ў аўтабіяграфіі «Пераваліўшы за сорак…» Уладзімір Львовіч пісаў: «*Прафесія ў мяне не толькі любімая, а і патомная. У 1928 годзе, калі я нарадзіўся (25 сакавіка), ні бацька, ні маці мае не былі яшчэ, праўда, журналістамі. Бацька працаваў у той час у Рагачове на цагельным заводзе, маці — у друкарні. Але сам я толькі па дакументах ведаю, што нарадзіўся ў Рагачове, а першыя дзіцячыя ўспаміны мае — мінскія. Тут бацька працаваў спачатку ў "Звяздзе", пазней, пасля некалькіх год работы ў палітаддзеле МТС у Лепелі і ў акруговай газеце ў Барысаве, — у рэдакцыі "Советской Белоруссии".*

*Маці таксама ў тыя даваенныя гады была вылучана на работу ў рэдакцыю. Недзе ў трыццаць пятым яна прыйшла ў "Работніцу і сялянку", пасля заканчэння вайны з эвакуацыі зноў вярнулася сюды і, адсакратарыўшы тут каля трыццаці гадоў, пайшла, як кажуць, на заслужаны адпачынак, гадуе цяпер унукаў.*

*Бацьку ж унукаў дачакацца не давялося…*

*У мінскім Доме друку ўстаноўлена мемарыяльная дошка з імёнамі шаснаццаці беларускіх журналістаў, якія загінулі салдатамі, партызанамі і падпольшчыкамі ў Айчынную вайну. Я часта гляджу на асабліва дарагое мне імя сярод гэтых шаснаццаці — імя майго бацькі. Я прыгадваю, як цяплеюць і мякчэюць вочы ў яго сяброў, калі яны пра яго расказваюць. Прыгадваю кожную сустрэчу з ім на прыгараднай станцыі каля Тамбова, дзе некалькі тыдняў вучыўся салдацкаму ўмельству іх сфарміраваны з камуністаў-добраахвотнікаў батальён… прыгадваю даваенныя таварыскія застоліцы ў нас дома…*» (Праз шмат гадоў пасля вайны У. Мехаў даведаўся, што яго бацька за гераізм і мужнасць пасмяротна быў узнагароджаны ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга. — *Э. І.*)

У 1945—1950 гадах У. Мехаў вучыўся на аддзяленні журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і адначасова быў супрацоўнікам шматтыражкі БДУ. Пасля заканчэння ўніверсітэта працаваў літсупрацоўнікам, загадчыкам аддзела газеты «Чырвоная змена» (1950—1960), рэдактарам на Рэспубліканскім радыё (1960—1961). У рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» быў загадчыкам аддзела, адказным сакратаром (1961—1975).

З 1975 года да выхаду на пенсію — старшы рэдактар, каментатар літаратурна-драматычнай рэдакцыі на Рэспубліканскім радыё. Аўтар цыкла радыёперадач «Сустрэча ў радыёстудыі».

А вось што ўзгадаў сам у адной з гутарак з аўтарам гэтых радкоў: «*Без бацькі нашай сям'і жылося вельмі цяжка. Хоць я ўжо быў студэнтам-першакурснікам БДУ. Трэба было знайсці хоць нейкую працу. І тады жонка бацькавага сябра — Ваганава, маці вядомага журналіста Сяргея Ваганава, якая ў той час працавала ў Саўнаркаме і сябравала з маёй маці, напісала запіску галоўнаму рэдактару газеты "Літаратура і мастацтва" славутаму паэту Аркадзю Куляшову, каб ён дапамог мне з працай.*

*Я пайшоў з гэтай запіскай да Куляшова дамоў. Той жыў у чырвонай двухпавярхоўцы насупраць стадыёна "Дынама" на Ульянаўскай. Зразумела, трэба была вялікая смеласць ісці да лаўрэата Сталінскай прэміі, а гэта ў той час вельмі многа значыла. У рэшце рэшт, Куляшоў напісаў на запісцы свайму намесніку Алесю Кучару: "Алесь, пажадана просьбу выканаць".*

*Пасля гэтага мяне пры першым наведванні рэдакцыі "Літаратура і мастацтва" папрасілі напісаць матэрыял з выставы. А праз некалькі публікацый узялі ў рэдакцыю рэпарцёрам. Мне тады яшчэ не было васямнаццаці.*

*Не забуду, як пісаў юбілейнае пісьмо-віншаванне таварышу Сталіну ад імя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, што было вялікай пашанай. Гэта быў ужо 1949-ы год, і я працаваў ў газеце ўніверсітэта "За сталінскія кадры".*

*І калі я пісаў пісьмо да 70-годдзя таварыша Сталіна, то з усіх выкладчыкаў і студэнтаў БДУ меў самы вялікі доступ да яго рэктара Івана Савіча Чымбурга*».

Будучы чалавекам шматграннага таленту, у гісторыю беларускай культуры У. Мехаў увайшоў найперш як таленавіты пісьменнік (член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1960 года), які пісаў па-беларуску, па-руску. Яго творы прысвечаны гістарычнаму мінуламу Беларусі, рэвалюцыйнаму руху, Вялікай Айчыннай вайне, эпізодам з гісторыі беларускай культуры, чалавечым лёсам.

Выдаў кнігі апавяданняў, аповесцей, нарысаў «Сцяг над рэўкомам» (1958), «Апошняя яўка» (1959), «Помнік герою» (1961), «Станцыя паблізу Тамбова» (1964), «Добры вечар, камбат» (1970), «Слухаецца справа аб замаху…» (1974), «Старадаўняя гравюра» (1974), «Далучэнне. Сілуэты ў далечы мінулага» (1992).

Заслугоўвае ўвагі прызнанне самога Уладзіміра Львовіча наконт праблематыкі некаторых яго герояў:

«*Лёс аднаго з адкрытых для сябе герояў — Станіслава Берсана — чамусьці асабліва запаў у сэрца. Нешта праз паўгода ці год пацяху ад таварышаў і блізкіх (засмяюць, чэрці!) пачаў пісаць пра яго апавяданне. Апавяданне не атрымалася. Атрымалася невялічкая аповесць, якая спачатку так і называлася — "Камісар Берсан", — а потым, у рускіх выданнях, была названа "Красный губернатор".*

*Наступная кніжка "Апошняя яўка" таксама пачыналася як журналісцкая работа. Выдавецтва "Беларусь" прапанавала мне напісаць зборнік нарысаў пра актыўных удзельнікаў рэвалюцыйных падзей на Беларусі. Заняўшыся адным з герояў будучага зборніка, я так і не дабраўся да астатніх, і ў прызначаны тэрмін здаў у выдавецтва не зборнік нарысаў, а зноў жа невялічкую аповесць, у аснове якой была пачутая легенда пра чэкіста Іосіфа Апанскага…*

*Найбольш люблю я цяпер (у 1972-м годзе. — Э. І.) пісаць апавяданні, хоць пішу іх да крыўднага рэдка. Як правіла, яны ў мяне кароткія — дзесяць-дванаццаць старонак машынапісу.*

*Відаць, прычынай таксама газетная школа, якая прывучае да эканомнага выдаткавання слоў*».

У рэцэнзіі беларускага даследчыка І. Скапарава «Старонкі гістарычнага змагання» на першую кнігу У. Мехава «Сцяг над рэўкомам», змешчаную 15 лістапада 1958 года ў газеце «Літаратура і мастацтва», адзначалася: «У. Мехаў прысвяціў жыццю і дзейнасці выдатнага рэвалюцыянера аповесць "Камісар Берсан"…

Аўтар пераканаўча паказаў шлях Берсана ў рэвалюцыю. Ён вырас і выхаваўся ў сям'і буйнога варшаўскага фінансіста. Яго брат Арнольд пайшоў па слядах бацькі. Але Станіслаў з ранніх год уключыўся ў сацыялістычны рух, спазнаў турмы і канчаткова парваў з бацькамі. І ў той час, калі яго брат прагульваў у Парыжы грошы, Станіслаў у Беларусі ствараў і ўмацоўваў Савецкую ўладу…

Найбольшага мастацкага напружання дасягнуў аўтар у апісанні сцэны сустрэчы двух братоў — Станіслава і Арнольда. Знянацку захоплены легіянерамі, Станіслаў вядзе сябе мужна, як і належыць сапраўднаму камуністу. Угаворы брата не дапамаглі. Браты заставаліся класавымі ворагамі. Станіслаў загінуў ад рукі белапанскіх катаў, але сваёй смерцю даказаў бессмяротнасць ідэй, за якія аддаў жыццё…

На гістарычным матэрыяле У. Мехаў стварыў хвалюючую аповесць. Нашым маладым чытачам яна прынясе вялікую карысць.

Апавяданне "Легенда Замкавай гары", безумоўна, трэба аднесці да ўдач аўтара. Аб гэтым сведчыць як задума стварэння, так і яго мастацкая фактура.

Тое ж самае трэба сказаць і пра апавяданне "Стары фатограф".

Цяжка прадказаць будучае У. Мехава як пісьменніка…

Пісьменнік, які стварыў аповесць і некалькі добрых апавяданняў, не павінен затрымлівацца на паўдарозе».

Кніжка У. Мехава «Помнік герою» выйшла ў 1961 годзе з малюнкамі мастака Барыса Заборава, імя якога вядома сёння ўсяму свету. Яна складаецца з шасці апавяданняў («Салаўі», «Чаравікі», «Басконская хота», «Хімка», «Помнік герою», «Помста кагуны»). Дзеянне апавяданняў адбываецца ў розныя часы і ў розных краінах, але ўсе яны прысвечаны той жа тэме, што і ранейшыя творы аўтара — подзвігу ў імя Радзімы, у імя шчасця простых людзей.

Асаблівае месца ў творчасці пісьменніка займае зборнік апавяданняў «Станцыя паблізу Тамбова». Рэцэнзію на яго крытык Сяргей Гусак назваў «Уменне заўважаць добрае» («Полымя», 1964, № 9): «Пісьменнік пачынаецца тады, калі ён не можа насіць у сабе нявыказаннымі ўражанні, пачуцці і думкі аб людзях і жыцці. Гэтая патрэба "выказацца" адчуваецца ў лепшых апавяданнях зборніка У. Мехава "Станцыя паблізу Тамбова"»…

Лепшыя ж апавяданні сведчаць, што малады празаік «намацвае» сваю тэму.

«*"…Я ніколі не спяшаюся сказаць пра чалавека: вось гэты — чэрствы, грубы і неразумны, а гэты — наадварот". У гэтых словах апавядання "Станцыя паблізу Тамбова" — ключ да разумення таго, што аб'ядноўвае лепшыя творы зборніка, робіць яго цэласным…*

*Уменне пісьменніка паказаць тое добрае, што схавана ў чалавеку, робіць лепшыя апавяданні прывабнымі і цікавымі. Іх з прыемнасцю сустрэне чытач*».

У часопісе «Беларусь» (1964, № 11) была змешчана рэцэнзія Ванкарэма Нікіфаровіча «Хваляванне неспакойнага сэрца». У ёй адзначалася: «У. Мехаў, які плённа працуе ў дзіцячай і юнацкай літаратуры, выступіў сёлета з кніжкай апавяданняў "Станцыя паблізу Тамбова", прызначанай для дарослага чытача…

У аснову апавядання "Станцыя паблізу Тамбова" пакладзены будзённы, знешне амаль нічым не прыкметны эпізод, які адбыўся ў першы ваенны год на невялічкай станцыі. Але пісьменнік здолеў убачыць тут нешта значна большае і паказаць праз гэтыя падзеі подзвіг народа, які вынес на сваіх плячах усе цяжкасці вайны….

Лепшыя апавяданні са зборніка "Станцыя паблізу Тамбова" сведчаць, што У. Мехаву ёсць аб чым расказаць не толькі дзецям. Перагарнуўшы апошнюю старонку, хочацца яшчэ не аднойчы сустрэцца з творамі аўтара, першы дэбют катарага ў жанры "сур'ёзнага" апавядання ўвогуле ўдаўся».

Крокам наперад у развіцці майстэрства пісьменніка стала кніга апавяданняў Уладзіміра Львовіча «Добры вечар, камбат». Галоўнай тэмай апавяданняў «Гладыёлусы», «Важны сваяк», «Старадаўні раманс», «Добры вечар, камбат», «Журботнае апавяданне», «Апошні сеанс» і драматычнай навелы «Палёт» сталі пошукі сапраўднага — сапраўднага шчасця, сапраўднай прыгажосці, сапраўдных духоўных каштоўнасцей. Так характарызавала зборнік У. Мехава рэдакцыйная анатацыя.

Алесь Марціновіч у верасні 1971 года ў рэцэнзіі на гэтую кнігу ў часопісе «Полымя» падкрэсліваў: «Так, менавіта пошукі сапраўднага ва ўзаемаадносінах

паміж людзьмі і складаюць асноўны змест кнігі пісьменніка. Тут і ціхая журба па пражытых гадах («Журботнае апавяданне»), і імкненне дакапацца да вытокаў сапраўднага шчасця («Апошні сеанс»), і роздум аб пеpажытым («Гладыёлусы», «Старадаўні раманс»).

«Спяшайцеся рабіць дабро» — як бы заклікае чытача аўтар. І гэта ад любасці да людзей, што жывуць побач з намі, з кім мы сустракаемся штодня на рабоце, у час адпачынку.

Сюжэт апавядання, якое дало назву зборніку, даволі просты. Лейтэнант Корсак у гады вайны трапіў у штрафны батальён. І вось цяпер, праз колькі гадоў пасля вайны, ён размаўляе па тэлефоне з падпалкоўнікам Лідавым, чалавекам, ад волі якога тады, па сутнасці, і залежаў лёс лейтэнанта…

У. Мехаў стараецца пранікнуць у душу Корсака, перадаць яго душэўны стан. Уся ўвага аўтара засяроджваецца менавіта на характарыстыцы тых маральных змен, якія адбыліся ў жыцці героя. «З новым годам вас, камбат. Жадаю ўсяго найлепшага. Паверце, ад шчырага сэрца…» — гэты званок, па сутнасці, пераадольванне таго бар’еру, які з’явіўся некалі паміж маладым лейтэнантам і камбатам…»

1972 год у жыцці У. Мехава азнаменаваўся выхадам у свет кнігі дакументальных нарысаў «Слухаецца справа аб замаху…». У выданні змешчаны два матэрыялы аб лёсе ўдзельнікаў рэвалюцыйнага руху Івана Пуліхава і Гесі Гельфман. У рэцэнзіі пад назвай «Што за справай аб замаху…» («Полымя», 1973, № 3) вядомы беларускі літаратуразнаўца і пісьменнік Сямён Букчын акцэнтаваў увагу чытачоў на асаблівасці пісьменніцкага майстэрства У. Мехава: «Аўтар пачынае “паглыбляцца” ў эпоху, у кнігі, дакументы архіваў, сустракаецца са сведкамі. І вось ужо на другі план адступае, здавалася б, самае цікавае — сам факт замаху, стрэл, кінутая бомба. Пісьменніцкае ўяўленне прыцягваюць галасы, што прабіліся праз дзесяцігоддзі, людзі, што сышлі са старонак архіўных папак. Але ці занадта абстрактныя некаторыя з уяўленняў аўтара, ці не залішне насычаны яны рэмінісцэнцыямі літаратурнага паходжання?..

Увогуле ж манеру, абраную У. Мехавым, нельга не адчуваць як імкненне пісьменніка ўбачыць у незвычайным лёсе цікавых для яго людзей характэрныя з’явы часу, зразумець жыццё гэтых людзей, іх учынкі. Нельга не адчуць жывой зацікаўленасці аўтара ў ацэнцы герояў, падзей, фактаў. І калі ён піша пра каханне Гесі Гельфман і Мікалая Каладкевіча, то зусім натуральна гучаць словы: “Я, вядома, магу дзе і памыліцца, уяўленне — рэч не самая надзейная”».

Нельга не пагадзіцца і з наступнай думкай вядомай беларускай журналісткі Святланы Шыдлоўскай, выказанай у кнізе «Свет близких звёзд»: «Писателей-историков не так много в мировой литературе, и это, как правило, самоучки, самородки. Такому писателю надо обладать обширными познаниями, эрудицией, задатками архивиста, иметь вкус к истории и одновременно уметь строить затейливый сюжет. Владимир Мехов из этой когорты. Он наделён особым чутьём. И может, он выработал, выкристаллизовал в себе этот особый дар — находить в истории жемчужины, очищать от пыли, нанизывать на крепкую живую нить сюжета и представлять в виде книги, пьесы, фильма.

Он развернул перед читателями историческую панораму славянского прошлого, запечатлел рассвет книгопечатания в лице Спиридона Соболя, показал на фоне самоотверженного поединка партии “Народная воля” с царизмом трагедию любви Геси Гельфман и Николая Колодкевича, одним из первых поведал о том, что стояло за неудачным покушением Ивана Пулихова на минского палача-губернатора, рассказал, как белорусские умельцы и ремесленники прославились в Московии и как выходцы из белорусских земель стали актёрами первого московского театра...»

Дарэчы, адной са сваіх лепшых кніг сам Уладзімір Львовіч якраз лічыў кнігу гістарычных аповесцей «Старадаўняя гравюра». Змешчаныя ў ёй аднайменны твор, а таксама «Кузёмка Дубанос — цароў камедыянт», прысвечаны далёкаму

мінуламу прыгоннага тэатра. Пісьменнік расказвае пра цяжкі лёс юных беларусаў, якім давялося стаць першымі расійскімі артыстамі.

Уладзімір Львовіч праявіў сябе як здольны, таленавіты драматург. У Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача былі пастаўлены яго п'есы «Чырвоны губернатар» і «Палёт». Ён — аўтар радыёп'ес «Гавайская легенда» (пастаўлена ў 1966 годзе) і «Шчасце Паўлінкі» (пастаноўкі 1977 і 1982 гг.), інцэніровак для радыё па творах мастацкай прозы, артыкулаў пра сучасны тэатр і беларускую драматургію. Пасля п'есы «Палёт», правобразам гераіні якой стала лётчыца Галіна Дакутовіч, на радзіме жанчыны ў Гомелі з'явілася вуліца яе імя.

У аўтабіяграфіі пра гэта расказвае так: «*Па просьбе Рэспубліканскага тэатра юнага гледача інсцэніраваў, а правільней, напісаў зусім самастойную, звязаную толькі двума-трыма агульнымі героямі, п'есу "Чырвоны губернатар"... І на п'есу таксама тэатр юнага гледача мяне "спакусіў" яшчэ адзін раз — на аснове дзённікаў слаўнай нашай зямлячкі Галіны Дакутовіч, якія некалі выпала мне рыхтаваць да друку, напісана была п'еса "Палёт"*».

І, канешне, У. Мехаў быў адным з самых таленавітых беларускіх журналістаў. Калі я неяк спытаў у яго: «Кім вы сябе лічыце?», пачуў такі адказ: «Спачатку журналістам, а потым — пісьменнікам».

У аўтабіяграфіі прызнаваўся: «*Тое нямногае, на што абапіраецца мой пісьменніцкі білет, напалову, а можа, і больш, таксама вынік журналісцкіх пошукаў, даследаванняў, сустрэч...*

*...Кніжка "Апошняя яўка" таксама пачыналася як журналісцкая работа...*

*І радыёп'еса "Гавайская легенда"... таксама нарадзілася з пачатага, але так і незакончанага цыкла дакументальных апавяданняў пра Мікалая Канстанцінавіча Судзілоўскага, беларуса з фантастычнай біяграфіяй, на пачатку XX стагоддзя прэзідэнта сената Гавайскіх астравоў.*

*І апавяданне "Слухай", герой якога рускі дэмакратычны паэт, мінчанін Іван Іванавіч Гольц-Мілер, "стукнула ў галаву", калі я рыхтаваў для радыёчасопіса музычную старонку, прысвечаную паўзабытаму аўтару славутай рэвалюцыйнай песні «Слухай», адной з любімых песень нашага народа.*

*Словам, наўрад ці я стаў бы літаратарам, членам Саюза пісьменнікаў, калі б за дзясятак гадоў перад гэтым не стаў газетным работнікам. І наогул я глыбока перакананы, што хоць аператыўная журналістыка і вымотвае, хоць Кіраў і назваў рэдакцыйную працу катаржнай, газетная школа дае літаратару вельмі многа*».

Вельмі трапна характарызуе У. Мехава як журналіста Святлана Шыдлоўская. Яна адзначае: «Он умеет угадывать события давно минувших дней и возвращать полузабытые имена в контекст современности. Блестящий журналист Владимир Нехамкин как-то сразу определил свою нишу — история страны в историях её личностей. И от журналистики перешёл к писательскому ремеслу, в 1947 году стал Владимиром Меховым. Точнее эти два творческих русла — журналистика и литература — долгие годы шли у него параллельно, а порой и пересекались. Позже к ним добавилась кинодокументалистика….

В редакции газеты «Чырвоная змена» он проработал десять лет, из них шесть — на посту заведующего отделом литературы и искусства. Газете обязан знакомством и дружбой с Рыгорам Бородулиным, Анатолием Вертинским, Борисом Саченко, Геннадием Буравкиным... У Рыгора Бородулина есть такие строчки: «Год 54-ты ехаў // на пенсію, на здачу спраў, // калі Ўладзімер Львовіч Мехаў // мой першы верш надрукаваў…»

Потом снова был «ЛіМ», в котором он — уже член редколлегии, ответственный секретарь…

Владимир Львович совмещал журналистику с писательством: вставал в пять-шесть утра, чтобы до девяти, когда нужно идти на службу, написать хотя бы полстраницы прозы…

В 1970—1980-х цикл «Сустрэчы ў радыёстудыі» был хитом белорусского радио, где тогда работал Владимир Львович. Эти беседы Мехова со своим виза-

ви о войне и мире, о богатстве культурного наследия и тревогах завтрашнего дня. Снова созвездие имён: Алесь Адамович, Заир Азгур, Михаил Савицкий, Стефания Станюта, Янка Брыль, Иосиф Вейнерович, Иван Шамякин, Ростислав Янковский…»

У дакументальныя фільмы перайшло 35 кінасцэнарыяў, значная частка якіх створана У. Мехавым у суаўтарстве з рэжысёрам Ю. Цвятковым. Сярод іх «Настоящее имя Николай Судиловский», «Выкованный в огне», «До Сенатской площади тысяча вёрст», «Быстро и во что бы то ни стало», «История одной телеграммы», «Встреча, предопределившая судьбу», «Особенно с Америкой», «Паэт і час», «Нарадзіўся я ліцвінам», «Зорнае прыцягненне», «Шкловский офорт», «Робин Гуды с белорусскими именами», «Андрей Громыко», «Начало славных дел», «Максим Танк».

Успамінаючы вытокі свайго ўдзелу ў беларускай кінадакументалістыцы, Уладзімір Львовіч адзначаў: «*Па просьбе студыі хранікальна-дакументальных і навукова-папулярных фільмаў напісаў сцэнарый дакументальнага фільма “Вуліцы бяссмерця”. Фільм расказвае пра людзей, чыімі імёнамі названы вуліцы Мінска — Івана Пуліхава, Станіслава Берсана, Іосіфа Апанскага*».

Уладзімір Механ стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі як адзін са стваральнікаў цыкла гісторыка-рэвалюцыйных дакументальных фільмаў — «Рэвалюцыя дае нам права», «Мост», «Чарвякову…спешна…Ленін», «Гісторыя адной тэлеграмы».

Шэраг беларускіх пісьменнікаў лічылі і лічаць Уладзіміра Львовіча бліскучым публіцыстам. У якасці прыкладу прывяду толькі адно яго эсэ «Глыток Ізраіля», напісанае пасля паездкі ў Ізраіль у кастрычніку—лістападзе 1995 года.

Аб таленце Уладзіміра Львовіча як літаратурнага крытыка сведчыць шматлікія рэцэнзіі на творы Т. Хадкевіча, Л. Гаўрылкіна, Э. Карпачова, І. Хадановіча, П. Броўкі і іншых.

Чытачам старэйшага пакалення добра вядома імя легендарнага мінскага падпольшчыка і разведчыка, Героя Савецкага Саюза Івана Кабушкіна, чыё імя носіць адна з вуліц Мінска. Але мала каму вядома, што менавіта У. Мехаў пераклаў з рускай на беларускую мову аповесць татарскага пісьменніка Ш. Ракіпава «Адкуль ты, Жан?», прысвечаную яго жыццю і дзейнасці. Ён жа праўвасобіў на беларускую мову нарыс А. Шасцінскага «Мазаіка аднаго лёсу».

Уладзімір Львовіч у жыцці быў сціплым, добразычлівым, простым чалавекам, без усякай высакамернасці, але вельмі прынцыповым у адстойванні сваёй думкі.

Ганарыўся сваёй жонкай — таленавітай журналісткай Ганнай Краснапёркай — былой вязніцай Мінскага гета, аўтарам кніг апавяданняў «Сузор’е» (1976) і «Пісьмы маёй памяці. Непрыдуманая аповесць» (1984), якую высока ацаніў Васіль Быкаў.

Яна памерла 2 мая 2000 года. У гэты ж дзень у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі была заснавана прэмія імя Ганны Краснапёркі, што ўручаецца гісторыкам, пісьменнікам, журналістам, якія сваімі публікацыямі ўплываюць на ўзмацненне ўзаемаразумення паміж беларускім і нямецкім народамі. Лаўрэатамі гэтай прэміі ўжо сталі Адам Мальдзіс, Генадзь Баркун, Аляксандр Ульяновіч і інш.

Пра свайго сына — вядомага расійскага журналіста Сяргея Няхамкіна ён казаў мне: «Я ўсведамляю, што як журналіст ён больш таленавіты, чым я. І разам з тым гэтым ганаруся».

У кватэры Уладзіміра Мехава і Ганны Краснапёркі даволі часта бывалі пісьменнікі Міхась Стральцоў, Рыгор Бярозкін, Артур Вольскі, Пятрусь Макаль, Валянцін Тарас, Барыс Бур’ян, акцёры Мацвей Федароўскі, Генадзь Аўсяннікаў, Віктар Лебедзеў, Барыс Барысёнак, Ілья Курган, кампазітар Генрых Вагнер.

Не стала Уладзіміра Львовіча 7 ліпеня 2017 года — на 89-м годзе жыцця. Уклад Уладзіміра Мехава ў развіццё беларускай культуры варты таго, каб яго імя было ўвекавечана ў Мінску і на яго «малай радзіме» — горадзе Рагачове.

Вячаслаў РАГОЙША

# ЁН ДАЙШОЎ ДА БЕЛАРУСІ!

Дойдзе той, хто ідзе. І хто зразу вызначае напрамак шляху.

Ісціну гэту пацвердзіў усім сваім жыццём выдатны ўкраінскі славяназнаўца, пісьменнік, грамадскі дзеяч Раман Мар'янавіч Лубкіўскі (10.8.1941—23.10.2015), шлях якога ў «сінявокую сястру Украіны» (У. Сасюра) доўжыўся звыш паўвека. І сведчанне таму — шэраг выразных «верставых слупоў» на гэтым шляху.

Бадай, самае адметнае, чым вызначыўся Лубкіўскі — і не толькі ва Украіне, але і ва ўсім славянскім свеце — гэта стварэнне дзвюх унікальных анталогій: «Слов'янське небо» і «Слов'янська ліра». На тытуле «Славянскага неба» (Львоў, 1972) — вымоўны падзагаловак: «Вершы рускіх, беларускіх, польскіх, чэшскіх, славацкіх, серба-лужыцкіх, югаслаўскіх, балгарскіх паэтаў у перакладзе Рамана Лубкіўскага». Ідэя звесці ўсе славянскія паэтычныя рэкі ў адно літаратурнае мора, змясціць асобныя творы славянскай паэзіі ў адной анталогіі аказалася надзвычай плённай і арыгінальнай. Ва ўсялякім разе, падобнага выдання ў другой палове XX — пачатку XXI ст. ні ў адной іншай славянскай краіне, апрача Украіны, не з'явілася. Крыху больш чым праз дзесяць гадоў, у 1983 годзе, на аснове «Славянскага неба» Лубкіўскі, ужо ў Кіеве, выдаў зборнік «Славянская ліра». І ў першую, і ў другую кнігу ўвайшлі творы ажно 136 (!) славянскіх паэтаў. Праўда, калі ў першай з іх кожны паэт быў прадстаўлены адным, рэдка — двума-трыма, вершамі, то ў другой — некалькімі, прычым звычайна новымі, перакладамі. Крыху зменена (колькасна і якасна) і нацыянальнае прадстаўніцтва асобных славянскіх паэзій. Аднак у абедзвюх кнігах самыя розныя вершы — грамадзянскія, філасофскія, інтымныя, пейзажныя — аб'ядноўвае адзін выразны матыў: адвечнае пабрацімства славянскіх народаў.

Дзякуючы Лубкіўскаму ў адзінае рэчышча славянскіх літаратур улілася і рака беларускай паэзіі. У «Славянскім небе» яна была напоўнена вершамі 20 паэтаў, у «Славянскай ліры» — 15. У цэлым жа ў дзвюх анталогіях знайшлося месца для знакавых вершаў 24 беларускіх паэтаў (для параўнання: для стольких жа — польскіх і 37 — рускіх). Калі ж улічыць і пераклады, што не ўвайшлі ў дзве анталогіі, а таксама яго артыкулы пра беларускіх майстроў мастацкага слова, то, несумненна, Раман Лубкіўскі з'явіўся для свайго часу самым плённым і адказным паўнамоцным прадстаўніком беларускай літаратуры на братняй украінскай зямлі.

Беларусазнаўчая праца Лубкіўскага ў значнай ступені натхнялася прысутнасцю ў яго духоўным свеце Янкі Купалы. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць і яго арыгінальны верш «Яблыкі Купалы», выдатна перакладзены на беларускую мову Я. Сіпаковым, і артыкулы пра творчасць песняра, і ўзнаўленні яго асобных твораў сродкамі ўкраінскай мовы. Лубкіўскі, як правіла, удзельнічаў у міжнародных Купалаўскіх чытаннях, што рэгулярна з пачатку 1990-х гг. праводзяцца Міжнародным фондам Янкі Купалы ў мінскім музеі песняра. Выступаючы на X Міжнародных Купалаўскіх чытаннях «Янка Купала: дыялог з XXI стагоддзем», прысвечаных 130-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі (2012),

Лубкіўскі выказаў перакананасць у тым, што «тэма “Янка Купала і Украіна” сёння павінна атрымаць новую, якасную “перазагрузку”».

Гэтую «перазагрузку» ён марыў ажыццявіць у выданні, накшталт падрыхтаванай — укладзенай, забяспечанай грунтоўнай прадмовай, каментаром і ў значнай ступені перакладзенай ім — украінамоўнай кнігі Максіма Багдановіча «Стратим-Лебідь» (Львоў, 2002). Гэта, па сутнасці, першы Поўны збор твораў класіка беларускай літаратуры за межамі Беларусі. Падобнага замежнага выдання пакуль што няма нідзе.

Раман Лубкіўскі — сапраўдны духоўны паўпрэд ва Украіне нашага М. Багдановіча. Не дзіўна, што, увогуле талерантны, Раман, калі паўстала пагроза закрыцця Дзяржаўнага літаратурнага музея М. Багдановіча (дарэчы, у 1991 г. ён удзельнічаў у яго адкрыцці), па-рыцарску кінуўся ў бой. Ён накіраваў асабісты ліст у Міністэрства культуры і Савет Міністраў Беларусі, арганізаваў і надрукаваў у «Літературній Україні» калектыўны ліст найаўтарытэтных украінскіх пісьменнікаў (сярод іх некалькі Герояў Украіны) з крытыкай гэтай недальнабачнай акцыі. Супакоіўся толькі тады, калі Музей Багдановіча як аўтаномную ўстанову ў складзе Аб’яднання літаратурных музеяў краіны вырашана было пакінуць.

З канца 1960-х гг. я стаў відавочцам, а пасля і супрычаснікам таго Раманавага шляху ў Беларусь. І ў гэтым мне, свайму «чоловіку», паспрыяла, апрача ўсяго і ўсіх, Таццяна Кабржыцкая, якая ў адзін час з Раманам вучылася ў Львоўскім дзяржаўным універсітэце імя І. Франка, на тым самым філалагічным факультэце, толькі не на славянскім, як ён, а на ўкраінскім аддзяленні. У нашай мінскай кватэры вісіць у рамачцы студэнцкі здымак, на якім Таццяна, Раман, Міхайла Косіў (пазней грамадскі дзеяч, дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны), Святлана Барабаш (пазней доктар філалагічных навук, прафесар), іншыя хлопцы і дзяўчаты — на Палессі, пасля ўдзелу ў пастаўленым імі спектаклі «Лясная песня» паводле славутай драмы-феерыі Лесі Украінкі… Ад Таццяны я і пачуў пра Рамана; праз пэўны час яна і пазнаёміла нас, ужо «вочна». Гэтае знаёмства з часам прывяло да больш блізкіх стасункаў, да нашага з ім «Дыялогу братэрства» («Полымя», 1984, № 7), што спачатку як варыянт друкаваўся ў львоўскім часопісе «Жовтень» («Калинові мости братерства» — 1982, № 6), а пасля — і да «магчымага працягу дыялогу» пад вымоўнай назвай «Руку дайце!» («Полымя», 1999, № 4)…

Мы з Таццянай з’явіліся ініцыятарамі ледзь не першага прыезду Рамана ў Мінск у 1973 г., пасля чаго ён неаднойчы з розных прычын наведваў Беларусь (мерапрыемствы беларускага Саюза пісьменнікаў, удзел у навуковых канферэнцыях, прыватныя запрашэнні і інш.). У лісце са Львова ад 25.Х.1973 г. маюцца, у прыватнасці, такія словы: *«Добрий день, Таню! Насамперед — Тобі, як представниці Білорусі — сердечно спасибі за увагу, яку ви з Вячеславом і Короткевичами виявили до мене. Тепер я краще побачив і зрозумів Білорусь, тож намагаюся бути її повпредом у Спілці та в редакції»*. Асабліва зачасціў Раман у Беларусь, калі недалёка ад Мінска, побач з маім родным Ракавам, пабудавалі ў выглядзе арыгінальнага замка і адчынілі ў 1976 г. усесаюзны Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач». У «Іслач» ён прыязджаў даволі рэгулярна, тут яму добра пісалася, па ім ён сумаваў. «*Пл`ачу за «Ісłоччу»*», — пісаў ён у адным з лістоў. Наперад звычайна замаўляў адзін і той жа невялікі нумар з двух паверхаў: на другім у яго быў кабінет, на першым сустракаўся з калегамі. Дадам пры нагодзе, што і другі львавянін, майстар гістарычнай прозы, сябар Уладзіміра Караткевіча, Герой Украіны Раман Іванычук (1929 — 2016) таксама любіў рэалізоўваць свае творчыя задумы ў «Іслачы»…

Дарэчы, адсюль, з берагоў хуткаплыннай стронгавай Іслачы Раман у 1987 г. жартоўным макаранічным вершам, напісаным на паштоўцы з намаляванымі кветкамі, віншаваў з днём 8 Сакавіка сваю мінскую зямлячку:

Дорога Таню,
Хто, що і де б то не балакав,
Я прославляти буду Ракаў;

Ад імя слаўных ракаўчан
Вітанне шле Табе Раман,

А кветкі — мілы дар вясны —
Хай Львоў прыпамянуць яны…
*Р. Лубківський. 4. III. 87.*

Прыезды ў Беларусь, найперш на Ракаўшчыну з яе прыгожым беларускім маўленнем, апрача ўсяго іншага, дапамагалі Раману асвоіць яшчэ адну (побач з некалькімі заходне- і паўднёваславянскімі) мову. І ён, трэба сказаць, з часам даволі добра авалодаў ёй. Спяваў песні, нават размаўляў на ёй з беларускімі калегамі і сябрамі: Генадзем Бураўкіным, Рыгорам Барадуліным, Нілам Гілевічам, Сяргеем Законнікавым, Васілём Зуёнкам, Сяргеем Панізьнікам, Валянцінай Коўтун… «Сімпатычныя» памылачкі ў беларускай лексіцы і вымове надавалі яго гаворцы дадатковую элегантнасць.

Думаю, не варта і казаць, што Раман падчас прыездаў у Беларусь быў жаданым госцем не толькі ў нашай мінскай кватэры (якая, літаральна праз сценку, межавала з кватэрай нашых суседзяў і сяброў Караткевічаў), але і ў маёй бацькоўскай хаце ў Ракаве, што выконвала функцыі лецішча. Бывалі і мы з Таццянай (хоць і намнога радзей) у львоўскай кватэры Лубкіўскіх, на іх лецішчы ў сяле Ракітна. Раман любіў свой арыгінальны «маёнтак» у Ракітным, упрыгожваў і ўтульваў яго. Падабаліся яму і нашы ракаўскія «пенаты». «*Дорогим Славі й Тані для раківських Пенатів*» перадаў ён калісьці сваю самабытную мініяцюрную кніжачку«Зелене серце: поетична антологія» з наступным вершаваным надпісам:

Що і хто б там не балакав,
Я закоханий у Ракав.
Усміхаючись блакитно,
Шле йому привіт Ракитно.
*Р. Лубківський. 1.XI.2003.*

Аднак, зразумела, часцей мы кантактавалі завочна, праз перапіску. Дзякаваць богу, што e-mail увайшоў у наш побыт даволі позна: засталося шмат Раманавых лістоў, напісаных яго каліграфічным почыркам, часам, праўда, паспешна, калі ён некуды ад’язджаў ці спяшаўся на поезд Львоў—Мінск, каб перадаць кніжны пакунак (існаваў у Рамана пэўны недавер да пошты). Нярэдка пасрэднікам у дастаўцы такіх пакункаў у Мінск (і наадварот — з Мінска ў Львоў) быў мой цесць заслужаны артыст Украіны, саліст Львоўскай оперы Вячаслаў Кабржыцкі, які, наведваючы свайго мінскага зяця, з прыемнасцю выконваў ролю паштара. А кніжныя пакункі былі падчас даволі важкія, у іх змяшчаліся не толькі кніжкі самога Рамана і некаторых іншых украінскіх аўтараў, у тым ліку літаратуразнаўчыя даследаванні (дацэнт Таццяна Вячаславаўна Кабржыцкая чытала на філфаку БДУ лекцыі па ўкраінскай літаратуры, і без тых кніжак не магла абысціся), але і газеты, часопісы («Літературна Україна», «Вітчизна», «Жовтень», «Дніпро» і інш.) з адпаведнымі публікацыямі. У далучаных лістах былі нярэдка і канкрэтныя просьбы-заданні: «*Прошу передати В. Короткевичу пакет з газетою, де є стаття про нього. Я посилав, але пакет повернувся. <…> Попросить у Володі* (Караткевіча. — *В. Р.) «Око тайфуна», якщо книжка вийшла. Мене вона цікавить дуже, зокрема «Дзікае паляванне караля Стаха». Якщо це прохання не обтяжить, дуже прошу книжку попросити у Володі або пошукати. Ваш Роман. 6.XII.1975. Львів»; «Дорогий Славо! Я надіслав книжку Цьоткі Вол. Круку, але повернулася — неточна адреса. Якщо не важко, дуже прошу Тебе передати йому*

*цю збірочку. Твій Роман Лубківський. 12.IX.1976»; «Посилаю «Л[ітературну] У[країну]» з чудовим Славиним виступом. Оригінал — у мене, передам у музей М. Шашкевича.*

*Збираюся до Ракова,*
*Щоб була в нас доля однакова.*
*А покищо — в лікарні, — дрібний поточний ремонт…*
*Вечір М. Ш[ашкевича] заплановано в Москві на 17.II. ц[ього] р[оку].*
*Щастя Вам і добра. Роман. 15.I.87».*

Што да згадкі пра Маркіяна Шашкевіча ў працытаваным вышэй лісце, то мушу патлумачыць: ад імя Саюза пісьменнікаў Беларусі я ўдзельнічаў у юбілейным вечары пісьменніка ў Кіеве. Мой выступ быў змешчаны ў галоўнай украінскай пісьменніцкай газеце, якую і перасылаў мне Раман. Прымаў я ўдзел (канешне, па ініцыятыве Рамана) і ва ўсесаюзнай юбілейнай вечарыне ў Доме пісьменнікаў у Маскве 17 лютага 1987 г.

Былі ў Рамана Лубкіўскага да нас з Таццянай Вячаславаўнай і канкрэтныя творчыя просьбы. Вось яго ліст ад 8 верасня 1973 г.: *«Нехай Таня (до речі, їй сердечне вітання) негайно надсилає рецензію на Караткевича. Ми давно хотіли прорецензувати цю прекрасну книжку, але автор, який хотів написати, не зробив рецензії. Дамо «оперативно», тільки прошу надіслати. <…> Напиши, що ще цікавого у вас вийшло. І ще одне: мене цікавить короткий список (із найкращих праць, видань і т. п.), що вийшло в Білорусі протягом останніх кількох років і присвячені Цьотці. Це потрібно для моєї творчої праці. Ще раз дякую Тобі, а в Твоїй особі — прекрасній, добрій, милій і талановитій Білорусі. Чекаю Твого листа і Таніної рецензії. Твій Р. Лубківський. 8.IX.1973. Львів».*

І тут я зноў павінен тое-сёе патлумачыць. «Рэцэнзія на Караткевіча» — гэта рэцэнзія Т. Кабржыцкай на кнігу У. Караткевіча «Земля під білими крилами: (Моя Білорусь)», якая ўпершыню выйшла ў Кіеве ў 1972 г. на ўкраінскай мове. Рэцэнзія пад назвай «Країна під білими крилами бусла» была надрукавана ў львоўскім часопісе «Жовтень» (1974, № 2) і выклікала вялікую ўдзячнасць Уладзіміра Караткевіча як яе аўтару, так і тагачаснаму супрацоўніку часопіса Лубкіўскаму, што паклапаціўся пра водгук на кніжку. У тым ліку — за загаловак той рэцэнзіі. У. Караткевіч, аказваецца, сам хацеў Беларусь назваць краінай, але ў кіеўскім выдавецтве пабаяліся «рэспубліку» называць «краінай» («Кабы чего не вышло!»). Краінай тады можна было іменаваць толькі СССР…

І яшчэ на адно звярну ўвагу. Як бачым, Раман яшчэ за тры гады да стагадовага юбілею Цёткі пачаў рыхтаваць асобнае выданне яе твораў на ўкраінскай мове. Роўна праз два гады, перасылаючы рукапіс будучага выдання, ён ужо прасіў мяне пра іншае: *«Поки що пишу передмову і правлю переклади віршів, прошу дуже суворо переглянути прозу — це, мабуть, найслабша точка рукопису. Справа в тому, що деяких слів не мог знайти у білорусько-рос[ійському] словнику, виникають труднощі при перекладі деяких зворотів (правда, їх небогато). <…> Кланяюся Вам від себе і від усієї своєї сім'ї, в тім числі від наймолодшого — Данила Романовича, якому щойно сповнився місяць. Щастя і добра Вам. 24.IX.1975. Львів. Роман».*

Кніга Цёткі «Вибране», цалкам падрыхтаваная Р. Лубкіўскім (яму належаць укладанне, пераклады твораў, прадмова, каментары), пабачыла свет у Кіеве ў 1976 г. З гэтай кнігай Раман прыехаў на юбілейныя ўрачыстасці ў Беларусь. Яна з'явілася найбольшай (хоць, зразумела, не адзінай) падставай для ўзнагароджання яго Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі, якую ён прыняў з радасцю.

Шмат часу, арганізацыйных і творчых намаганняў заняла ў Рамана падрыхтоўка шырокавядомай сёння кнігі «Шевченкова дорога в Білорусь» (2004). У сувязі з гэтым былі ў яго канкрэтныя просьбы і да нас. Вось вытрымка з ліста Р. Лубкіўскага ад 2.XI.2003 г., прасякнутага вострым клопатам пра запланаванае

літаральна на наступны, 2004 год, выданне: «*Дорогий Вячеславе! Пишу буквально «на коліні», бо через три години відлітаю в Париж, де працюватиму в Серселі (Наукове Товариство імені Шевченка). Тому пишу якмога стисліше (всі мої вибачення — під час зустрічі в грудні на ювілеї «Вянка»). Посольство наше в Мінську задумало «Творчій звіт» про Шевченківський рік у Білорусі. Сам розумієш, що зібрані інформації, виступи, фото не дають повного уявлення про Білорусь і Шевченка. Тому вирішено дати матеріал ретроспективний (давніші та близчі до нас статті, спогади, поезії на цю тему). Досить багато я вже маю… <..> Зрозуміло, що не хочу покласти цей тягар тільки на Тебе. Можливо, Ти (і, звичайно, Таня) могли б дати завдання студентам. В усякому разі дуже важливо «викликати» білоруську Шевченкіану до мого грудневого приїзду. Паралельно я працюю в київських та львівських бібліотеках…*»

Зразумела, мы не маглі не дапамагчы Раману ў пошуку неабходных яму як укладальніку матэрыялаў (нам ён пасля выказаў падзяку і ў выхадных дадзеных выдання). У выніку ў кнізе «Шевченкова дорога в Білорусь», апрача хронікі «Года Шаўчэнкі», увайшоў і цэлы шэраг іншых неабходных публікацый.

Адной з лепшых чалавечых якасцей Р. Лубкіўскага было тое, што ён турбаваўся не толькі, нават не столькі, пра сябе, колькі пра іншых. Так, у лісце ад 24 сакавіка 2004 г. ён прасіў-нагадваў: «*У серпні 70-річчя покійного Лучука. Дуже потрібні спогади. Передзвони кільком людям, які знали Володю — Мальдзіс, Зуйонок, Ригор (*Барадулін. — *В. Р.*]… *Будь ласка! У вересні — 75-річчя Павличка. Терміново готую книгу «На пошану Д[митра] П[авличка]» — велику й цікаву. Зрозуміло, що потрібні статті:*

*а) загалом про культуру і наші взаємини;*

*б) про самого Д[митра] П[авличка] (Ніл, Ригор, Ти, Таня. Може, є рецензії, публикації)…*»

У першым томе юбілейнага «Збору творів: у 10-ти томах» (Київ: Вид-во Соломії Павличко «Основи», 2010 — 2011) свайго старэйшага сябра, патрыярха ўкраінскай літаратуры, Героя Украіны Дмытра Паўлычкі Раман Лубкіўскі надрукаваў уступны артыкул на 85 старонках (!). Па сутнасці, стварыў асобнае літаратуразнаўчае даследаванне. І гэта — нягледзячы на цяжкі фізічны стан у апошнія гады жыцця, на хваробу, якая дачасна звяла яго ў магілу.

А колькі сіл і часу ён патраціў на ўвекавечанне М. Шашкевіча, усёй «Руської трійці» (М. Шашкевіч, І. Вагілевіч, Я. Галавацкі), іншых заходнеўкраінскіх пісьменнікаў! І гэта не толькі выданне кніг (іхніх твораў і пра іх жыццё і творчасць), напісанне адпаведных артыкулаў, але і клопаты з установкай памятных шыльдаў, стварэнне музейных экспазіцый і асобных музеяў (таго ж М. Шашкевіча), выстаў, арганізацыя навуковых канферэнцый, розных юбілейных урачыстасцей… Помніцца, як рупіўся Раман пра пераклад на беларускую мову вершаў «украінскага Максіма Багдановіча» — Багдана-Ігара Антоныча (1909—1937), а пасля — і пра прэзентацыю ўжо выдадзенай кнігі ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Неаднойчы і тэлефанаваннем, і пісьмова прыскорваў мяне (як укладальніка выдання і аднаго з яе перакладчыкаў), а праз мяне — усіх астатніх інтэрпрэтатараў арыгінальных і не простых для перастварэння твораў: Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Васіля Зуёнка, Сяргея Законнікава, Сяргея Панізьніка, Таццяну Кабржыцкую. У беларускамоўную кніжку мы вырашылі ўключыць вершы з трох прыжыццёвых выданняў Б.-І. Антоныча («Привітання життя», 1931; «Три перстені», 1934; «Книга Лева», 1936), двух пасмяротных («Зелена евангелія», 1938; «Ротації», 1938), вершы з падрыхтаванага, але не апублікаванага пры жыцці паэта зборніка «Велика гармонія» (1932—1933), а таксама тыя, што ўвогуле не ўключаліся ў зборнікі. Па парадзе Рамана, беларускаму чытачу былі прапанаваны арыгінальныя «Накіды, планы, фрагменты» пісьменніка, а таксама яго прамова пры атрыманні літаратурнай узнагароды 1 студзеня 1935 г. Выданне павінны былі аздобіць у якасці прадмовы і пасля-

слоўя выказванні пра творчасць Б.-І. Антоныча адпаведна беларуса Ніла Гілевіча і ўкраінца Дмытра Паўлычкі.

Праца не столькі над стварэннем кніжкі, колькі над яе выданнем у нас ішла цяжка. Зварот у розныя беларускія інстанцыі не дапамагаў. Не дапамагалі ў Беларусі і дыпламатычныя здольнасці самога Р. Лубкіўскага. Прычына была самая банальная: на друк не ставала сродкаў. Тады Раман зрабіў арыгінальны ход — вырашыў дапамагчы кніжцы пабачыць белы свет калі не ў Мінску, то ў Львове. Толькі ўжо з аднамоўна-беларускай яна ператварылася ў двухмоўную: украінска-беларускую. Беларускім тэкстам сталі папярэднічаць адпаведныя ўкраінскія. Так з'явілася ў Львове кніга, у выхадных дадзеных якой пазначана: Богдан-Ігор Антонич. Зелена Євангелія // Зялёнае Евангелле: поезія / упоряд. Р. Лубківського і В. Рагойші; передм. Н. Гілевича; післяслово Д. Павличка; коментарі В. Рагойші. — Львів: Каменяр, 2011. Кнігай Антоныча колькасцю ў 1000 асобнікаў у львоўскім выдавецтве «Каменяр» была распачата яшчэ адна выдавецкая серыя — «Бібліотека слов'янських літератур». Не ведаю, якія кніжкі выйшлі ў гэтай серыі, і ці ўвогуле выйшлі. Але першая з той серыі двухмоўная кніжка выбраных твораў Багдана-Ігара Антоныча пабачыла свет. І хай сабе яна, выдадзеная ва Украіне, а не ў Беларусі, не стала «добрай магчымасцю для беларускага чытача адкрыць для сябе творчасць яшчэ аднаго выдатнага пісьменніка братняга ўкраінскага народа» (як гэта напісана ў выдавецкай анатацыі), усё ж і сёння гэта — знакавая падзея сучасных беларуска-ўкраінскіх літаратурных узаемасувязей.

Раман Лубкіўскі, завяршыўшы свой жыццёвы шлях, несумненна, дайшоў да Беларусі. Хоць несумненна і тое, што не ўсё, што хацеў і мог зрабіць, ён рэалізаваў. Скажам, не паспеў так, як ён хацеў, укласці, так, як ён мог, перакласці і так, як ён задумаў, выдаць персанальную анталогію «100 паэтаў Беларусі». Пра гэта ён казаў мне неаднаразова вусна, паведамляў пісьмова. «*Моя робота над антологією «100 поетів Білорусі»*, — пісаў ён 14.08.2013 г., — *подана до плану на 2014*». Цікава, які яе далейшы лёс? Хацеў ён таксама «*написати велику статтю про Караткевича і вкласти в неї любов до цього Великого Білоруса*» (ліст ад 11.01.2011 г.). Альбо яшчэ адна яго задума — стварыць пры Львоўскім дзяржаўным універсітэце імя І. Франка ўсеўкраінскі навуковы і культурна-асветны цэнтр — «Інститут білоруської культури». Львоў больш, чым які іншы ўкраінскі асяродак, меў, мае і, ёсць спадзевы, будзе мець багатыя здабыткі ў даследаванні і прапагандзе беларускай культуры, украінска-беларускіх культурных узаемасувязей, дасягненняў незалежнай Беларусі ўвогуле. Дзе, як не тут, арганізаваць такі інстытут! Раман Лубкіўскі для ажыццяўлення гэтай задумы прыкладаў усе свае арганізацыйныя, творчыя і нават дыпламатычныя здольнасці. Скажам, у лісце ад 14 жніўня 2013 г. ён пісаў: «*В університеті Франка чекаю зміни. Коли оберуть нового ректора, може, вдасться заснувати Білоруський Інститут!*». За некалькі месяцаў да смерці — пра тое самае: «*Проблему «Інститут білоруської культури» досі вивчають. Ганьба та й годі*!» (ліст ад 11чэрвеня 2015 г.)…

Так, не ўсё, што было ў яго планах, ён паспеў здзейсніць. І ўсё ж, паўтару яшчэ раз, Раман Лубкіўскі дайшоў да Беларусі!

Са свайго боку, мы, беларусы, павінны прыкласці ўсе намаганні, каб слова і слава самага актыўнага шанавальніка беларускай літаратуры ва Украіне канца XX — пачатку XXI ст. шырыліся ў нашай краіне. Маючы ўласныя Міністэрства культуры і Міністэрства інфармацыі, два Саюзы пісьменнікаў, іншыя належныя дзяржаўныя ўстановы і творчыя арганізацыі, зрабіць гэта не ўяўляецца немагчымым. Тым самым мы хоць часткова сплацім доўг чалавеку, які не раз «зміг у колі найближчих побратимів висловити сваю любов до Білорусі, до її Поезії, до великих майстрів слова, вихованих і загартованих Максимом Богдановичем» (словы з прывітання Рамана Лубкіўскага ўдзельнікам навуковай канферэнцыі ў Музеі Максіма Багдановіча 26.XI.2009 г.).

**Мікола РАЎНАПОЛЬСКІ**

# ПА-РОДНАМУ СВЕТЛА ВА УКРАІНЕ




**СВЕТЛЫМІ ДАРОГАМІ БРАТЭРСТВА. ЗНАЁМСТВЫ, АДКРЫЦЦІ, ДЫЯЛОГІ**

**Уклад. В. Рацэвіч**

*серыя «Адрасы Беларусі ў свеце»*

*Мн.: Выдавецкі дом Звязда, 2017.*

Сістэмнасць выхаду кніжных серый сёння выклікае пэўныя сумненні і трывогі. Калі бачыш пачатак любога выдавецкага праекта, то заўжды неўпрыкмет думаеш пра тое, наколькі ён даўгавечны, наколькі паслядоўным будзе выдавецтва ў выпуску кніг з адной пазнакай. Выдавецкі дом «Звязда» (а яго папярэднікам у кніжнай справе можна лічыць далучаную да рэдакцыі газеты «Звязда» Рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову «Літаратура і Мастацтва») вылучыў у сучасную кніжную прастору некалькі кніжных серый: «Сябрына: паэзія народаў Расіі», «Святло мінуўшчыны», «Светлыя знакі: паэты Кітая», «Сяброўства без межаў», «Вясёлы карагод», «Библиотека всемирной литературы»… І літаральна пазалетась — у 2016 годзе — «Звязда» пачала яшчэ адзін новы праект — «Адрасы Беларусі ў свеце». Кнігі прысвечаны разгляду повязей нашай Айчыны, нашых суродзічаў з усім светам.

Трэцяя па ліку кніга — «Светлымі дарогамі братэрства» — расказвае пра беларуска-ўкраінскія стасункі. Разам з аўтарамі (большасць тэкстаў належыць Алесю Карлюкевічу і Алесю Марціновічу) чытач атрымлівае магчымасць прайсціся тымі сцежкамі, якія раней засвоілі беларусы, ураджэнцы Беларусі ў розных куточках Украіны. У прадмове да адмысловага гісторыка-публіцыстычнага зборніка вядомы расійскі і беларускі пісьменнік, намеснік старшыні ФНКА «Беларусы Расіі» Валерый Казакоў піша: «З даўняга часу фарміруецца беларуска-ўкраінскае супольніцтва. Да гэтага абавязвае і суседства, да гэтага вядзе і агульны славянскі лёс. Беларусы і ўкраінцы, Беларусь і Украіна — непарушнасць памкненняўаднае старонкі да другой здаўна вяла ўкраінцаў у Беларусь. У Мінску, іншых вялікіх і малых паселішчах заўсёды светла і сардэчна сустракалі сыноў і дачок з братняй прасторы. У беларускай навукі, культуры, у беларускім мастацтве засведчаны дзясяткі імёнаў украінцаў, якія знайшлі сябе, выявілі сябе менавіта ў Беларусі. У нашых гарадах многія

вуліцы і завулкі носяць імя Вялікага Кабзара. Лік — на дзясяткі. На Беларусі нарадзіўся легендарны ўкраінец Піліп Орлік. У Вялікую Айчынную вайну завітвалі ў Беларусь з выратавальнымі рэйдамі супраць фашысцкай нечысці ўкраінскія партызаны.

Але ж і беларусам утульна, прасторна, па-роднаму светла ва Украіне на працягу многіх стагоддзяў. Толькі адзін Кіеў прытуліў, вывеў у свет навукі і мастацтва гісторыка Мітрафана Доўнар-Запольскага, класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча… Некаторыя старонкі гэтай украінскай, сяброўскай цеплыні — у расповедзе, які прапануецца ўвазе чытачоў. Несумненна, на гэтых старонках — толькі частка беларуска-ўкраінскай агульнай гісторыі.

Няхай жа і гэтая кропля ў акіяне ведання пра супольнае жыццё, супольныя здабыткі беларусаў і ўкраінцаў стане напамінам пра ўсё добрае і разумнае, што яднае нашы народы, нашы краіны».

Падарожжа па беларускіх адрасах Украіны пачынаецца з Кіева. Адзін з нарысаў так і называецца — «Кіеў. Беларускія літаратурныя адрасы: некаторыя згадкі». Хто ж з беларускіх пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў звязаны са сталіцай Украіны? Паэт, мемуарыст, перакладчык Альгерд Абуховіч, літаратуразнаўца, філосаф Сямён Вальфсон, легендарная беларуская пісьменніца Зоська Верас, гісторык, этнограф, фальклярыст Мітрафан Доўнар-Запольскі, бібліёграф, гісторык літаратуры, публіцыст, перакладчык Рамуальд Зянкевіч, пісьменнік-нарадаволец Дзмітрый Лапо, празаік, мовазнавец Мікола Лобан, паэт, празаік, драматург, класік беларускай літаратуры Уладзімір Караткевіч… Спатканні з Кіевам былі ў народнага песняра Беларусі Янкі Купалы. Магчыма, трэба было б яшчэ дадаць і звесткі ў гэтую тэму пра іншых беларускіх літаратараў, якія так ці іначай спрычыніліся да горада на Дняпры. Размова — пра паэта і драматурга, кіраўніка польскай секцыі СП Беларусі ў 1930-я гг. Уладзіміра Кавальскага, які вучыўся ў вышэйшым музычна-драматычным інстытуце ў Кіеве напрыканцы 1920-х гг.; славутага Яўхіма Карскага, якому савет Кіеўскага ўніверсітэта прысудзіў у 1893 г. ступень магістра рускай мовы і славеснасці (за першую ў гісторыі дысертацыю па беларускай мове); пра паэта, літаратуразнаўцу, перакладчыка Язэпа Фарботку, які ў 1914—1918 гг. вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Кіеўскага ўніверсітэта; пра бібліёграфа, даследчыка літаратуры, бібліятэказнаўцу Яўгена Хлябцэвіча (працаваў у Беларускім пададдзеле аддзела асветы нацыянальных меншасцей Народнага камісарыята асветы РСФСР у Кіеве) і некаторых іншых не меней яркіх асоб. Канешне ж, не спехам трэба было б весці гаворку і пра Уладзіміра Караткевіча, з імем і творчасцю якога звязаны многія кіеўскія адрасы, а таксама ваколіцы Кіева. Такія нарысы маглі б з’явіцца ў кнізе і ў дачыненні многіх іншых мясцін Украіны. Праўда, ёсць тэксты «Беларускі літаратурны Харкаў», «Пачатак быў у Львове», «Беларуская экскурсія па Адэскім літаратурным музеі». Вось, здаецца, і ўсё. Калі будзе рыхтавацца раптам другое выданне, то гэта проста нельга не ўлічыць.

Вядомы гістарычны пісьменнік, краязнаўца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Алесь Марціновіч звяртае ўвагу чытача на знакамітыя гістарычныя постаці, якія ў кантэксце беларуска-ўкраінскага пабрацімства аднолькава важкія для гісторыі і Беларусі, і Украіны. Нарыс «З першых друкароў» прысвечаны Міхаілу Слёзку. Беларус, ён заснаваў уласную друкарню ў Львове ў 1638 годзе. А перад гэтым у тым самым горадзе загадваў друкарняй Стаўрапігійскага львоўскага брацтва. У 1634 годзе надрукаваў Псалтыр. Нарыс Алеся Марціновіча «Мастацтва любіў душой» прысвечаны мастацтвазнаўцу Адрыяну Прахаву, які нарадзіўся ў 1846 годзе ў Мсціславе. Яшчэ ў маладыя гады будучы даследчык запісаў у сваім дзённіку як галоўную мэту жыцця: «Мая задача ёсць параўнальнае вывучэнне гісторыі мастацтваў для пабудовы тэорыі мастацтва». А што ж яднае нашага суайчынніка з Украінай,

Кіевам. Слова — Алесю Марціновічу: «А што ўжо казаць пра працу ў Кіеве?! Дзякуючы Прахаву, па прызнанні Несцерава, што прагучала праз шмат гадоў, гэты горад “стаў як бы цэнтрам мастацкай Расіі”. І далей: «Права “цэнтра” ён замацаваў за сабой яшчэ больш, калі з 1884 па 1886 год Прахаў кіраваў унутраным аздабленнем Уладзімірскага сабора, з 1887 па 1897 год загадваў кафедрай гісторыі прыгожых мастацтваў Кіеўскага ўніверсітэта…» Гэтак жа захоплена, як і пра Прахава, Алесь Марціновіч расказвае пра паэта Сяргея Палуяна («Як месяц — адзінокі»), Браніслава Залескага («І Тарас Шаўчэнка як родны брат»), Іосіфа Гузікава («Арфей з Белай Русі»), Ота Шміта («Эдэльвейс — кветка недасягальная»), Іосіфа Сакалоўскага («Ізмаіл ягонага лёсу»), Еву Фялінскую («Адказам стала жыццё»), Міхаіла Кураку («Першым утаймаваў… «казла») і інш. У кожнага з герояў шырокіх, панарамных нарысаў — свая ўласная повязь з Украінай, з рознымі яе мясцінамі. Кожны з герояў — нашых суродзічаў — зрабіў свой унёсак у гісторыю, культуру, асветніцтва Украіны. Як мне падаецца, такі след варты адзнакі і ў нашай суседняй дзяржаве. І Курака, і Залескі, і Прахаў, канешне ж, — усе яны вартыя таго, каб ведалі пра іх, каб шанавалі іх ва Украіне. Мо першым крокам магло б стаць выданне гэтых нарысаў у перакладзе на ўкраінскую мову? Такі выдавецкі крок мог бы паспрыяць стварэнню болей шырокага моста дружбы нашых культур, нашых літаратур. А некаторыя асобныя нарысы Алеся Марціновіча пра згаданых герояў варты, несумненна, развіцця ў асобныя кнігі і выдання ў Кіеве. Упэўнены, такія праекты будуць на карысць у працягу даследаванняў пра лёсы нашых суайчыннікаў. Хацелася б, каб у памкненняў Алеся Марціновіча праз персаналіі стварыць гісторыка-краязнаўчы партрэт Беларусі, былі вартыя паслядоўнікі.

Сімпатычным упрыгожваннем кнігі «Светлымі дарогамі братэрства» з’яўляецца публікацыя вершаваных твораў украінскіх паэтаў у перакладзе на беларускую мову. Аўтары на ніве беларуска-ўкраінскага пабрацімства прыкметныя — Іван Франко, Дмытро Паўлычка, Расціслаў Братунь, Галіна Турэлік, Вольга Кіс, Уладзімір Лучук, Раман Лубкіўскі, Іван Гнацюк, Аксана Сенатовіч. Перакладчыкі не меней дастойныя і годныя аўтараў — Сяргей Панізьнік, Вячаслаў Рагойша, Янка Сіпакоў, Рыгор Барадулін, Васіль Зуёнак, Уладзімір Караткевіч. Што цікава, шмат якія з вершаў — на беларускую тэму («Чаканне ў Зэльве» Аксаны Сенатовіч, «Снягі Беларусі», «Яблыкі Купалы» Рамана Лубкіўскага, «Над сіняю затокаю надзеі» Івана Гнацюка). Ізноў жа з гэтых паэтычных публікацый вынікае ідэя, якую проста нельга не ажыццявіць: трэба скласці сучасную анталогію вершаў украінскіх паэтаў пра Беларусь. Пагадзіцеся, што сёння як ніколі важна падкрэсліваць добрыя, сяброўскія стасункі, развіваць трывалае яднанне, умацоўваць супольнасць блізкіх славянскіх народаў. І такая анталогія была б добрай мастацкай ілюстрацыяй шчырых таварыскіх памкненняў творчай інтэлігенцыі ў справе ўмацавання добрасуседства.

Выданне серыі «Адрасы Беларусі ў свеце» вылучаецца і такім абсягам, як знаёмства з сучаснымі ўкраінскімі пісьменнікамі, дзеячамі культуры, якія вядуць размову пра свае ўяўленні пра сучасную беларускую культуру, літаратуру, а значыць — пра Беларусь, яе надзённыя клопаты. Сярод персанажаў такіх дыялогаў, гаворак — дзіцячы ўкраінскі пісьменнік Ігар Січовік, львоўская паэтэса Яраслава Паўлычка, арганізатар выдавецкай справы, пісьменнік Аляксей Кананенка, празаікі Галіна Тарасюк, Віктар Баранаў, Міхайла Слабашпіцкі… Галіна Тарасюк — перакладчыца прозы Людмілы Рублеўскай на ўкраінскую мову. Аляксей Кананенка і як паэт-перакладчык, і як арганізатар выдавецкай справы ў апошнія гады паспрыяў выхаду не адной беларускай кнігі ў Кіеве, сам шмат перакладаў з сучаснай беларускай паэзіі. Дзякуючы яго намаганням па-ўкраінску загучалі вершы Таццяны Сівец, Алеся Бадака, іншых

сучасных беларускіх паэтаў. Міхайла Слабашпіцкі — дырэктар аўтарытэтнага ва Украіне кніжнага выдавецтва «Яраславаў Вал». Дзякуючы асабістым намаганням пісьменніка і выдаўца ва Украіне шмат зроблена для прапаганды беларускай кнігі. Ды і беларусы абыякавымі не засталіся, выдаўшы ў Мінску па-беларуску дзве дзіцячыя кнігі М. Слабашпіцкага. Пераклады прозы ўкраінскага аўтара друкаваліся таксама і ў перыёдыцы — у часопісах «Полымя», «Бярозка». Яраслава Паўлычка стварае асяродак увагі да беларускай культуры, беларускага кніжніцтва ў Львове, Заходняй Украіне.

Вяртаюся ў пачатак размовы. Вяртаюся да разваг пра доўгажыхарства кніжных серый. Вельмі хацелася б, каб традыцыя захавалася і развівалася. Каб у дадатак да рэцэнзуемага выдання і кніг, што выйшлі ў серыі «Адрасы Беларусі ў свеце» раней («Сустрэчы з родным і блізкім» — пра беларускія адрасы ў Расіі, «Ігнат Дамейка: з Мядзвядкі — у Санцьяга-дэ-Чылі (1802—1889)» Пас Дамейкі Леа-Пласа) з’явіліся новыя творчыя праекты. Мо, напрыклад, пра адрасы беларускай прысутнасці ў гісторыі і сучаснасці краін Цэнтральнай Азіі. Якія ж постаці паўсталі б перад чытачом!.. Сярод стваральнікаў туркменскай мовы ў 1920—1940 гг. адзначыўся беларус Аляксандр Пацалуеўскі. У XIX стагоддзі рукапісы вялікага Махтумкулі знайшоў у пустынных вандроўках Аляксандр Ходзька, радзіма якога — мядзельскія Крывічы. А ўраджэнец Лунінеччыны Мікола Калінковіч — даследчык беларуска-туркменскіх повязей… Ён жа напісаў і выдаў у Туркменістане сапраўдную «бібліятэку дружбы» — і ў кніжным фармаце, і праз многія публікацыі ў туркменскім перыядычным друку. Возьмем яшчэ Узбекістан. У час Вялікай Айчыннай вайны Ташкент стаў прытулкам для народнага песняра Беларусі Якуба Коласа, ды і шмат каго яшчэ з дзеячаў беларускай культуры, беларускай навукі. У Ташкенце доўгі час працаваў літаратуразнаўца беларус Сцяпан Ліхадзіеўскі. Нямала «беларускіх кропак» і ў Казахстане. У час Вялікай Айчыннай вайны ў Алматы жыў і працаваў класік беларускай дзіцячай літаратуры Янка Маўр. Так што, магла б атрымацца чарговая цікавая кніга серыі «Адрасы Беларусі ў свеце».






*Михаил ПОЗДНЯКОВ*

**ПРАВДА ЖИЗНИ**

***Литературоведение***

*Мн., Кологрод, 2017.*

Вадзім ШАГАЛЁЎ

## ЛЁСЫ НА ЖЫЦЦЯ ПРАКОСАХ

У Міхася Пазнякова багатая не толькі творчая, а і жыццёвая біяграфія. Дый, у рэшце рэшт, яны цесна ўзаемазвязаны. У тым сэнсе, што часта перажытае, зведанае знаходзіць адпаведны водгук у творчасці. У крытычнай, даследчыцкай дзейнасці — не ў апошнюю чаргу. У гэтым пераконвае і кніга «Праўда жыцця». Міхась Паўлавіч стаяў ля вытокаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, быў дырэктарам гэтай установы. Зразумела, што не толькі глыбей пазнаёміўся з творчасцю аднаго з класікаў нашай нацыянальнай літаратуры. Нямала зрабіў і для таго, каб у жыццёвай і творчай біяграфіі яго стала менш «белых плям». Як уваходзіў паэт у ягоную душу, як прапагандавалася яго творчасць можна даведацца з артыкулаў «Жамчужына нашай спадчыны» і «Максім Багдановіч: невядомыя старонкі», якія стаяць у пачатку кнігі.

Змест першага з іх канкрэтызуецца падзагалоўкам «Максім Багдановіч у Беларусі». М. Пазнякоў падрабязна разглядае шлях Максіма Кніжніка. Спыняецца на ўсім больш важным, што зрабіў ён для беларускай літаратуры. Наколькі ўдалося яму ўвесці яе ў міжнародны кантэкст. Несумненна, што гэтыя вывады, развагі, абагульненні стануць карыснымі для многіх. Найперш для тых, хто, па сутнасці, пачне шырэй адкрываць для сябе М. Багдановіча, яго агромністы паэтычны (і не толькі паэтычны) свет, успрыме яго цэласнай часткай таго, што патрапляе пад вызначэнне «космас беларускай літаратуры».

Наступны артыкул сведчыць пра тое, што творчасць М. Багдановіча не толькі трэба даследаваць, каб глыбей пранікнуць у сэнс яе, а штосьці прачытаць і па-новаму, звярнуўшы ўвагу на тое, што па нейкіх прычынах не трапіла ў поле зроку. Гэты матэрыял асабліва цікавы сваёй пазнаваўчай скіраванасцю, як пошук таго, што з багдановічаўскай спадчыны яшчэ невядома. У гэтым кірунку і сам М. Пазнякоў зрабіў шмат, пра што і расказвае ў артыкуле.

Глыбінёй пранікнення ў сутнасць творчасці У. Гніламёдава-празаіка вызначаецца артыкул «Па-майстэрску

ярка, праўдзіва, пераканаўча». У асноўным гаворка скіравана на раман «Расія» (першапачатковая назва «Усход»), хоць не абыдзены ўвагай і іншыя празаічныя творы майстра. Да месца сведчанне М. Пазнякова пра тое, што «імя пісьменніка У. Гніламёдава можна смела паставіць з імем знакамітага Вальтэра Скота, па выдатных гістарычных раманах якога можна вывучаць гісторыю цэлай эпохі ў жыцці еўрапейскіх краін». Памеры артыкула, праўда, не дазволілі падмацаваць гэтага канкрэтнымі фактамі, але, несумненна, даследчык яшчэ звернецца да твораў У. Гніламёдава.

Расказваецца ў кнізе і пра іншых пісьменнікаў, чые імёны добра вядомы чытачам. Пра Я. Янішчыц — «Памятаю яе трапяткой, шчырай і сціплай», Г. Юрчанку — «Майстар літаратурнай пародыі», У. Шуглю — «Вершы аб галоўным»… Але гэтымі імёнамі М. Пазнякоў не абмяжоўваецца, разумеючы, што як мага цэласную карціну літаратурнага жыцця можна атрымаць толькі тады, калі ў творчы ўжытак уводзіць і тых, хто не заслужана забыты. Як, напрыклад, Уладзіміра Варно, пра якога расказваецца ў артыкуле «Паэты ніколі не паміраюць». Лёсам яму было адпушчана ўсяго пяцьдзясят шэсць гадоў. Дый у вечнасць пайшоў даўно, яшчэ ў 1978 годзе. Яго жыццё «склалася так, што ён абышоў і аб'ездзіў ледзь не ўсю тагачасную краіну. Крым, Прыуралле, Сярэдняя Расія, Калыма, Камчатка. Нямала ён вандраваў і па марах. І ўсюды яго ўражлівая душа і моцная памяць убіралі ўсё цікавае, незабыўнае, непаўторнае, што ўзвышае чалавека-стваральніка».

Пра творчасць У. Варно, праўда, гаворыцца, магчыма, крыху фрагментарна, але і за гэтай пэўнай эскізнасцю, тым не менш, паўстае прывабны воблік таго, для каго паэзія сапраўды была госцяй нябеснай. Ён не проста пісаў вершы, як гэта робяць многія, дасягаючы большага ці меншага майстэрства. Ён паэзіяй жыў, не ўяўляў без яе існавання. І паэзія жыла ў ім: «Многія вершы Уладзіміра Варно і сёння не страцілі сваёй значнасці, незвычайнай энергічнасці, філасафічнасці, крынічнай свежасці, бо раскрываюць душэўнасць чалавека, яго велічнасць, пабуджаюць да цудоўнага, добрага. Здзіўляе, як тонка, як паэтычна перадае ён глыбейшы боль чалавека, які вымушаны прадаваць бацькоўскую хату (верш "Прадаецца хата")».

Яшчэ адзін, крынічнай чысціні талент паўстае ў артыкуле «Ігар Грыгор'еў і Беларусь». Пра яго апошнім часам стала больш-менш вядома. Не ў апошнюю чаргу дзякуючы паэтэсе, празаіку Наталлі Саветнай. Дарэчы, у кнізе змешчана рэцэнзія на яе кнігу «Убачыць вецер» («Паэзія, якая лечыць душу»). Свой лёс з Беларуссю І. Грыгор'еў звязаў пасля таго, як у жонкі ўзяў ураджэнку беларускага Гарадка. Зарэкамендаваў сябе паэтам, празаікам, перакладчыкам. Пра ўсё гэта і можна прачытаць у артыкуле М. Пазнякова. Дый пра тое, які гэта быў чалавечны чалавек. Апошняе вельмі важна. Маю на ўвазе не якасці самога І. Грыгор'ева, хоць у важнасці іх сумнявацца не даводзіцца. Гаворка пра тое, што М. Пазнякоў-даследчык, аналізуючы той ці іншы твор, пэўную кнігу, а то і творчасць асобнага аўтара ў цэлым, абавязкова стараецца сказаць пра яго не толькі як пра творцу, што ўзбуйняе партрэт ягонага героя, робячы больш шматгранным і больш прывабным.

Назву кнізе даў артыкул, прысвечаны творчасці вядомага празаіка, драматурга, публіцыста і крытыка Васіля Ткачова, які жыве ў Гомелі. На падобным моманце невыпадкова засяроджваю ўвагу, як, дарэчы, гэта робіць і М. Пазнякоў. Усё ж Гомель, хоць і горад вялікі, знаходзіцца далекавата як ад дзяржаўных выдавецтваў, так і ад галоўных перыядычных выданняў, што для пісьменніка, будзем справядлівыя, выклікае пэўныя цяжкасці. Ды талент — ён усюды талент. Таму В. Ткачоў ніколі не адчуваў (дый па сённяшні дзень не адчувае) прафесіянала, як кажуць, мясцовага, няхай сабе і абласнога значэння. Друкуецца ў Мінску, яго п'есы ставяцца як у беларускіх тэатрах, так і далёка за межамі нашай краіны.

Падставай для гаворкі пра творчасць В. Ткачова для М. Пазнякова

стала кніга «Снукер». Яна ў пэўнай ступені знакавая не толькі для самога Васіля Юр’евіча, бо за яе пісьменнік стаў лаўрэатам прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Сваім «Снукерам» В. Ткачоў каторы раз пацвердзіў, наколькі блізкая яму сучасная тэма, як у адлюстраванні працэсаў, што адбываюцца ў сённяшнім грамадстве, ён глыбока пранікае ў сутнасць іх, а галоўнае (што ва ўсе часы было важным для літаратуры) — стварае яркія, запамінальныя характары персанажаў. Яны, гэтыя літаратурныя героі, узятыя з самога жыцця, паўстаюць асобамі. Незалежна ад таго, займаюць якуюнебудзь значную пасаду, ці проста працуюць, ці то знаходзяцца на заслужаным адпачынку.

Асаблівую ўвагу М. Пазнякоў засяроджвае на рамане «Дом камуны». Бадай, не толькі таму, што гэты твор засведчыў аб вялікіх мастакоўскіх мажлівасцях В. Ткачова. З’яўленне яго стала сімптаматычным для сучаснай беларускай літаратуры. В. Ткачоў узяўся за асэнсаванне тэмы, якая прыцягвае цяпер увагу многіх — у цэнтры аўтарскай увагі працэсы, што адбываліся пасля распаду Савецкага Саюза. Аднак гледзячы як да ўсяго паставіцца… Гаворка, канешне, не пра тое, падаваць іх пазітыўна ці негатыўна. Больш істотна іншае: наколькі пісьменнік, прытрымліваючыся праўды жыцця, не адышоў у бок ад праўды мастацкай. Як удалося яму багаты фактычны матэрыял не толькі асэнсаваць, а і не аднойчы пераасэнсаваць. Зыходзячы з пункту гледжання ўспрымання таго, што адбывалася рознымі персанажамі. Прапусціўшы ўсё гэта праз іх, каб стварыць пераканаўчы малюнак свайго часу.

Але, даючы «Дому камуны» сваю ацэнку, М. Пазнякоў ставіцца да яго не толькі з уласнага пункту гледжання. Своечасовая і да месца — ягоная спасылка на меркаванне доктара філалагічных навук, прафесара Івана Штэйнера, які таксама высока ацаніў гэты раман («Полымя», 2010, № 8). Тады І. Штэйнер засяроджваў увагу на тым, як В. Ткачоў, ведучы гаворку пра сам час і месца чалавека ў гэтым часе, адштурхоўваўся ад таго, што Дом, па сутнасці, стаў галоўным героем твора, бо сімвалізуе сабой жыццё ўсяго горада на значным гістарычным абсягу. Калі ж глядзець шырэй, жыццё яго — гэта і лёсы ягоных насельнікаў, у якіх свая біяграфія, сваё стаўленне да жыцця.

Да меркавання І. Штэйнера нельга не прыслухацца. Як нельга не парадавацца і за М. Пазнякова, які таксама ў гаворцы пра творчасць В. Ткачова здолеў знайсці ключавы момант. Гэта ж вельмі важная якасць для крытыка, даследчыка літаратуры — даючы ацэнку таму ці іншаму твору пэўнага пісьменніка, адчуваць вызначальныя моманты. Тыя самыя, што і спрыяюць раскрыццю ягонай мастакоўскай індывідуальнасці. Ухвальна і тое, як уважліва паставіўся М. Пазнякоў да вобраза галоўнага героя — Сцяпана Данілавіча Хамянка. Ён — зусім не рупар аўтарскай ідэі, як гэта яшчэ нядаўна любілі сцвярджаць у падобных выпадках некаторыя крытыкі. Гэты персанаж — па сутнасці, плоць ад плоці свайго народа. Не ўсё гладка было ў ягоным жыцці, ды ў асноўным адбывалася гэта па-чалавечы, а там, дзе чалавечнасць, як сказаў паэт, там і вечнасць.

Я невыпадкова так падрабязна засяродзіўся на артыкуле «Праўда жыцця», бо, хоць у кнізе нямала і іншых цікавых публікацый, якраз ён шмат у чым дазваляе адчуць адметнасць творчай манеры М. Пазнякова-крытыка, даследчыка. У цэлым жа кніга «Праўда жыцця» лішні раз засведчыла, наколькі паспяхова ён абжывае розныя літаратурныя жанры.



Юлія АЛЕЙЧАНКА

# У ЧАРОЎНЫХ ЛЮСТЭРКАХ




*Ксенія ШТАЛЕНКОВА*

**ГУБЕРНСКІ ДЭТЭКТЫЎ. Справа аб крывавых дукатах**

*Мн., Кнігазбор, 2017.*

Імя Ксеніі Шталенковай ужо добра вядома беларускаму чытачу. Прычым як імя аўтара захапляльных прыгодніцкіх раманаў. Аўтара, якому крыху болей за дваццаць гадоў. Унікальная з'ява ў літаратуры, ці не так? Дэбютаваўшы раманам «Адваротны бок люстра», абаяльнай гісторыяй дзяўчынкі Басі з Вільнюса, якая пры дапамозе венецыянскага люстэрка трапляе ў XVI стагоддзе, Ксенія несупынна шукае новыя сюжэты. Часам і дэтэктыўныя. Але таксама элегантна апранутыя ў гістарычныя дэкарацыі.

«Губернскі дэтэктыў» — у пэўным сэнсе не чытво для аматараў хуткай змены кадраў, імклівага і лінейнага развіцця дзеяння. Твор мае цалкам лагічную, прыгожую ў сваёй стройнасці кампазіцыю. Аўтарка дае чытачу трапныя намёкі, уводзіць у канву дзеяння старонкі дзённікаў. Некаторыя з іх належаць галоўнай гераіні — разумнай, валявой, з моцным характарам і трывалымі перакананнямі панне Пракшыной. Яўгенія Канстанцінаўна, «дзявіца ад роду гадоў дваццаці аднаго», якая жыве на Захар'еўскай вуліцы губернскага Мінска канца XIX стагоддзя, — вельмі абаяльная асоба, хоць і не зусім падыходзіць пад «салонныя» ўяўленні пра гожых дзяўчат тых часоў. Спрабуючы раскрыць у сабе літаратурны талент, захапляючыся «гарадзенскай пісьменніцай Ажэшкавай», яна чуйна пераасэнсоўвае навакольную рэчаіснасць, матывы дзеяння людзей, заглыбляецца ў гісторыю… Ды што там казаць, нават мянушку свайму сабаку дзёрзка абірае сугучнай імю ўдзельніка паўстання 1791 года! Выхаванка сваёй прынцыповай бабулі, піша маладая панна адметна па-беларуску, узважваючы каштоўнасць забытай у чыноўніцкім асяроддзі мовы… Цікавы і погляд Яўгеніі на рэлігію. Хрышчаная бабуляй насуперак волі праваслаўных бацькоў у каталіцкай веры, яна адчувае сябе блізкай па духу да пратэстантаў: «ейныя трансцэндэнтныя апеляванні да Бога сам-насам адбываюцца толькі ў яе галаве ды толькі там і застаюцца». На фоне спецыфічных перакананняў панны Пракшыной аб'ёмнымі выглядаюць і супярэчлівасці, асаблівасці яе часу: захапленне бацькі, адстаўнога палкоўніка, паспяховага *man of business*, англійскай мовай, феміністычныя погляды некаторых прадстаўніц сям'і, абвостранае гучанне нацыянальнага пытання…

А лёсавызначальная сустрэча Пракшыной з таямнічым Андрэем Тадэ-

вушам Банавентурам (хто б гэта мог быць?) у цягніку, а цьмяная справа пра забойства ў маёнтку? Вір падзей паступова пачынае захапляць чытача, непакоіць падказкамі…

Добрае веданне гісторыі, быту беларускіх гарадоў пазамінулага стагоддзя дае магчымасць аўтарцы свабодна, натуральна апавядаць як пра незвычайныя здарэнні, так і пра паўсядзённае жыццё. Яе героям верыш. І бачыш свет іх шчырымі вачыма, заглыбляешся ў іх няпростыя перажыванні і прыгожыя парыванні. А ці не гэта адна з галоўных прымет добрага рамана?




*Мікола БУСЬКО*

**У БАРЫ ЖЫВУЦЬ СЯБРЫ**

*Мастак К. СІМАНОВІЧ*

*Мн., Мастацкая літаратура, 2017.*

Вядомы паэт, аўтар як сур'ёзнай лірыкі, так і вершаў для дзяцей Мікола Бусько, звяртаецца цяпер і да жанру казкі. Што ж, з'ява заканамерная: у сталым узросце хочацца падзяліцца мудрасцю з малымі, праз чароўныя вобразы раскрыць сутнасць дабрыні, каштоўнасці чалавечых стасункаў.

Яго новая кніга — нізка добрых гісторый пра насельнікаў лесу, парку, прынёманскай даліны… Якія шукаюць дапамогі, разумення, сяброўства. Аднаму вельмі цяжка жывецца — тое выдатна разумеюць і маленькі чорна-белы хамячок, і вавёрка, і мышка. Нават хітрая, незалежная ліса прызнае, што без падтрымкі суседзяў ёй не перазімаваць. Урокі спагады даюць і знаёмыя ўсім сінічкі — клапатлівыя мамы.

Назіранне за жывой прыродай — вельмі карысны занятак для дзяцей, што выдатна разумее аўтар. І паказвае ўнукам ды ўсім беларускім дзеткам «карціны, намаляваныя не рукой чалавека». Натхнёна, лірычна распавядае ён пра плён гэтай творчай працы: «Як і ўсе творчыя людзі, мой Нёман-мастак эмацыянальны. Тут, бадай, зусім немагчыма прадказаць, калі да яго прыйдзе натхненне і як доўга яно будзе працягвацца. Але вось у сярэдзіне лета, калі адзін пагодны дзянёк змяняе другі, калі пануе спякота і духмень і ў небе праплываюць ветразі аблачын, варта наведаць раку. Самы час прайсціся па мелкаводдзі і праверыць, ці ўзяўся Нёман за пэндзаль». А як маляўніча апісвае Мікола Бусько вясну з яе «крыламі», пахам свежай зеляніны, духмяным водарам садовай квецені і поўняй, «ружовашчокай маладзіцай з падфарбаванымі вачыма». Вельмі ўдала, ёмка, візуальна і поліфанічна ўмее ствараць пісьменнік настраёвыя пейзажы адным сказам, фразай: «Гукі радасці гусінай, як мячыкі, адскокваюць ад пругкай вады і раствараюцца ў лазурковых глыбінях чысцюткіх нябёс».

Як будуюць хаткі бабры, як ладзяць гнёзды птушкі, як расце звычайная траўка кісліца — гэтых элементарных, здавалася б, рэчаў часцяком не ведаюць сённяшнія дзеці. А ў цікавых, займальных экскурсіях з аўтарам па адметных мясцінах роднай зямлі ўсё гэта міжволі робіцца знаёмым і блізкім. Што вельмі важна для нармальнага развіцця любага чалавека. Выдатна дапаўняюць выданне і лаканічныя ілюстрацыі з прадумана «наіўнымі» подпісамі. Бабёр, алень, заяц, барсук, глушэц, шчупак, сом, конік, — выдатная атрымалася галерэя!




*Ніл ГЭЙМАН*

**КАРАЛІНА**

*Пер. з англ. Д. ВАШКЕВІЧ*
*Пер. вершаў Г. ЯНКУТЫ*

*Мн., Выдавец Зміцер Колас, 2016.*

Ці траплялі вы калісьці ў чароўны свет твораў Ніла Гэймана? Не? Дык шмат страцілі! Пісьменнік-фантаст, сцэнарыст, а таксама аўтар коміксаў з сусветным імем дакладна зможа знайсці ключык да вашага сэрца. Нават тыя, хто не любіць фэнтэзі, ужо не так скептычна будуць адносіцца да падобнага жанру. Таму што Ніл Гэйман, ствараючы ўласную міфалогію, заўсёды абапіраецца на свет рэальны з яго абаяльнымі падрабязнасцямі. Культавыя істоты розных пантэонаў з яго рамана «Амерыканскія багі» паляць, п'юць кока-колу, схільныя да простых чалавечых слабасцей. А пацукі, што жывуць у лонданскай каналізацыі («Нікадзе»), павязаныя з жыццём жыхароў мегаполіса не толькі харчовым ланцугом…

Выдатны майстар Ніл Гэйман і ў стварэнні захапляльных гісторый для падлеткаў. Яго «Караліна» атрымала шаснаццаць прэстыжных літаратурных прэмій, у тым ліку прэмію Х'юга за лепшую аповесць, прэмію Брэма Стокера за лепшы твор для маладых чытачоў і прэмію Локуса за лепшую аповесць для падлеткаў. Паводле яе сюжэта зняты мультфільм і пабачыла свет відэагульня. Цудоўна, што перакладзеная на трыццаць моў свету аповесць цяпер загучала і па-беларуску. Перакладчыца Дар'я Вашкевіч адзначае: «Маё знаёмства з «Каралінай» адбылося ў 2012 годзе: я навучалася пісьменніцкаму майстэрству ў магістратуры Універсітэта Варвіка (Вялікабрытанія) і прачытала гэтую кнігу ў межах курса па літаратуры для дзяцей і падлеткаў. Прачытала — і закахалася ў яе. Я зразумела: трэба засесці і перакладаць «Караліну» на беларускую мову, бо не перакласці не атрымаецца». З такім жа імпэтам і захапленнем бралася за працу і мастачка Алена Медзякова, якая выступіла ілюстратарам беларускага выдання. Пэўны час вобразы кнігі нават замінялі ёй спаць, просячыся на паперу…

«Караліна» — аповесць не для самых малых чытачоў. Бо шмат у ёй архетыповага, міфалагічнага, зразумелага школьнікам крыху старэйшага ўзросту. Душы памерлых дзяцей, іншасвет з яго строгімі законамі, двайнікі кожнага з нас у «тым» свеце… Але для падлеткаў гэты твор — проста знаходка. Не бязглузды жудзік, а кніга, якая вучыць цаніць бацькоў, блізкіх людзей, верыць у пераможную сілу любові і спагады. А яшчэ — не «ставіць крыж» на дзіваках, людзях, што па нейкіх прычынах выпалі з соцыуму.

Сучасным сем'ям зараз востра не хапае яднання і згоды. Бацькі Караліны, якія зарабляюць фрылансам, амаль увесь дзень праводзяць за кам'ютарамі, забываючыся часам нават паесці і сабраць дачку ў школу. Ды і дзяўчынка не хоча разумець іх праблемы. Але падарожжа ў дзівосны свет, які адчыняецца пры дапамозе старых дзвярэй у гасцінай, прымушае Караліну пераацаніць існуючы стан рэчаў. Яна выступае ратавальніцай, знаходлівай і кемлівай памочніцай тых, каго трымае ў выдуманым свеце злосная пачвара. І паспяхова перамагае яе. Таму што больш за ўсё на свеце хоча яшчэ раз абняць бацькоў!

Пэўна, у гэтым выпадку выдатна спрацоўвае перакананне мысляра і пісьменніка Г. К. Чэстэртана: «Казкі нават праўдзівейшыя, чым здаецца: не таму, што апавядаюць пра цмокаў, а таму, што кажуць, што цмокаў можна перамагаць».

